# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЕРШАЯ*










МЕНСК—1939



*В. І. ЛЕНІН і І. В. СТАЛІН*

Скульптура заслужанага дзеяча мастацтваў БССР З. Азгура

*І. В. Сталін*

# ПАЛІТЫКА ЎРАДА ПА НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ПЫТАННЮ

(*Урывак з артыкула*)

Няма чаго і гаварыць, што контррэвалюцыйныя прагнасці аднаўленцаў „старой Расіі“ (вядома, са старым рэжымам,) пасля палутарагадовай рэвалюцыйнай работы працоўных мас нацыянальнасцей Расіі, асуджаны на крах. Але чым утапічней планы нашых контррэвалюцыянераў, тым больш рэальна вырысоўваецца палітыка савецкай улады, цалкам апіраючаяся на ўзаемнае брацкае давер‘е народаў Расіі. Больш таго, яна, гэта палітыка, пры цяперашняй міжнароднай абстаноўцы, з‘яўляецца адзіна рэальнай, адзіна рэвалюцыйнай.

Аб гэтым красамоўна сведчыць хаця-б апошняя дэкларацыя з‘езда саветаў Беларускай рэспублікі аб устанаўленні федэратыўнай сувязі з Расійскай савецкай рэспублікай. Справа ў тым, што Беларуская савецкая рэспубліка, прызнаная нядаўна незалежнай, цяпер на з‘ездзе сваіх саветаў добраахвотна абвяшчае саюз з Расійскай рэспублікай. З‘езд саветаў Беларусі ў сваёй дэкларацыі ад 3-га лютага заяўляе, „што толькі свабодны добраахвотны саюз працоўных цяпер незалежных савецкіх рэспублік забяспечыць таржаство рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім, капіталістычным светам“.

„Добраахвотны саюз працоўных усіх незалежных савецкіх рэспублік“... Гэта іменна той шлях аб‘яднання народаў, аб якім увесь час цвярдзіла савецкая ўлада, і які дае цяпер свае карысныя рэзультаты.

*„Известия ВЦВК“ № 30 9 лютага 1919* г.

## З ПРАМОВЫ тав. Я. М. СВЕРДЛОВА

### на першым Усебеларускім з'ездзе Советаў (люты, 1919 г.)

„Вам,—гаворыць ён,—больш, чым каму-небудзь іншаму, прышлося перацярпець ад гнёту іншакраіннай акупацыі. Але і пад пятою таржаствваўшага тады імперыялізма вы не пакідалі сваёй работы над падрыхтоўкай Совецкага ладу ў Беларусі. Разам з намі вы ведалі, што імперыялізм будзе зломлен і вастаржаствуе сусветная соцыялістычная рэволюцыя, адновіцца совецкая ўлада ў часова паднявольным краі. Змагаючыся і паміраючы разам з вамі ў час Кастрычніцкай рэволюцыі, мы будавалі ўсю сваю работу ў разліку на тое, што пажар рэволюцыі ахопіць увесь свет. І гэты наш разлік апраўдаецца...

...Рускі пролетарыят ніколі не забудзе таго, што вы першымі прынялі на сябе ўдары і націск германскага імперыялізма, спыніўшы яго прасоўванне ў глыбіню краіны.

Няхай жыве міжнародная соцыялістычная рэволюцыя! Няхай жыве Інтэрнацыянал!".

*(„Звезда" № 364 4-11—1919 г.)*

# *СВЯТА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА— СВЯТА ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ СОВЕЦКАГА САЮЗА.*

## ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР
## СОВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР
## ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў) БЕЛАРУСІ

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) вітаюць рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыю і ўсіх працоўных Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з дваццацігоддзем устанаўлення Совецкай улады ў Беларусі і вызвалення беларускага народа ад нацыянальнага гнёту.

З прыгнечанай, адсталай правінцыі царскай Расіі, знаходзіўшайся пад гнётам польскіх, рускіх і беларускіх памешчыкаў і капіталістаў, а ў годы грамадзянскай вайны адчуўшай цяжар інтэрвенцыі германскіх і польскіх полчышч—Совецкая Беларусь пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў да дня свайго дваццацігадовага юбілея вырасла і развілася ва ўзорную Совецкую рэспубліку, у перадавы атрад краіны соцыялізма на Захадзе.

За прайшоўшыя 20 год працоўныя Совецкай Беларусі дабіліся вялікіх поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Створаны новыя фабрыкі і заводы, сельская гаспадарка стала буйнай калгаснай, механізаванай, расце нацыянальная беларуская культура, усё вышэй узнімаецца культурны ўзровень рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных, расце іх добрабыт.

Гэтыя поспехі дасягнуты працоўнымі Совецкай Беларусі ва ўпорнай барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі і трацкісцка-бухарынскімі шпіёнамі і дыверсантамі, якія прабавалі вярнуць свабодны беларускі народ пад ярмо капіталістаў і нацыянальнага гнёту. Працоўныя Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі разграмілі гэтыя варожыя гнёзды.

Совет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) выражаюць цвёрдую ўпэўненасць, што беларускі народ будзе і надалей, на аснове правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, нястомна працаваць над далейшым умацаваннем Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

**СНК Саюза ССР.**

**ЦК ВКП(б).**

---

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР віншуе працоўных Совецкай Беларусі з днём слаўнай гадавіны—двацацігоддзем Беларускай ССР.

У дружнай сям'і народаў СССР працоўныя Беларусі займаюць адно з ганаровых месц у будаўніцтве і ўмацаванні першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

На аснове паслядоўнага правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, у барацьбе са здраднікамі радзімы—трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашызма, працоўныя Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі дабіліся велізарных поспехаў у справе гаспадарчага і культурнага будаўніцтва рэспублікі, умацавання абароннай магутнасці СССР.

Выражаем упэўненасць, што рабочыя, калгаснікі і інтэлігенцыя Беларусі, уступаючы ў двацаць першую гадавіну існавання рэспублікі, прыкладуць усе свае сілы ў барацьбе за далейшы гаспадарчы і культурны рост Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі—магутнага фарпоста СССР на Захадзе—і разам з усімі народамі Совецкага Саюза пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі ўпэўнена пойдуць да канчатковай перамогі комунізма.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*М. КАЛІНІН.*

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*А. ГОРКІН*

31-XII—1938 г.

---

## ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КП(б) БЕЛАРУСІ ВЯРХОЎНАМУ СОВЕТУ БССР

У дзень 20-й гадавіны Совецкай Беларусі шлю маё гарачае чырвонаармейскае прывітанне і віншаванні рабочым, калгаснікам і совецкай інтэлігенцыі.

Асобае прывітанне маім выбаршчыкам—працоўным Менскай выбарчай акругі.

Свой 20-гадовы юбілей працоўныя Беларусі святкуюць у абста-

ноўцы велізарнейшых дасягненняў у соцыялістычным і культурным будаўніцтве.

Заўсёды арганізаваны і працалюбівы беларускі народ вылучыў многія тысячы стаханаўцаў заводаў і соцыялістычных палёў, сапраўдных будаўнікоў соцыялізма. Працоўныя Совецкай Беларусі слаўнымі справамі даказалі сваю вернасць ідэалам вялікай партыі *Леніна—Сталіна*.

Усяму свету вядома, што Совецкая Беларусь разам з усім Совецкім Саюзам змагаецца за справу міру, але як і ўвесь совецкі народ працоўныя Совецкай Беларусі, сумесна са сваёй Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй, заўсёды гатовы біцца за соцыялізм, за сваю незалежнасць і разграміць усіх і ўсялякіх сваіх злейшых і хваслівейшых ворагаў.

Няхай жывуць працоўныя Совецкай Беларусі!

Няхай жыве совецкі народ!

*К. ВАРАШЫЛАЎ.*

31-XII—38 г.

---

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА РСФСР БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

У дзень дваццацігоддзя Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Прэзідыум Вярхоўнага Совета РСФСР, ад імені працоўных Расійскай Совецкай Федэратыўнай Соцыялістычнай Рэспублікі, шле брацкае палкае прывітанне працоўным Совецкай Беларусі.

Дваццаць год таму назад, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, рабочыя і сяляне Беларусі, назаўсёды вызваліўшыся ад нацыянальнага гнёту царызма і рускай імперыялістычнай буржуазіі, разгрмілі беларускую нацыяналістычную контррэволюцыю і стварылі соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян—Беларускую Совецкую Соцыялістычную рэспубліку.

Ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, працоўныя Совецкай Беларусі за прайшоўшы перыяд дасягнулі высокага ўзроўню ў развіцці народнай гаспадаркі, культуры і на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі будуюць заможнае, культурнае і шчаслівае жыццё.

Прэзідыум Вярхоўнага Совета РСФСР выражае ўпэўненасць, што працоўныя Совецкай Беларусі і надалей будуць высока трымаць сцяг барацьбы за непарушнасць брацкага саюза народаў СССР, за ўмацаванне абароназдольнасці і недатыкальнасці граніц нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, за поўную перамогу комунізма.

Няхай жыве шчаслівы беларускі народ і .ўсе народы вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве вялікі правадыр народаў, наш любімы Сталін!

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета РСФСР*
*А. БАДАЕЎ.*

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета РСФСР*
*Г. КАЗЛОЎ.*

# ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў) БЕЛАРУСІ, СОВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР

У дзень слаўнага дваццацігоддзя Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі Ленінградскі абласны і Гарадскі камітэт ВКП(б) ад імя працоўных горада Леніна і Ленінградскай вобласці шлюць брацкае прывітанне свабоднаму беларускаму народу. 20 год назад рабочыя і сяляне Беларусі, пры дапамозе вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, вызваліліся ад гнёту памешчыкаў і капіталістаў, разграмілі банды беларускіх нацыяналістаў, выгналі полчышчы германскай і польскай інтэрвенцыі і стварылі соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян—Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку.

Пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна Совецкая Беларусь ператворана з адсталай акраіны былой царскай Расіі ў рэспубліку развітай прамысловасці, перадавога соцыялістычнага земляробства, у фарпост магутнай совецкай дзяржавы. На аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі працоўныя Совецкай Беларусі, разам з усімі народамі многамільённага Совецкага Саюза, будуюць сваё заможнае, культурнае і шчаслівае жыццё.

Ленінградскі абком і гарком ВКП(б) упэўнены, што беларускі народ пад кіраўніцтвам вялікай комуністычнай партыі большэвікоў даб'ецца яшчэ большых поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва, яшчэ вышэй узніме рэволюцыйную пільнасць, да канца выкрые і знішчыць астаткі трацкісцка-бухарынскіх наймітаў фашызма, якія прабавалі прадаць і вярнуць пад ярмо замежнага капітала беларускі народ.

Няхай жыве і мацнее дружба народаў СССР!

Няхай жыве Совецкая Беларусь!

Няхай жыве непераможная партыя Леніна—Сталіна—стваральнік народнага шчасця!

Няхай жыве любімы друг і бацька наш, мудры стратэг Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

**ЛЕНІНГРАДСКІ АБЛАСНЫ І ГАРАДСКІ КАМІТЭТЫ ВКП(б).**

---

## *Няхай жыве сталінская дружба народаў СССР!*

### АД УКРАІНСКАЙ ССР

У дзень XX-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Прэзідыум Вярхоўнага Совета УССР ад імя працоўных соцыялістычнай Украіны шле брацкае палкае прывітанне працоўным Совецкай Беларусі.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна працоўныя Совецкай Беларусі разграмілі трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў замежнага фашызма і, пры дапамозе вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, за годы рэволюцыі дасягнулі высокага ўзроўню ў развіцці соцыялістычнай гаспадаркі і культуры.

Прэзідыум Вярхоўнага Совета УССР выражае ўпэўненасць, што працоўныя Совецкай Беларусі і надалей будуць бязлітасна змагацца за канчатковае і поўнае выкараненне ворагаў народа, за далейшае ўмацаванне сталінскай дружбы народаў СССР, за далейшае ўмацаванне абароназдольнасці, магутнасці, нашай вялікай радзімы—СССР, за поўную перамогу комунізма.

Няхай жыве вялікая партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве гераічны беларускі народ!

Няхай жыве наша магутная, выдатная, любімая радзіма—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве вялікі правадыр партыі і народаў СССР таварыш Сталін!

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета УССР*
*Л. КАРНІЕЦ.*

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета УССР*
*А. МЕЖЖЭРЫН.*

---

### АД ГРУЗІНСКАЙ ССР

У дваццатую гадавіну вызвалення слаўнага беларускага народа Прэзідыум Вярхоўнага Совета Грузінскай ССР шле брацкае прывітанне працоўным Беларускай ССР.

Да Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі беларускі народ быў заняволен прыгнятальнікамі. Беларускі народ на працягу вякоў

цярпеў пакуты і прыніжэнне, усякае імкненне да свабоды, да творчасці бязлітасна падаўлялася ў ім рускімі царамі, польскімі і беларускімі памешчыкамі і капіталістамі. Імперыялістычная бойня яшчэ больш узмацніла пакуты беларускага народа, але рускі рабочы клас пад кіраўніцтвам слаўнай бальшэвіцкай партыі, пад вадзіцельствам найвялікшых правадыроў—Леніна і Сталіна зрабіў вялікую соцыялістычную рэволюцыю і вызваліў назаўсёды працоўных усіх народаў былой царскай Расіі ад гнёту і эксплаатацыі, гэтым самым быў вырашан і лёс беларускага народа.

Але патрабавалася яшчэ найвялікшае напружанне ўсіх яго сіл для выгнання нямецкіх акупантаў, устанаўлення совецкай улады і ўмацавання дыктатуры пролетарыята з дапамогай вялікага рускага народа. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў беларускі народ цвёрда, без хістанняў, ішоў па шляху, начэртанаму Леніным і Сталіным, да сапраўднага адраджэння сваёй дзяржаўнасці, гаспадаркі і культуры. Ворагі народа і партыі—трацкісцка-бухарынскія бандыты і буржуазна-нацыяналістычныя контррэволюцыянеры за ўсе гэтыя годы не раз прабавалі зноў закабаліць беларускі народ, прадаць Беларусь фашысцкім драпежнікам, але пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі беларускі народ змог выкрыць і знішчыць асноўныя гнёзды гнусных здраднікаў і шпіёнаў.

Совецкая Беларусь стала адной з перадавых рэспублік вялікага Совецкага Саюза, яна стварыла магутную соцыялістычную індустрыю і квітнеючую соцыялістычную сельскую гаспадарку. Працоўныя Беларусі жывуць шчаслівым, радасным жыццём. У Совецкай Беларусі расцвілі навука, літаратура, мастацтва, крыніцай забіла культурнае жыццё, з'явіліся вышаўшыя з нетраў народа таленавітыя паэты, мастакі, вучоныя, перадавыя людзі працы—стаханаўцы.

Працоўныя Совецкай Беларусі не забываюць мудрых слоў таварыша Сталіна аб тым, што мы акружаны ворагамі. Яны пільна аберагаюць свяшчэнныя граніцы Совецкага Саюза і гатовы ў кожную мінуту адбіць напад ворага. Сёнешняе таржаство беларускага народа з'яўляецца таржаством усіх народаў нашага вялікага Саюза. У гэты ўрачысты дзень увесь беларускі народ яшчэ больш згуртуецца вакол вялікага, непераможнага сцяга Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Няхай жыве Совецкая Соцыялістычная Беларусь!
Няхай жыве сталінская дружба народаў!
Няхай жыве партыя Леніна—Сталіна!
Няхай жыве вялікі Сталін!

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета Грузінскай ССР Ф. МАХАРАДЗЕ.*

---

## АД АЗЕРБАЙДЖАНСКАЙ ССР

Цэнтральны Камітэт КП(б) Азербайджана і Совет Народных Камісараў АзССР ад імя стаханаўцаў нафты, бавоўны, рабочых, калгаснікаў, совецкай інтэлігенцыі, усіх партыйных і непартыйных

большэвікоў Азербайджана горача віншуюць працоўных Совецкай Беларусі з XX гадавінай утварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Свята працоўных брацкай Беларусі—гэта свята ўсіх народаў вялікага многанацыянальнага Совецкага Саюза, моцна спаяных сталінскай дружбай. Назаўсёды выгнаўшы белапалякаў і германскіх акупантаў, разграміўшы і знішчыўшы асноўныя гнёзды ворагаў народа, гнусных здраднікаў радзімы—трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, брацкі беларускі народ пад кіраўніцтвам роднай партыі Леніна—Сталіна, з дапамогай вялікага рускага народа, у рэзультаце выканання двух сталінскіх пяцігодак дабіўся бліскучых перамог ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦК КП(б) Азербайджана і Соўнарком АзССР ад імя азербайджанскага народа выражаюць цвёрдую ўпэўненасць у тым, што народы Совецкай Беларусі будуць і надалей пільна ахоўваць рубяжы нашага Совецкага Саюза ад падпальшчыкаў вайны і пад кіраўніцтвам непераможнай большэвіцкай партыі, натхняемыя вялікім правадыром працоўных усяго свету—таварышам Сталіным, і далей пойдуць смела наперад да поўнай перамогі комунізма.

Няхай жыве XX-годдзе Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі!

Няхай жыве брацкі беларускі народ!

Няхай жыве вялікая сталінская дружба народаў!

Няхай жыве правадыр і арганізатар нашых перамог, любімы і вялікі Сталін!

*Сакратар ЦК КП(б) Азербайджана*
*БАГІРАЎ.*

*Старшыня СНК Азербайджана*
*КУЛІЕЎ.*

---

## АД ТАДЖЫКСКАЙ ССР

Ад імені працоўных Таджыкістана Прэзідыум Вярхоўнага Совета Таджыкскай ССР віншуе гераічны беларускі народ з дваццацігадовым юбілеем існавання Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна прайшоў слаўны шлях барацьбы і перамог. За гістарычна кароткі тэрмін ён пры дапамозе вялікага рускага народа разграміў асіныя гнёзды агентаў фашызма і дабіўся найвялікшых поспехаў па будаўніцтву соцыялізма.

Мы ўпэўнены, што беларускі народ, пад кіраўніцтвам правадыра працоўных таварыша Сталіна, праявіць яшчэ больш энтузіязма па будаўніцтву комунізма і ўмацаванню вялікай сталінскай дружбы народаў, якая з'яўляецца вернай гарантыяй далейшага

росту магутнасці і працвятання народаў нашай горача любімай цудоўнай радзімы—Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Няхай жыве несакрушымая партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве наш правадыр вялікі Сталін!

Няхай жыве наша магутная радзіма—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве героічны беларускі народ!

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета*
*Таджыкскай ССР ШАГАДАЕЎ*

---

## АД ТУРКМЕНСКАЙ ССР

Прэзідыум Вярхоўнага Совета Туркменскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі горача вітае і віншуе беларускі народ у дзень дваццатай гадавіны ўтварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Соцыялістычная Туркменія глыбока ўпэўнена, што ў брацкай сям'і народаў совецкага Саюза Беларуская Совецкая Рэспубліка на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры дапамозе рускага народа, яшчэ з большымі поспехамі будзе развіваць свае прадукцыйныя сілы, да канца разгроміць подлых агентаў фашызма і пойдзе па шляху перамог да комунізма.

Няхай жыве вялікая дружба і брацтва народаў Саюза ССР!

Няхай жыве ленінска-сталінская нацыянальная палітыка!

Няхай жыве Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў)!

Няхай жыве любімы правадыр народаў СССР таварыш Сталін!

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета*
*Туркменскай ССР ДЗІНАЛІ БАБАЕЎ.*

---

## АД КАЗАХСКАЙ ССР

Совет Народных Камісараў Казахскай ССР і Цэнтральны Камітэт КП(б) Казахстана шлюць брацкае палкае прывітанне працоўным Совецкай Беларусі ў дзень слаўнага дваццацігоддзя Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Рабочыя і сяляне Беларусі, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна і пры дапамозе рускага пролетарыята, 20 год таму назад назаўсёды скінулі векавы гнёт царызма і стварылі соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян. Няўхільна праводзячы ў жыццё ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, працоўныя Совецкай Беларусі, разграміўшы трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных наймітаў фашызма, за гэтыя дваццаць год дасягнулі высокага ўзроўню развіцця народнай гаспадаркі і культуры і на

аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі будуюць сваё новае, заможнае, культурнае і шчаслівае жыццё.

Працоўныя квітнеючага Савецкага Казахстана асабліва радасна адзначаюць шчаслівае дваццацігоддзе брацкай Беларускай рэспублікі. Казахскі народ, таксама як і працоўныя Савецкай Беларусі, у адзінай сям'і вялікага Савецкага Саюза пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі ідзе ад перамогі да перамогі.

Совет Народных Камісараў і Цэнтральны Камітэт КП(б) Казахстана жадаюць шчасліваму беларускаму народу яшчэ большых поспехаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі рэспублікі і выражаюць упэўненасць, што Беларусь і надалей будзе магутным фарпостам на заходняй граніцы нашай сацыялістычнай радзімы.

Няхай жыве непарушная дружба народаў вялікага Савецкага Саюза—радзімы сусветнага пралетарыята!

Няхай жыве Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве правадыр народаў, друг і настаўнік, наш любімы вялікі Сталін!

*Старшыня Соўнаркома*
*Казахскай ССР УНДАСЫНАУ.*

*Сакратар ЦК КП(б) Казахстана*
*СКВАРЦОЎ.*

*П. К. Панамарэнка*
*Сакратар ЦК КП(б) Беларусі*

# ДВАЦЦАЦЬ ГОД БЕЛАРУСКАЙ ССР.

Утварэнне БССР, як роўнапраўнай, суверэннай совецкай дзяржавы, стала магчымым толькі дзякуючы Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі 1917 года, скінуўшай уладу капіталістаў і памешчыкаў у Расіі, знішчыўшай нацыянальны гнёт і няроўнасць, ператварыўшай былую турму народаў у магутны саюз працоўных усіх нацыянальнасцей. Без звяржэння царызма, без разгрому ўлады імперыялістычнай буржуазіі, без узброенай дапамогі рускага пролетарыята—Беларусь ніколі-б не вышла з становішча поўкаланіяльнай акраіны Рускай імперыі, ніколі не адстаяла-б сваёй самастойнасці ад насядаўшых на яе з захаду імперыялістычных суседзяў.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі Беларусь уяўляла забітую, цёмную акраіну з адсталай сельскагаспадарчай тэхнікай і мізэрнымі ўраджаямі, з велізарнымі памешчыцкімі маёнткамі, з дробнай, галоўным чынам саматужнай, прамысловасцю і нізкай заработнай платай, акраінай найбольш жорсткага нацыянальнага гнёту, бяспраўя працоўных і дзікага свавольства памешчыцка-паліцэйскага рэжыма.

Да рэволюцыі 664.000 сялянскіх двароў беларусаў мелі 33,5 проц. зямлі, а 4.000 рускіх, беларускіх і польскіх памешчыкаў мелі 66,5 проц. зямлі. Толькі пяць польскіх магнатаў—князь Вітгенштэйн, граф Тышкевіч, граф Патоцкі, князь Радзівіл, княгіня Гогенлоэ валодалі больш чым двума мільёнамі дзесяцін беларускай зямлі. Памешчыкі мелі лепшую зямлю, а працоўныя—балотныя, тошчыя неўраджайныя землі, пяскі, падзол.

Апрацоўвалася зямля двурогай драўлянай сахой і бараной з перавязаных лыкам яловых суччаў. Плуг і барана з жалезнымі зуб'ямі былі рэдкасцю.

Зямля не магла забяспечыць сям'ю беларускага селяніна хлебам на круглы год, а непасільныя падаткі і павіннасці разаралі яго канчаткова.

Беднасць беларускай вёскі была патрасаючай. У беларускіх вёсках бульбу варылі па некалькі разоў у адной вадзе, каб зэканоміць соль. Нават запалку для эканоміі раскалвалі на дзве і тры часткі.

Вясной, калі ўжо хлеба не было, цэлыя вёскі харчаваліся мякінай, варылі мох, кару і т. д. З таго часу яшчэ сям-там захаваліся назвы вёсак: Махаеды, Караеды, Балацянкі, Саламянкі і т. д.

Лютавалі хваробы—каўтун і трахома; іх не было каму лячыць. Смертнасць была выключна высокай.

Выдатны рускі паэт Някрасаў так апісаў тружаніка-беларуса таго часу:

„... Волосом рус,
Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорусс.
Губы бескровные, веки опавшие,
Язвы на тощих руках.
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли, колтун в волосах.
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век.
Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно,
Трудно свой хлеб добывал человек“.

Нястача хлеба, прага да лепшай долі гналі беларускага працоўнага з роднай вёскі ў горад, у глухую, у тыя годы, Сібір, на Далёкі Усход, у далёкую Амерыку. Разараючыся, велізарная маса беларускага сялянства ішла ў гарады, памнажаючы армію беспрацоўных і зніжаючы гэтым і без таго жабрацкі жыццёвы ўзровень працуючых.

Не лепш жыў і беларускі рабочы. Сярэдняя гадавая заработная плата беларускага рабочага складала 179 руб.

Старая работніца, цяпер стаханаўка ільнапрадзільнай фабрыкі ім. Кагановіча ў г. Віцебску, Матрона Якаўлеўна Міхайлава расказвае:

„На бельгійскай акцыянернай фабрыцы „Дзвіна“ ў горадзе Віцебску я гнула спіну 12 год. Ватэрны цэх, у якім я працавала, быў, усё роўна, як памыйная яма: былі сырасць і бруд, ніякай вентыляцыі не было. Працуючы 11 год, я, як кваліфікаваная работніца, усё-ж атрымоўвала ад 30 да 40 кап. у дзень. Пераважная частка гэтага заработку ішла на штрафы, штрафавалі нас за ўсё, асталіся адны грашы і жыць прыходзілася ўпрогаладзь“.

У 1913 годзе на душу насельніцтва ў Беларусі прыходзілася нават параўнальна з Расіяй у 3,5 раза менш прамысловай прадукцыі і ў 15 разоў менш электраэнергіі.

Аб эканоміцы дарэвалюцыйнага Магілева ў старой энцыклапедыі гаварылася: „Гандаль скурай, салам, мёдам, воскам“. А губернатар у 1912 годзе даносіў па начальству: „З асобых вытворчасцей найбольшае значэнне ў губерні, як і раней, прадастаўляецца вытворчасці вінакуранай“.

На самым буйным прадпрыемстве ў Беларусі працавала 200 рабочых і служачых.

Беларусы не мелі права на беларускую культуру, не мелі права абучэння на роднай мове. Указам міністэрства народнай асветы нават было забаронена гаварыць аб тым, што ёсць беларуская мова. Беларуская мова разглядалася як жаргон. Беларусь да Кастрычніка была мяжой яўрэйскай аседласці, краінай яўрэйскага

гето, брудных, утапаючых у страшэнным жабрацтве яўрэйскіх мястэчак, у якіх царскі чыноўнік, жандар і рабін выціскалі з яўрэйскай беднаты пот і кроў.

Пагроза яўрэйскіх пагромаў бесперапынным жахлівым кашмарам вісела над галавою ні ў чым не вінаватых людзей.

Менск—былы цэнтр „мяжы яўрэйскай аседласці“—тапіўся ў брудзе і бескультур'і. Народ трымаўся ў цемнаце і невуцтве. 75 процантаў насельніцтва было непісьменным.

У Беларусі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, ні аднаго беларускага тэатра, затое мелася 5 тысяч манаполек, 3 тысячы цэркваў, 113 касцёлаў, 704 сінагогі.

Не гледзячы на вельмі жорсткую каланіяльную палітыку царызма, які прабаваў у саюзе з польскай шляхтай задушыць свабодалюбны дух беларускага народа і вытравіць яго нацыянальнае самасазнанне, беларускі народ здолеў пранесці скрозь вякі сваю культуру, сваю мову, сваю волю да перамогі.

Польскае шляхецтва ведала адносіны да сябе беларускага народа. Сучаснікі з шляхты прама пісалі, што „войскі польскай шляхты, якія прыходзілі ў Беларусь, адчувалі сябе заўсёды ў варожым акружэнні“.

Другі сучаснік даносіў польскаму каралю, што „гарады беларускія пагражаюць яўным абурэннем, а мужыкі моляць бога, каб прышла Масква“.

Беларускі народ, задаўлены непасільнай эксплаатацыяй, паўставаў супроць усіх прыгнятальнікаў—рускіх і беларускіх памешчыкаў, польскіх паноў, шляхцічаў. Ён знішчаў чыноўнікаў польскага караля, тапіў у балотах прагных ксяндзоў, паліў панскія маёнткі.

У народнай памяці захаваліся справы і імёны кіраўнікоў сялянскіх паўстанняў—Налівайкі, Ільі Галоты, Міхаіла Глінскага, Небабы, Крывашапкі, Гаркушы, Міхаенкі, Восчылы, Хрыська Каліноўскага і інш.

Усе гэтыя паўстанні былі затоплены ў крыві. Працоўнае сялянства магло вызваліцца ад феадальнага і капіталістычнага гнёту толькі ў саюзе і пад кіраўніцтвам рабочага класа. Толькі партыя рабочага класа, асвятляючая шлях барацьбы перадавой рэвалюцыйнай тэорыяй, магла забяспечыць перамогу працоўных у баях за сваё вызваленне.

* * *

Вялікія правадыры чалавецтва Ленін і Сталін указалі прыгнечаным народам шлях да вызвалення.

Яшчэ ў 1894 годзе Ленін у сваёй рабоце „Што такое „прыяцелі народа“ і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў“ пісаў:

> „Няма іншага сродку барацьбы з нацыянальнай нянавісцю, як арганізацыя і згуртаванне класа прыгнечаных для барацьбы супроць класа прыгнятальнікаў, у кожнай асобнай краіне, як злучэнне такіх нацыянальных рабочых арганізацый у адну міжнародную рабочую армію для барацьбы супроць міжнароднага капітала“.

У сваёй рабоце „Марксізм і нацыянальнае пытанне“, напісаный у 1913 г., таварыш Сталін выкрыў контррэвалюцыйныя нацыяналісцкія спробы меншавікоў, трацкістаў, бундаўцаў сарваць справу інтэрнацыянальнага аб‘яднання працоўных і вызначыў змест права нацый на самавызначэнне.

„Нацыя мае права, пісаў таварыш Сталін,—свабодна вызначыць свой лёс; яна мае права ўстроіцца так, як ёй угодна, не папіраючы, зразумела, праў іншых нацый. Гэта бясспрэчна...

Яна мае права наладзіць сваё жыццё на пачатках аўтаноміі. Яна мае права ўступіць з іншымі нацыямі ў федэратыўныя адносіны. Яна мае права зусім аддзяліцца. Нацыя суверэнна, і ўсе нацыі роўнапраўны“.

Гэтыя работы з‘явіліся магутнай ідэалагічнай зброяй большэвікоў у барацьбе з шавінізмам усіх масцей, пачынаючы ад рускіх чорнасоценцаў і канчаючы яўрэйскімі, беларускімі і іншымі нацыяналістамі.

Работы таварыша Сталіна па нацыянальнаму пытанню, і ў асаблівасці ідэя аб праве нацыі на самавызначэнне, выбілі глебу з-пад ног контррэвалюцыйных нацыяналістычных партый, якія пад відам „абароны бацькаўшчыны“, інтарэсаў „свайго народа“ абаранялі буржуазную дзяржаву і інтарэсы сваёй нацыянальнай буржуазіі.

Рэвалюцыйны рабочы рух Беларусі на працягу ўсёй сваёй гісторыі развіваўся ў цесным яднанні з рабочым рухам усёй Расіі, як частка гэтага руху. Буржуазным беларускім нацыяналістам і бундаўцам не ўдалося пасеяць рознь і адарваць рабочы клас Беларусі ад герaічнага рускага рабочага класа. Рука аб руку з ім рабочы клас Беларусі, пад кіраўніцтвам вялікай большэвіцкай партыі, прывёў беларускі народ да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.

У рэзультаце рэвалюцыйнай барацьбы рабочых і салдат, кіруемых большэвікамі, у першых чыслах лістапада ў Менску ўстанавілася Совецкая ўлада.

10 лютага 1918 года Троцкі ў Брэсце зрабіў страшэнную здраду: парушыўшы дырэктыву ЦК і тав. Леніна, адмовіўся падпісаць мір з Германіяй. Рэзультатам гэтай здрады з‘явілася наступленне германскіх войск і акупацыя Беларусі.

Германская акупацыя Беларусі—гэта крывавая старонка ў гісторыі беларускага народа. Гэта была оргія грабяжоў, свавольстваў, жорсткіх насілляў, катаванняў, расстрэлаў.

Беларускія контррэвалюцыйныя нацыяналісты, якія прыкрываліся фальшывым нацыянальным сцягам, падтрымлівалі ў свой час урад Керэнскага, цалавалі боты германскага кайзера, кланяліся аўстра-венгерскаму імператару, заігрывалі з Англіяй і Францыяй, прапаноўвалі свае паслугі Амерыцы, шукалі каму-б выгадней прадаць Беларусь, у перыяд акупацыі вылезлі з падполля, уступілі ў блок з Бундам, Поалей-Цыонам, з групай памешчыкаў і фабрыкантаў, абвясцілі ў Менску так званую „Беларускую народную рэспубліку“ пад апекай акупантаў і паслалі нямецкаму кайзеру

тэлеграму з выказваннем „найглыбейшай удзячнасці за вызваленне Беларусі германскімі войскамі“.

Аднак, ход гісторыі ніхто не змог спыніць. Нямецкія інтэрвенты пад ударамі Чырвонай Арміі з фронта, беларускіх партызан з тылу, пры поўным разлажэнні сваіх часцей, не хацеўшых ваяваць з Совецкай Расіяй, восенню 1918 года ўцяклі з Беларусі.

10 снежня 1918 года Чырвоная Армія ўступіла ў Менск.

Перад вызваленай Беларуссю ўсталі неадкладныя задачы дзяржаўнага будаўніцтва і замацавання заваяванняў соцыялістычнай рэволюцыі.

*Склікаpast 30 снежня 1918 года VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), па прапанове таварыша Сталіна, абвясціла сябе Першым з'ездам комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі.*

Канферэнцыя пастанавіла:

„Прымаючы пад увагу, што на чарговай VI Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РКП(б) прадстаўлены поўнасцю ўсе знаходзячыяся на тэрыторыі Беларусі комуністычныя арганізацыі, канферэнцыя абвяшчае сябе 1-м з'ездам компартыі (большэвікоў) Беларускай рэспублікі“.

Гістарычныя рашэнні канферэнцыі, якія вызначылі стварэнне беларускай дзяржаўнасці, былі распрацаваны і ажыццёўлены пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікага друга беларускага народа І. В. Сталіна, у непрымірымай барацьбе з буржуазнымі беларускімі нацыяналістамі, трацкістамі, меншавікамі і іншымі здраднікамі.

*Вечарам 1 студзеня 1919 года быў апублікован гістарычны маніфест Часовага рэволюцыйнага рабоча-сялянскага совецкага ўрада Беларусі, які з'явіўся першым канстытуцыйным актам, юрыдычна афарміўшым асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу маладой Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.*

Велізарная работа, праведзеная большэвіцкай партыяй у шырокіх масах беларускага народа, рашучае выкрыццё контррэволюцыйных дзеянняў беларускіх нацдэмаў, бундаўцаў, трацкістаў і іншай мразі забяспечылі магчымасць склікаць у пачатку лютага 1919 года першы з'езд Советаў Беларусі, на якім была прынята першая Канстытуцыя БССР, палітычнай асновай якой паслужыла гістарычная першая Канстытуцыя брацкай РСФСР, распрацаваная таварышамі Леніным і Сталіным і зацверджаная 10 ліпеня 1918 года V Усерасійскім З'ездам Советаў. Канстытуцыя абвяшчала Беларусь Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, у якой уся ўлада ў цэнтры і на мясцах належыць рабочаму насельніцтву краіны, аб'яднанаму ў гарадскія і сельскія советы.

Рашэнні гістарычнага першага з'езда Советаў Беларусі выцякалі з няўхільнага імкнення беларускага народа да ўстанаўлення цеснага саюза з РСФСР і ўсімі ўзнікшымі ў рэзультаце Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі совецкімі рэспублікамі. Гэтыя

імкненні выразіліся ў дэкларацыі з'езда, прынятай 3 лютага 1919 года, у якой было запісана: „Пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларуссю". З'езд заклікаў усе астатнія савецкія рэспублікі ўзяць прыклад з рабочых і сялян Беларусі—прыступіць да перагавораў аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Савецкай Расіяй і паміж сабою.

У работах першага з'езда Саветаў Беларусі прымаў удзел бліжэйшы саратнік таварышаў Леніна і Сталіна, першы старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта — таварыш Я. М. Свердлоў.

Гэта дэкларацыя—найярчэйшая ілюстрацыя вялікай мудрасці ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Рабочыя і сяляне былой царскай калоніі прызналі неабходнасць стварэння добраахвотнага брацкага садружаства працоўных савецкіх рэспублік. Такі быў вынік першага перыяду будаўніцтва Савецкай улады.

Савецкай Беларусі прыйшлося перажыць пасля гэтага яшчэ адзінаццаць месяцаў польскай акупацыі. Гэта былі месяцы помсты „яснавяльможнага" панства беларускаму рабочаму і селяніну за соцыялістычную рэволюцыю. Памешчыкі вярнулі свае маёнткі, адабралі зямлю; розгі і шампалы, расстрэлы і шыбеніцы сталі звычайнай з'явай. Карныя экспедыцыі наваднілі краіну. Вярнуўшыяся ўласнікі зволілі ўсіх рабочых-актывістаў. Усе чыгуначнікі былі звольнены і на іх месцы былі прысланы „надзейныя людзі" знутры Польшчы. Усе беларускія школы былі закрыты.

У гэтыя цяжкія дні беларускаму народу зноў аказалі падтрыманне і дапамогу брацкі рускі народ, комуністычная партыя большэвікоў і таварыш Сталін.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна і таварыша Серго Орджанікідзе, стаяўшых на чале Заходняга фронта, польскія інтэрвенты былі разгромлены і выгнаны з Беларусі назаўсёды.

З гордасцю беларускі народ успамінае словы таварыша Сталіна аб сустрэчы Чырвонай Арміі з працоўнымі Беларусі:

> „Такіх адносін,—гаварыў ён,—мне не прыходзілася сустракаць ні на ўсходзе, ні на поўдні. Не гледзячы на беднасць сялянскіх мас на Захадзе параўнальна з Паволожжам і Поўднем, усё-ж сяляне дзяліліся апошнім з чырвонаармейцамі... Насельніцтва прыфрантавой паласы перанесла ўвесь цяжар польскай акупацыі, таму вельмі добра ўсведамляла, чым пагражае яму ўтаржэнне польскіх паноў.
>
> На нашым фронце ёсць цэлая група войск, уся санітарная справа якой знаходзіцца ў руках сялян і сялянак, праяўляючых найвялікшыя клопаты і ўвагу да нашых раненых чырвонаармейцаў...
>
> Што датычыць настрою беларускіх сялян за франтавой паласой, то, па нашых вестках, там адбываюцца суцэльныя паўстанні, працуюць партызанскія атрады, разбураючыя тыл праціўніка, спальваючы склады і знішчаючы памешчыкаў..."

Геніяльныя стратэгі пролетарскай рэволюцыі Ленін і Сталін стварылі комуністычную партыю большэвікоў Беларусі. Яны кіравалі ўсёй барацьбой беларускага народа па стварэнню Совецкай улады, яны арганізавалі разгром нямецкіх і белапольскіх інтэрвентаў. Пад асабістым і непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка перАтварылася ў квітнеючую ордэнаносную рэспубліку, верны фарпост Совецкага Саюза на заходніх граніцах.

З велізарнай любоўю беларускі народ успамінае рэволюцыйную работу ў Беларусі верных саратнікаў Леніна і Сталіна, таварышаў Л. М. Кагановіча, М. В. Фрунзе, М. І. Калініна, Серго Орджанікідзе, Я. М. Свердлова.

У годы мірнага будаўніцтва і перамогі сталінскіх пяцігодак, як і ў годы грамадзянскай вайны, беларускі народ штодзённа і штогадзінна адчуваў дапамогу вялікага рускага народа, бацькоўскія клопаты лепшага друга беларускага народа—вялікага Сталіна.

* *
*

Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі расцвяла Совецкая Беларусь.

Соцыялістычная прамысловасць Беларусі зараз займае 73 проц. па ўдзельнай вазе ў народнай гаспадарцы; у 1937 годзе яна дала прадукцыі ў 23,6 разы больш, чым у 1913 годзе.

У Беларусі ўноў створана машынабудаўнічая, хімічная, тэкстыльная, скураная, дрэваапрацоўчая прамысловасць і сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва.

У Беларусі ў 1936—1937 гг. выпрацавана электраэнергіі ў 97 разоў больш чым у 1913 годзе.

Толькі на буйных прадпрыемствах і транспарце ў Беларусі працуе 200 тысяч рабочых супроць 13 тысяч у 1913 годзе.

Беларусь не ведае беспрацоўя.

Як і ва ўсім Саюзе, у рабочага-беларуса самы кароткі ў свеце 7-гадзінны рабочы дзень—вялікая заваёва Кастрычніцкай рэволюцыі.

Стаханаўцы Беларусі перакрываюць сусветныя рэкорды. Лік стаханаўцаў шырыцца.

Нязменна вырас матэрыяльны ўзровень жыцця рабочых Беларусі. Рабочы нараўне з інжынерам, прафесарам, урачом, настаўнікам наведвае тэатры, кіно, музеі, лекцыі, набывае прыгожы абутак, адзенне, мэблю.

Канчаткова ўмацаваўся калгасны лад. У Беларусі ёсць 9.665 калгасаў, якія аб'ядноўваюць 720 тысяч сялянскіх двароў. Калгаснае сялянства Беларусі атрымала 8 мільёнаў гектараў зямлі, замацаванай за калгасамі на вечнае карыстанне.

Калгасы БССР у 1938 годзе засявалі 94 проц. усёй пасеўнай плошчы. За годы Совецкай улады пасеўная плошча Беларусі павялічылася ў паўтары разы. Пасевы тэхнічных культур павялічыліся ў тры разы, пасевы бульбы—у 2 разы.

У Беларусі ёсць 227 машына-трактарных станцый, 8.141 трактар, звыш тысячы камбайнаў, звыш 4 тысяч аўтамашын, 2.680 трактар-

ных сеялак, дзесяткі тысяч складаных, поускладаных малацілак, ільнацерабілак, жняярак і іншых сельскагаспадарчых машын.

З года ў год расце ўраджайнасць соцыялістычных палёў. Сотні калгасаў атрымалі ў гэтым годзе ўраджай па 15—20 цэнтнераў зернавых, 5—8 цэнтнераў ільну, 150—200 цэнтнераў бульбы.

У рэспубліцы ў два разы павялічылася колькасць буйнай рагатай жывёлы, свіней і авечак супроць 1916 года.

У калгасах Беларусі ёсць 6.992 фермы буйнай рагатай жывёлы, 4.545 аўцагадоўчых ферм, 4.724 свінагадоўчыя фермы, 335 конеферм.

Адна трэць сялянскіх двароў да рэволюцыі была бескароўнай, зараз бескароўнасць ліквідавана поўнасцю.

Да 1913 года на тэрыторыі цяперашняй БССР было каля 20 тысяч гектараў садоў, якімі валодалі памешчыкі, царкоўнікі і кулакі. У калгасах Беларусі ёсць 63 тысячы гектараў садоў.

Калгаснікі і калгасніцы Беларусі дасканала авалодваюць навукай і тэхнікай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. За годы Совецкай улады выхаваны выдатныя кадры сельскай інтэлігенцыі. Калгасны лад стварыў новыя прафесіі, якіх не было і не магло быць у дарэволюцыйнай Беларусі.

У Беларусі ёсць звыш тысячы аграномаў, 600 заатэхнікаў, 200 ветурачоў, 23 тысячы трактарыстаў, 2 тысячы машыністаў малацілак, 1.400 трактарных механікаў, 2.000 камбайнераў, 13.000 паляводаў і т. д.

З года ў год становіцца ўсё больш заможным, культурным і радасным жыццё калгаснікаў. Многія калгасы выдаюць на працадзень у гэтым годзе 3—4 кілограмы хлеба, 8—10 кілограмаў бульбы, 3—4 рублі грашыма, кармы для жывёлы, гародніну і іншыя прадукты.

Новыя песні спявае калгаснае сялянства Беларусі:

Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале, і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць.
У часы адпачынку ў запале
нястрымным
Маладосць весяліцца, аж хата звініць.
Ад душы табе скажам, наш Сталін
любімы,
Як добра, як весела сёння нам жыць.

У гэтых песнях калгаснае сялянства славіць сваю магутную комуністычную партыю, славіць тварца Совецкай Канстытуцыі, бацьку і друга беларускага народа—любімага Сталіна; у гэтых песнях гучыць слова перамог, заваяваных беларускім народам за 20 год пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна.

У БССР у асноўным ліквідавана непісьменнасць. 1.256 тысяч совецкіх рэбят, юнакоў і дзяўчат навучаюцца ў 7.071 школе, 22 ВНУ, 80 педвучылішчах і тэхнікумах і 20 рабфаках рэспублікі.

Вырасла інтэлігенцыя БССР—соль зямлі совецкай. Толькі за

апошнія годы з вышэйшых навучальных устаноў БССР вышла 9.806 спецыялістаў: інжынераў, урачоў, юрыстаў, педагогаў.

Савецкая Беларусь мае Акадэмію навук і 1.263 навуковых работнікаў.

Беларусь мае народных паэтаў рэспублікі Янку Купалу і Якуба Коласа. Побач з старэйшым пакаленнем мастакоў слова, прадстаўленых такімі іменамі, як З. Бядуля, М. Лынькоў, К. Крапіва, узнялася і расце цэлая плеяда маладых, таленавітых пісьменнікаў, як П. Броўка, П. Глебка, Ів. Шапавалаў, А. Куляшоў, Э. Самуйлёнак, Э. Агняцвет і інш.

БССР мае 14 драматычных тэатраў, Тэатр оперы і балета, філармонію, кансерваторыю.

Выраслі такія мастакі сцэны, як заслужаная артыстка рэспублікі тав. Александроўская, заслужаны артыст рэспублікі тав. Уладамірскі, артысты тт. Балоцін, Дзянісаў, Аляксеева, Млодэк; артысты драмы: тт. Малчанаў, Звездачотаў, Ільінскі, Сокал, Арончык; рэжысёры тт. Зораў, Рахленка, дырыжор т. Шнейдэрман і інш.

Беларускія кампазітары, дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Туранкоў, тав. Багатыроў; тт. Любан, Цікоцкі, Шчэглоў плённа працуюць над стварэннем новых музыкальных твораў. Тав. Цікоцкім напісана беларуская опера „Міхась Падгорны". Тав. Багатыровым напісана беларуская опера „Дрыгва", прынятая да пастаноўкі не толькі ў БССР, але і ў тэатрах брацкіх нацыянальных рэспублік. Тав. Туранкоў працуе над стварэннем оперы аб пагранічніках.

Беларуская кіностудыя дала совецкаму гледачу такія карціны, як „Шукальнікі шчасця", „Канцэрт Бетховена", „Балтыйцы", „Дачка радзімы", „Мядзведзь", „11 Ліпеня".

Беларускія мастакі і скульптары тт. В. Волкаў, Зайцаў, Пашкевіч, Керзін, Грубэ стварылі рад каштоўных твораў беларускага мастацтва.

* * *

Гэтыя поспехі былі-б значна большымі, калі-б не подлая работа прэзрэнных ворагаў народа, трацкістаў, бухарынцаў, нацыяналістаў—агентаў германа-польскага фашызма, здраднікаў і прадажнікаў беларускага народа, якія ў свой час змаглі прабрацца нават у кіруючыя партыйныя і совецкія органы Беларусі.

Гэтыя прэзрэнныя ворагі шкодзілі ўсюды, дзе толькі маглі. Яны хацелі аслабіць Беларусь—фарпост краіны соцыялізма на Захадзе. Яны працавалі на адрыў яе ад СССР. Яны хацелі зноў вярнуць ёй праклятае мінулае, ператварыць яе ў калонію фашысцкіх краін. Галоўныя іх намаганні былі накіраваны на тое, каб паслабіць калгасы. Яны насаджалі хутары, яны заблытвалі севазвароты, засмечвалі насенне, заражалі жывёлу інфекцыйнымі хваробамі. Яны адбіралі ў калгаснікаў прысядзібныя ўчасткі. Яны пазбаўлялі жывёлу калгаснікаў пасьбішчаў. Яны пазбаўлялі калгаснікаў карыстання лясамі мясцовага значэння. Яны расстаўлялі сваю агентуру ў калгасах для таго, каб разлажыць калгасы знутры. Яны заахвочвалі парушэнні Статута сельскагаспадарчай арцелі. Яны не выкарыстоўвалі поўнасцю велізарныя сумы, якія адпускаліся саюзным

урадам для ўкладання ў народную гаспадарку БССР. Ворагі імкнуліся гэтым паслабіць абаронную магутнасць, затрымаць развіццё Беларускай рэспублікі.

Іх контррэвалюцыйная нацыяналістычная агентура, працаваўшая ў галіне мовы, літаратуры і мастацтва, правяла там сваю подлую, шкодніцкую работу. Яны скажалі правапіс у нацыяналістычным духу, яны засмечвалі мову чуждымі, антынароднымі словамі. Яны нават прабавалі перавесці беларускую мову на лацінскую аснову. Яны хацелі стварыць такую мову, праз якую было-б лягчэй праводзіць сваю работу і праз якую яны маглі-б прабаваць цягнуць масы на Захад. Яны прабавалі вытравіць з літаратуры ўсё, што напамінала аб сумеснай барацьбе рускага і беларускага народа за вызваленне, скажалі гісторыю. Яны прабавалі дабіцца, каб з беларускай літаратуры выпала фігура польскага пана, як спрадвечнага ворага беларускага народа.

Яны пралічыліся. Беларускі народ, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры дапамозе органаў НКВД, разграміў і знішчыў асіныя гнёзды фашысцкіх наймітаў.

* * *

Наша партыя і ўвесь савецкі народ узбагаціліся геніяльным сталінскім тварэннем—„Кароткім курсам гісторыі ВКП(б)“.

Толькі Сталінскі ЦК ВКП(б), які ўвабраў у сабе ўсю мудрасць вякоў, увесь вопыт бальшэвіцкай партыі, увесь вопыт дыктатуры рабочага класа, мог стварыць навуковую працу, у якой глыбока паказана слаўная гісторыя гераічнай барацьбы і перамог партыі Леніна—Сталіна.

Комуністычная партыя (большэвікоў) Беларусі—верны, непахісны атрад вялікай партыі Леніна—Сталіна,—загартаваная ў баях з ворагамі, узбройваючы свае атрады і кадры савецкай інтэлігенцыі веданнем тэорыі марксізма-ленінізма, павядзе беларускі народ да новых перамог па шляху да комунізма.

Ліквідуючы вынікі варожай работы, бесперапынна павышаючы палітычную пільнасць, выкараняючы астаткі варожай агентуры, беларускі народ у цесным супрацоўніцтве з брацкімі рускім, украінскім і іншымі народамі і далей будзе мацаваць абароназдольнасць рэспублікі, умацоўваць пагранічныя рубяжы.

Беларуская ордэнаносная Савецкая Соцыялістычная рэспубліка ў трэцяй пяцігодцы дабʼецца рашаючых поспехаў у справе яшчэ большага ўздыму матэрыяльна-культурнага становішча працоўных мас, павысіўшы ўраджайнасць калгасных палёў і ўзровень аплаты калгаснага працадня к канцу трэцяй пяцігодкі не менш чым у два разы.

Сіла і несакрушымасць Беларускай ССР, як фарпоста краіны соцыялізма на Захадзе, заключаецца ў вялікім патрыятызме беларускага народа, пазнаўшага праўду большэвікоў, у яго бязмежнай любві і адданасці партыі Леніна—Сталіна. Гэту сілу, гэту магутнасць адчуе на сабе ўсякі, хто адважыцца пераступіць свяшчэнныя рубяжы нашай радзімы.

# ШЧАСЛІВЫ БЕЛАРУСКІ НАРОД СЛАВІЦЬ ТВАРЦА ЯГО ДЗЯРЖАЎНАСЦІ—ВЯЛІКАГА СТАЛІНА.

МАСКВА, КРЭМЛЬ

## Таварышу СТАЛІНУ

У гістарычны дзень XX-годдзя ўтварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі беларускі народ шле сваё палкае прывітанне Вам, наш вялікі правадыр, родны і любімы таварыш *Сталін.*

Беларускі народ ніколі ў гісторыі не меў сваёй дзяржаўнасці. На працягу ўсёй сваёй дарэволюцыйнай гісторыі гарады і сёлы Беларусі падвяргаліся спусташэнню і разарэнню з боку нямецкіх псоў-рыцараў і татарскіх полчышчаў, беларускі народ грабілі і жорстка прыцяснялі літоўскія феадалы, польскія паны і царскія апрычнікі. Цемра і прыгнечанне, хваробы выміранне—такі быў лёс працоўнага беларуса да рэволюцыі.

Але гэта змрочнае жыццё пайшло ў далёкае беззваротнае мінулае.

У рэзультаце перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, пад кіраўніцтвам слаўнай большэвіцкай партыі, пры непасрэдным удзеле вялікага Леніна і Вашым, таварыш Сталін, рабочыя і сяляне Беларусі набылі сваю соцыялістычную дзяржаўнасць, набылі права на працу, адукацыю і на забяспечанае, шчаслівае і радаснае жыццё.

Вось чаму працоўныя Беларусі звязваюць з Вашым іменем незалежнасць і свабоду сваёй краіны, вось чаму яны поўны глыбокай прызнацельнасці і глыбокай любві да Вас—вялікага саратніка і прадаўжальніка справы геніяльнага *Леніна.*

У вяках будзе жыць памяць аб тых гістарычных днях, калі Вы, па заданню Леніна, распрацавалі і ажыццявілі геніяльны план раз-

грому нямецкіх акупантаў і белапольскіх захватчыкаў, калі натхнёныя Вамі, неперdone армія сацыялізма ў цесным еднанні з працоўнымі Беларусі, пры падтрыманні брацкага рускага народа назаўсёды ачысцілі гарады і сёлы БССР ад белапольскіх акупантаў і іх буржуазна-нацыяналістычных прыхвасняў.

Тройчы прэзрэнныя трацкісцка-бухарынскія і нацыяналістычныя агенты фашызма па заданню сваіх германа-польскіх гаспадароў прабавалі адторгнуць БССР ад вялікага Совецкага Саюза і вярнуць яе пад ярмо буржуазна-памешчыцкай кабалы. Але яны жорстка праліčыліся. Пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам і пры гарачым падтрыманні ўсяго беларускага народа совецкая разведка разграміла асіныя гнёзды ворагаў.

Беларускі народ назаўсёды звязаў свой лёс з лёсам народаў вялікага Совецкага Саюза. Сталінская дружба народаў СССР моцна, як граніт.

Мудрая ленінска-сталінская нацыянальная палітыка, Вашы, таварыш Сталін, бацькоўскія клопаты аб шчасці працоўных прывялі БССР да яркага гаспадарчага і культурнага росквіту. Светлае і радаснае наша жыццё—жыццё, поўнае творчасці і шчасця, жыццё адухатворанай радаснай працы на карысць нашай вялікай радзімы. Да гэтага шчаслівага жыцця наш народ, як і ўсе народы нашай радзімы, прышоў пад сцягам Леніна—Сталіна, пад Вашым геніяльным кіраўніцтвам. І магутнае сэрца нашага народа б'ецца ў беззаветнай любві і адданасці Вам, наш мудры правадыр, наш родны бацька і настаўнік.

Мы заўсёды памятаем Ваша мудрае ўказанне аб капіталістычным акружэнні, аб тым, што трэба ўвесь наш народ трымаць у стане пастаяннай мабілізацыйнай гатоўнасці, трымаць порах сухім перад тварам фашысцкай небяспекі вайны. Знаходзячыся на рубяжы з капіталістычным Захадам, беларускі народ пільна стаіць на варце кастрычніцкіх заваяванняў, мабілізуючы ўсе сілы, усю сваю жалезную волю, усю сваю кіпучую энергію для новых перамог соцыялізма.

І калі вораг асмеліцца на нас напасці, мы будзем бязлітасна яго біць на той тэрыторыі, адкуль ён прыдзе, да канца, да поўнага яго знішчэння.

Вялік, магутны і непераможны совецкі народ, згуртаваны вакол Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў), вакол вялікага, роднага і любімага правадыра—таварыша Сталіна.

Няхай жыве сталінскае сузор'е брацкіх Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве наша слаўная непераможная партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве мудры правадыр працоўнага чалавецтва, натхніцель і арганізатар перамог соцыялізма, тварэц беларускай совецкай дзяржаўнасці, лепшы друг беларускага народа—наш вялікі *Сталін*!

МАСКВА, КРЭМЛЬ

# Вячэславу Міхайлавічу МОЛАТАВУ

*Дарагі Вячэслаў Міхайлавіч!*

У дзень свайго радаснага свята—XX-годдзя БССР—беларускі народ шле вам—главе Совецкага ўрада—сваё палкае большэвіцкае прывітанне.

20 год таму назад вялікія правадыры працоўнага чалавецтва Ленін і Сталін стварылі Беларускую Совецкую Социялістычную Рэспубліку.

Вякамі прыгнятаемы польскімі панамі, рускімі і беларускімі капіталістамі, беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры дружнай і брацкай дапамозе вялікага рускага народа і ўсіх працоўных краіны Советаў завяваў сабе дзяржаўнасць. 20 год беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна будуе новае, шчаслівае, радаснае жыццё.

За гэты час беларускім народам пройдзен велізарны шлях барацьбы і перамог. З адсталай у мінулым калоніі царскага самадзяржаўя Беларусь ператварылася ў квітнеючую соцыялістычную індустрыяльна-калгасную рэспубліку. У сузор'і совецкіх соцыялістычных рэспублік вялікага Совецкага Саюза ярка свеціць свабодная Совецкая Соцыялістычная ордэнаносная Беларусь.

Няўхільнае ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла росквіт усіх галін народнай гаспадаркі, культуры і добрабыту працоўных мас БССР.

Беларуская рэспубліка—магутны фарпост Совецкага Саюза на яго заходніх рубяжах з капіталістычным светам. Беларускі народ несакрушымай сцяной разам з любімай і непераможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй, разам са слаўнымі пагранічнікамі зорка стаіць на ахове совецкіх граніц. Сёння ён яшчэ раз горда і ўпэўнена заяўляе: „Дорага паплоціцца вораг, калі пасмее ступіць на нашу свяшчэнную совецкую зямлю. Ён будзе разгромлен на яго-ж уласнай тэрыторыі“.

Рука аб руку з працоўнымі Совецкага Саюза, пад пераможным сцягам партыі Леніна—Сталіна ідзе беларускі народ да заветнай мэты—да комунізма.

Прэзрэнная трацкісцка-бухарынская і нацыянал-фашысцкая агентура замежнага капітала хацела прадаць у кабалу фашысцкім бандытам працоўных СССР, у тым ліку і беларускі народ. Але гады пралічыліся. Беларускі народ, таксама як і ўсе народы Совецкага Саюза, бязлітасна знішчыў і надалей будзе знішчаць усіх тых, хто пасмее пасягнуць на шчасце і радасць совецкага народа, на вялікія заваяванні Кастрычніка.

Сэрцы працоўных Совецкай Беларусі поўны шчырай удзячнасці ЦК ВКП(б), вялікаму Сталіну, ураду Саюза ССР і асабіста

Вам, Вячэслаў Міхайлавіч, за ўвагу і дапамогу нашай рэспубліцы ў яе гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

Сёння—ва ўрачыстае свята ХХ-годдзя БССР—пачуцці і думкі беларускага народа звернуты да вялікай партыі большэвікоў, да любімага правадыра і друга беларускага народа Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, да Вас—вернага і баявога яго саратніка. Мы запэўняем партыю і ўрад, што заўсёды будзем горда несці вялікі сцяг Леніна—Сталіна і пад гэтым сцягам прыдзем да поўнай перамогі комунізма.

Няхай жыве сталінская дружба народаў Совецкага Саюза!

Няхай жыве вялікі, непераможны рускі народ!

Няхай жыве саюзны ўрад і яго глава таварыш *Молатаў*!

Няхай жыве Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў) і яе правадыр, геній чалавецтва, вялікі *Сталін*!

---

# Масква, ЦК ВКП(б)

Працоўныя сталіцы ордэнаноснай Совецкай Беларусі ў дзень слаўнага ХХ-годдзя з дня ўтварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі ад імя ўсяго беларускага народа шлюць сваё шчырае, гарачае большэвіцкае прывітанне слаўнаму арганізатару перамог соцыялізма ў нашай краіне, баявому штабу гераічнай партыі большэвікоў—Ленінска-Сталінскаму Цэнтральнаму Камітэту Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў).

Сёння, у гэты радасны дзень, дзень народнай урачыстасці, працоўныя Совецкай Беларусі з пачуццём найвялікшай радасці і гордасці адзначаюць велізарныя перамогі соцыялізма, атрыманыя ў адзінай дружнай сям'і вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Многія стагоддзі беларускі народ жыў пад гнётам польскіх паноў, зверска эксплаатаваўся і прыгнятаўся памешчыкамі і капіталістамі, адчуваў увесь цяжар палітычнага і нацыянальнага бяспраўя пры царскім самадзяржаўі. І толькі ў рэзультаце Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у рэзультаце перамог партыі Леніна—Сталіна беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць, заваяваў шчаслівае, радаснае жыццё.

Сапраўды выдатны шлях, пройдзены беларускім народам за гэтыя 20 год. Ад маленькіх поўсаматужных прадпрыемстваў, якія славіліся звярынай эксплаатацыяй, патагоннай работай, да буйнейшых соцыялістычных фабрык і заводаў—такі шлях нашай прамысловасці.

Ад вузкай і ўбогай палоскі селяніна-бедняка да неабсяжных прастораў квітнеючай калгаснай зямлі, ад старажытнай сахі да трактара і камбайна,—такі шлях нашай сельскай гаспадаркі.

Ад поўразбуранай і рэдкай школкі да дзесяткаў вышэйшых навучальных установ, соцень сярэдніх школ, Акадэміі навук, тэатраў, незлічоных клубаў, соцень газет, тысяч выдатных кніг,

кіно, мастацкай самадзейнасці і т. д., і т. п.—такі шлях беларускага працоўнага ў будаўніцтве магутнай культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу.

З нянавісцю ўспамінаюць працоўныя Совецкай Беларусі свае далёкае і нядаўняе мінулае: насілле з боку польскай шляхты, праследванні рускім царызмам, крывавыя жахі імперыялістычнай вайны, разбойніцкія набегі кайзераўскіх і белапольскіх акупантаў. Усё гэта ў мінулым.

Доўгія годы выпрабаванняў не зламілі мужнасці народа, не зламілі яго волі да барацьбы за сваё будучае, да барацьбы за палітычнае і нацыянальнае вызваленне. Праз вякі гераічны беларускі народ пранёс сцяг барацьбы за сваю незалежнасць, за роўнапраўе, за народнае шчасце. І пры вялікай дапамозе гераічнага рускага рабочага класа, усяго рускага народа, пад кіраўніцтвам нашай слаўнай партыі Леніна—Сталіна беларускі народ скінуў з сябе векавое рабства, канчаткова і беспаваротна расправіўся з усімі сваімі прыгнятальнікамі і насільнікамі, пабудаваў радаснае, шчаслівае соцыялістычнае жыццё.

Лепшыя сыны партыі кіравалі намі і дапамагалі нам. Владзімір Ільіч Ленін, Іосіф Вісарыёнавіч Сталін—вось каго лічым мы сапраўднымі стваральнікамі нашай дзяржаўнасці, нашага шчасця, нашага роўнапраўя. Мы ніколі не забудзем велізарнай дапамогі нашаму народу ў барацьбе за Совецкую Беларусь лепшых вучняў і верных саратнікаў В. І. Леніна і таварыша Сталіна—Калініна, Свердлова, Фрунзе, Кагановіча, Орджанікідзе і Ежова.

І зараз мы штодзень адчуваем найвялікшыя клопаты, велізарную дапамогу Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) у далейшай барацьбе за пабудову комунізма ў нашай краіне.

У дзень найвялікшай нашай радасці, звяртаючы свае думкі гарачай любві і адданасці Цэнтральнаму Камітэту ВКП(б), нашаму дарагому правадыру і настаўніку таварышу Сталіну, мы абяцаем:

Высока трымаць непераможны сцяг Леніна—Сталіна над квітнеючай і радаснай зямлёй Беларусі.

Яшчэ больш згуртавацца вакол Комуністычнай партыі большэвікоў.

Умацоўваць асновы сталінскай дружбы народаў Совецкага Саюза.

Бязлітасна змятаць з зямлі Советаў ворагаў партыі і народа—трацкісцка-бухарынскую нечысць, нацыянал-фашысцкую, шпіёнскую і дыверсанцкую мразь.

Пільна ахоўваць рубяжы нашай выдатнай радзімы, граніцы вялікага Совецкага Саюза, любоўна дапамагаць нашай слаўнай Чырвонай Арміі быць гатовымі даць бязлітасны адпор ворагу і граміць яго на яго-ж тэрыторыі.

Усе сілы і волю сваю аддаць вялікай справе комунізма.

Няхай жыве ордэнаносная БССР!

Няхай жыве баявы штаб соцыялістычных перамог—Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў).

Няхай жыве любімы правадыр, друг і настаўнік Іосіф Вісарыёнавіч *Сталін*!

*МАСКВА, КРЭМЛЬ*

# Міхаілу Іванавічу КАЛІНІНУ

*Дарагі Міхаіл Іванавіч!*

У радасны дзень 20-й гадавіны ўтварэння БССР працоўныя Совецкай Беларусі шлюць Вам, слаўнаму саратніку вялікага Сталіна, палкае большэвіцкае прывітанне.

20 год таму назад беларускі народ з велізарнай радасцю сустрэў Ленінска-Сталінскі маніфест аб утварэнні Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Гэта быў дакумент, аб'явіўшы на ўвесь свет, што беларускі народ, вякамі стагнаўшы пад гнётам польскіх, літоўскіх і беларускіх паноў, пад цяжкім ігам царскага самадзяржаўя, атрымлівае сваю дзяржаўнасць. Гэта быў дакумент, які агаласіў на ўвесь свет, што ў мінулым забітая і прыгнечаная калонія царызма ператварылася ў раўнапраўную Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку.

Гэта стала магчымым толькі ў рэзультаце перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, таржаства ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы кіраўніцтву большэвіцкай партыі і яе правадыроў *Леніна* і *Сталіна*.

Лютыя ворагі соцыялізма прабавалі задушыць маладую Совецкую Рэспубліку, зноў надзець на шыю рабочых і сялян ярмо капіталістычнай эксплаатацыі. Мы пераж'ылі нямецкую і белапольскую акупацыі. Са зброяй у руках, кіруемы і натхняемы Леніным і Сталіным, змагаўся беларускі народ разам з усімі народамі вялікай соцыялістычнай радзімы супроць інтэрвентаў за сваю свабоду, за сваю незалежнасць. Мы ніколі не забудзем, дарагі Міхаіл Іванавіч, якую велізарную дапамогу аказалі Вы беларускаму народу ў цяжкія годы грамадзянскай вайны. Мы не забудзем як Вы прыязджалі да нас і мабілізоўвалі беларускі народ на барацьбу за вызваленне БССР ад імперыялістычных захватчыкаў. Ачышчэннем нашай зямлі ад белапольскіх акупантаў, ад нацыянал-фашысцкай агентуры капіталізма мы абавязаны большэвіцкай партыі, вялікім правадырам працоўных—Леніну і Сталіну і Вам—іх бліжэйшаму саратніку, другу беларускага народа.

Вашы неаднаразовыя прыезды ў Беларусь былі велізарнай дапамогай нашаму народу ў аднаўленні разбуранай народнай гаспадаркі, у паспяховым будаўніцтве соцыялізма. У 1935 годзе беларускі народ прыняў з вашых рук вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна, якім ён ганарыцца і які з гонарам носіць на сваім сцягу.

З пачуццём радасці і гордасці мы расказваем Вам цяпер аб нашых выдатных перамогах на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Воляй партыі большэвікоў, дзякуючы паўсядзённым клопатам вялікага друга беларускага народа, любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна, Беларусь пры дапамозе брацкіх народаў СССР і ў першую чаргу, вялікага рускага народа, рас-

цвіла як пышны сад, ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-аграрную рэспубліку з першакласнай соцыялістычнай прамысловасцю, з перадавой калектывізаванай сельскай гаспадаркай, з высокаразвітай культурай, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу. Сотні і тысячы вучоных, пісьменнікаў, інжынераў, лётчыкаў, мастакоў, урачоў, дзяржаўных дзеячоў дае наш народ Радзіме, вялікаму Совецкаму Саюзу. Ёсць чым і ёсць кім ганарыцца Беларускаму народу. Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі працоўныя БССР жывуць радасна, культурна і заможна.

Наша шчасце, нашу радасць, наша цудоўнае жыццё хацелі адняць у нас прэзрэнныя ворагі народа—трацкісцка-бухарынская і нацыянал-фашысцкая банда германскіх і польскіх шпіёнаў. Яны хацелі адарваць Совецкую Беларусь ад яе маці—вялікага Совецкага Саюза. Але ніколі нікому не ўдасца адняць у нас нашы заваёвы, нікому не ўдасца адарваць нашу рэспубліку ад вялікай дружнай сям'і рэспублік магутнага Совецкага Саюза.

Наша Рэспубліка ёсць і будзе непарушальным фарпостам Совецкага Саюза на яго заходняй граніцы. І калі фашысцкія драпежнікі пасмеюць пасягнуць на нашу свяшчэнную зямлю, беларускі народ разам з усімі народамі краіны Советаў грудзьмі стане на абарону соцыялістычных заваёў і знішчыць ворага на яго ўласнай тэрыторыі.

Няхай жыве магутны Совецкі народ!

Няхай жыве Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў) на чале з яе баявым штабам—Ленінска-Сталінскім ЦК!

Няхай жыве соцыялістычны парламент першай у свеце Краіны соцыялізма—Вярхоўны Совет СССР і яго слаўны кіраўнік Міхаіл Іванавіч *Калінін!*

Няхай жыве натхніцель нашых перамог, мудры правадыр працоўных, вялікі, родны і любімы таварыш *Сталін!*

---

*МАСКВА, КРЭМЛЬ*

## НАРОДНАМУ КАМІСАРУ АБАРОНЫ САЮЗА ССР, МАРШАЛУ СОВЕЦКАГА САЮЗА—

# таварышу ВАРАШЫЛАВУ

*Вернаму баявому саратніку вялікага Сталіна*, слаўнаму правадыру гераічнай, Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі—*Кліменту Ефрэмавічу Варашылаву* ў дзень 20 гадавіны ўтварэння Совецкай Беларусі працоўныя сталіцы ордэнаноснай БССР у асобе ўсяго беларускага народа—*шлюць Вам палкае большэвіцкае прывітанне.*

Дарагі Клімент Ефрэмавіч!

У гэты знамянальны дзень, падводзячы вынікі велізарных гістарычных перамог соцыялізма ў нашай краіне, *мы хочам падзя-*

*ліцца з Вамі, нашым дэпутатам у Вярхоўным Савеце СССР,* пачуццём велізарнай радасці і шчасця, якім поўны сэрцы беларускага народа.

Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі, ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, *брацкая дапамога гераічнага рускага народа і пастаянныя клопаты вялікага Сталіна,* ператварылі Беларусь з калоніі рускага царызма, краіны бяспраўя, эксплаатацыі, жабрацтва і голаду,—у квітнеючую свабодную Сацыялістычную рэспубліку.

*Беларускі народ пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна* у дружнай сям'і народаў Савецкага Саюза, *падняў на небывалую вышыню сваю сацыялістычную гаспадарку, культуру і быт і ўпэўнена ідзе да новых перамог.*

Як-бы не лютавалі ворагі чалавецтва,—фашысты і іх подлыя трацкісцка-бухарынскія і нацыянал-фашысцкія найміты, *ім ніколі не ўдасца парушыць сталінскае адзінства многанацыянальнага савецкага народа і затрымаць яго пераможнае шэствіе да вяршынь комунізма.*

Мільёны працоўных БССР поўны бязлітаснага гневу да ворагаў народа—наймітаў япона-нямецкага і польскага фашызма.

Беларускі народ, пад кіраўніцтвам партыі *Леніна—Сталіна выкрываў, бязлітасна знішчаў і будзе знішчаць усякага, хто паспрабуе парушыць свабоду і цесную дружбу народаў вялікага многанацыянальнага Савецкага Саюза.*

Няхай ведаюць імперыялістычныя драпежнікі, што і на заходніх граніцах Краіны сацыялізма яны *сустрэнуць сакрушальны адпор і знойдуць сабе ганебную гібель.*

Памятаючы ўказанні таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, мы павышаем большэвіцкую пільнасць, *ператвараем кожнае прадпрыемства і калгас у непрыступную крэпасць сацыялізма і гатовы ў любую мінуту біць ворага на той тэрыторыі, адкуль ён з'явіцца.*

*Мы запэўняем нашу партыю, Савецкі Ўрад, вялікага Сталіна і вас, дарагі Клімент Ефрэмавіч,* што калі звар'яцеўшы вораг рыскне навязаць вайну Савецкаму Саюзу,—*увесь беларускі народ разам з слаўнай непераможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй рынецца грознай лавінай на ворага.*

Няхай жыве наш свабодны, шчаслівы, савецкі народ!

Няхай жыве гераічная непераможная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія!

Няхай жыве першы маршал Савецкага Саюза, верны саратнік вялікага Сталіна, любімы Нарком Абароны, наш дэпутат у Вярхоўным Савеце Саюза ССР—Клім Варашылаў!

Няхай жыве наш бацька, друг, настаўнік і правадыр Іосіф Вісарыёнавіч *Сталін!*




*Якуб Колас*

# СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

*(Да двацацігоддзя)*

Безыменнай, безгалосай
Ты была, краіна.
Аб тваім гаротным лёсе
Вецер песні ў свет разносіў,
Плачучы пад тынам.

Люд твой бедны, занядбаны,
Жыў у вузкіх межах,
Век галодны, абарваны,
Сеяў, жаў, касіў на пана,
Сошкай дол мярэжыў.

У сырых, куравых хатах
Пад шум, дым лучыны
Плёў ён лапці, світку латаў,
Праклінаў адвечных катаў,
Баяў сказ-быліны.

Неадступна, пільна, строга
Ліха вартавала
Ды адною з ім дарогай
З клункам, з торбаю убогай
У свет вандравала.

К лыхала яго дзетак
Тое ліха-гора
Ды з палетка на палетак
Слёзы несла шчодра гэтак,
Як пясок у мора.

Не кранालі бога слёзы,
Іх не чула неба.
Гнуўся люд твой, нібы лозы,
Жыў пад страхам, пад пагрозай
Не мець куска хлеба.

* * *

Ты кроўю паліта, зямелька, багата.
І пан тут таптаўся і кайзер пракляты.

У бляску пажараў знікалі сялібы.
Цябе асудзіла звяр'ё на пагібель.

Ішлі генералы, паўзлі атаманы,
На вольныя гоні кавалі кайданы.

І розная нечысць брыла ў след за імі,
Ды труп старой гнілі ніхто не падыме.

Паўсталі народы рэспублік совецкіх
З Украіны светлай і з шахтаў данецкіх.

З вялікай Русі ад края да края
Народа ўзнялася лавіна жывая.

Армяне, грузіны, таджыкі, татары,
Казахі, кіргізы як грозныя хмары,

На ворагаў лютых абрушылі сілу
І злых акупантаў дашчэнту скрышылі.

І вольнай дзяржавай, краіна, ты стала
І слаўнай работы зрабіла не мала.

Усюды дарогі пралеглі, як стужкі,
І ходзяць машыны, сталёвыя служкі,

І пожні, і нівы цвітуць на балоце,
І выраслі людзі на новай рабоце.

Квятнее культура, красуюцца школы,
І песні спявае народ твой вясёлы.

На нашых заводах, на полі калгасным
Адсвечвае розум Сталінскі ясны.

Настаўніку-бацьку, народам-ваякам
Ад сэрца прыносім вялікае дзякуй!

* * *

Ходзіць гоман з хаты ў хату
З радаснай навінай:
Год святкуе свой дваццаты
Вольная краіна!

Разагнула стан дзявочы
Беларусь магутна,
Пахаваўшы лёс сірочы,
Панскі гнёт атрутны.

Збеглі з твару яе цені,
А ў вачах-аконцах
І іскрыцца і струменіць
Сталінскае сонца.

У вянку калоссяў спелых
З жыта і пшаніцы
Побач з вамі яна села,
Родныя сястрыцы,

Што адзінаццацю зорак
Свеціце на свеце
У світанне, адвячорак,
Новай зямлі дзеці!

Свет расчынен вам прасторны,
Зняты ўсе парогі,
Каб праклаўсці шлях свой торны
Сталінскай дарогай.

Дык ідзі-ж, мая краіна,
Гулкай, светлай хваляй,
Узнімайся ў верхавіны
Яшчэ вышай, далей.

З новым шчасцем, з новым годам,
Родны край Советаў!
Слава ўсім тваім народам,
Дружбаю сагрэтым!

21. XII—38 г.

*А. Марціновіч*

## РАДЗІМА

Я мару: буду мець сваю дачку
З вачыма чорнымі, галоўкай русай...
Я выйду з ёй тады на Пціч-раку,
Дзе сцелюцца палі вакол абрусам.

Мы сядзем на зялёнай мураве.
Я раскажу дачцы пра родны край наш,
Як абнавіў прасторы чалавек,
Як ураджай збіраць ён стаў камбайнам.

... Любімая дачка! Палеткі, бачыш ты,
Перад табой раскінуліся морам,
Шумяць яны ячменем залатым,
Аўсамі звонкімі, паспелымі гавораць.

Віднеюцца багатыя сады,
Мурожны поплаў зззяе пазалотай.
Раней-жа тут раслі у багне чараты,
І звалі поле гэтае—балотам.

Ішлі гады. Плыла паволі Пціч,
Праз балаты пацІху гнала воды.
Гібеў наш край. І падалі наўзніч
Пад лямкаю працоўныя народы.

А гнеў у сэрцах рос. Пайшоў у бой
Народ з'яднанай сілаю змагацца.
Запалымнеў Кастрычнік над зямлёй,
Стаў вольным чалавек, шчаслівай стала праца.

Карона знішчана крывавага цара,
І не згінаць народу больш калені,
Бо над Радзімай узышла зара,
Якую запаліў бяссмертны Ленін.

І ворагу Крамлёўскую зару
Ніколі патушыць не дасць вялікі Сталін...
Закрасавала ў шчасці Беларусь
І заспявалі сонечныя далі.

Калісьці твань, балота тут было
Ї нават не цвілі латоці кветкі,—
Цяпер стаіць калгаснае сяло,
Ї сэрца радуюць бяскрайнія палеткі...

Дачка мая! У шчасці вырастай,
Цябе радзіма нашая чакае.
Красуй вякі, мой беларускі край,
Хай песня над табой ніколі не змаўкае!

*Пімен Панчанка*

## ВЕРШЫ ПРА ВОСЕНЬ

1

Сляды гарачыні
Яшчэ на тварах носім,
Ды паплылі ўжо дні
У залатую восень.

Самотны крык гусей
Даносіцца з-пад воблак.
У асмужанай красе
Твой бачу, восень, воблік.

Зямлі не адагрэць
Агнём ліствы апошняй,
І ветру песні пець
Над парыжэлай пожняй.

У хмарах далячынь,
Прасцяг дажджамі повен.
Не плавае ўначы
Маладзіковы човен...

Ды сціхне спеў вятроў,
Надвор'е праясніцца,
Зямлі вільготнай зноў
Вясновы час прысніцца.

Блакіт нябёс тады
Празрысты, нібы ў маі.
Асеннія сады,
Як вогнішчы, палаюць.

2

Сівы рахункавод
На ведамасці глянуў:
„Багаты гэты год,
І ўраджай звыш плана!“

Разносяць спеў вятры,
А гаспадыня-восень
Багатыя дары
Калгаснікам разносіць.

Становяцца цяжэй
Аб'ёмістыя клеці.
Гамоняць весялей
І старыкі і дзеці.

Па хатах ходзіць пах
Даспелай садавіны.
Засолены ў кублах
Кавалкі саланіны...

Я у палях блукаў:
Там ветрана і пуста.
Мароз мяне спаткаў
Шкляным вясёлым хрустам.

Шырокія палі
Марозам пабяліла,
Ды знаю я—ў зямлі
Жыцця таіцца сіла.

Над рэчкай гай заснуў,
У далях—ціш і просінь...
Любіў заўжды вясну,
Цяпер люблю і восень!

1938 г.

---

*В. В. Маякоўскі*

# ГУТАРКА З ТАВАРЫШАМ ЛЕНІНЫМ

Грудаю спраў,
з'яў мітусеннем
дзень адышоў,
паступова сцямнеў.
Двое ў пакоі:
я
і Ленін—
фотаздымкам
на белай сцяне.
Рот адкрыты
ў прамове палымнеючай,
вусоў
шчацінкі
ўгору ўзняліся,
зморшчыках ілба
зацята
чалавечая,
з велічны лоб
велізарная мысль.
Мабыць,
пад ім
праходзяць мільёны...
Лес сцягоў...
рук трава...
Я ўзняўся з крэсла,
радасцю натхнёны,—
хочацца
ісці,
вітаць,
рапартаваць!
„Таварыш Ленін,
дакладваю
не па службе,
а ўсёй душой.
Таварыш Ленін,
пякельная работа
будзе

зроблена
і робіцца ўжо.
Асвятляем,
апранаем галечу адвечную,
шырыцца
здабыча
вугалю і руды.
А побач з гэтым
багата
бясспрэчна,
багата
рознай
дрэні і брыды.
Стамляешся
біць яе ды адгрызацца.
Шмат хто
без вас
адбіўся ад рук.
Дужа
багата
розных паганцаў
ходзяць
па нашай зямлі
і наўкруг.
Няма
ні ліку ім,
ні мянушкі,
цэльны
ланцуг тыпаў
цягнецца.
Кулакі і розныя чынушы,
падхалімы,
сектанты
і п'яніцы,—
ходзяць,
фанабэрыста
выпнуўшы грудзі,
усе ў асадках,
у нагрудных знаках.
Мы іх
усіх,
вядома, скруцім,
ды ўсіх скруціць
жудасна цяжка, аднак.
Таварыш Ленін,
на фабрыках дымных,
па землях,
укрытых
і снегам
і ржэўем,

вашым,
таварыш,
сэрцам
і імем
думаем,
дыхаем,
змагаемся,
жывем мы!“
Грудаю спраў,
з‘яў мітусеннем
дзень адышоў,
паступова сцямнеў.
Двое ў пакоі:
я
і Ленін—
фотаздымкам
на белай сцяне.

*Пераклаў Р. Л.*

---

*Наіры Зар'ян*

# ЛЕНІН

Не! Ты жывеш, вялікі Ленін,
Ты наша шчасце, наша воля.
Цудоўны розум і твой геній
Не будуць мёртвымі ніколі.

З табой ідзем паходным маршам,
Мінаем год, адзін, другі...
Ты гарады будуеш нашы,
Ты ўсюды з намі, дарагі.

Ты не загінуў, не пагас!
І кроў твая у нас бурліць.
Ты жар нянавісці у нас,
Кахання несутрымны кліч.

Ты моладзь смелую вядзеш,
На варту, на палі, ў руднік.
Наперадзе калон ідзеш,
І ззяеш на старонках кніг.

Ты сонца шчасця запаліў,
І ад Мадрыда да Крэмля—
Усюды знаюць на зямлі
Як слаўна Леніным зямля.

Імя тваё нясе народ,
Імя тваё заве на бой,
І кожны новы наш завод
Расце і дужае табой.

Ты наша сіла і размах,
Радзіме славу мы пяем,
І у пражэктарных снапах
Чытаем словы мы твае.

Ты ў кожнай песні дружных мас,
Цвіцеш над нашаю зямлёй,
На бал прыходзіш ты да нас
З усмешкай любай, дарагой.

Твой светлы розум не пагас,
Ён словам Сталіна гарыць.
Законам сталінскім для нас
Ён кожнай літарай блішчыць.

Ты бессмяротны між жывых,
Ты гул гісторыі людской,
Ты з даўніх кручаў снегавых
Бяжыш імкліваю ракой.

Ты ўвесь для радасных надзей,
З табой прайдзем усе гады,
Пакуль гісторыя ідзе,—
Ты будзеш з намі, правадыр!

*Пераклаў П. БРОЎКА.*

---

*Александр Шарапаў*

## ЛЯ ВЯЛІКАЙ МАГІЛЫ

Зубцоў высокіх лёг адбітак
На плошчу Красную, далей,
Марознай цішынёй спавіты,
Стаіць суровы маўзалей.

Стаіць затканы ўзорам снежным—
Зімы руплівою рукой,
І строгі строй крэмлёўскіх вежаў
Яго ахоўвае спакой.

Паблісквае халодны мрамар,
На снег адкідваючы цень,
І паўстае ў жалобнай раме
Глыбокай, цяжкай страты дзень,

Калі сціскала болем грудзі
І скрозь густую мглу завей
Ад сэрца вырываўся к людзям
Мой першы, мой нясмелы верш.

І вось я зноў у даўнім прошлым,
Далёкія ўстаюць гады:
Са Сталіным ідзе па плошчы
Паходкай спешнай правадыр...

Яго аблічча час не зменіць,
Зіхціць чырвонай ленты шоўк.
Вялікі і любімы Ленін,
Я расказаць табе прышоў

Усхваляванай шчырай песняй,
Здабытай намі ў баю,
Пра родны край—свае Палессе,
І пра рэспубліку сваю;

Што шлях, паказаны табою,
Ляжыць з канца ў канец зямлі,
Што клятву друга над труною
Тваёй, як мужнасць мы няслі.

І ўсё, што ты жадаў народу,
Арлом убачыў з ясных гор—
Соцыялізма небасводам
Радзімы абняло прастор.

Дзе шчасця ў жыцці не ведаў
Пракляўшы долю чалавек,
Дзе нашы продкі-караеды
Жылі ў балоце ўвесь свой век

Сягодня над шырокай нівай
У новай казцы нашых дзён
Квітнее яваю шчаслівай
Працоўных рук багаты плён;

Гудкамі новых фабрык горда
Уся рэспубліка пяе;
Твой—Леніна пачэсны ордэн
Красуе на грудзях яе;

Твой—Леніна любімы вобраз
У дні будоўлі, у баях
Усмешкаю прыветнай, добрай
Нам асвятляў заўсёды шлях.

У думах, марах усіх народаў,
У надзеях кожнага між нас
Гарыць зарою пуцяводнай
Вялікі сталінскі наказ:

Ахоўваючы шчасце наша,
Заўсёды памятай закон,—
Як Ленін, будзь у баю бясстрашным,
Няшчадным к ворагам як ён;

Адкрый, як Ленін, сэрца насцеж
Для тых, хто йдзе з табой ўпярод,
Як Ленін, ў шчасці і няшчасці
Любі радзіму і народ.

Мне іншай радасці не трэба,
Як ў наш вялікі слаўны час,
З сябрамі побач—ясным следам
Пранесці сталінскі наказ.

І жыць з упартаю надзеяй,
Што ў свой апошні смертны дзень
Жыццё на мрамар маўзалея
Маленькай кропляй упадзе.

*З рускай мовы пераклаў Ц. КРЫСЬКО.*

---

Эдзі Агняцвет

## ЛЕНІН

Сярод халоднае імглы
Пранёс Ён мару над вякамі,
Ён буру сеяў на зямлі—
—„Из искры возгорится пламя!“

Да Барселоны баявой,
Да неабсяжнага Кітая,
Як водсвет мары дарагой
Святло рубінаў далятае.

На плошчы Краснай устае
У простым воінскім адзенні
Той, хто надзеі ўсе твае
Увасабляе,
родны Ленін!

Нас вучыць Сталін—
прад сабой
Заўсёды мець твой слаўны вобраз,
Ісці дарогаю прамой,
Твае заветы помніць добра.

Як зерне чыстае ў палі,
Наказ ідзе ў пакаленні,
Каб людзі яснымі былі,
Праўдзівымі былі, як Ленін.

Не зналі страху, небяспек,
Глядзелі ўперад без сумнення—
Так, як сапраўдны чалавек,
Як мудры і вялікі Ленін.

Ішлі на ворага у бой,—
Не зналі літасці імгнення.
Каб так народ любілі свой,
Як мудры і вялікі Ленін.

І ціхім вечарам, і ўдзень,
Рубіны ззяюць, як крышталі.
Твой друг найлепшы нас вядзе—
Наш мудры і вялікі Сталін.

*А. Марціновіч*

***

Я радзіўся тады, калі Леніна справы паўсюды
Расцвіталі і шчасцем дарылі зямлю навакол,
Калі Леніну слалі падзяку свабодныя людзі
Гарадоў, сяленняў і сёл.

Можа сёння дастойнага я не знайду параўнання,
Каб магутную веліч усю перадаць чалавека таго,
Хто стаяў непахісна ў баях, ля штурвала змагання,
Хто распальваў у сэрцах агонь.

Толькі знаю—і кожны мяне зразумее у гэтым—
Увесь народ носіць Леніна імя у сэрцы сваім,
Знае веліч таго, хто стаіць іспалінам над светам,
Хто жыццё нам зрабіў маладым.

Нам гавораць аб ім яго справы, што горда над краем
Узышлі, сталі скарбам такім, як жыццё, дарагім.
Гэта свету гігант. З чым яго параўнаеш?
— З тым, што створана ім-жа самім.

*Эдуард Самуйлёнак*

# ПАГІБЕЛЬ ВОЎКА

(*П'еса*)

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

БОКУЦЬ Мірон Андрэевіч,—калгаснік (65 год).
БУЙКО Міхась—старшыня калгаса, комсамолец.
УСЕНКА Пятро—лейтэнант, начальнік пагранзаставы, 25—30 год.
ДАБРЫНІН—сакратар райкома партыі (год 30).
РАБІЧКА Лук'ян Фаміч—калгаснік, загадчык конефермы (60 год).
НІЧЫПАР—брыгадзір паляводчай брыгады (45 год).
ЯЗЭП—калгаснік (45 год).
ДЗЕД АНІСІМ—калгаснік, рыбак (65 год).
ДАНІЛА—загадчык МТФ калгаса (40 год).
СЦЕПАНІДА—яго жонка, загадчык птушкаводнай фермы (38 год).
ЛІДА—настаўніца калгаснай школы (23 гады).
НАСЦЯ—студэнтка інстытута ў Маскве (19 год).
ПЕРШЫ БАЕЦ-ПАГРАНІЧНІК.
ДРУГІ БАЕЦ-ПАГРАНІЧНІК.

АБАБУРКА Дзям'ян Сымонавіч—старшыня РВК, ФРАНТУЗЕВІЧ Антон, загадчык РАЙЗА — нацдэмаўска-трацкісцкія паследышы-дыверсанты

ХАРКЕВІЧ Багдан—ляснік (55 год).
ШЫШКА Апанас—паэт-нацдэм (30 год).
МІКОЛА—разлажыўшыйся тып (25 год).
ШАБІНСКІ—шпіён-дыверсант, былы памешчык (40 год).
ВЫРВІЧ Сільвестр—палявод калгаса.
Машыністка Абабуркі.
Калгаснікі, госці, пагранічнікі.

Дзея адбываецца ўвесну 1937 года.

Тэкст калгаснай песні напісан А. Русаком.

## АКТ ПЕРШЫ

### I

Ля калгаснага клуба: абшырны двор, чысты, з трох бакоў агароджаны акуратнымі, нізкімі парканамі, над імі звесілі галлё квітнеючыя дрэвы сада. Відаць рады выбеленых яблынь, вуллі, ягадныя кусты. Клуб—у глыбіні двара: шырокі ганак, тры вялікія акны, занавешаныя фіранкамі,—астатняе скрыла зеляніна сада. Адгэтуль адкрываецца прыгожы пейзаж: поле, рэчка ў кустах, недалёкі лес. Утульнае месца. Раніца. Мірон сядзіць на лаўцы, чытае газету. Уваходзіць Харкевіч у плашчы з берданкай.

**Харкевіч.** Рана-ж ты за газеты ўзяўся, Мірон Андрэевіч...
**Мірон** (*узняў галаву, убачыў Харкевіча*). А, Харкевіч! Адкуль ты гэта, увесь у расе?

Харкевіч падыходзіць, моўчкі вітаецца з Міронам за руку, садзіцца побач.

**Харкевіч.** Такая, брат, служба наша: вецер павеяў, гром загрымеў—лясніку клопат.

**Мірон.** Прапала што-небудзь з лесу?

**Харкевіч.** Глупства. Пагранічнікі кляніну ссеклі, пры дарозе. Учора нешта везлі на заставу і дышла ў іх зламалася. Нічога не скажаш: людзі ў патрэбе ўзялі. Начальніка заставы шукаю. Ты яго не бачыў?

**Мірон.** Не, не было...

**Харкевіч.** Трэба, каб ён акт падпісаў. А ты сам даўно тут сядзіш?

**Мірон.** Як толькі сышоў з варты. Міхась наш прыехаў досвіткамі з раёну, даў газету.

**Харкевіч.** Дык ты чуў, што ўначы дзеялася?

**Мірон.** Чуў. Некаторых мужчын пабудзіў нават. Ён можа і ў калгас убегчы.

**Харкевіч.** І цяпер яшчэ вялікі рух па лесе. Шукаюць... (*Пауза*) Я так думаю: ці не збег парушальнік?

**Мірон.** Далёка не збяжыць. Не ў такія рукі папаўся!

Пауза. Харкевіч вымае тытунь, частуе Мірона. Распаліўшы цыгарку, Мірон спрабуе заглянуць у газету, але Харкевіч гаворыць зноў.

**Харкевіч.** Мікола тут, часам, не праходзіў?

**Мірон.** Не было. Учора ўвечары з гармонікам валокся з мястэчка, п'яны. Выгналі з комсамола, дык цяпер казырыцца. Навошта ён табе?

**Харкевіч.** Узяў сець рыбы палавіць і ўжо два тыдні як ні сеці, ні рыбы. Кінуў, напэўна, у кустах, згніе сетка.

**Мірон.** Удаўся хлопец проці ўсяго свету, няма што казаць! Ён-жа да цябе ў зяці мерыўся, праўда гэта?

**Харкевіч.** А хто іх, маладых, разбярэ! Мая надта вучоная, дзе яму! Учора-ж прыехала!

**Мірон.** Насця прыехала?

**Харкевіч.** Надвечар учора прыбыла вучоная асоба. На летні адпачынак.

**Мірон.** Слаўная ў цябе дачка, Багдан.

**Харкевіч.** А як-жа! Кінула бацьку аднаго ў лесе. Выгадаваў!

**Мірон.** Не варта маладым людзям свой талент марнаваць. Гэта, Багдан, такія людзі вырастаюць, што мы проці іх—дзецьмі горкімі будзем.

З'яўляецца Ліда з ручніком на плячы. Спяшаецца. Убачыла Мірона і Харкевіча.

**Ліда.** А, вось яны дзе, прыяцелі! Добрая раніца вам!

**Мірон** } (*прыўзнімаюць шапкі*). Добрае ранне!
**Харкевіч** } Добрага здароўя! Куды гэта вы так спяшаецеся, Ліда Пятроўна?

**Ліда.** На рэчку іду. Сёнешняя газета ў вас?

**Мірон.** Сёнешняя. Міхась казаў, пра калгас наш тут напісана?

**Ліда.** Дайце, я пагляджу. (*Бярэ ад Мірона газету, разгортвае*).

**Харкевіч.** Што-ж там такое?

**Ліда** *(чытае)*. „У калгасе „Чырвоная Ніва“ не ўзыйшло шэсцьдзесят гектараў ячменю. Калгасьнікі патрабавалі неадкладнага расследвання, але яно не дало ніякіх вынікаў: насенне, пакуль Райземаддзел збіраў камісію, пагніло ў зямлі.

Увесь клін узараны і засеяны нанава. Але на гэтым супакойвацца нельга. Страта дзесяткаў цэнтнераў высокаякаснага насення не няшчасны выпадак, а рэзультат абдуманага шкодніцтва. Калгас „Чырвоная Ніва“, лепшы ў нашым раёне, трэба ачысціць ад ворагаў“. (*Ліда скончыла чытаць*). Проста сорам... Заўсёды ў нас што-небудзь здарыцца... *(Падае Мірону газету)*.

**Харкевіч**. Што раз, то новае бедства. У той год—svіран хлеба згарэў, летась лугі заліло, цяпер ячмень з зямлі не вылез. Але-ж паспрабуй—знайдзі вінаватага! Усе як-бы і шчырыя, і працавітыя, і ў згодзе жывуць... А тымчасам, то там, то тут—шкода! Можа і старшыня, Міхась наш занадта мяккі...

**Ліда**. Старшыня ўсюды не патрапіць. Трэба ўсім глядзець. (*Пауза*). Ну, выбачайце, я пайду. Сонца ўжо высока...

**Харкевіч**. Ідзіце, ідзіце... Самая пара цяпер... Пад абрывам пасля дажджу. Ах!—вада халодная!

Ліда ўсміхнулася, пайшла.

**Харкевіч**. Слаўная настаўніца ў нас. Каб маладыя мне гады, я тут, каля школы, яму капытамі выбіў-бы... От, забыўся ёй сказаць, што Насця прыехала. Яны-ж—прыяцелькі!..

Пауза

**Мірон**. Людзі шчырыя, працавітыя і ў згодзе жывуць... А між імі звяры хаваюцца. Ох, якая-ж нянавісць! Аблічча светлае, усмешачка вясёлая, голас як у таго салаўя, а душа воўчая, звярынае нутро, нажывы прагне! Даўней такі чалавек свет увесь перажэрці мог, усміхаючыся!.. Ён—воўк, ён мусіць з разбою жыць. Але цяпер на ўсіх дарогах ягоных пасткі пастаўлены. Вось ён і ходзіць, да зямлі прыгінаючыся, чарвяка крывавага ў сэрцы хаваючы... І цяжка яго распазнаць між людзей.

**Харкевіч**. Ёсць на каго падазрэнне?

**Мірон**. Гэта я так сказаў. А за ячмень, па мойму, трэба паляводу Вырвічу адказваць. Чаму так выйшла, хай апраўдаецца!

**Харкевіч**. Вырвіч? *(Падумаў)*. Вёрткі мужчына, Вырвіч... *(Памаўчаў)*. А як ты, і раней прыкмячаў яго на чым-небудзь? *(Мірон не адказвае)*. Тут, Мірон Андрэевіч, гарачыцца не варта. Як толькі ён заўважыць, што да яго прыглядаюцца... *(Ад клуба па сцежцы ідзе Вырвіч)*. А вось ён і сам, Вырвіч. Глядзі, цяпер яго не чапай, усё адразу зглуміш!

Падыходзіць Вырвіч, нешта нясе ў жмені, бярэ па драбінцы, есць.

**Вырвіч**. Здарова, партызаны! (*Вітаецца*). І ў вас газета? Вось цяпер і Сільвестра Вырвіч па крайнасці славу займеў!

**Мірон**. Ужо-ж і слава!

Харкевіч незадаволена глянуў на Мірона.

**Вырвіч** *(як-бы не чуў Міронавых слоў).* Журавінкай займаюся. Падснежная... Ах, кіслая, шэльма, ажна ў вушах пішчыць! Але з пахмелля добра... Мы такі ўчора ірванулі як мае быць з Міколам, у мястэчку. Год не пі, два не пі, а перад выходным днём—трэба!

**Харкевіч.** Слухай, а цяпер ты Міколу не бачыў?

**Вырвіч.** Ішоў Мікола нядаўна з аброцьмі. Коней шукаў, паразбегліся нечага. Лук'ян кульгаў, кульгаў, дзе яму! Звяры!

**Мірон.** У добрых руках, таму і звяры... З тваёй ласкі, дык пэўна ўсе на вяроўках віселі-б!

**Вырвіч** *(бярэ яшчэ адну журавінку).* Ах, якая-ж кваснасць! *(Да Мірона).* А ты што маеш да коняй. Табе што абыходзіць? Ты пільнуй, каб вераб'і канаплі не вымалацілі, і ўся твая работа! Ён яшчэ тут!

**Мірон** *(моцна).* Я не толькі ад вераб'ёў пільную. Я і ад ваўкоў пільную!

**Вырвіч** *(нібы не чуе).* Ах, ах... Трэба-ж, каб такая кіслая фрукта на балоце ўрадзілася!

**Харкевіч.** Ты на старога чалавека вельмі не агрызайся. Вунь аборы, фермы, новы свіран Мірона Андрэевіча праца! Калгас вартуе, ночы не спіць, а ты яму пра вераб'ёў глупства пляцеш! Іш, ты!

**Вырвіч.** А што я такое сказаў? Я Мірону Андрэевічу дарогі не зайшоў, а ён мне з-за гэтага ячменю жываты ад'еў! *(Раптам захваляваўся).* Чорт яго ведае, чаму ён прапаў! Чаму гэта канешне Вырвіч нашкодзіў? Я ў калгасе не першы год за палявода! Я ўдзень і ўначы як мыш у карабе кідаюся! Ён ужо мяне ў ваўкі ўпісаў! Гэта мне добра слухаць?...

**Харкевіч** *(да Мірона).* Вось тут і разбірайся цяпер...

Мірон маўчыць. Вырвіч раптам астыгнуў, сеў на лаўку, мацае лоб.

**Вырвіч.** Галава раскідаецца... Баба яшчэ як завяла фіцгармонік— з хаты ўцёк. Выйшаў на людзі, і тут цябе ледзьве на тое, што з кіямі па вуліцы ганяюць. Хоць ты ідзі ўтапіся, пакуль яшчэ рэчка не перасохла!

**Харкевіч.** Ты пра гэта не бядуй. Для цябе вады і ў жбане хопіць.

**Вырвіч.** А што ты думаеш! Абы вусы памачыў—і гатоў. Колькі таго чалавека, а жыць яму не даюць!

Мірон устаў.

**Харкевіч.** Куды ты? Пасядзі!

**Мірон.** Надакучыла мне Сільвестравы хітрыя ляманты слухаць!

Мірон пайшоў. Вырвіч з Харкевічам пазіраюць яму ўслед.

**Вырвіч.** З'есць ён мяне, гэты куслівы чорт! Ну-ж чалавечак! Што гэта за цаца была змаладу!

**Харкевіч.** За тое-ж дванаццаць гадоў ланцугі цягаў на катарзе. З такім характарам, пры старых парадках, толькі там яму было і месца.

**Вырвіч.** Ён ураднiка нейкага скантузіў, ці што?

**Харкевіч.** Такі быў Збышка-ураднік. Мірон тады ў цеслярскай арцелі працаваў, у мястэчку царкву будавалі. Вось і зайшло

ў яго нешта зураднікам, ён за некага заступіўся. А Збышка і яму нагайкай цераз лоб. Тады Мірон як спляжыў, дык з таго Збышкі і пара вон. З год ці два пакашляў Збышка і ляснуў да сцяны. А Мірона сагналі ў Сібір, там ён дванаццаць гадкоў і адзваніў. Не жыў тут пасля катаргі: толькі на магілу бацькаву крыж дубовы з панскага лесу паставіў, узяў сякеру пад паху, сказаў, што праўду нейкую пойдзе шукаць. І як сыйшоў—дык толькі перад самым калгасам з'явіўся. Гэты ў крыўду не папусціцца... Але ў нас з ім добра. Паважае, што я партызан. (*Пауза*). Мікола табе нічога не казаў?

**Вырвіч**. Казаў, каб ты тут сядзеў і нікуды не ішоў. А што?

**Харкевіч**. Нічога. Сетку мне прынясе. А начальніка заставы ты не бачыў?

**Вырвіч**. Паехаў дарогай пад Азярышча. А што?

**Харкевіч**. Трэба, каб ён акт падпісаў. Пагранічнікі кляніну ссеклі. На дышла.

**Вырвіч**. А-а-а!..

Чуваць галасы. Ідуць: Міхась, Мірон, з імі двое калгаснікаў—Язэп і Нічыпар.

**Язэп**. Ты толькі закамандуй, мы самі тады... А то на гэтыя анжынерныя штукі проста галава мая не служыць.

Падыйшлі да лавак, прывіталіся з Харкевічам і Вырвічам. Нічыпар сеў побач з Язэпам, выняў кісет, падаў Язэпу.

**Харкевіч**. Ну? (*Да Язэпа*). Якія пытанні вырашаеце?

**Язэп** (*сквапна паслініўшы паперку*). Пра браму вырашаем. Для гасцей. Дай, Нічыпар, яшчэ каліва.

**Міхась**. У раёне зацвердзілі наш юбілейны план. У той выходны—свята, папросім вас, Харкевіч, у госці. А пакуль размяркоўваем, што каму рабіць. Вось, браму будаваць трэба. Паслухаем, што скажа Мірон Андрэевіч.

**Мірон**. Па мойму так: брама—гэта ёсць гаспадарскі прывет, шырока адкрытыя дзверы ў гасцінную хату. Зробім браму такую, каб відаць было, што калгас наш не дарма дзесяць год пражыў, што багацце мае і гасцям сваім рады. Браму зробім чыстай рэзьбай, з такарнай тонкай аздобай, з карнізамі і па рысунку.

**Язэп**. Во!

**Міхась**. А ці не многа будзе работы?

**Мірон**. Што нам работы баяцца... Матэрыял ёсць, інструмант ёсць, станем з хлопцамі і за дзень-два ўсе формы вытачым. А Нічыпар з Язэпам хай пра бярвенні пастараюцца...

**Язэп**. Гэта ўжо, як бачыш. Калі сказаць, дзве хвойкі па пяць вяршкоў у пні, па паўтары сажні ўздоўжкі, без сукоў, дробнаслойныя, гэта выходзіць такой манерай...

**Міхась**. Пачакайце, дзядзька Язэп...

**Язэп**. Ну, не... (*Курыць*).

**Мірон**. Так што, мы ўсё гэта зробім. Але вось бяда, таварышы дарагія... (*Вымае з кішэні газету*). Тут напісана, што ў калгасе „Чырвоная Ніва“ завёўся злодзей. Што мы скажам гас-

цям нашым, калі яны спытаюць: а ці можна ў вас коняй добрых без апаскі паставіць, збрую багатую на ваш догляд пакінуць? А ці знайшлі вы злодзея, які хлеб ваш змарнаваў, абкрадае вас і нам бяды можа нарабіць? (*Пауза*). Дык што-ж мы гасцям сваім адкажам?

Міхась хацеў нешта сказаць, але Вырвіч схапіў яго за руку.

**Вырвіч.** Гэта зноў пра мяне песня? (*Устаў*). Што ты ездзіш навокал, як п'яны цыган па возеры?! Скажы проста: я хачу, каб Сільвестру Вырвіча ў турму пасадзілі! Ты-ж гэтага хочаш! Дакажы, што гэта я змарнаваў ячмень! Ну?

**Мірон** (*устаў*). Цяпер я ўжо не дакажу! Але я ўсёроўна ведаю, што ты ў гэтым вінаваты. Вось тут Міхась—старшыня і Нічыпар—брыгадзір, я пры іх кажу табе: не хадзі больш уначы замкі правяраць! Знайду—дрэнна будзе!

Мірон завярнуўся, пайшоў. Пауза. Вырвіч раптам сарваў з галавы шапку, кінуў вобземлю, хутка пайшоў сцежкай да клуба.

**Харкевіч.** Пагаварылі! Ах, што толькі гэта робіцца...

Міхась узняў шапку Вырвіча, абтрос пыл, паклаў яе на лаўку.

**Міхась** (*да Язэпа*). Дык вы, дзядзька Язэп, пра бярвенні пастарайцеся.

**Язэп.** Во! Чаму-ж не? Мы з Нічыпарам зараз і скочым. Адна нага тут, другая, гэтае самае... Дзве хвойкі,—так, вяршкоў пяць у пні... Але-ж, Мірон! Як устаў—проста страх. Я ўжо думаў: згняце Сільвестру пад ногі!

**Харкевіч.** Па майму, цяпер нельга Вырвічу брыгадзірам быць. Зняць яго трэба.

**Міхась.** Пра гэта праўленне будзе вырашаць.

**Нічыпар.** Нешта ты, Багдан, адступаешся ад прыяцеляў! Вырвіч-жа—друг твой!

**Харкевіч.** З гэткай прычыны я роднага брата не пашкадую. Па старому нашаму партызанскаму правілу.

Чуваць галасы. З'яўляецца Даніла і Сцепаніда.

**Даніла** (*бяжыць ззаду за Сцепанідай*). Ты глянь на паперу, чортавая ты баба! А? Што напісана? Пяцьдзесят курэй і дваццаць індыкоў напісана... Па распараджэнню праўлення табе загадваю! Як член рэвізійнай камісіі!

Сцепаніда грозна азірнулася і Даніла стаў, як урыты. Язэп з Нічыпарам засмяяліся, але сціхлі, калі падыйшла Сцепаніда.

**Сцепаніда** (*упёрлася рукамі ў бокі*). Даніла! Падай сюды паперу!..

**Даніла.** Не выпушчу з рук! Гавары на словах, басэтля!

**Міхась.** Ды што ў вас такое?

**Даніла.** Нарад! Пяцьдзесят курэй і дваццаць індыкоў! Для гасцей. (*Падбягае і, абышоўшы Сцепаніду, падае паперу Міхасю*). Праўленне даручыла выбраць пад маю адказнасць!

**Міхась** (*праглядае паперку*). Усё па форме, цётка Сцепаніда! Па плану трэцяе мясное блюда—птушка.

**Сцепаніда.** Няма ў мяне дваццаць індыкоў! У мяне індычкі! Чаму гэта ўсё ад мяне? Чаму крывога бычка не зарэжуць?

**Даніла.** А навошта яго рэзаць?

**Сцепаніда.** Ён няздатны.

**Даніла.** А ты адкуль ведаеш? У цябе індыкі равуць як звяры, колькі гароху паражэрлі, каб іх каршун драў! Да майго бычка чапляецца, каб сваіх індыкоў адстаяць?! Іш, ты!.. Каб ён столькі хлеба з'еў, колькі твае індыкі, ён рогам неба дастаў-бы.

**Язэп.** Не паддавайся, Даніла!

**Даніла.** Я з яго практыку знімаю!

**Сцепаніда.** А якое ты маеш права без дазволу на ферму лезці? Чую—гвалт, крык, пер'е лётае! Што такое? Людзі добрыя! Прыбегла, аж ён тут арудвае! Ён ужо выглядае, цішком прабраўшыся, каторае птушанё пад нож пусціць! Ты гаспадар на маёй ферме? Гэта ты яе выгадаваў? А? (*Падступае да Данілы, той адыходзіць на крок*). Ён мне ўсю ферму растрывожыў! У мяне каторыя нясуцца, каторыя на яйках сядзяць! У мяне птушка далікатная! У мяне птушка ў доглядзе жыве! А ён як тхор, ён рады птушанятка беднае прырэзаць! Ах ты, гад ты! Як гэта я за цябе замуж, ашалеўшы, выйшла!

Усе смяюцца.

**Міхась.** Дык у чым-жа справа, цётка Сцепаніда!

**Сцепаніда** (*супакойваючыся*). Не дапушчаю яго на ферму! Ён гатовы мне ўсіх курэй перарэзаць. У яго сэрца каменнае. Перадайце другому нарад.

**Міхась.** А мы так зробім. (*Падае Сцепанідзе нарад*). Бярыце нарад і выконвайце самі. Навошта лішняя работа.

**Даніла.** Яна табе набярэ інвалідаў,—не тое што госць—сабака не ўгрызе!

Усе засмяяліся.

**Сцепаніда** (*грозна*). Даніла, адыйдзіся!..

**Даніла** (*адыходзячы асцярожна*). Яна там усякіх вырадкаў нагадавала, брыдка глядзець. Некаторыя нават з голымі гузнамі ёсць. Я як гляну, браткі вы мае! От, птушка! На ёй пер'е не расце!

**Язэп.** Цьфу, поскудзь!

**Сцепаніда** (*бяручыся ў бокі*). Даніла, не ўводзь мяне ў гнеў!

**Даніла.** Яна да майго бычка прычэпліваецца... (*Адыходзіць далей*).

**Міхась.** Ну, дык што-ж? Усё ў парадку, цётка Сцепаніда?

**Сцепаніда** (*хавае паперку ў кішэню спадніцы*). Канешне, усё! Я сама ведаю, каторае птушанё куды пусціць. А то прышоў тут, начальнік!

**Даніла.** А такі вось начальнік, што я табе з хору выключу.

**Сцепаніда.** Паспрабуй, выключы!

**Даніла.** Вельмі простая штука. Вазьму і р-раз (*паказвае на далоні*) выключу! Ты як завядзеш сваім голасам, дык госці па-

разбягуцца. Я да цябе, як да жонкі, знісхаджэнне меў... А цяпер—выключаю.

З'яўляюцца дзве групы калгаснікаў. Ідуць некалькі чалавек злева, з саду. З імі—Мікола. Ад клуба ідзе Ліда, разам з ёю Лук'ян-конюх.

**Першы калгаснік.** Крыху позна напісалі, вось што... Каб раней напісалі...

**Другі калгаснік.** Прашоў я сёння полем. Ах, жыта грыміць! Аўсы якія, лён узыйшоў і разлапушыўся, што канюшына...

**Трэці калгаснік.** Калійная соль... Яна зямлі вялікую сілу дае!.. І другі факт: машынная апрацоўка.

**Лук'ян.** А! Мірон Андрэевіч!

Падышлі. Вітаюцца, рассаджваюцца на лаўкі. Сцепаніда з Данілам адыйшліся ў бок, гутараць, відаць, не зусім мірна. Харкевіч падышоў да Міколы.

**Харкевіч.** Што-ж, брат Мікола: узяў сетку і не аддаеш?

**Мікола.** А я і не лавіў... Вісіць у пуні.

**Харкевіч.** У спраўнасці?

**Мікола.** У спраўнасці, а як-жа!

**Харкевіч.** Добра, малайчына! А я ўжо бедаваў...

Харкевіч непрыкметна падміргнуў Міколу, адыйшоў і сеў на сваё месца.

**Мікола.** Слухай, Міхась! Дай мне выпіску з пратакола, дзе мяне сключылі. У раён паеду!

**Міхась.** Пасля... Зараз праўленне збярэцца.

**Лук'ян.** А пра што, Міхасёк, гаварыць будзем?

**Міхась.** Пра тое, што ў газеце напісана. Чыталі?

**Лук'ян.** Чытаў, як-жа!

Мікола адыйшоў, сеў воддаль, закінуў нагу за нагу. У яго бліскучыя боты. Ён аглядае іх, курыць, прыгладжвае валасы. Уваходзіць Усенка, начальнік заставы.

**Лук'ян.** А-а-а! госць да нас... Устаць! Смірна! (*Спрытна стаў „смірна". Калгаснікі загаманілі*).

**Усенка** (*вітаецца з калгаснікамі*). Сцепанідзе Сымонаўне прывет. Вы ўсё папраўляецеся, прыгажэеце!

**Сцепаніда** (*засаромілася*). Ай, што вы гэта кажаце! Ці-ж можна так... Куды ўжо мне...

**Даніла.** Іш, ты, яешня! Заспявала!

**Усенка.** Добры дзень, Ліда... Старшыні калгасу прывет і пашана. Мірону Андрэевічу! (*Вітаецца*). Дзядзькам Язэпу і Нічыпару добры дзень... (*Убачыў Лук'яна*). От, вайсковая костачка! Грэнадзёрска выпраўка! Хвацкі дзід!

**Лук'ян** (*вітаючыся*). Будзьце ўпэўнены! Мне гэтую выпраўку ўсталявалі як мае быць. Пачакай! (*Трымае Усенка за рукаў. Зноў становіцца „смірна"*). Ты хто такі? (*Гаворыць вельмі хутка*). Першага аддзялення, другога ўзвода, чацвертай роты, трэцяга батальёна, трынаццатага пяхотнага стралковага фальдмаршала князя Міхаіла Галіцына палка, ніжні чын Лук'ян Рабічка! А ну, паспрабуй? За адзін дых!

Калгаснікі і Усенка смяюцца. Падыходзяць яшчэ некалькі чалавек.

**Харкевіч.** А ў мяне справа ёсць да цябе, таварыш Усенка. Бачыш ты, хлопцы твае там клянінку ссеклі...

**Усенка.** Пачакай, брат... Дай, я спачатку пра сваё скажу. (*Звяртаецца да калгаснікаў*). Таварышы! Сёння ўначы праз рубеж прарваўся парушальнік... Устаноўлена, што ў тыл ён не выйшаў, а знаходзіцца недзе поблізу, тут у прыгранічных лясах. Ён не павінен больш зрабіць ніводнага крока ні назад, ні наперад. Ну, дык як, шаноўні товарішы? Што вы на гэта скажаце?

**Лук'ян.** Выступіць усім як адзін, вось што скажам!

**Калгаснікі.** Правільна...

— Аблавай!.. Як на ваўка!

**Язэп.** Калі ён з-пад Чаплішча бег, то...

**Нічыпар.** Пачакай, Язэп...

**Усенка.** Так... Прашу таварышоў комсамольцаў і калгасны актыў зайсці на хвілінку ў клуб.

Усенка першым рушыў да клуба. За ім пайшлі калгаснікі. Апошнім ідуць Міхась і Мікола. Міхась азірнуўся, убачыў Міколу, стаў.

**Міхась.** А ты куды?

**Мікола.** Куды людзі, туды я... А што?

**Міхась.** Ты чуў, што сказаў начальнік заставы? Актыў і члены комсамола! А?

**Мікола.** Нічога... Паеду ў раён, ты мне ў зубах комсамольскі білет прынясеш. Сыйдзі з дарогі!

Яны глядзяць адзін на аднаго.

**Міхась.** Ты падужацца са мною хочаш?

**Мікола** (*павёў плячом*). Н-ну, Міхал!.. Н-ну, глядзі!..

Міхась не адказаў, пайшоў да клуба. Мікола пазірае яму ўслед, потым зноў павёў плячом, узняў галаву і ўбачыў гурток моладзі, што наглядае за гэтай сцэнай. Пайшоў проста на іх. Перад ім расступіліся.

## II

Схаваліщча ў лесе, паблізу хутара Харкевіча. Зямлянка, выкапаная пад вялізным карчом-вываратнем. Па сценах гэтай зямлянкі звісаюць карнявішчы, асыпаецца з-пад іх пясок. Цьмяна гарыць ліхтар. Ахапка сена ў куце, на ёй сядзіць чалавек. Твар яго спачатку нельга разглядзець, толькі калі Харкевіч, перавязваючы незнаёмаму руку, пасоўвае ліхтар бліжэй—асвятляецца твар незнаёмца. Гэта—парушальнік граніцы, дыверсант Шабінскі.

**Харкевіч.** Горкае гэта жыццё, пане, калі злоснікі мае над светам запанавалі, а сябры ў магілу паляглі. Вось зараз ручку вашу праўлю і даўнейшае мне ўспамінаецца. Дзед ваш, генерал і граф, вечнае памяці пан Шабінскі, дзіцятка малое, вас, значыцца, на тэрасу выняслі... Вось кажуць, Харкевіч, пан твой малады; служы нашаму роду шчыра, як бацька твой і дзед служылі... Таго я датрымаў... шчыра служу... (*завязвае бінт*). Ах, божа мой, божа мой!.. Як давялося сустрэцца...

**Шабінскі.** Маўчы! Я прышоў сюды не для таго, каб у гэтай яме з табой плакаць.

**Харкевіч.** З ямы вам, пане, вылязаць нельга...

**Шабінскі.** Як гэта нельга?

**Харкевіч.** Яны цяпер усе ўзняліся: войска і па ўсіх калгасах людзі па ўсім прыгранiччы... Цяпер зайца ў лесе зловяць, не тое, што чалавека. Лісце, што на зямлю пала, на другі бок перавернуць.

**Шабінскі.** І доўга мне тут сядзець?

**Харкевіч.** Хто-ж ведае...

Пауза.

**Шабінскі.** Ты, Харкевіч,—баба старая. За дзесяць гадоў нейкі там хлеў спаліў!..

**Харкевіч.** Што магу—тое раблю, пане... Сказаць па праўдзе, каб гэта найбагацейшы чалавек быў—мы яго ўжо даўно з торбаю па свеце пусцілі-б. Але тут не адзін чалавек, не адны рукі. Сто вачэй пільнуюць, сто рук працуюць. Яны не нанятыя, яны для сябе стараюцца... Гэта вялікая сіла народа, проці яе цяжка, пане мой, ісці, а папаўся—прапаў, ураз цябе на зямлі не будзе!

**Шабінскі.** А грошы, Харкевіч?..

**Харкевіч.** Не гневайцеся, пане: калі, не дай бог, вам адгэтуль добра выйсці не ўдасца,—паспрабуйце грашамі адкупіцца... Тады ўбачыце самі, чаго яны варты.

Пауза.

**Шабінскі.** Дык што-ж?.. Значыць, нічога з імі зрабіць нельга?

**Харкевіч.** Небяспечна гэта, пане мой міласцівы!

Пауза.

**Шабінскі.** Яны цябе не рушаць? Ты-ж не на падазрэнні?

**Харкевіч.** Яны вераць мне. Спачатку было так сабе: служба мая пану, ойцу вашаму, усім была ў памяці. Але як толькі я, пры добрых людзей дапамозе, партызанскую паперу сабе выстараўся—усё як рукой зняло. Ды ўжо і гады прайшлі...

Пауза.

**Шабінскі.** Ад нашага маёнтку што-небудзь засталося?

**Харкевіч.** Амаль што нічога не засталося. Палац самы снарадамі разбілі, як войска вашае з-пад Барысава бегла, выбачайце... а цэглу мужыкі пасля парасцягалі... У капліцы, дзе вяльможны дзед ваш, святое памяці, генерал і граф, маліліся—цяпер электрычная машына стаіць...

**Шабінск** (*[illegible]ле*). Ты ведаеш, Харкевіч, што бацька мой на нейкім фальварку ў нахлебніках жыў і памёр?

**Харкевіч.** Божа мой, божа!..

**Шабінскі.** Ты ведаеш, што я, граф Шабінскі, у чужаземным легіёне, у нейкіх паганых арабскіх мястэчках пяць гадоў прападаў?

**Усенка** (*перабівае*). Ціха! Не хвалюйцеся! Вы чуеце, грамадзянін Харкевіч, у чым вас абвінавачвае дачка ваша? Яна кажа, што гэта ваш нож.

**Харкевіч.** Мала што яна кажа? Вар'ятка... Маці яе кінулася ў пробуб і яна тэй дарогай... Ні гаварыць, ні слухаць не хачу. (*Павольна павярнуўся, каб ісці*).

**Усенка** (*стрымлівае яго*). Стойце спакойна, грамадзянін Харкевіч. Гэта ваш нож?

**Харкевіч.** Ніякіх я такіх нажоў не ведаю, глузды ў яе ў галаве з мяшаліся... Вы-ж гляньце, чыстая вар'ятка. (*Насця стаіць бледная, з шырока раскрытымі вачыма*). Ну, гляньце-ж, яна не ў сабе! Каму вы гэта верыце? (*Да Усечка*). І вы мяне, калі ласка, перад народам не ганьбіце! За гэта адкажаце потым!

**Усенка.** Ну, досыць, Харкевіч. Не будзем псаваць людзям свята. Пройдзем на заставу, там пакуль што са сваімі знаёмымі пагаворыце. Тут вам рабіць няма чаго. (*Харкевіч глянуў на яго*). Ну, з тымі самымі знаёмымі, што ўвечары пад возера пад'ехалі, рыбкі палавіць...

**Харкевіч** (*глуха*). А! (*Сеў на канец лаўкі, дакрануўся да ілба, глядзіць на Усенка, як непрытомны*).

**Усенка.** Ну, вось і прыпомнілі. Цяпер усё ў парадку. (*Да пагранічніка*). Выклікаць нарад!

**Пагранічнік.** Есць, выклікаць нарад! (*Вышаў. Цішыня*).

**Усенка.** Тут яшчэ вашы знаёмыя, Харкевіч. (*Голасна*). Сільвестр Вырвіч, ёсць?

**Вырвіч** (*з натоўпу*). Есць! (*прабіваючыся праз натоўп*). Есць, ёсць, ёсць... Есць, браткі, ёсць... (*Стаў перад Усенка, аправіў піджак*). Есць, значыцца... Сільвестра Вырвіч...

**Язэп.** Дык ты змей...

**Вырвіч.** Змей, браткі, змей, значыцца... (*Азірнуўся*). І я... (*склаў рукі*). Браточкі! Даруйце! І свіран я, і жарабят я...

**Усенка.** Спакойна, грамадзянін.

Вырвіч змоўк, панурыўся. Гук абурэння.

**Лук'ян.** Харкевіч, Харкевіч! Цьфу! Слоў няма!..

З'яўляецца нарад. Усенка паказвае рукой.

**Старшы нарада** (*коратка*). Устаць!

**Харкевіч** (*павольна ўстае*). Ну... Крыўды няма... За дваццаць гадоў я вам даўся ў знакі... З самага партызанскага атрада...

Гул абурэння.

**Галасы:** — Гады!
— Мярзаўцы!
— Ваўкі!
— Папаліся!
— Сабакі шалёныя!
— Таварышы, маўчаць! Ні слова!
— Праўда!.. На такіх яшчэ слова траціць чалавечае!

— Ціха!

— Маўчыце!

У глыбокай цішыні Харкевіч і Вырвіч стаяць акружаныя канвоем. На іх глядзяць з пагардай і гідлівай цікаўнасцю. Побач з Насцяй стаіць Ліда. Мірон, Язэп, Міхась, Нічыпар акружаюць іх.

**Харкевіч.** Ну, дачка...

**Насця.** Прэч! Ты не бацька мне! Забойца, воўк!

Харкевіча і Вырвіча павялі. Калгаснікі і госці расступіліся. Яны прайшлі панурыўшыся, акружаныя канвоем і зніклі. Цішыня.

**Ліда** (*абнімае Насцю*). Насценька, супакойся, дарагая...

**Мірон.** Не плач, галубка... Чымся такога бацьку мець, лепей ніякага.

**Насця.** У мяне не было бацькі... Ён памёр, калі я нарадзілася. У мяне маці была... Замучыў яе... воўк... (*Плача*).

**Мірон.** Глянь, якая ў цябе сям'я... (*Паказвае на прысутных*). Не плач, шчасце сваё чыстае наперадзе знойдзеш!

Усе цяпер глядзяць на групу каля Насці.

**Дабрынін.** Таварышы! Сёння жалезнай рукой слаўных чэкістаў ліквідавана варожая банда ў нашым раёне. Але вось там—застаўся варожы свет! Таварыш Сталін сказаў, што пакуль гэты свет будзе існаваць, будуць у нас і шпіёны, і дыверсанты і ўсякія, розных масцей і колераў, ворагі. Прэч залішнюю даверлівасць! Пільнасць, вялікая пільнасць патрабуецца ад нас. Будзем заўсёды памятаць словы нашага правадыра!

Сёння ворагі хацелі папсаваць нам жыццё. Дабіліся-ж яны толькі таго, што знізілі наш святочны, урачысты настрой. Ёсць добрая песня, таварышы! Ёсць гімн, які сілу дае пачуццям, адзінства сэрцам, смеласць думкам! З ім заўсёды перамагалі і заўсёды пераможуць бальшэвікі! (*Апладысменты. Апошнія словы Дабрыніна, пакрывае магутны дружны спеў „Інтэрнацыянала". Усенка стаў побач з Насцяй і ўзяў пад казырок*).

21 лістапада 1938 г. гор. Менск.

---

*М. Лынькоў*

# НЯУДАЧА ОТТО ФОН ГАУЭРА

*(Апавяданне)*

Як драўляныя манекены некалькі пар салдат паволі кружыліся пад гукі старога германскага вальса. На ганку папоўскага дома сядзелі аркестранты, салдаты палкавой абознай каманды. Пара скрыпак, кларнет, флейта, губны гармонік. Ды адмысловы інструмент з кансервных банак і конскага валосся з драўляным смычком, падобным на пілу, дапаўняў аркестр. Скрыпкі фальшывілі, кансервныя банкі верашчэлі да таго пранозліва і неўпапад, што папоўскі певень, які толькі, толькі залапацеў крыллямі на паркане, збіраючыся прачысціць сваё галасістае горла, раптам замоўк, засумаваў і скасіўшы шкляное вока на музыкаў, так і застыў на адной назе, добра не ведаючы, а ці пець-жа яму, ці падавацца па дабру, па здарову з паркану.

Салдаты глянулі на яго безуважна. Некалі было займацца пеўнем. Прад вачмі мільгала пажылая постаць ефрэйтара Кадэша, дырыжора. Ён зрэдку выціраў успацелую лысіну і, апасліва пазіраючы на адкрытае акно папоўскага дома, старанна цягнуў нуднае і аднастайнае:

— Айн—цвай—драй... айн—цвай—драй...

— Адставіць!—грымнуў нехта раптам з акна і аркестр замоўк. Музыкі ўсталі і выцягнуліся з танцорамі ў струнку, разгублены дырыжор узяў пад казырок. На ганку з'явіўся дзяншчык палкоўніка.

— Назад! Пайшлі к усім чарцям... А ну...

Лапатнуўшы крыллямі, таропка зляцеў певень з паркану.

Танцоры і музыкі, панурыўшыся, пайшлі да сваіх спраў. Пад паветкай ляжалі зарэзаныя каровы, трэба было лупіць іх. Ефрэйтар Кадэш вайстрыў нож і нешта бурчэў пад нос—аб начальстве, якому цяжка дагадзіць, аб праклятай вайне—чаго толькі не даводзіцца рабіць, аб гэтым паганым надвор'і,—ліпне нож да рукі, пальцы стыгнуць...

---

Палкоўнік па праву лічыў сябе чалавекам цвёрдай рукі і спакойнага духу. Магчыма ў гэтым сказвалася старая тэўтонская кроў, якой пры выпадку ён любіў пахваліцца ў кругу блізкіх афіцэраў.

Магчыма, рука яго набыла цвёрдасць у абыходжанні з гэтымі дзіравымі кафейніцамі, як называў ён часам салдат свайго ландвернага палка, усіх гэтых старэватых дзядзей, марудных, неўвароткіх, якім упору хіба ўнукаў няньчыць, а не салдатамі быць арміі яго вялічаства... Ваякі... Хіба не ганьба яму, камандзіру, яму, Отто фон Гаўэру, запрашаць на дапамогу экскадрон імперскіх гусар, каб навучыць вуму-разуму свае батальёны...

Навучылі... Навучаць...

У адчыненае акно відаць была роўная плошча. Халоднае шэрае неба цярушылася рэдкімі, палахлівымі сняжынкамі. Не дакранаючыся да зямлі, яны ніклі, раставалі. Зямля была задужа цёплай. Курыліся галавешкі. Пачарнелыя коміны і печы, нагрэтыя пажарамі струменіліся празрыстым маравам. Пахла дымам, гар'ю. І ніводнага чалавека—пуста, гола, ні крыку, ні голаса.

А тут гэты недарэчны вальс, стары сямейны вальс... Лірыка... Пялёнкі...

— К чорту!

Паслужлівы дзяншчык заікнуўся аб маршы, баявым імператарскім маршы, ад якога самі сабою падымаюцца ўгору рудыя пракураныя вусы пана палкоўніка.

Палкоўнік зірнуў на станцыю і, не глядзячы на дзяншчыка, буркнуў пад нос:

— Вон, дурань...

Палкоўнік яўна згубіў роўнавагу, страціў заўсёдашні свой спакой. Праўда, ён бязлітасна расправіўся з гэтым пасёлкам, ён падавіў паўстанне... Можа гэта і гучна сказана—паўстанне... Аднак, ён адвучыць навек гэтых дзівакоў выступаць супроць германскай імперыі... То-ж надумаліся—яны не прапусцяць эшалоны з хлебам... яны не дапусцяць грабежніцтва сваёй краіны... Дзе гэта відана, каб якія-небудзь рабочыя дыктавалі яму волю, яму, германскаму афіцэру, носьбіту магутнага германскага духа...

Паўстанне падаўлена. Прыстанцыйны пасёлак спалены. Але эшалоны-ж далей не пайшлі. Пуці завалены разбітымі вагонамі, разбураны мост. Чорт ведае, што робіцца тут... Праўда, усё гэта можна паправіць... Не ў гэтым бяда... Іншае трывожыць яго—шыфраваныя тэлеграмы з Германіі. Адстаўка Людэндорфа, аўстрыйскія і венгерскія падзеі, паўстанне матросаў у Кіле, няўдача на заходнім фронце... чуткі аб гамбургскіх падзеях... Няўжо ляціць усё у бездань у яго вялікай Германіі. Хіба няма людзей, што ўмеюць за горла браць лёс народа, умеюць выпростваць спіну народу.

— Не дапусціць! Разагнаць! Павесіць!—вырваліся ўголас гэтыя словы, і ў прыпадку гневу закашляўся палкоўнік і доўга адхаркваўся, хапаючыся за грудзі.

— Вады!—крыкнуў ён дзяншчыку.

Вяртлявы і хуткі, той мігам абярнуўся і замёр перад ім, як манумент. Кропля вады палахліва гойдалася на краю падноса, нос дзяншчыка пабялеў ад напружання.

Палкоўнік ледзь павярнуўся ў крэсле, холадна зірнуў на дзяншчыка бялёсымі, валавянымі вачмі, прагаварыў ужо спакойна, разважліва:

— Колькі раз трэба табе гаварыць, пазнанскі дурань: вады, ідыёт... харошай мінеральнай вады... з аптэкі...

Дзяншчык памкнуўся ісці, але, нібы ўспомніўшы што, торапка заўважыў:

— Асмелюся далажыць, пан палкоўнік, аптэка спалена...

— Што?—вызвярыўся быў палкоўнік, але потым абмяк, узяў шклянку вады, выпіў, паставіў назад.

— Ідзі... Я і забыўся, што ў гэтых варвараў нічога не дастанеш...

Сумна палкоўніку. Доўга цягнецца ранне. Свінцовая муць аблягла усё неба, свінцовая муць у акне. Дым, гар, пахне паленым пер'ем, відаць, салдаты парадкуюць гусей і курэй.

Сумна. Некаторае ажыўленне ўносяць гаманлівыя галасы ля штаба. Палкоўнік пазірае ў акно. Група жанчын упрошвае аб нечым часавога. Той адмахваецца ад іх вінтоўкай, рашуча адганяе ад ганку. Плач, слёзы.

— Упусціць...—важна кідае Отто фон Гаўэр.—Я прыму іх.

У пакой, у саправаджэнні ад'ютанта, баязліва ўваходзяць жанчыны, усё больш бабулькі. Яны нізка кланяюцца, днём добрым вітаюць яго, пана палкоўніка. Маўчаць з хвіліну. Пярэдняя бабулька памыкаецца гаварыць, яе словы захліпаюцца плачам.

— Паважаны начальнік, там-жа муж мой—ён на станцыі дроваклададам—і сын... Сын падлетак, чым-жа ён вінаваты, чым-жа мы ўсе вінаваты...

Яна выцірае слёзы рогам хусцінкі, змаўкае, чакаючы адказу.

Палкоўнік пытае позіркам перакладчыка. Той торапка, хвалюючыся, перадае просьбу жанчыны. Палкоўнік думае з хвіліну, потым кідае скупыя словы:

— Усё будзе зроблена па закону...

І прыжмурыўшы вока, ён глядзіць на ад'ютанта. Квадратны падбародак таго хавае кароткую ўсмешку.

— Па закону яго імператарскага вялічаства!—дадае палкоўнік.

Перакладчык разгублена пазірае на жанчын. Яму нязручна зірнуць ім у вочы. Боязна азіраючыся на ад'ютанта, ён гаворыць жанчынам пра закон.

— Закон... Закон...—перашэптваюцца абнадзеяныя жанчыны, аб нечым раюцца між сабой. Пярэдняя бабулька нясмела падыходзіць да палкоўніка, працягвае акуратна завязаную хусцінку. У ёй дзесятак яек. Іх збіралі па аднаму, па два. Поўдзесятка пазычылі ў папа—яго двор уцалеў ад пажара, у ім штаб.

— Прыміце за ласку, за добрае слова...

Яна стаіць перад ім, пакорная, ласкавая. Святочны кажушок аблягае яе хударлявую, ссутуленую постаць. З-пад чорнай хусцінкі выбіваюцца сівыя валасы. Ветлівасць, надзея, адчай перамяжаюцца на яе старэчым твары, у выцвілых вачах. Яна пазірае нясмела на палкоўніка. Пераводзіць позірк на працягнутую хусцінку з дзесяткам яек. Харошая хусцінка, яшчэ несціраная, беленькая, з яркім сінім узорам, сіней, чым свінцовая муць палкоўніцкіх воч.

Палкоўнік грэбліва адводзіць рукой хусцінку.

— Не нада...—і да каменданта: „Вывесці!".

— Не нада!.. Не нада...—гаворыць перакладчык жанчынам.—

Палкоўнік не любіць падарункаў. Усё будзе па закону...—шэпча ўжо ён, каб сказаць хоць адно чалавечае слова, у якім была-б звычайная чалавечая цяплыня і ласка. Жанчыны выходзяць з пакою. Яны шэпчуцца з хвіліну ля штаба і ідуць туды, да станцыі, былой вуліцай, абапал якой стаяць счарнелыя коміны, груды перапаленай цэглы...

Чутны прыглушаныя словы: „божа наш... божа... а можа і абыйдзецца як...“

Халоднае неба цярушыцца рэдкімі, палахлівымі сняжынкамі.

---

Палкоўнік, ад'ютант, афіцэры ідуць, не спяшаючыся, да станцыі. Палкоўнік ідзе крыху паперадзе. Надзьмуты, суровы, ён не ўмешваецца ў гутарку. Гавораць аб дробязях, аб пагодзе, аб добрым абедзе, аб прыдуркаватых папоўскіх дочках. Гутарка абрываецца, яна яўна не клеіцца.

Насустрач ідзе строем з дзесятак салдат. На плячах у іх лапаты. Шэра-блакітныя мундзіры забруджаны глінай, па самыя халяўкі заляпаны боты. Салдаты раўняюцца з палкоўнікам, аддаюць чэсць. Не адказваючы, іх спыняе палкоўнік, у яго дрыжыць рука і толькі бялёсыя расніцы нерухома павіслі над валавяным позіркам воч. Ён падыходзіць бліжэй, рэзка адхіляе падбегшага з рапартам ефрэйтара і сухім кастлявым пальцам пастуквае па поясу бліжэйшага салдата, ціха пытае:

— Што гэта такое?

Салдат выцягнуўся ў струнку, крыху адхіліўся назад, відаць як сіняя жылка пульсуе ў яго на шыі. Ён бездапаможна міргае вачмі, ён баязліва азіраецца ўніз, і, раптам схамянуўшыся, адказвае адным махам:

— Салдацкі пояс, пан палкоўнік!

— Дурная галава. Я пытаюся ў цябе, што гэта такое?—і костачка пальца глуха пастуквае па пражцы пояса.

У салдата прасвятляецца твар: гэта-ж так проста, такі просты адказ. І, хапаючыся, ён гаворыць, стараючыся надаць свайму голасу больш гучнасці, урачыстасці.

— З намі бог, пан палкоўнік!

Вочы палкоўніка наліваюцца гневам. Ён нахіляецца яшчэ бліжэй да салдата і гаворыць, шыпіць проста ў твар яму, пранізваючы позіркам ашклянелыя вочы салдата:

— Я пытаюся ў цябе, гнілое палена, не пра бога, я пытаюся, чаму ў гразі, у брудзе імператарская карона? Ты разумееш, імпера-тар-ская карона?

Салдат разгублена глядзіць уніз. Сапраўды, уся пражка пояса ў гразі, у гліне. Глінай заляпана карона, зусім не відна слоў: „з намі бог“. Салдат цяжка ўздыхае, ціха гаворыць:

— Мы капалі магілы, пан палкоўнік...

— Гм...—чмыхае носам палкоўнік,—магілы... Пайшлі прэч ідыёты... Выпраўкі няма... Віду няма... Направа... Арш...

Гулка аддаецца прыспешаны крок салдат, усё глушай і глушай: айн—цвай,—айн—цвай...

Палкоўнік чмыхае носам, ён яўна нездаволены.

— Аднак, пара!—кідае ён афіцэрам.

---

— Бацька, ты паглядзі на каўнер! На шынелю ды каўнер, вот-жа цёплы...

Бацька маўчыць, не адказвае. Хлапчук пазірае на палкоўніка, на каўнер яго шынеля. Азіраецца назад, на штабялі дроў. Багата іх складзена тут—бярозавых, дубняка, лёгкае вольхі. Харошыя дровы, жаркія... Цёплы каўнер... Толькі зябка, зябка паблісваюць шырокія, як нож, штыкі салдат, белыя гузікі на іх шапках. Хлапчук пацінае плячмі, нахлабучвае шапку па самыя вушы—так цяплей. Поплеч з ім і з бацькам стаяць яшчэ некалькі дзесяткаў людзей. Ля самага краю качагар, дзядзька Сямён. Ён трымае ў руках бляшаны каробак з махоркай, скручвае цыгарку. Скасіўшы твар, яму шэпча нешта салдат, відаць, загадвае. Дзядзька Сямён не адказвае, ён безуважна сплёўвае праз плячо, раскурвае цыгарку, перадае карабок суседу. А вакол салдаты, салдаты. З усіх трох бакоў салдаты. Толькі там, за пакгаузам, відаць людзі. Адсюль і не відна іх, толькі чутна, як плачуць. А хто-ж гэта плача? Хлапчук прыўзнімаецца на цыпачках, падаецца крыху наперад, каб лепей разгледзець, што робіцца там, дзе людзі, дзе плачуць. Яго тузаюць за рукаў назад. Азіраецца. На яго глядзяць шэрыя, злосныя вочы. Высокі салдат трымае яго за руку. На ім чорны мундзір са шнурамі, чорная кашлатая шапка.

— Гусар!—узнікае палахлівая думка.—Гэта тыя, што без нажа рэжуць...—успамінае хлопчык гутаркі аб гусарах—і сапраўды вінтоўка ў салдата без штыха. „Карабінка"—дагадваецца хлапчук. І ён ужо з цікавасцю прыглядаецца да дзіўнага затвора, не прамы ён, а загінаецца ўніз, як каршуковая дзюба. Салдат да болю сціскае яго руку, паварочвае хлопца на месца. Боязна азірнуўшыся па баках, бачыць хлопчык, што ў кожнага з іх—у бацькі, у суседзяў—у кожнага за спіной стаяць гэтыя чорныя, страшныя салдаты.

—Бацька, што яны будуць з намі рабіць?—пытае хлапчук.

—Ціху ты!..—шэпча той.—Маўчы...—адварочвае ў бок свой твар, каб не бачыць вачэй хлапчука.

Раптам у групе начальства пачынаецца ажыўленне. Да выстраеных у шарэнгі людзей грузна падбягае фельдфебель. Ён таўсты, неўваротKі, у сівой шчаціне бычыны карак, друзлыя шчокі адлiваюць сіняватым бляскам, тапырацца рачыя клешні—вусы. Ён цяжка ідзе паўз людзей, тычучы ў грудзі іх валасатым пальцам:

—Айн, цвай, драй...

—Цэгн!—урачыста выклікае ён, грозна пагялдаючы на салдата, што стаіць за чалавекам. І ідзе далей. Яго палец нерашуча ўпіраецца ў грудзі хлапчука... Але ўрачыстае „цэгн" гучыць ужо і ён ідзе далей, грузна ўмінаючы зямлю падкованым абсацам. Салдаты ўнурылі поз рк у зямлю, у наскі сваіх ботаў. Яны не бачаць, яны не хочуць бачыць, як пажылы чалавек рашуча ставіць на сваё месца падлетка.

І ціха, ціха становіцца, калі высокі і танклявы афіцэр пачынае торапка чытаць нейкую паперу. Відаць як вылузаецца з каўнера мундзіра белы афіцэрскі кадык. Афіцэр не чытае, а глытае словы, і словы тыя—чужыя, шурпатыя. За ім выступае перакладчык. І з усіх слоў, якія ўпамінаюцца ім, толькі тры становяцца важкімі, зразумелымі, незабыўнымі—„кожнага дзесятага расстраляць!“

— Братцы, ды што-ж гэта такое?—вырываецца нечы голас і раптам моўкне. Чорныя постаці накідваюцца на чалавека, скручваюць назад рукі, зацiскаюць рот мяшком. З шарэнгі выводзяць дзесятых, вядуць да самых штабялёў. Хлапчук кідаецца да бацькі, ён хапае за ногі яго—„татка, куды... зачым-жа...“ Яго аддзіраюць сілком, адчайны плач узрывае цішыню, хлапчук сударгава б‘ецца ў руках салдат. Палкоўнік моршчыцца. Хлапчука выганяюць за шарэнгі салдат, яго гоняць да самага пакгауза, дзе людзі стаяць, маткі, сёстры,—дзе плачуць, галосяць.

Палкоўнік зварочваецца да салдат. Ён працягвае руку ў белай пальчатцы туды, дзе стаяць пазвязаныя людзі.

— Вы бачыце ворагаў сваіх, салдаты?

Ён глядзіць на кончык свайго пальца—пара мяняць пальчаткі—і думаючы аб тых, што ў Кіле, што ў Гамбургу—ён гаворыць аб тых, што перад штабялямі.

— Усіх, хто пасмее выступіць супроць духа вялікай Германіі, супроць арміі яе, супроць законаў яе, усіх спасцігне самая жорсткая кара, ад іх крыві пачарнее гэты пясок магільнай ямы...

Там дзе счарнелае кар‘ё, вугальны шлак і смецце—жаўцее свежы пясок.

Салдаты панура маўчаць. Яны ўнікаюць палкоўніцкіх воч. Не падабаецца гэта палкоўніку.

— Вы апусціліся, салдаты... Некаторыя з вас парабілі сябабамі, баяцца слёз... Ад слёз, памятайце, ржавеюць сэрцы, ржавеюць затворы баявых карабінаў... Я не дапушчу... Я зламлю... Зні-і-шчу... Я ўзніму дух ваш...

Палкоўнік яўна выходзіць з роўнавагі. Ён не можа забыцца пра Гамбург. Ён камечыць сваю прамову. Адыходзіць крыху ў бок, уступіўшы месца фельдфебелю.

Нема і глуха стаіць сцяна штыхоў.

Фельдфебель выстройвае дзесятак гусараў з карабінамі і, засопшыся ад каманды, расшпільвае кабуру.

---

Іоганес Лейбке паволі набівае сваю трубку, пыхціць, крэкча, дастаючы запалкі з задняй кішэні мундзіра. Ён доўга чухае аплыўшы жывот і толькі тады, адтапырыўшы губы, прыцмокваючы, распальвае трубку. Блакітны Гіндэнбург пацее на фаянсе трубкі, зялёны шнур выгінаецца змяёй, калі, прыжмурыўшы сонныя вочы, Лейбке салодка зацягваецца дымам. Над нізкім лбом варушыцца бобрык валос—Лейбке думае, прытрымліваючы аднэй рукой драўляны цыбук, другой перагортваючы лісткі кнігі дзяжурнага па тэлеграфу.

— Колькі раз, колькі раз гавару я вам, Эрых,—не спыняючыся, марудна, з дакорам зварочваецца ён да тэлеграфіста.—Ізноў пераблытаны нумары, ізноў памаркі... Гэта-ж шыфроўкі... Зразумейце,

шы-ыфроўкі... Я ізноў такі кажу гэта вам па-прыяцельску... вы-ж сёе-тое разумееце ў справах...

Дым ад трубкі расплываецца па цеснаму пакойчыку тэлеграфнай, паволі выходзіць у фортку акна. Ён смярдзючы, даўкі,—відаць, залішне падмешана да табакі звычайнага вішнёвага лісту. Эрых хапаецца за грудзі, парыўчата кашляе.

— Дык вось я і кажу вам: парадак, парадак, мой хлопчык, парадак перш за ўсё...

Твар Эрыха гарыць. Эрых сядзіць як на спружынах, увесь падцягнуты, напяты. Ён прыкладвае гарачую далонь да халоднага метала апарата, прыціскаецца ілбом да жалезных крат акна—гэта крышачку асвяжае. „Божа мой, як можа гэтая свіння, гэтая піўная бочка, мучны мяшок, быць спакойным, як тупая жывёла, у такі час... Соцыял-дэмакрат... Бяззбройных людзей збіраюцца забіваць пад акном, а ён... ён корпаецца з гэтымі праклятымі паперкамі"... Аднак Эрых перамагае сябе, ён спакойна зварочваецца да дзяжурнага.

— Паслухайце, пан Лейбке, трэба-ж неяк дапамагчы гэтым людзям... У іх-жа спалілі ўсё... Зачым-жа гэта?..

Іоганес Лейбке выпусціў цыбук з рота, лыпае мышынымі вочкамі, незразумела глядзіць:

— Як гэта, дапамагчы... Што вы гаворыце, Эрых... Наша айчына ў смяротнай небяспецы... Вы ведаеце,—ён паніжае голас і тыча пальцам у шыфроўкі,—рабочыя, нашы германскія рабочыя, спрабуюць стано віцца на небяспечны шлях, яны забываюцца на інтарэсы дзяржавы, іх падбухторваюць такія гарачыя галовы...—Лейбке спыняецца на хвіліну, Лейбке дыпламат, слова „такія" магчыма крыўдна для Эрыха,—аднак, вы мяне разумееце... Якая-ж тут дапамога. Закон, мой хлопчык, закон, а мы—лепшыя сыны народа, мы на варце закона... І ўрэшце, мы не маем права ўмешвацца... Парадак...

І ён спрабуе па-прыяцельску пахлопаць па плячы Эрыха. Той грэбліва адсоўваецца, паварочваючыся спіной да пана Лейбке.

Іоганес Лейбке яўна пакрыўджаны. Ён сапіць, пальцы нервова шаласцяць лісткамі паперы. Злосна клякоча зялёны шнур і дрыжыць дрыўляны цыбук трубкі.

Эрых сядзіць ля акна, далонямі рук падпёршы шчокі, бязмэтна пазірае на шэрае папялішча, на чорныя абгарэлыя рабрыны патрушчаных вагонаў. Над дахам пакгауза пралятае нейкая чорная птаха, чорныя думкі—адчаю, безнадзейнасці—мітусяцца ў галаве і няма ім спакою. Аднастайна пастуквае тэлеграф: тры, ноль, сем, два... шыфроўкі.

Тры, ноль, сем... тры, ноль, сем...—мітусяцца неадчэпныя цыфры. І раптам узнікае думка, такая ясная, як сонечнае ранне, гарачая, як агонь. Эрых праводзіць рукой па ўспацеламу ілбу, падхопліваецца з табурэта, ідзе да стала з апаратамі, рашуча вырывае белую істужку з цьмяным узорам рысак і кропак, хавае яе ў кішэню.

Іоганес Лейбке ўстрывожана сочыць за ім.

— Што такое?—пытае ён глуха.

— Тэрміновая тэлеграма!

— Дайце сюды, я зараз запішу, перадам у штаб...

Адзін, адзін толькі момант глядзіць маўкліва Эрых на пана

дзяжурнага па тэлеграфу. Сухі твар Эрыха робіцца то бледным, то чырвоным. Яго сінія вочы паблісквающь, іскрацца. І ён абрушваецца на пана дзяжурнага цэлым струменем балючых, спапеляючых слоў:

— Я сам аднясу тэлеграму... Сам... Разумееце гэта вы, паганы клешч на нашым целе... Вы, які клапоціцца пра бляск батфортаў кайзера, пра парадак дзяржавы кронпрынцаў і гарматных каралёў... Вы... пусты пыльны мяшок ад цукру, ад цукру, якім поўняцца вашы нахабныя, ілжывыя абяцанні народу... Вы...—без шапкі, без пояса Эрых кінуўся ў дзверы і пабег праз пуці, туды, дзе чарнеліся штабялі, дзе ў самкнутым карэ цьмяна паблісквалі штыхі салдат.

Іоганес Лейбке цяжка дыхаў, грузна ўліпшы да табурэта.

— Вар'ят...—толькі і змог ён выціснуць з сябе гэта адзінае слова. Ён і не заўважыў, як выпала трубка з роту і слаўны фаянс звонка рассыпаўся па падлозе драбнюткімі ашкалепкамі. Толькі некалькі гузікаў засталося ад Гіндэнбурга на ўцалелай крысе фельдмаршальскага мундзіра.

Потым Іоганес Лейбке апрытомнеў і, тупа ўставіўшыся ў акно, рашыў—бегчы, дагнаць яго на чым бы ні стала. І ён пабег, спатыкаючыся аб рэйкі, намацваючы рукой кабуру. Але яна не паддавалася пальцам, кароткім, нягнуткім. А тут яшчэ гэтыя праклятыя вагоны, трэба лезці пад іх. Ён памкнуўся быў, стогнучы, пад вагон, але бразнуўшыся лбом аб буфер—аж загудзела халоднае жалеза—падаўся назад. Дзе ты яго нагоніш, калі ён ужо там. Лейбке ацёр халодны пот з лысіны і, моршчучыся ад болю, трохі накульгваючы, паклыпаў да станцыі, на тэлеграф.

Якую хвіліну ён прасядзеў бяздумны, пачэсваючы сіні гуз на ілбу. Аддыхаўся, сабраўся з думкамі.

— Гэтага я так не дарую... Па-першае, якое выключнае парушэнне ўсякага парадку, знявага непасрэднага начальніка. Па-другое, хто даў яму права вырываць іступку... І чорт яго ведае, якая там тэлеграма.

І ён доўга пісаў, злосна ацíраючы няспраўнае пяро аб выцвілы бобрык сваёй галавы. Пісаў рапарт палкоўніку аб незвычайным парушэнні парадка, аб выключным дысцыплінарным злачынстве. І, падумаўшы, дапісаў асцярожна: „па чутках, гэты паганец альбо належыць да спартакаўцаў, альбо ім спачувае..."

---

Задыхаючыся, бег Эрых...

Часавыя прапускалі яго.

Прад ім расступілася і жалезная лінія карэ: да таго незвычайны і ўсхваляваны выгляд меў гэты чалавек. Заварушылася чоткая лінія штыхоў, глухія шапаткія галасы прарвалі наструненую цішыню. Фельдфебель, які толькі-толькі збіраўся падаць каманду, зірнуў у бок Эрыха, чакаў, чым гэта ўсё скончыцца.

Ускудлачаны, без шапкі, без пояса Эрых падбег да самага палкоўніка і, цяжка пераводзячы дух, крыкнуў на ўсю сілу, хвалюючыся хапаючы ротам паветра.

— Салдаты!—і рэха пракацілася да чорнага пакгауза, да станцыі,

да вадакачкі. Палкоўнік ступіў крок наперад. У дробным ціку падзёргалася яго шчака, сударгай сціналіся кулакі.

— Салдаты! У Германіі... У Германіі рэволюцыя...

Сухі трэск выстрала рэзка паласнуў паветра. Эрых пахіліўся, але не ўпаў, падхоплены на рукі салдат. Коратка блІснулі вастрыі штыхоў. І падхоплены імі, высока, высока ўзляцеў палкоўнік. Ён паспеў яшчэ ўбачыць свінцовую муць неба над ім, цьмяную граматку вадакачкі, самотную пастаць Лейбке, які спяшаўся да штаба з рапартам да яго, да пана палкоўніка. Але яўна пазніўся Лейбке. Свінцовая муць самкнулася над палкоўнікам цёмным кругам і ён ужо нічога не чуў і нічога не бачыў.

Уткнуўшыся носам у зямлю, Отто фон Гауэр ляжаў ніцма, недарэчна падвярнуўшы пад сябе нагу. І яшчэ недарэчней выглядала медная шпора на гэтым яўна пяхотным боце, чыстым, наглянцаваным...

Ля палкоўніка спынілася бабулька. Яна перахрысцілася, заўважыўшы нябожчыка. І пазнаўшы яго па спраўнаму шынялю, па вусу, у якім заблыталіся пясчынкі, паківала сумна галавой і праказала, ні да каго не зварочваючыся:

— Эх-жа, чалавек ты, чалавечына... Колькі людзей загубіць думаў... А ці ўсіх-жа пераб'еш... Вось і ляжаш цяпер у гэту яму...

І яна адвярнулася ад яго і пайшла далей, ціхая, радасная, заспакоеная, беражна нясучы хусцінку з дзесяткам яек, белую, несціраную хусцінку з такім вот сінім, сінім узорам. І яна ўсміхалася кожнаму салдату, усхвалёвана прапаноўвала кожнаму з іх гэтыя скромныя дзесяць яек. Сарамліва адмаўляліся салдаты, няёмка ўсміхаліся ёй, нібы адчувалі перад ёй якую віну за сабой.

А вакол былі радасныя галасы, аб нечым гучна гаварылі салдаты, рабочыя, сяляне. Над уцалелай станцыяй усплыў чырвоны сцяг. І тады нібы пацяплела свінцовая муць неба, прарэзаная гарачай чырванню сцяга.

---

Усе ашаломлены былі, калі праз два дні атрымана была тэлеграма з Германіі. Сапраўдная тэлеграма аб сапраўднай рэволюцыі.

Кінуліся ў больніцу да Эрыка. Той адчуваў сябе добра. Отто фон Гауэр, які страціў роўнавагу, страціў і цвёрдасць рукі: куля трапіла толькі ў плячо, рана ў Эрыха была лёгкай. Таварышы віталі яго з вялікімі падзеямі, і, схамянуўшыся, запыталі:

— Урэшце, як-жа змог ты раней усіх даведацца аб рэволюцыі, адкуль узялася твая тэлеграма?

Эрых хітра падміргнуў таварышам.

— Ці гэта-ж так важна... Праўда, я вырваў істужку з апарата. Там была падзяка палкоўніку за рашучыя меры, загады пра авёс, пра свіней, напамінак аб ільне... А вырваў я, каб гэты паганы Лейбке не пашкодзіў нашай справе... Вось і ўсё... Ці, урэшце, не маем мы права прыскорыць рэволюцыю?

Хто мог супярэчыць?

9/XII-38 г.

---

*Ів. Грамовіч*

# ЧУЖЫ ГРУНТ

(*Аповесць*)

## I

Глыбокай зімой, у пачатку тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмага года кур'ерскім цягнікам Стась Вілюевіч вярнуўся ў Менск. Тут на вакзале ён спаткаў даўнейшага знаёмага. Знаёмы цяпер жыў у горадзе. З Вілюевічам ён па-сяброўску разгаварыўся і запрасіў у госці да сябе. Кватэра яго была воддаль, недзе паблізу Чэрвеньскага рынка. Ад вакзала, марознымі вуліцамі з дарожным клумкам і чамаданам, ісці было вельмі нязручна. Аднак Вілюевіч прыехаў з пэўным намерам і спатканне з сябрам было дарэчы. Вілюевіч рашыў запыніцца ў Менску на сталую працу, знайсці тут куток і пасяліцца ў ім. Ён меркаваў агрунтавацца на новае жыццё. Цёплы пакой у сябра, застаўлены крэсламі, бархатнай атаманкай, круглым сталом, пружыннай пасцеллю, выглянуў завідным. Як прыемна здарожанаму адчуваць цяпло памяшкання! Утульна і прасторна; кватарантам застацца-б тут... Вілюевіч гэта падумаў і ветла сказаў:

— Я ў цябе, браток, і пераначую.

За вакном зімовы вечар цярушыўся змрочным інеем. Зрэдку чуліся сірэны аўтамабіляў і з вакзала даносіўся журботны гудок паравоза. Змардаваны чатырма начамі ў цягніку, Вілюевіч заснуў.

Гаспадара доўга не марыў сон. Ён быў заклапочаны ад сустрэчы з Вілюевічам. Калі прыспела міліцыя праверыць прыпіску пашпартоў, ён у раскаянні зусім апусціў рукі. Такая небяспека нібы прадбачылася.

Назаўтра Стася Вілюевіча ахапіў панылы настрой. Сталічны шум, шматлікія гудкі, перазвон трамваяў, рух тараплівых пешаходаў, яшчэ па-зімняму цмяныя дахі мураваных пабудоў—усё гэта здалося бурным і не знайшло радаснага водгука ў яго сэрцы.

## II

Алеся Вароніч вучылася ў Падгайскім тэхнікуме і на выхадны дзень прыехала дадому, да бацькоў. Учора, у Падгаі, яна толькі і думала аб ад'ездзе. Бо ведала, што ў Навасёлках многа моладзі

і кожную суботу вечарынку гуляюць. Чула, быццам, Андрэй вярнуўся да хаты. Туды, у радзімае сяло, хацелася дзяўчыне.

Як завязвала клумак—пальцы дрыжэлі. А была зіма. Часам перад выхадным, наперакор Алесі, узнімалася мяцеліца. Завеі круцілі, заносілі снегам шлях. На раённую пошту па гурбах падгайскай вуліцы Алеся ішла гаварыць па тэлефону з бацькам. Помніцца, аднаго дня нахлынуў цяжкі туман. У сівер халодны ён абледзяніў бярозавыя вецці, а парывістыя вятры наляцелі і паламалі іх. Як паперкі шкляныя ляжалі яны на доле ў прысадах і хрусцелі пад палазамі саней. Адыходзіў апошні моцны мароз.

У поўдзень прыкінулася адліга, а цераз дні два—подых цяпла паказаў на вясну. Так надышоў сакавік.

Учора свяціла сонца. Далёкі, далёкі над зямлёю небасхіл павіс крыштальна-чыстай сінявой. Алеся, ахінутая вязанай хусткай, бегла на падгайскі рынак і бачыла, як над гарадком, у блакітнай вышыні, лятаў самалёт. На палявых узгорках ляжалі серабрыста-белыя снягі. З лесу глядзелі блакітныя цені. Самалёт лёгка паплыў, замоўк у прасторах надзем'я, а яна бегла і, як ніколі, захлыналася жаданнем паляцець у роднае сяло.

Шчасце—у самога чалавека. Сёння Алеся палівала дома вазоны, а вочы іскрыліся, як промні ў бягучай вадзе. Яна ўспаміпала, як падышоў нечакана ён і пацiху прывітаўся:

— Здарова, Алеся!

Апрануты ў хромавае: куртка, шапка, нібы ў лётчыка, стаяў перад ёю. Цісвуў руку і ўсмешка ззяла на бурым, засiвераным твары.

— Андрэй!—пазнала яна і яшчэ галасней паўтарыла:

— Андрэй!!

Нешта кволае кальнула сэрца ёй, ад чаго Алеся ўзрадвалася, засмяялася і ўжо ўсю дарогу звінела гэтым радасным смехам.

— Я чацвэрты дзень, як вярнуўся... У Падгай па бензін прыехаў на новай машыне...—і дадаў ціхай просьбай.—Едзьма ў сяло...

Круглы год не бачыла Алеся Андрэя. На смуглявых шчоках былі тыя-ж бурыя кропелькі рабаціння, толькі голас цяпер памужнеў, вочы сінейшыя і рослы зрабіўся, як бацька.

— Ты змяніўся, Андрэй,—сказала яна. Андрэй усміхнуўся, хапіў пад руку і дапамог сесці ў кабінку.

— Заўтра выхадны,—едучы казаў ён,—думаю, распытаю, дзе жыве і паклічу... Не згодзіцца ехаць, скажу... бацька захварэў.

— Ха-ха-ха!—смяялася Алеся, а на сэрцы было радасна... радасна.

Машына імчалася адліжным пачарнелым гасцінцам, мінала тэлеграфныя, верставыя слупы і прыпадала да зямлі на праталых мосціках. Алеся ў кабінцы гойдалася на мяккім сядзенні, нахілялася плячуком да Андрэя, ён—да яе. Смяяліся, апавядалі пра вучобу, ён—пра сваю, яна—пра сваю. Адчувалі, што сядзяць удваіх і хацелася ім ехаць, ехаць і ехаць.

Да самага ганку падвёз Андрэй Алесю, а ўвечары на развітанні сказаў:

— Заўтра зноў прыдзі ў клуб. Я прыду і чакаць буду...

Вось чаму ад сонечнага променя ў Алесі ружавеюць шчокі. Ніколі такім ласкавым сонца не бывае, як у сакавіку. Яно бяссільнае, на яго можна глянуць вокам, але яно такое цёплае, такое ласкавае. Ад яго на шыбах вакна таюць лапы марозныя. Расцвітаюць чырвоным цветам раннія вазоны. А сэрца ў дзяўчыны плавае ў слодычы невымоўных парываў радасці.

Але жаданае спатканне з Андрэем не адбылося.

На двары сабачы брэх спалохаў Алесіны мары. У сенцах пачуўся бацькаў голас, і неўзабаве ў хату ўвайшоў чалавек у шэрым клінаватым паліто і шапцы-капітанцы з бліскучым казырком. Алеся бачыла яго ў той прыезд. Гэта быў Стась Вілюевіч.

— Добрага здароўя, Алеся Іванаўна!—гукнуў у парозе ён і з працягнутай рукою роўна прайшоў цераз хату і прывітаўся.

Выгляд ён меў акуратны, ветлівы, лёгкія рухі на гарадскі манер кідаліся ў вочы. Простая, шчырай натуры Алеся ў яго прысутнасці не ведала, як сябе трымаць. Яна маўчала, зрэдку гаварыла, а чырвань тады высыпала на поўных з ямачкамі шчоках.

— Што ў Падгаі новае чуваць?—ходзячы спрытна па хаце, спытаў Вілюевіч,—якая кіно-карціна ідзе ў тэатры?

— Не скажу вам,—вінавата ўсміхнулася Алеся.—Сядайце! Даўно была!

Яна засаромелася ад свае думкі, чаму не прапанавала пасля прывітання прысесці на крэсла.

Вілюевіч заўважыў наіўны румянец у дзяўчыны і ўсміхнуўся.

Прайшла хвіліна маўчання.

— Колькі вам год?—раптам спытаўся ён, угледзіўшыся на партрэты,—ах, як вы прыгожыя тут.

Ад такога запытання Алесі хацелася схавацца за вазон.

— Вы не смейцеся з пяцімінуткі,—сказала яна.

— Хто разумее, Алеся Іванаўна, таму не цяжка знайсці тут рысы прыгожасці, — сказаў ён і з гонарам устаў. Хацеў яшчэ штосьці сказаць, але з кухні ў святліцу ўвайшоў бацька.

— Вазьмі!—працягнуў ён паперку з чорнай пячаткай.

Вілюевіч памкнуўся насустрач і самааддана загаварыў:

— Будзь упэўнен! Усё ўладжу, Іван Іванавіч!

— Пачакай!—супыніў яго бацька,—на станцыю ідзе наша машына. Ты ведаеш Андрэя Неруша? Нядаўна вярнуўся з курсаў камбайнераў. Вось з ім пад'едзеш да лясніцтва. І назад. Праўда, ён можа забавіцца да гадзін дванаццаці. Як хочаш... Я скажу яму...

— Добра, Іван Іванавіч,—сказаў Вілюевіч, кіўнуў галавой Алесі і выйшаў.

Алеся не адказала яму, з дакорам зірнула на бацьку і ўсё яшчэ, здаецца, не верыла яго словам, што Андрэя пасылаюць на станцыю і ён вечарам у клубе не будзе.

III

У Менску Стася Вілюевіча міліцыя не прыпісала. Надзея грунтоўна асталявацца жыць у горадзе раптоўна патухла. Прымушаны пакінуць свае спадзяванні, ён знайшоў другі шлях.

Вірлівы гул Менска пакінуў Вілюевіч і накіраваўся ў той бок, дзе некалі радзіўся. Ехаў прыгарадным цягніком. Наўмысля спачатку аглядзеў пасажыраў: ці не спаткаецца хто з той мясцовасці. Не май сто рублёў, а—сто сяброў. Але пары тае даўно адшумелі дні і ён безнадзейна паціху прысвістваў.

Раптам выглянуў чалавек у мядзвежай футры. На лаўцы пярэдняга вагона ён заклапочана, няспешна аблупліваў варанае яйцо. Воблік яго стаяў у памяці.

— Браток... каго я бачу...

Пасажыр нехаця азірнуўся і павольна працягнуў руку.

— А-а? Браток? Скуль з'явіўся?

Халодны спакой і гонар веялі ад Журка (так звалі пасажыра). Ен павольна еў варанае яйцо з сольлю, рассыпанай дробнымі зерняткамі на партфелі. Калісьці Вілюевіч меў з ім адзін хаўрус. Нярэдка выпівалі і хадзілі да дзяўчат. Разам працавалі падрадчыкамі на бойні ў Менску, хоць і тады Вілюевіч у натуры насіў малады спрыт і, калі пыталіся яго аб месцы працы, адказваў, што вучыцца на лётчыка. Паўтараючы тое самае кожнаму, Вілюевіч забываў на выдумку і не ўяўляў яе хлуснёй і самахвальствам. Цяпер акалічнасць была іншая, і ён сказаў:

— Еду, браток, здалёк... А вось сам, ці не з курорта смаліш?

Вілюевіч цешыўся спатканнем, усміхаўся, поглядам мераючы атлусцелую фігуру Журка.

Крануўся ў дарогу цягнік.

— Я еду на курорт... На ўласны... Вось паглядзіш!—у адказ хітра падміргнуў той, па чым Вілюевіч канчаткова пазнаў свайго хаўрусніка.

— А ты, дзе бадзяешся? Як жыццё?

Хіба мог Вілюевіч расказаць сваё жыццё? Яно звілістай сцежкай бегла праз годы, без пэўнага месца, як у цыгана. Сягоння—тут, а заўтра—там. Пабачыўшы ўсё, цесна стала; за мяжу паехаць захацелася. З такой мэтай, пасля адбыцця вайсковай службы, Вілюевіч уладзіўся праваднікам на экспрэсе „Негарэлае—Манчжурыя". Здольнасць абыходзіцца, дагадзіць, услужыць чалавеку,—калі гэта меў на ўвазе Вілюевіч, атрымлівалася бліскуча, акуратна і далікатна. Замежныя пасажыры не скупіліся пакінуць праважніку на памяць падарунак. Жыццё такое падабалася яшчэ некаторымі стасункамі. У Вілюевіча хутка зайшоў запас, ён стаў мець добрую кішэню грошай, мець каштоўнае адзенне, належачае яму, як уласнасць. Але аднойчы спасцігнула няўдача, яго засудзілі да году прымусовых работ, за пакражу ў замежнага пасажыра. Не клапаціўся аб ім ніхто. Бацька і маці памерлі, нейкія родзічы жылі далёка ў Беларусі, а суд адбываўся ў Новасібірску. Ён сам на шасці лістах напісаў скаргу ў абласную калегію, якая разгледзела прысуд і... дабавіла Вілюевічу два гады.

Адтуль і вяртаўся Вілюевіч кур'ерскім цягнікам. Яму дазволілі зварот пасля датэрміновага адбыцця пакарання.

Гэтага ніхто не падумаў-бы пра чалавека ў шэрым, клінаватым паліто, у шапцы-капітанцы з блішчастым казырком, што задзірыста пазіраў уверх, і наглянцаваных джымі нейкага замежнага вырабу.

Журок бачыў, як ён клаў пакаўныя чамаданы і дарожныя клункі на верхнюю полку вагона і сказаў пад рытмічны стук калёс цягніка:

— Па свеце, па свеце езджу. Вось, што, браток, у цябе?..

Журок насіў партфель лясніцтва. Прыстаў, у прымы. Меў карову, свіней, індыкаў. Вілюевіч у Журка начаваў, за вячэрай частаваўся гарэлкай. Журок і ў сваім розуме браў верх над Вілюевічам.

— Загляну, браток, у Навасёлкі,—паведаміў Вілюевіч,—там цётка мая. Яна адна. Яе дзеўкі, браток, выйшлі замуж. А я—дагаджу чым небудзь. Можа, браток, прыб'юся да калгаса. Я на ўсе рукі, браток, майстар. З дарагой душою. Сам ведаеш.

Храбрасць у Вілюевіча знікла, яго поўны, бялявы твар пакрываў цень зморанасці. Журок прачытаў гэта і яму зрабілася шкада былога хаўрусніка.

— А ты не выстаўляйся вельмі са сваёй угодай. Скажу табе, сябра, у вочы. Манер гэты стары. Я-ж цябе ведаю, як сваіх пяць пальцаў. Цяпер гэтым кар'еру не зробіш.

Вілюевіч гатоў быў заплакаць.

— Чаму, браток, чаму?

— Цяпер пільнасць кругом. Дзівак.

— Пара, браток, другая,—нібы зразумеў і ўздыхнуў Вілюевіч.

Яго паправіў Журок спакойным басам:

— Была пара, а цяпер—час. Ты вот, падумай над пільнасцю. Знаходзь ворагаў, лушчы іх... тады, калі ты хочаш, табе многа даверацъ.

Пасля чаркі Вілюевіча разабраў хмель. Ці ён свядома, ці то ў п'яным экстазе паўтараў адно:

— Браток... браток... не падмажаш—не паедзеш...

Навасёлкі ён угледзеў назаўтра.

Пятнаццаць кіламетраў да Чорналесак, дзе радзіўся Вілюевіч, ісці не было сэнсу, бо, мабыць, месца, на якім стаяла хата іх, калгаснікі даўно зааралі. Невядома колькі год таму назад Стась Вілюевіч з тэлеграмай аб смерці мацеры адпрасіўся ў начальніка пажарнай каманды і апошні раз туды наведаўся.

Навасёлкі, дзе жыла цётка Пагуляйская, Вілюевіч памятаў гарбатымі з гразкімі вуліцамі. Цяпер на водшыбе стаяла двухпавярховая школа з бляшаным дахам. Побач шырокі клуб, пакрыты чарапіцай. Зусім у баку сяла на роўнай сялібе разгарнуліся пабудовы калгаса. Вілюевіч ішоў гасцінцам, усцяж якога гулі тэлеграфныя слупы і, з заміраннем сэрца, глядзеў на гэту прыстань яго лёсу.

Удава Пагуляйская не мела сыноў. Дочкі выраслі і выйшлі замуж, апрача меншай, што хадзіла яшчэ ў Навасёлкаўскую дзесяцігодку. Стася—сына свае сястры, цётка бачыла даўно і спаткала на парозе са слязмі радасці.

Расчулены Стась даў, як гасцінец, грошай цётцы і даручыў распакаваць чамаданчык. Пагуляйская знайшла з усяго карысным адкласці сабе чырвоны кафтан. Мачалку і ручнік павесіла перад печчу. З астатнімі рэчамі: зубачыскткай, пастай, адэкалонам, вазелінам, бутэлечкай рапейнага масла не ведала што рабіць. „Ён—док-

тар. Гэта аптэка“—падумала старая і наставіла ўсё на падваконне перад вуліцай.

Стась многа апавядаў пра сябе, дзе ён быў на свеце, а цётка з прыемнасцю слухала пра невядомыя ёй гарады і сама сабе ганарылася тым, што сваяк зрабіўся такім сталым чалавекам.

За вакном мякчэла надвор'е. Сыпаліся са страхі буйныя кроплі, цётчын певень узляцеў на плот, залапатаў крыллямі, узмахнуў чырвоным грэбенем і пракукарэкаў на перамену.

## IV

Напрадвесні навасёлкаўцы дабудоўвалі новую канюшню. Брыгада будаўнікоў, як працавіты мурашнік, варушылася каля рыштавання. Канчалі правую старану. Левае крыло, ад поўначы, яшчэ ўвосень пры брыгадзіру Стабуновічу было абстаявана і ацеплена. У снежні Стабуновіч паехаў на вучобу, а яго падмяніў другі. Па разліках і планах новага брыгадзіра вышла, што на рымарню не хопіць лесу.

Дні насталі працяглыя, сонечныя, хмары снегавыя пабіліся на груды, узняліся ўверх—свет навокал зрабіўся высокі і празрысты. Калгаснікі ўвесь дзень званілі сякерамі па бярвенню. Пры будынку плаваў смалісты пах акоранае сасны.

Тут працаваў і Вілюевіч. З'явіўся ён у брыгадзе пасля таго, як старая Пагуляйская разнесла па сяле, што „Стась вельмі добрае натуры“ і „намераны ў калгасе дапамагчы мне зарабіць хлеба“. Жарты развясельваюць працу ў калектыве. А бывалы Вілюевіч на кожнае здарэнне апавядаў смешную гісторыю. Усе даведаліся, што ён ездзіў правадніком на экспрэсе Негарэлае—Манчжурыя, што ён ведае ўсе вуліцы ва Уладывастоку. Таксама, відаць, сякеру трымаў не ўпершыню і таму ён у брыгадзе пачаў вызначацца. Аднойчы, перад полуднем, калі сказаў Вілюевіч: „Досыць, браткі. Абедаць пара“, то ўсе, як адзін пакінулі работу. Але галоўнае складала для Вілюевіча—вызначыцца перад старшынёй.

Старшынёй у калгасе быў чалавек са свайго сяла—Іван Іванавіч Вароніч, сярэдняга росту з прыгожымі, чарнявымі вусамі і быстрым позіркам. Абіраўся старшынёй ад пачатку існавання калгаса. Яго паважалі, як даўнейшага бравага партызана, а цяпер клапатлівага гаспадара. Характар яго гарачы і нервовы, звычайную прамову аб касьбе сена ён гаварыў на сходзе энергічна, размахваў і прыстукваў кулаком па стале. Гэта ў некаторых выклікала ўсмешку, а некаторыя думалі аб чуллівым сэрцы старшыні, які за кожную дробязь калоціцца і стаіць, як за сваё. Гаспадар з яго быў—пашукаць. Не любіў, калі заданне яго марудна выконвалася. Такі гарт захаваўся ў яго ад часу франтавых баёў, дзе трэба не жыць, а—гарэць. Таму, хто маланкай спраўляўся, ён клаў руку на плячук і гаварыў: „Эх, каб нам у атаку скамандаваў Варашылаў... Адно пыл... дым...“

Спрытны і рухавы, Вілюевіч ад першай сустрэчы гэта зразумеў. Ён часцей павяртаўся каля кіраўніцтва і дагаджаў яму. Сваю значную павагу да старшыні ён не таіў, наадварот, відавочна пераймаў, як у аўтарытэта, яго асаблівасці. Надзеў, як у старшыні, вай-

сковую, падперазаную шырокай папругай, зялёную рубашку і шапку. Той дзень у паходку сваю запазычыў ад старшыні вайсковую выпраўку. Калі ўсе звалі Вароніча „таварыш старшыня“, то Вілюевіч пачаў клікаць: „Іван Іванавіч, браток“. Непрыкметна стараўся часцей бываць на кватэры ў Івана Іванавіча.

Як заглядаў старшыня на будаўніцтва, Вілюевіч адрываўся ад працы і прапаноўваў пакаштаваць сваіх папярос. Яго партабак з арнаментальнай размалёўкай „Памяць з Каўказа“ зіхацеў, як люстэрка, і сам адчыняўся.

Аднойчы брыгадзір гаварыў з Варонічам пра недахоп будаўнічага матэрыялу.

— Дубовыя галовы ў тваім лясніцтве!—узмахнуў старшыня складаным метрам.—Мне да першага мая трэба коні ў праварыны ўвесці.

Вілюевіч налучыў момант і падышоў да іх. Ён выпраміўся і павесялеў. Вітаючыся з Варонічам, ён моцна трасянуў руку, што аж у таго выпаў на трэскі складаны метр. Не паспеў старшыня нагнуцца, як Вілюевіч раней яго, мігам прыгнуўся да зямлі і вяртлявымі рукамі працягнуў: адной—метр, а другой—папяросы. Партабак „Памяць з Каўказа“ сам адчыніўся.

— Каль-ласка!—прагаварыў Вілюевіч у адно слова.—Па чым тут туман? Частуйцеся! Што такое?..

Нездаволены Вароніч крыху злосным поглядам спаткаў Вілюевіча, затым перавёў зірк на папяросы і крануў прыгожы, чорны вус. Ён маўчаў, пакуль не ўзяў папяросу, а як прыкурыў, то паніжаным голасам загаварыў:

— Вот дапамажы нам, Вілюевіч, з такой бяды выкруціцца... Растлумачыць лясніцтву, што канюшню мы павінны закончыць не пазней першага мая...

— Ну-у?

— Вось і т-п-р-у. А яны адсылаюць, што заказ аформяць у маі месяцы. Дзякую ім за ласку. Мне цяпер да зарэзу трэба дастаць круглякоў дваццаць. А ў маі месяцы будзем бачыць. Праўда, Станішэўскі?—глянуў старшыня на брыгадзіра.

— Я дастану!—прыцішана сказаў Вілюевіч.

— Ці бачыш?—недаверліва ўсміхнуўся Вароніч.—Ты не смяешся?.. Можа, як той, што з гарбуза мазгі даставаў...

— Поўлітра!— узгарэўся Вілюевіч,—іду аб заклад!

Старшыня рукі не падаў. Ва ўсмешцы заззялі белыя, буйныя зубы. Спрыт і рашучасць Вілюевіча яму падабаліся. „З гэтага нічога не будзе, але я нічога не трачу“—падумаў ён.

— А як праваліш, сам цэлы літр пастаў!

— Пастаўлю!—прысягнуў Вілюевіч.—Пішы, браток, даручэнне!

Напісаны дакумент не было чым засведчыць. Пячатка знаходзілася дома ў старшыні. Вось яны ўдвух і прышлі якраз тады, калі Алеся палівала вазоны. Надоўга запамяталася Вілюевічу: між цвітучых кветак поўнагрудая, у белым кафтанчыку дзяўчына. Маладых, сарамлівых дзяўчат ён таму любіў, што пакараў іх адным поглядам.

„Трэба з ёю звязацца,—некалькі разоў ужо ён меркаваў аб

Алесі,—яна не хітрая—пакахае мяне, тады і бацька ласкавей глядзець будзе".

На двары ў Вароніча сабачка-пудзель густым брэхам накінуўся на Вілюевіча. Пры думцы, што Алеся наглядае праз вакно, Вілюевіч далікатна абараняўся ад нікчэмнага шчанюка і, паслізнуўшыся, траха не паваліўся.

Злосць апанавала яго. Затое на вуліцы ён пайшоў спрытна і стройна.

V

Па дарозе ў лясніцтва, у аўтамабілі, Вілюевіча ахапіў незвычайна вясёлы настрой. Не было сумнення, што ён дастане будаўнічы матэрыял у Журка. Поспех кар'еры забяспечан. Прыпамінаючы, як наіўная Алеся яго саромелася, Вілюевіч задаволена смяяўся.

— Бабы ў цябе, браток, ёсць?—са смакам спытаўся ён шофера Андрэя Неруша,—часта з імі балуеш? Хе-хе...

Пад вечар марозным, чорствым гасцінцам гулка імчалася машына, але ў кабінцы гаворка чулася разборчыва і Андрэй Неруш усміхнуўся. Усміхнуўся з таго, што Вілюевіч сабраў повен рот сліны і, як вымавіў—глынуў яе. На хвіліну не зводзячы вока з роўніцы шашы, Андрэй адказаў:

— Дзяўчаты мяне не кахаюць.

Насупіў бровы Неруш. Не паглыбляўся ў такую гутарку. Маўклівасць, сур'ёзнасць была ў яго характары.

— Дарэмна, браток, кажаш. Відаць малая практыка ў цябе...

І дадаў прыязным тонам:

— Да дзеўкі, браток, падыход трэба мець. Такі падыход, каб яна мусіла глянуць на цябе. Ёй выгляд баявы падабаецца... Паходка, браток, точаная, ногі каб не чапляліся адна за другую... Падыход!.. Тады, браток, трапіш да яе на падушкі... Ты не смейся, я праўду кажу...

— З уласнай практыкі,—пакпіў Андрэй.

— З практыкі, браток, кажу... І галоўнае ёй гаманіць трэба. Лухту плясці, яна будзе слухаць і... заслухаецца! Не маўчы! Будзеш маўчаць—чхне і пойдзе. Падумае, браток, ганарыцца, або дурны які... Першая, браток, не пачне. Ведай! Сам паманіць павінен. А там—пабяжыць за табой. Далібог! І яшчэ, браток, не падавай знаку, што ты—ніжэй за яе, ці трусіш... Кажы ёй пра ўсё на свеце, каб яна дзівілася, як ты многа ведаеш. Не трусі перад ёю! Спалохаўся на адзіне—прапала!..

— Ха-ха-ха!—засмяяўся Андрэй Неруш. Шчырыя довады Вілюевіча зацікавілі яго. Ва ўспамінах ценявала адно прыкрае здарэнне з ім перад ад'ездам на курсы.

Некалі ў кампаніі сярод дзяўчат ён адчуваў непаваротлівасць, нясмеласць. На працы грымеў бадзёры голас, а тут—маўчанне. Андрэй разумеў гэтую няўклюжасць на вечарынках, злаваўся і аднойчы цвёрда парашыў—пасля гульні правесці Алесю. Не вельмі простая задача! Капітальна адрамантаваць два трактары Андрэю лягчэй, як поўгадзіны пагаварыць сам-на-сам з дзяўчынай. Ужо

тады ён Алесю кахаў. У полі за трактарам яму ўсміхаліся яе прамяністыя вочы і на змроку сэрца ірвалася ў парк, спатканца з ёю.

„Што мне казаць ёй, калі апынімся ўдваіх,—сушыў галаву гаротны Андрэй,—ці пытаць у яе дазволу, узяць пад руку, ці не? Як у мяне не хопіць слоў гаварыць—яна засумуе... Я скажу, я чалавек такі, што не люблю пераліваць з пустога ў парожняе...“

Вось з такімі думкамі аб Алесі ён напаткаў бацьку яе. Спалохаўся, нібы той угадаў намер, але старшыня штосьці гаспадарчае запытаў і пайшоў у сяло.

На вечарынку тады Андрэй накіроўваўся з рашучасцю, думаў спачатку прывітацца з Алесяй і прысесці побач. Але, як пераступіў парог у клубе і сустрэўся з ёю, то адчуў, што не толькі загаварыць, але не можа ад сарамлівасці падняць вачэй. Яна там спявала сярод дзяўчат, а яму наіўная баязлівасць намагала сэрца. Нават холадна рабілася. Тады ён знарок гучна размаўляў, каб усе заўважылі бадзёры настрой. Увесь вечар ён, гуляючы ў шашкі, атрымліваў „сухары“. Сябры дзівіліся.

Як пачалі разыходзіцца, у Андрэя па спіне мароз пабег. Час набліжаўся, нібы страшэннае пакаранне. У калідор клуба, куды выходзілі дзяўчаты, Андрэй між таварышоў прабіраўся і для смеласці прысвістваў. Што далей адбывалася, ён не пераказаў-бы.

Алеся тады неяк чужалася яго. А ён, памятае, падступіўся да яе раптоўна і няўмела, хапіў пад руку, як за ручку кашаля з бульбай, пахіліўся ў процілеглы ёй бок і шпарка пакрочыў.

Ступалі ён—правай, яна—левай і адно другога штурхалі. Алеся спалохалася і папрабавала вырвацца, але мімаволі патрапіла яго хадзе, пасля чаго ён яшчэ мацней прыціснуў яе руку. Пад клёнамі ў парку стаялі ўкопаныя лавачкі. Яны ў цені ад месяца прыселі.

— Я такі чалавек, што не люблю пераліваць з пустога...—пачаў Андрэй, але... на клён ўскарабкаліся два каты і ўзнялі бессаромны лямант. Андрэевы лятуценні ніколі не ўлічвалі такіх абставін.

Здарэнне такое ўзбегла на памяць Андрэю і ён коратка расказаў яго Вілюевічу. Ніколі, нікому ён не апавядаў яго, бо сароме̃ўся, але цяпер—гэта былі ўспаміны яго далёкіх дзён. Шчырыя словы самі зляцелі з вуснаў.

— Дык мы ўсталі і пайшлі ў сяло. Мяне, ведаеш, як гарачай вадой абліло... Балазе, што цёмна навакол...

— Хе-хе-хе!—пакаціўся дробны смех Вілюевіча; Андрэй дапамог яму, а потым змоўк.

— Хе-хе-хе!—рагатаў ён—браток... браток, мне тады, няхай гарматы страляюць над вухам. Браток, ну, дык што? Я тады яе з рук не выпушчу...

Неруш стараўся зразумець Вілюевіча. Ці гэта ад шчырасці яго гумар, ці можа, кплівая насмешка? Андрэй насміхаўся над тым здарэннем сам, але брыдкага, як Вілюевіч, у ім не адчуваў. Калі так, то Вілюевічу не прачытаць таямніцы яго сэрца. Зноў сур'ёзны Неруш заклапочана глядзеў усцяж гасцінца.

— А з такой, браток, як Алеся Варонічава—проста. Мне, дык раз—два. Яна са мной такая, браток, лагодная, сарамяжая. Вот, каля Чэлябінска ў маім вагоне ехала такая, браток... Бяскрыўдная...

маладзе-енькая. А ўсе яны, студэнтачкі, дурненькія... яшчэ, браток, не хітрыя. Я іду, як падміргну, дык яна вочкі і апусціць. Шкада! Не помню, дзе вылезла... Ах, каб не вылезла... Хе-хе-хе!

Андрэй спалохана аглянуўся на Вілюевіча. Яго круглы, жаночы твар расплываўся ад смеху. Відаць былі рэдкія зубы, дзве залатыя каронкі, з якіх адна за доўгі час працерлася—праз абручык віднелася ледзяніста-сіняе нутро зуба. Ён смяяўся з той дзяўчыны, што была падобна да Алесі. Ніякавата зрабілася Андрэю і выгляд Вілюевіча ў гэты момант зрабіўся прыкрым.

— Вось і лясніцтва відаць,—спакойна пачаў іншую гутарку ён. Але неўгамонны Вілюевіч не змаўкаў.

— Бачу, браток, бачу... А была адна такая панурая. Усё пад ногі глядзіць. З ёю можна ісці, браток... Хе-хе-хе!

Андрэй уключыў вялікую хуткасць машыне, матор загудзеў, загрымеў і шоферу стала лягчэй.

На прыпынку Вілюевіч вылез і перш, як зайсці ў лясніцтва да Журка, накіраваўся ў сельскі гастраном па гарэлку.

Назаўтрае гусенічныя трактары прывезлі акоранае будаўнічае дрэва.

## VI

У наступнае ранне з клапатлівасцю, старанна, Вілюевіч пагаліўся, змачыў рапейным маслам валасы і прычасаў іх радочкам назад, абліў водырнымі духамі гальштук. Перад люстэркам цяпер пыжыўся франт, на якім сядзеў акуратна прыгнаны сіні гарнітур, а з кішэнькі на грудзёх выглядала стракатая, у кветкі, хустачка.

— Ты нібы ў сваты прыбіраешся,—сказала цётка Пагуляйская.

Вілюевіч не адказаў, маўкліва прычыніў за сабою дзверы і ганарова, сумысле надломанай хадою пайшоў да Вароніча. Заданне старшыні ён выканаў і адчуваў неабходным гэта паведаміць. І яшчэ хацелася цяпер паказацца перад Алесяй.

Нехта на вуліцы каля гастранома прыпыніў падводу. Конь стаяў прывязаны і ў сядзенні прысадзістага вазка напхана зялёнае сена. „Можа яшчэ не паехала“,— праходзячы міма, разважаў Вілюевіч.

І не памыліўся. Алеся над сталом выцірала беленькім ручнічком электрычную лямпачку. Вілюевіч прывітаўся і змераў спакуслівым поглядам прывабную алесіну постаць, на момант прыкавалі вока стройныя ножкі дзяўчыны.

— Зараз ясней гарыць. Зусім светла,—танклява гаварыла маці, старая Варонічыха. Наглядаючы, як Алеся прымайстроўвала лямпачку, яна новаму чалавеку скардзілася: а то, дзе я адна дала-б рады? Раз, ведаеце, крутнула той шпянёк, а мяне адтуль, кіпцюром, як ушчыпне... аж па пятах мурашкі пабеглі. Пусціла я, ды думаю: згінь—прападзі ты! Што мне жыццё надакучыла? Вернецца Іван з канцылярыі, ды выкруціць...

Вілюевіч ухмыльнуўся і вельмі спрытна, каб заўважыла Алеся, прайшоў па хаце. Яна саскочыла з табурэткі, звонкім галаскам загаварыла:

— Тая лямпачка перагарвала... Цяпер я замяніла... Мама палохаецца электрычнага току.

— Хе-хе-хе!—неяк штучна засмяяўся Вілюевіч.—А дзе Іван Іванавіч? Дома Іван Іванавіч?

На віду ў пышна апранутага Вілюевіча зноў Алеся разгубілася. Каб яго не пакрыўдзіць, яна не ведала, як з ім абыходзіцца.

— Сядзьце! Пагуляйце!.. Ён хутка прыдзе,—казала яна, а шчокі ірдзелі ружамі і рукі нясмела папраўлялі брошку...

Алеся выйшла ў бакавы пакой і вярнулася ўжо апранутая ў паліто. Вілюевіч хацеў яе затрымаць каля сябе і з пакутай пачаў апавядаць:

— Мне кепска сягоння. Страх, як кепска! Паверце, Алеся Іванаўна, я ледзьве хаджу... Галава шуміць, баліць, у віскі малаточкамі стукае...

Сапраўды, пасля ўчарашняй выпіўкі ў Журка ў галаве яго шумела, як у млыне. Ад болю твар пакрывіўся. Ляглі маршчыны, так непасуючыя бяляваму, прыгожаму вобліку.

Алеся бліжэй падышла. Пачуццё жаласці да яго прачнулася ў дзяўчыны.

— Вам часта бывае так?—спачувальна спытала яна.

— Часта, Алеся Іванаўна. Ведаеце... ляціш туды—ляціш сюды. Не звяртаю на сябе ўвагі.

— Алеся! Павел прыехаў—крыкнула ў кухні маці.

— Бягу, мама,—адказала дачка і падала руку на развітанне.— Што вы? Што вы?! Гэта-ж памерці можна... Шануйце здароўе!

Колькі кахання сыпалася з вачэй Вілюевіча? Цiснучы ёй руку, ён пакорна прыгнуўся.

Праз нейкі час увайшоў старшыня і радасна спаткаў Вілюевіча.

— Здароў, малойча! Як у цябе там выйшла? Расказвай!

Вілюевіч уздыхнуў.

— Што-ж, Іван Іванавіч... усяго было. І крыху сваркі... Браток, кажу, бюракраты вы. Бюракраты! Паеду ў Лесбел! У Менск, крычу паеду. То гэты Журок адразу назад, браток... назад...

Адзнака Вілюевіча была яшчэ і тая, што выдумку ён мог апавядаць пераканаўча. Старшыня паверыў і крануў вус:

— Ха-ха-ха! Малайчына, Вілюевіч.

— Словам, браток, бачыў, Іван Іванавіч, лес?

— Але, але! Добрая сасна. Экспарт!.. Я прайграў...

— Не такі я чалавек, Іван Іванавіч,—гаварыў Вілюевіч,—я не дамагаюся. Я з дарагой душой.

— Не ў гэтым справа,—буркнуў старшыня.—Гэта мы ўладзім. Што тут—не дамагаюся?! Шкада, што ў мяне ў хаце губу памачыць няма чым...

— А то вы... выпілі-б?—недаверліва спытаў Вілюевіч.

— Маё слова свята! Чаго там? Хіба мы не людзі?

— Хоць сягоння?

— А што сягоння такое?

— Ну, то ў мяне ёсць,—баязліва прагаварыў Вілюевіч, дастаючы з кішэні поўлітровую бутэльку.

Старшыня здзівіўся. Падазрона глянуў на Вілюевіча. „Не па-

лохайцеся мяне,—гаварыў выгляд Стася Вілюевіча,—я з дарагой душой! Я за вас, Іван Іванавіч, на край свету пайду".

— Ты, бачу я, жулік вялікі,—праз зубы жорстка працадзіў старшыня, але тут-жа бесклапотна крыкнуў:—Мацї, прыгатуй кілішкі!

Вілюевіч шчасліва ажывіўся і хустачкай змахнуў на ілбе пот.

— Усё-ж ты малайчына. Мне парадак трэба каб быў...

Яшчэ адна рыса была ў характары Вароніча. З усёй адданасцю ён стараўся працаваць і хацеў, каб гэта бачылі другія.

Хацеў, каб яны заўважылі яго вартасць. Хто ў гаворцы з ім кратаў заслугу старшыні, з тым Вароніч абыходзіўся, як з чалавекам, які адамкнуў тайнік яго сэрца. Дасціпны Вілюевіч зразумеў гэта.

Больш, як палову бутэлькі яны не пілі: старшыня для прыстойнасці, Вілюевіч, як паступовы ў сваім падыходзе. Ён думаў: „На першы пачатак і гэтулькі добра".

Калі Вілюевіч сабраўся адыходзіць, старшыня дастаў грошы і паклаў перад ім. Хітры Вілюевіч прыняў выгляд, быццам выканаў свой абавязак і нічога не патрабуе.

— Іван Іванавіч!—сказаў ён,—схавайце грошы. Мы людзі, браток простыя. І скажам проста—чаго тут лічыцца.

— Не, таварыш Вілюевіч, бяры!

Настойлівы голас старшыні збянтэжыў Вілюевіча. І вось ён ухапіўся, як за выратунак, за тую струну ў характары старшыні.

— Браток, Іван Іванавіч,—палахліва запэўніваў, прасіўся ён.— За каго вы мяне лічыце? Я зусім іншай думкай аб вас... як сказаць... не спадзяваўся, каб вы так лічыліся. На свеце я, браток, многа людзей бачыў і скажу, што такіх, як вы—мала, мала. От, кладу руку на сэрца! Вы мне страшна спадабаліся. Вы—дзелавіты, вы і разумны. На вашых плячах уся гаспадарка трымаецца. От, як я думаў... А прыказка—і тая кажа, што лепш з добрым чалавекам прапіць, чым з дурнем знайсці.

Так пасля адыходу Вілюевіча старшыня ўзяў на сябе доўг, пра які падумаў ужо многа часу пазней, калі вярнуцца назад было нельга, а наперадзе ўсе дарогі зышліся ў клін.

## VII

Андрэй чакаў прыезда Алесі. Умовы такой не існавала, але сэрца неяк само прымушала гэтаму верыць. Тады са станцыі ён вярнуўся апоўначы. Моладзь з гуляння разышлася. У сяле рэдка ў каго, толькі ў хатах, дзе дзеці малыя не спалі, цмяна свяцілася лямпачка, уверчаная газетай. З акна ў Вароніча таксама падаў бляск. Няўжо ў чаканні не спала Алеся? Параўняўшыся з яе хатай, Андрэй паддаў газу, машына загрукацела як пад гару, і ён праехаў міма з гулам так, што на іх двары сабачка гаўкануў.

Першыя дні чакання праходзілі марудна. Затым да суботы набліжала і Андрэй ужо ўяўляў прыезд Алесі.

А ў той дзень са шпакамі з выраю прыляцелі вільготныя вятры.

З-пад цёплых, нізкіх хмар роўна пасыпаў спорны дождж. Кроплі яго нячутна і пяшчотна цалавалі твар. Снег набрыняў вадою і покрыва дарогі пад капытамі каня правальвалася.

З Палгаю Алеся не прыехала. Ён званіў туды па тэлефону. Ёй наказалі. Прышла. Пад вечар, калі ў канцылярыі нікога не было, толькі за сцяною ў кабінеце старшыні цётка Агата вымятала акуркі Андрэй у трубку казаў:

— Алеся! Рака ў нас затапіла берагі... Сёння я шпакоў бачыў...

Там яна радасна засмяялася. Ад таго, што казаў ёй Андрэй і... што вясна надышла.

— І ў нас разводдзе,—звінеў адтуль яе голас.—Каля пошты лужына, як мора. Бегла я і ў чаравікі вады набрала.

Андрэй не помніў сябе ад шчасця. Такія простыя, блізкія былі яе словы... Вось, здаецца, стаяла яна ў блакітнай сукенцы... зялёны касынак ахінаў плечы...

— Буду званіць да цябе кожны дзень,—назаўтрае ў такую-ж пару,—як падсохне, у Падгай на машыне прыеду...

Звычайныя словы! А яна і Андрэй разумелі іх па-свойму, глыбока.

Вясна навокал шумела. Сонечны дзень растапіў пачарнелы снег. Булькаючы, пацяклі ручайкі. У паднябессі стаяў журчліва-ціхі спеў жаўранка. У вадзе патанулі прыбярэжныя пні. Вецер адарваў лёд ад берагоў, а вада скрышыла яго на крыгі і панесла з сабою. Яна разлілася на лузе да чорнага поля.

Позна вечарам Андрэй стаяў на беразе, думаў пра Алесю і любаваўся, як срэбны месяц гуляе ў разліве. Далёка, рыбнымі ўсплёскамі бурліла рака. Над балотам кнігаўкі шукалі леташніх гнёзд. Андрэй бачыў, як на небе пад месяц падплывалі круглыя, белыя-белыя хмары. Бачыў, як шэрая плямка з белай хмары за ракою ўкрадкі апусцілася на груд. Мінула хвіліна... другая. І да чуткага слыху данёсся прывітальны, адрывісты крык...

... радасны крык жураўлёў.

## VIII

Бывае такі чалавек—ён з'явіцца выпадкова, пакруціцца сярод кіраўніцтва, яго яшчэ мала хто ведае, але глядзіш, ён ужо нібы начальнік нейкі. Учора цябе называў па імені і па бацьку, сёння ідзе з партфелем, не пазнае, пытае прозвішча.

На праўленні калгаса канчаткова фармавалі палявыя брыгады да веснавой сяўбы. Паляводам вызначылі Андрэя Неруша. Будаўнічую брыгаду многа зменшылі і фактычным брыгадзірам астаўся Вілюевіч. У пабудове канюшні яшчэ трэба было накрыць куточак страхі. Аднак, Вілюевічу здалося вялікім павышэнне, што ён палічыў неабходным прысутнічаць на пленуме сельсовета. Пленум сабраўся напярэдадні сяўбы.

— Па мойму, каб таварыш Грыб стараўся падрыхтавацца да сяўбы, як у нас у Навасёлках таварыш Вароніч, то я думаю, пытанне не кульгала-б,—казаў у сваім выступленні Вілюевіч.—Як Ва-

роніч мабілізаваў падрыхтоўку?—і Вілюевіч перад актывам усяго сельсовета пачаў па пальцах пералічваць работу старшыні, а ўсе аглядаліся ў той бок, дзе сядзеў Вароніч.

Старшыня пасля прамовы з павагай адсунуўся, даў побач месца сесці Вілюевічу.

Навасёлкі вялікія. Многія Стася Вілюевіча не ведалі, а бухгалтар, рахункавод, касір тымчасам прызвычаіліся да яго. Вілюевічаў партабак „Памяць з Каўказа“ адчыняўся выключным асобам. У дзень адкрыцця канюшні было прыбрана, ні трэсачкі каля сцен, ні паленняў—парадкавала гаспадарчая рука. Вароніч прайшоў, паглядзеў і крануў свой чарнявы вус.

— Люблю парадак. От бы так усе стараліся, рай светлы стаў-бы.

— Праўда, браток, праўда!—патрапляў гаварыць за ім Вілюевіч.

— Вось што! Ты, Вілюевіч, дапамагай мне. Мы... чорт ведае, што створым.

Той па-вайсковаму скарагаворкай адказаў:

— З дарагой душой, Іван Іванавіч.

А сабе думаў: „Цяпер пойдзе лягчэй!“ І яго захады снаваліся не марна. Праўда, аднойчы, ён перастараўся. Было гэта так.

Вілюевіч страшэнна любіў рэвізаваць работу і самавольна надумаўся правяраць працу калгаснікаў. Гэта ўзвысіла-б Вілюевіча перад старшынёй на цэлую пядзю. Непрыступная для калгаснікаў „Памяць з Каўказа“ адчынілася Косціку Каротcaму і яны ўдвух пайшлі правяраць старога Ермалая.

Дзед Ермалай сівавусы, як украінскі кабзар, прыгорблены, здаецца не хадзіў, а прыглядаўся. Ён кожную раніцу адвозіў малако з калгаснай фермы на сыраварню. Чуеш, барабаняць пустыя бідоны па вуліцы—дзед Ермалай паехаў.

Стасю Вілюевічу мільгнула думка пачаць свой гаспадарчы агляд са старога. „Як не кажы, а ўсё-ж ён стары, то мабыць і са старым духам,“—меркаваў ён.

З Косцікам трапілі яны на двор фермы і, бачаць, стаіць воз бідонаў малака, а навакол ні аднаго чалавека.

— Трэба, браток, дзеда правучыць,—кажа поўнапраўна Вілюевіч,—калгаснае дабро пакідаць так нельга.

Яны ўзяліся здымаць бідон з воза, каб захаваць ад Ермалая, але нечакана на двор фермы выйшаў Андрэй Неруш. З даяркай Волькай Радкевіч ён гутарыў пра нейкі гаспадарчы рахунак.

— Гэй! Што вы робіце?—здзіўлена крыкнула даярка на Вілюевіча.—Не кратайце бідонаў.

— А хто тут старшы?—як рэвізор пачаў Вілюевіч.—Чаму малако без нагляду?.. Трэба, браток, каб парадак быў...

Даярка спалохалася і паставіла на зямлю вядро.

— Тут-жа ўсе свае,—казала яна.—Сяло не далёка. Хто гэта паквапіцца... Дзед Ермалай пайшоў па Жаўтабрушку.

— Ну, глядзіце, браткі, тут... Час цяпер строгі. Самі ведаеце, правяраць трэба,—адыходзячы сказаў Вілюевіч, як вялікі начальнік.

Андрэй Неруш, прасякнуты пагардай да Велюевіча пасля гаворкі ў дарозе, не жадаў з ім размаўляць. Ён яшчэ запрыкмеціў, што Вілюевіч ходзіць да Вароніча. „Хто ён такі і што яму патрэбна правяраць?“—запала падазрэнне ў Андрэя Неруша.

## IX

Сын пісаў, што на граніцы яго ўзнагарадзілі імяннной зброяй. Бацька, сівы дзед Ермалай, згортваючы прачытаны ліст, радваўся:

— Па мне пайшоў Павел, увесь, як я...

Ён паправіў акуляры. Глянуў на фатаграфічную картачку. У святліцы было сонечна, роўна цікаў гадзіннік. Ермалай падумаў і ўсміхнуўся.

Некалі пры выгане пад вярбой стаяла лядашчая ермалаева хата. Чорная, закураная дымам столь нізка вісела. над галавой. Яшчэ ніжэй сядзелі дзверы: заходзіш—нагінайся. Тыя дзверы паставілі невялікі знак у біяграфіі Ермалая. Перад японскай вайной у вяселле атрымалася натуральна гісторыя. Ермалай прыехаў з-пад вянца, злез з воза, пад руку маладую вядзе ў хату. Ён у гэтай кузні гадаваўся, узрос і цяпер, як звычайна нагнуўся, пераступаючы парог, у нізенькіх дзвярах. А маладая жанчына ўпершыню ішла, велюм засланіў вочы—не відаць было і не сагнулася пры ўваходзе. На другі дзень госці весяляцца, а маладая, каля маладога сумная, не гляне на ўсіх—за ноч над вокам сіні гуз, як шышка, усхапіўся. Казалі, каб не стрымала сям'я маладога ў той момант, ён пасек-бы старасвецкія, бацькаўскія вушакі дзвярэй. З ім жарты малыя, ён такой натуры чалавек. Але цесць узяў яго за рукі і не дазволіў.

— Гуз не навек. Сыйдзе і знаку не будзе. Будзеш сам жыўздароў, новую хату збудуеш. А дзверы ўставіш фелянговыя, высокія, нібы ў царкве.

Ермалай паслухаў, угаманіўся, паклаў сякеру, рашыў пасля вяселля перасыпаць хату. Некалькі год ён мерыўся, аж у даўгі залез. Не перабудаваўся. Забралі яго на японскую вайну. Жонка Кацярына надзею страціла бачыць яго. Тымі-ж днямі як дэмабілізаваўся Ермалай, пайшлі сям'ёй і для памяці сфатаграфаваліся ў паповага сына. Ермалай выйшаў на картачцы ўдалым ваякам: шапка з цэшкай на бок, „ва фрунт“ стаіць і справа Кацярыну трымае, як вінтоўку на парадзе. Злосным тут ён выглядае, а па картачках пазнейшага часу, дзе сівізна пракідаецца на твары, там барада распасціраецца ва ўсмешцы. Шмат на сцяне партрэтаў вісіць: сына Паўла з трыма квадрацікамі, дочкі-настаўніцы і адна фотакартачка, дзе Ермалай на павадку трымае гадаванца бугая. За гэтага прыгажуна Навасёлкаўскі калгас на выстаўцы прэмію атрымаў.

Зірнуў дзед на дзверы з жоўценькай ручкай, на фарбаваную падлогу і падумаў: „Яшчэ Павел не бачыў новай святліцы. Прыдзе, то і я маю чым пахваліцца“.

У такім раздум'і дзед ветла загаварыў, калі з кухні ў святліцу ўвайшоў Андрэй Неруш.

— А-а-а! Дзень добры, Андруша! Людска зрабіў, што патрапіў да мяне. Сядай, сынок,—і пачаў ганарыцца навіною.— Ці чуў пра майго Паўла? Вось ліст толькі што прынёс пісьманосец. Піша—імянное мундзіраванне яму надзелі... Імянное! За асабовыя заслугі, кажа...

Неруш са спачуваннем да дзеда прысеў на крэсла.

— Я прышоў па справе...

— Ну?

— Ведаеш... Мы спектакль думаем. Каб як нам, дзед, дапамог.

— А-а-а,—здагадаўся Ермалай,—дапамагчы вам? Хочаце мяне ў лапці абуць, на сцэну выпіхнуць і павыскаляцца са старога?

— Не, дзед, боты скідаць не давядзецца,—засупярэчыў Андрэй,— там усяго са стрэльбай хадзіць.

— Ого, са стрэльбай, і страляць? Што-ж там за піеса? Той-жа раз вы ставілі... дзе голыя бегаюць. Неяк не да толку ўсё... прыстаўляюцца дарослыя, як малыя. Мне, старому, там сорамна ўтыкацца...

— Дзед,—перабіў Неруш,—але гэта не такая п'еса. Гэта пра партызан, пра даўнейшае. Вось паслухаеш—плакаць хочацца.

— О, у мяне слёз няма. Я не зладжу там.

— Зладзіш, дзед. Усе-ж просяць...

— Не, не. Мяне тады бабка ў хату не пусціць. Скажа, артыст, ідзі да артыстак,—пажартаваў дзед.

Нерушу не стала чаго гаварыць. Прымоўклі.

— Хто гэта ўчора прыходзіў?—азваўся дзед.

— Куды?

— На ферму! Мне Волька перадавала, што начальнік які́сьці быў.

— Які начальнік,—махнуў рукой Неруш.—Вілюевіч прыходзіў.

Дзед здзівіўся ад такой навіны.

— Вілюеўчык? Гэты плюгавы прахвост?

— Чаму так?—засмяяўся Неруш.—Дзед, яго ведаеш?

Дзед Ермалай пакінуў курыць люльку.

— Вось яшчэ сказаў. Яго-ж бацька пры мне ад спірту згарэў. Ты памятаеш паляцкае адступленне? Хаця, дзе табе памятаць! Ты яшчэ малы быў, а тут адыходзілі лігіёны. На станцыі зглумілі тры цыстэрны спірту. Пакідаць нам не хацелі, дык па насыпе, па рэйках разлівалі. Усю зямлю змачылі, як даждж̌ом. Дык, гэты самы Антэк Вілюевіч, яго бацька, так напіўся, што памяць страціў. Ляжыць пад насыпам у лужыне спірту і бурболіць. Сербане— і бурболіць. Носам у зямлю дзяўбае, аж кроў пад вачыма выступіла. Мы пад'ехалі, а ён і ўстаць не можа. Прывезлі да-дому, паклалі так на падлозе... Вілюевічыха як загалосіць! Ён счарнеў увесь, а рот разяўлены... Ледзьве дыша... Ратавалі яго ратавалі... і нічога не дапамагло. Кончыўся.

— Прычым-жа тут сын?—нібы незразумеўшы, спытаўся Неруш.

— А сын, казаў мне Парамон, такі-ж самы крутасвет, такі хітры і, каб дабіцца чаго, то без мыла ўсюды ўлезе. Я не ведаю, чаго ён на ферму прыходзіў...

Неруш падумаў, прыпомніў усе сустрэчы з Вілюевічам і злосна сказаў:

— Дзеда правяраць прыходзіў. Чаму малако на двары стаяла і хацеў зняць бідон, але я не дазволіў...

— Мяне правяраць?—здзіўлена перапытаў дзед. Ён скінуў акуляры і заморгаў хуценька светлымі вочкамі. У іх лунаў гняўлівы аганёк.

— Пачакай-жа! Я яго праверу!

X

Некалькі дзён заставалася да Першага мая. Алеся вярнулася з Падгаю і вечарам прышла на гульню ў клуб. Як заўсёды з дзяўчатамі завіхрыўся вясёлы карагод. З гэтай сябрынёй Алеся жніво карагодзіла. У летні золак расою ногі ўмывалі, у поўдзень з аднаго бідона густое малако пілі. У жыце лясістым дружна шумелі ўвішныя сярпы, а... як вячэрняя просінь злятала на поле, высока над лесам песню дзяўчаты неслі ў сяло. І цяпер ад гэтай песні дзяўчат цесна ў клубе—вокны адчынены. Гармонік грае. Толькі Алесі здаецца, што гармонік вельмі тонка выцінае і неяк няўбраныя сцены клуба пазіраюць непрыветна. Усё з таго, што абяцаў Андрэй прысці ў пару, яна прышла, а гадзіннік далей, далей сячэ адзінокае сэрца. Чаму няма? Толькі сябрыня і ніхто не заўважыць смутку Алесі. Весялосць, жыццё любіць яна.

— Кці, кці, кці!—заве шэрага коціка і гладзіць па роўнай, пушыстай спінцы. Гэты коцік заўсёды ў клубе на печцы сядзіць. Начуе—мышэй ловіць. Зімаваў тут адзін,—думае Алеся.

— Дазвольце з вамі, Алеся Іванаўна, вальс,— раптам чуе яна прыветлівы голас Велюевіча. Ён далікатна рукі працягвае танцаваць, а на грудзёх з кішэнькі выглядае каляровая, стракатая хустачка.

Алеся паслушна згадзілася. Ён абняў яе за талію, а другую руку ўзняў высока і закружыўся ў танцы. Прайшлі круг.

— Факстротам можаце, Алеся Іванаўна?— спытаў ён, нахіляючыся да яе.

— Не зусім,—пачырванеўшы, адказала Алеся,—але давайце паспробуем...

Ці здолела-б Алеся адмовіцца? Ёй здавалася, гэтым можна пакрыўдзіць Вілюевіча.

Ён—старэйшы па ўзросту і ўвесь час паважна звяртаўся да яе. Алеся думала, што бачыць у абыходжанні шчырыя пачуцці чалавека. Яна з усёй дабратою і даверлівасцю глядзела на яго. Вілюевіч гэту дабрату разумеў іначай.

— Пройдземце ў парк,—пасля танца прапанаваў ён Алесі.

Зазіраючы пранікліва ёй у вочы, Вілюевіч ціснуў і не пускаў яе руку. Алеся на момант забылася аб Вілюевічу і прагна, паглыбіўшыся, аглядала прысутных. Андрэя не было.

— Пройдземце, Алеся Іванаўна!

— Яшчэ-ж холадна на двары,—з адценнем запытання ў голасе сказала яна. Але і чуваць была даверлівасць яму, як бацьку.

— Нічога, нічога. У маладых кроў кіпіць. Не астыне. Мы зараз вернемся.

Яна апранула жакет і выйшла з ім. Пахла чаромха. У цёмна-сінім небе мігцелі зялёныя зоркі. Алесі захацелася сказаць яму штосьці сардэчнае і прыемнае.

— Вам я нештачка прывезла,—звонкім галаском прагаварыла яна.

Вілюевіч з тупою нацятасцю засмяяўся. „Любіць“,—ганарова падумаў ён і паправіў гальштук. Прысеў на лаўку. Яна не супраціўлялася сядзець побач; мякка, замілавана гаварыла:

— Я вам прывезла кроплі. Вы гаварылі тады, што часта ў вісках коле... Мне таксама некалі балела галава. Я раскажу, як прымаць. Адразу сціхне, паглядзіце... Яно добрае лякарства.

Вілюевіч зноў усміхнууся. Неяк міжволі яго пахіліла да дзяўчыны і ён абняў Алесю. Алеся збянтэжылася, інстынктыўна прасцёрла рукі ў абарону.

— Алеся! Я вас пацалую...—шэптам узмаліўся Вілюевіч.

Ад яго патыхала гарэлкай.

— Не трэба... Што вы?—сарамліва сказала яна, адхіляючыся ў бок.

Вілюевіч абхапіў яе гнуткую постаць, сілай стаў гарнуць да сябе, улагоджваючы скарагаворкай.

— Ды ты не вырывайся. Даражэнькая! Любенькая!—прыгаварваў ён,—на што гэта? Я разумею... Вы ўсе перш-на-перш брыкаецеся.

Жах скалануў сэрца дзяўчыны. Культурныя ўкрасы, што прыкрывалі Вілюевіча, ужо не засланялі яго агіднай душы. Алесі стала боязна.

— Дзядзька Вілюевіч!—дрыжачым голасам крыкнула яна.—Пусціце мяне.

— Куды пусціць?—млеў Стась Вілюевіч,—міленькая. Пацалую раз...

Алеся тамілася, стрымліваючы яго націск. Пругкія дзявочыя рукі не давалі прыхінуцца Вілюевічу.

— Пусціце!—прасіла яна,—дзядзька Вілюевіч... Пусціце мяне!

Яна з усяе моцы ірванулася ад яго і подбегам пайшла ў клуб. Брошка, што зашпіляла белы кафтанчык, недзе выпала каля лаўкі, але Алеся не магла вярнуцца пашукаць. Вілюевіч дагнаў яе і пачаў лепятаць аб каханні.

— Дзядзька Вілюевіч,—сказала яна, уваходзячы ў клуб,—як вам не сорамна? Адчапіцеся ад мяне!

Між людзей ён заблытаўся пры ўваходзе. У яркім асвятленні клуба ёй здалося, што ўсе таямнічна глянулі на яе і перашэптваюцца між сабой. З гарманістам размаўляў Андрэй. Без брошкі кафтанчык расхінаўся і Алеся сарамліва прыкрывала рукой грудзі. Яна накіравалася да Андрэя, які ўжо ўгледзеў яе. На пол-дарозе спаткаліся і селі непадалёк печкі ў клубе.

— Забавіўся ў гаражы,—казаў ён.—Пакуль памыўся, дык вось... Ты можа з дому ідзеш?

— З дому.

— Ну, і добра. А я завіхаўся. Што з табой, Алеся? Ты засмучана.

— Не.

Андрэй запрыкмеціў, што вочы Алесі паніклі, нібы яна палохалася ўсіх прысутных. Зайгралі танец. Зноў Вілюевіч праз натоўп няспешна прабіраўся да іх.

— Андрэй, я танцаваць не пайду,—хвалюючыся, сказала Алеся.

Вілюевіч зноў ветліва, далікатна працягнуў рукі.

— Пойдземце танцаваць, Алеся Іванаўна.

Некалькі хвілін таму назад Алеся чула жорсткімі гэтыя шчабятлівыя словы і цяпер яны праймалі холадам, жахлівасцю.

— Цяпер я танцую,—адказаў Андрэй.

— Танцуеш, браток? Дык танцуй... чаму, браток, не ідзеш?

— Для цябе гэта ўсёроўна,—грубаватым голасам сказаў Неруш.

Вілюевіч сканфужана, неразумна ўсміхнуўся і прыплюшчыў вочы. Яму хацелася такім-жа тонам адказаць, але ён не падабраў што. На печы сціпла сядзеў шэры коцік. Угледзіўшы яго, Вілюевіч захіхікаў:

— Мя-яў! Хе-хе-хе! Браток, хе-хе... Той, што на клён лазіў... Хе-хе!

Чырвань забуяла на шчоках Андрэя. У нутры яго зашчымела і злосць падшыбла.

— Сёння ў цябе ўзнятая тэмпература,—ускіпеў ён.

— Хе-хе-хе! Браток, не крыўдуй. Мне смех, браток, як тады каты перашкодзілі табе. Хе-хе-хе!

Ад гэтага рогату Андрэю Нерушу здавалася, што пад ім правальваецца зямля. Праз нейкі час Вілюевіч, як ні ў чым не бывала, камандаваў танец: „кавалеры, направа! Барышні налева!“

Алеся ўздыхнула і сказала, што ідзе дадому. Андрэй маўчаў. Яму было не па сабе, што расказаў ён Вілюевічу тое здарэнне. Упершыню абодвым так сорамна зрабілася, што кожны хацеў другога пазбавіць свае прысутнасці.

— Спектакль на Мая будзе,—вышаўшы з клуба на двор, сказаў Андрэй,—ты, Алеся, ролю возьмеш.

— Добра.

Ноч ападала душнай, гарачай цемраддзю.

— Што я яшчэ хацеў сказаць,—прашаптаў Андрэй і змоўк.

Такой нікчэмнасці сваёй Андрэй не адчуваў яшчэ ніколі.

— Які ён жулік,—з крыўдай і жалем прамовіла Алеся і пайшла ў вуліцу, а Неруш, сцяўшы зубы ад нянавісці, вярнуўся ў клуб.

## XI

Гэта было на другі дзень. Алеся ўздрыгнула, пачуўшы за вакном голас Вілюевіча. Сабачка-пудзель брахаў на яго, аж захлынаўся. Чалавек, які надакучыў і людзям і пудзелю, ішоў выведаць алесін настрой. Яна хацела ўхіліцца спаткання з ім.

Але маці з качаргою вышла з кухні і спытала:

— Хто там, дачушка?—і падступілася да акна. Зглядзіўшы Вілюевіча, таропка адчыніла фортачку і закрычала:

— Пайшоў вон, каб ты здох! Пайшоў вон! Дзень добры! Заходзьце ў хату! Іван дома.

— Мама!—упоўголаса казала дачка,—зачыніце акно! Нашто вам?

— Чаго ты?—абярнулася маці.—Ён добры чалавек. Я хадзіла ў кладовую па сала. Учора. Дык ён мне сытага, сытага, чатыры кавалкі выбраў і дае. Я проста сумелася. Кажу,—што гэта, усім пастолькі? Дык ён, дачушка, юха такі, жартуе. Нясіце, цётачка, калгас не збяднее.

— І вы ўзялі?—здзівілася дачка.

— Вось яшчэ! Ты не ўзяла-б, я ведаю.

— Што вы зрабілі, мама?—хапіла за валасы сябе Алеся,—сёння-ж аднясіце. Мамачка, родная, аднясіце.

— Алеська, што з табою?—не разумела дачку старая.

— Мамачка, ён нягоднік вялікі,—праказала Алеся.

Дзверы з надрыўным скрогатам адчыніліся і сваёй спрытнай паходкай увайшоў Вілюевіч. Як звычайна, скарагаворкай ён загаварыў:

— Добры дзень у хату! Бліны пахнуць? Ах, прыемна! Як здароўе Івана Іванавіча?

— Апранаецца,—адказала Варонічыха і пайшла з качаргой у кухню.

Алеся ўнурылася над кнігай, на яго не звяртала ўвагі.

— Маё шанаванне, Алеся Іванаўна,—нахіляючыся да яе, загаварыў Вілюевіч.—Як спалася, Алеся Іванаўна?

— Добры дзень,—адказала яна.

Ёй было страшна, што Вілюевіч не адчуваў, не сароміўся сваіх грубых учынкаў. Яна не магла глянуць на яго, на гэты гальштук, пахнуўшы водырнымі духамі, на кірпаты нос, на змочаныя рапейным маслам і залізаныя радочкамі назад, валасы.

— Вы не сярдуйце на мяне. Прабачце, Алеся Іванаўна. Я з дарагой душой. Чаму так мала танцавалі ўчора?

Яна не адказала.

Старшыня ўвайшоў, гучна грукаючы абцасамі аб падлогу, весела гукнуў:

— Здароў, сябра! Як маешся? Што вы тут пашэптваеце адно аднаму?

Вілюевіч пачціва пакланіўся Варонічу і, усміхаючыся, растлумачыў:

— Хе-хе! Мы гаворым пра вечарынку. Іван Іванавіч, не быў? Мы факстрот удваіх накручвалі. Алеся Іванаўна можа лепш за мяне танцаваць...

Цярпенне глушыла Алесю да гэтага моманту. Больш яна не ўтрывала. Тут быў бацька; ёй здавалася, што ён яе абароніць і сказала:

— Дзядзька Вілюевіч глупства гаворыць. І не брыдка? Кажыце, што вам патрэбна і ідзеце сваёй дарогай.

Старшыня прыняў гэта накшталт жарту. Ён здзіўлена выпучыў вочы, зрабіў у трубачку губы і насмешліва зацягнуў:

— Го-го-го! Што я чую? Ці не каханне ў вас тут якое?

Ён хацеў яшчэ падкалоць жартам, але ўгледзеў, як дачка змянілася, пабялела ў твары і губы яе сударгава калаціліся. Тут-жа Вілюевіч умела заняў іншы кірунак размовы. А як пайшоў за дзверы, Алеся паскардзілася:

— Тата! Я не магу. Чаго ён бадзяецца да нас? Праганяйце яго.

Бацька насупіў бровы і грозна крыкнуў:

— Не твая справа. Ты мне капрызаў сваіх не выстаўляй. З людзьмі трэба абыходзіцца па-людску. Не маленькая ўжо. Здаецца на гэта не вучышся?.. Мне трэба, каб парадак быў!

Маці дапамагла буркатліва:

— Але, дачушка, і я скажу. Што цябе сёння дрэнчыць?

Родныя бацька і маці не спачувалі ёй, яшчэ больш спрыялі крыўдзе, што абвугліла, пакрыла іржой сэрца. Подступы жалю балюча здушылі грудзі і спазмы комам падкаціліся ў горла.

— Мама... мамачка...—з дакорам сказала Алеся і заплакала наўзрыд...

## XII

За сялом зелянеў шырокі калгасны выган. Дзед Ермалай, ідучы з пугай на ферму, на сцежцы выгана спаткаўся з Вілюевічам. Супыніў з пагардай:

— Ты, гэты самы, начальнічак, нашто мае бідоны чапаў? Вельмі ўжо нос падняў высока. Дзякуй сабе, што мяне на ферме не было, а то—адсвянціў бы я пугай. Не быў ты ў добрых бацькоўскіх руках. Рос, на лес гледзячы, і вырас як басяк... Дзе, скажы мне, ты вычытаў, што, каб самому выслужыцца, то другога ўтапіць трэба?..

У Стася Вілюевіча пасінелі губы. Чырванець—ён ніколі не чырванеў. Пыхаючы злобай, ён стаяў у бліскучых, наглянцаваных ботах і шырокі казырок шапкі-капітанкі задзірыста пазіраў у неба.

— Калі ласка, стары, не рыкай на мяне,—агрызнуўся ён.—Пара навучыцца гаварыць за дваццаць год савецкай улады... Такіх у горадзе міліцыя просіць.

— Каго міліцыя? — закрычаў Ермалай, сціскаючы ў руках пужку,—мя-не? Ды я-ж цябе зараз тут, як бочку скачаю. Што ты мне пра савецкую ўладу... я ведаю, хто савецкая ўлада. А ты хто? Вон з вачэй, валацуга, падлізнік сусветны!

Вілюевіч адступіўся і прыняў ветлівы тон.

— Дзеду .. дзед...

— Маўчы, жабін рот, чаго ўсміхаешся? Вон адсюль, каб твайго ў Навасёлках і следу не стала!.. Бідон адымаць уздумаў... Знайшоў тапор за лавай... Эх ты, паганец!

Вілюевіч узяўся за кішэню, а другой рукою ласкава крануў гузік ермалаевай жакеткі.

— Дзеду... дзеду... а ты па-добраму сказаў-бы. Мы па-доб-

раму пагаворым. На што нам сварыцца... Во папяросы, пакаштуй, дзед...

— Цьфу на твае папяросы,—плюнуў стары Ермалай,—я цябе, як аблупленага, бачу...

Безабароннага Вілюевіча дзед не асмеліўся хвацянуць пугай. Той, як у ваду апушчаны, адступіўся ад дзеда і пайшоў у сяло. Рад быў, што гэтае споведзі на выгане за сялом ніхто не чуў.

Дзед Ермалай, стоячы на сцежцы, пакрычаў яму ўслед і, у кепскім настроі пасігаў цераз выган на ферму.

На праўленні калгаса, куды прышоў Вілюевіч, вызначалі прэміі калгаснікам-ударнікам.

— Дзед Ермалай возіць малако, браткі, слотай і непагодай,— сказаў Вілюевіч. Ён парашыў у сур'ёзную справу з дзедам не заходзіць і прапанаваў:—яму трэба даць плашч-дажджавік.

Знатнага Ермалая ўвесь калгас ведаў. Прапанова Вілюевіча была вельмі трапная і яе падхапілі ўсе.

Ніхто не падазраваў тут хітрасці. На полі трактар Васілеўскага сапсаваўся і Андрэй Неруш да падвячорка корпаўся з ім за прысадамі на раллі. Ён не чуў, што дзед Ермалай аблаяў Вілюевіча, і што на праўленні прэміравалі калгаснікаў, а яго— у тым ліку. Вілюевічава хітрасць праяснела яму на святочным сходзе.

Бяда ўся ў тым, што дзед Ермалай твкрыў часамі што-небудзь сур'ёзнае, а атрымлівалася яно нібы жарт.

Дзед Першага мая на сход прышоў позна. Палову прэміяў ужо выдалі. Вілюевіч чытаў прозвішча ўдарніка і называў рэч, а старшыня Вароніч перадаваў яе ў рукі. Увайшоўшы ў залу, дзед надзеў акуляры і ўгледзіў на сцэне Вілюевіча. Неўзабаве той апавясціў:

— Дажджавіком-плашчом прэміруецца лепшы калгаснік, ударнік Ермалай Драчок. Калі ласка, дзеду, на сцэну.

Ермалай сарваў з вуха акуляры і старымі, дрыжачымі пальцамі ніяк не патрапляў укласці іх у футлярык. Як чарада галубоў, у зале ўзняліся воплескі. Але дзед не кратаўся з месца. Яго светлыя вочкі зняважліва касіліся ў тую старану, дзе сядзеў Вілюевіч. „Гэта ён хоча мне дагадзіць,—думаў Ермалай,—не дажджэ, падлізнік сусветны!“

Усе чакалі з'яўлення Ермалая на сцэне і расступіліся ў праходзе. Дзед збянтэжыўся, вымушан быў пайсці. Але там, гнеўна бліскаючы вачыма на Вілюевіча, сказаў:

— Я не вазьму.

— Чаму?

— А хто гэта вызначае?

— Як хто?—без ніякай кплівасці адказаў старшыня.—Усе мы, калгас...

У зале вясёлыя абліччы калгаснікаў сцвярджалі тое-ж самае, яны чакалі напружана, што жартаўлівы дзед вось-вось рассмяшыць іх. Сціплы Ермалай фацэтна апраўдаўся:

— Тады справа другая!.. Калі, гэты самы, усім гуртам прапануеце... то я вазьму. А калі гэты прахвост, каторы сядзіць вось мне падсунуць хоча, то я...

Выбухам смех пакаціўся ў зале.

— З дзедам, браток, я жартам паспрачаўся,—шапнуў на вуха здзіўленаму старшыні Вілюевіч.

— Глупства, дзед,— усміхнуўся Вароніч,—насі на здароўе!

Першыя словы Ермалай за воплескамі не дачуў і прыгорблена з дажджавіком сышоў са сцэны.

Зацятая нянавісць затрымала пратэст Андрэя Неруша.

А вечарам, за сталом, пасля таго, як Вароніч узняў тост за шчаслівае, заможнае жыццё, Вілюевіч устаў і крыкнуў:

— Вып‘ем за аўтарытэтнейшага чалавека, браткі. Няхай жыве наш бацька, старшыня Іван Іванавіч Вароніч! Браткі, ура!

Падпіўшыя мужчыны не закрычалі „ура“, але і, каб не зрабіць непрыемнасці паважанаму старшыні, хорам загаманілі:

— Правільна! Правільна!! Правільна!!!

Неруш бачыў, як старшыня неахвоча скрывіўся ў бок Вілюевіча, нібы хацеў сказаць: „Гэта зусім лішняе было. Я сабе вартасць ведаю. Але няхай!“

Каб растлумачыць старшыні яго слепаватую даверлівасць, Неруш прыблізіўся да яго і сказаў:

— Ермалая, старшыня, трэба інакш разумець. Ён гаварыў праўду. Вілюевіч вінават.

— Сам ведаю,—перабіў спакойна Вароніч і пачаў з цікавасцю глядзець навакол.

— Не ўсё ведаеш, старшыня...

— Не вучы!—буркнуў Вароніч і нервова ўзгарэўся, як запалка.— Я на фронце быў, а ты на печы гаршкі скроб.

Злосць шыбнула ў Андрэя Неруша. А тут Вілюевіч падышоў са сваім лепятаннем.

— Што, браток, такое? Хе-хе-хе! Іван Іванавіч! Алеся і Неруш... Хе-хе.

— Замоўкні!—ускіпеў Андрэй і падступіўся да Вілюевіча.— Прэч адсюль!

Старшыня ўбачыў, як раз‘юшана блíснулі вочы ў Неруша і як палахліва ўсміхаўся Стась Вілюевіч. Вароніч узняўся з месца і крыкнуў:

— Ну-у! Як с-сукіных сыноў звяжу і ў міліцыю накірую абаіх.

Усе ўтраіх пераглянуліся і разышліся ў розныя бакі.

## XIII

Нізка над полем вецер імчаў белыя пахмаркі. У блакітным небе таялі іх серабрыстыя краі. Сонца ныряла ў сініх, глыбокіх прагалах. Ад залатых, гарачых праменняў яго зелянелі абшары балотаў і ледзь-ледзь пылела за сеялкамі поле. Дасявалі. Майскі вецер-сейбіт аднасіў да лесу водгаласкі трактароў, мяшаў гудзенне з веснавым спевам птушак.

— Едзь у „Новы быт“,—сказаў Вілюевічу старшыня, пагледзеўшы на поле,—правер, як яны выконваюць соцумову. Скажы, што мы пачынаем бульбу сеяць.

Бялявы твар Вілюевіча паморшчыўся, як-бы выражаў стомленасць, ці хацеў сказаць: „Звальвайце ўжо на мяне ўвесь цяжар“...

— Ну, не крывіся,—буркнуў Вароніч,—сядлай варанога. Ды раз-два!

Неўзабаве вараны галопам імчаў ездака па гасцінцы.

У дарозе зноў ахапіў Вілюевіча радасны настрой. Ён накіраваўся не ў калгас „Новы быт“, а да свайго хаўрусніка Журка. Ён не адчуваў сполаху, або залежнасці перад Варонічам, і цяпер утвараў, што хацеў. Журок перасяляўся ў іншае месца і прыезд Стася Вілюевіча быў развітаннем. Як звычайна за чаркай, яны гутарылі:

— Вароніч, браток, ужо ўвесь у маіх руках,—хваліўся Вілюевіч,—што ён паважае, тое я і раблю. Ён чхне, а я яму, „на здароўе“. Браток, дык ён гэта любіць і паддаецца. Цяпер асадзіць і заняць яго месца, як плюнуць... Браток, толькі я сам не хачу...

— Чаму не хочаш?

— Людзі, браток, у Навасёлках такія, што не ўжывешся доўга з імі.

— Дык чаго ты хочаш?

Вілюевіч выпіў гарэлку і зацяжна панюхаў хлеб. Чаго ён жадаў-бы? Мары яго заўсёды зменьваліся. У маленстве ён хацеў мець складаны ножык з касцянымі тронкамі. У дзіцячых гульнях быць абавязкова суддзёй і караць у галаву трыма пстрычкамі таго, хто прайграе. Як Вілюевіч упершыню пабрыўся, яму захацелася насіць рэвальвер і падабацца дзяўчатам. Ён выпек аздобы: на руцэ марскі якар, а на грудзях жанчыну з пушыстымі валасамі. Учора ён хацеў быць старшынёй у Навасёлках. Сягоння—усё, усё гэта глупства.

— А ведаеш, што я думаю?—раптам крыкнуў Вілюевіч,—выматаць, браток, ад Вароніча патрэбныя паперкі і ў раён... Скажам, браток, дырэктар МТС. Семсот рублёў... свой аўтамабіль.

— Ой, глядзі!—хітра сказаў сябра,—як дазнаецца твой Вароніч, што ты за птушка то... будзь здароў! Ён, відаць, там заняты працай і цябе яшчэ не раскусіў.

Яны прасядзелі да цямна. На светлым небасхіле пачарнелі постаці дрэў. Журок устаў, прайшоў да парога і незнарок перакуліў бляшанае вядро з вадою. Вілюевіч, хістаючыся, выходзіў з хаты і чуў, як жонка лаяла Журка. Ён падышоў да варанога і доўга не мог патрапіць нагой у стрэмя сядла.

— Куды ты?—сіпата крычаў з сянец Журок,—аша-л-леў, не едзь, кажу... ідзі ляж...

Але ў Вілюевіча з'явілася імкненне рабіць усё насупроць. Ён ускарабкаўся на варанога, паправіў насунутую на нос шапку-капітанку, і ўдарыў жарабца пад бакі. Конь рвануўся ў дарогу, паскакаў, а Вілюевіч, седзячы, хістаўся то ў адзін, то ў другі бок, як крывое кола. Тлумна зудзелі думкі ў яго галаве. Трызнілася звяршэнне жаданняў, неакрэсленая ў імкненнях будучыня. Расхлістаныя голыя грудзі з татуіраванай жанчынай прагна ўдыхалі вецер. Вілюевіч дзікім голасам загарланіў песню. Ён ужо нічога не памятаў, не бачыў, як уперадзе за гарою бліснула зарава. Вараны

захроп—збочыў на поле. Па гасцінцу трымцеў бляск ад фараў аўтамабіля.

— Н-э-э-э!—надрыўным голасам гарачыўся Вілюевіч, муштруючы каня. Вараны загарцаваў, закруціўся на полі і спаткнуўся на нейкія жалезныя ражны. Тут калгаснікі на захадзе сонца пакінулі бароны. Ад болі ў назе вараны замітусіўся, як апантаны, вылецеў на гасцінец, уздыбіўся і скінуў ездака, а сам знік у начы. Вілюевіч, як грымнуўся вобземлю—засгагнаў. Аўтамабіль фарамі асвяціў яго нерухомае цела. Вілюевіч дыхаў, глытаючы густую чорную кроў. Твар быў запэцканы і страшны. Незнаёмыя людзі з аўтамабіля паднялі яго і адвезлі ў больніцу.

## XIV

Калгаснікі Слабады злавілі прыблукаўшага пад ценай варанога, а пастух прывёў яго ў Навасёлкі. Вараны прыкульгваў на заднюю нагу. Слабадскі пастух перадаў конюху ўсё, што гаварылі ў іх наконт няшчасця. Праз ноч вараны страшэнна закульгаў. Змяртвелай нагой ён не мог дакрануцца мяккага саламянага падсцілу.

— Што-ж ты мне каня скалечыў?—сурова сказаў конюх Вілюевічу, які хутка вярнуўся з больніцы і толькі насіў на галаве белую павязку.

— Ты, браток, развважаеш, як маленькі. Пры чым тут я? Не я каня скалечыў, браток, а конь мяне,—адказаў той, і гаротна дадаў,—дактары, браток, устанаўляюць лёгкае пашкоджанне чэрапа.

— Эх, шкада, што не пашкодзіў болей,—крыкнуў злосны конюх,—з п'яным інакш не абыходзяцца.

Кірпаты Вілюевіч хутка заморгаў павекамі.

— Дазволь! Адкуль, браток, гэта бярэш?—сказаў ён цяпер непаваротлівым языком,—я, браток, цябе не разумею... Прычым тут п'яны?

— Людзі бачылі, людзі ведаюць. Не аднеквайся! П'яны муштраваў варанога і скалечыў... Прыедзе фельчар, складзем акт і ў суд... Паскачаш тады!

Вілюевіч зразумеў, што пра яго паводзіны ўсе ведаюць, але ён усё яшчэ не здаваўся.

— Я каня не муштраваў. Хто ведае, якім яны яго прывялі. Я схаджу, браток, гляну... Ён, як малое дзіцё за маткай, пайшоў за конюхам. У стайні заклапочаны бядою конюх нібы забыўся на Вілюевіча і гаварыў сам з сабой.

— Можа паправіцца. Я старанна перавязваю... Косю! Косю!

Вараны стрыгануў вострымі вушамі і жаласна, ціхенька заіржаў.

Стась Вілюевіч пакідаў канюшню. На двары яго самотныя вочы не знайшлі цікавых малюнкаў. Сонца схавалася за пярэстыя воблакі. Лопат навасёлкаўскага лакамабіля і гудзенне на полі за прысадамі трактароў даносіліся да вуха маркотным і чужым жыццём. Ён крануў павязку на галаве: боль цяпер стаў выразным. Тоненькай іголкай у яго вясёлае сэрца зацяжна пранікаў патаемны, кволы сум.

Кары Вілюевіч не палохаўся. Да грознасці суда ён прывык-

Будучы весаўшчыком на цукерачнай фабрыцы ў Менску, ён зрабіў растрату. Праз кантрольную будку ён ухітраўся кожны раз пранасіць поўныя кішэні шакаладных цукерак. Суд яго апраўдаў, як няпоўналетняга і з той пары Вілюевіч прывык да гэтага страху. Але ў Навасёлках яму не хацелася займацца з судамі, бо прапалі апошнія надзеі на кар'еру. Запал поспеху астываў.

З горачы на самога сябе Вілюевіч дастаў поўлітровую бутэльку гарэлкі і выпіў адзін. На сэрцы расцвілі гарачыя, бурныя пачуцці. Ён жыў успамінамі.

Мінула некалькі дзён. Вілюевіч ацярпеўся са сваімі абставінамі і зноў павесялеў. Аднойчы ён вяртаўся з раёна, куды пасылаў яго Варонiч. Каламажка, на якой ён ехаў, была прасторная і ён раскошна сядзеў, прывольна сябе адчуваючы.

Майскую ваколіцу нядаўна пакрапіў цёплы дождж. Надвор'е стаяла чыстае, здаровае, толькі чуліся глухія выбухі грому; за плячыма над лесам плыла чорная навальнічная хмара, сінім крылом ахінаючы неба.

Па сырым насыпе гнедая кабыла ішла ўпраўнай ступою.

Вілюевіч, не даязджаючы крутой гары, напаткаў веласіпедыста. Машына яго сапсавалася; відаць, вышла паветра з камеры, і ён надуваў яе насосам. Незнаёмы выглядаў начальнікам, на вільготным прыдарожніку ляжаў яго напакаваны партфель.

Параўняўшыся з ім, Вілюевіч з прывычнай цікавасцю спытаў:

— Аварыя?

— Але,—не звяртаючы ўвагі, адказаў заклапочаны чалавек.

— Далёка, браток, ехаць?

— А вам?

— Мне да Навасёлак.

Веласіпедыст не хацеў траціць часу на размову і абыякава праказаў:

— Мне таксама... туды ў ваш бок.

— Т-р-р! Можа ў Навасёлкі? Сядай, браток, паедзем.

Чалавек падазрона глянуў на Вілюевіча і адмовіўся.

— Вельмі дзякую! Я пазней прыеду.

— Калі, браток, сапраўды да нас... Тр-р-р! Дык сядай цяпер... Можа з раёну?.. Давай, браток, давай сюды. Гэта-ж нічога не значыць... Я з дарагой душой. Куды тут вазіцца ў полі з машынай. Кладзі! Вось яшчэ пойдзе дождж...

Веласіпедыст згадзіўся, пазнаў, што фурманшчык рад услужыць без хітрасці. Едучы на каламажцы знаёміліся:

— Я з Менску. Наркамзем прызначыў у ваш раён,—казаў веласіпедыст.

— Па якой, браток, такой галіне?

— Я па прафесіі ветфельчар...

„От-жа добра"—усцешыўся Вілюевіч,—як пашанцавала мне ўзяць яго на воз.

Паганяючы гнедую кабылу, ён успомніў кульгавага варанога. Кажуць: асіна без ветру дрыжыць, так і Вілюевіч не затаіў вострай цікавасці.

— А якое, браток, заданне даручана... Я наменснік старшыні. Можа, браток, коні аглядаеш?

— Безумоўна!—сказаў ветфельчар і заўважыў, як фурманшчык паслушна, ціхенька моргае павекамі.—Конегадоўля—справа далікатная. А ў некаторых нашых калгасах яна стаіць не на адпаведнай вышыні. Рука класавага ворага трапляе сюды. Шкоднікі калечаць скаціну, не шануюць коней. Можаце паверыць мне, што ў Лепельскім раёне давялося мне сем актаў скласці і перадаць у суд... Дзесяць год падлягае...

— Правільна, браток, правільна!—патрапіў услед Вілюевіч. У яго з'явілася адна важная думка. Яе ён асмеліўся выказаць, пад'язджаючы да Навасёлак.

— Многа, браток, думаеш пабыць у нас?

— Не ведаю,—адказаў ветфельчар, гледзячы навокал,—мне зручней было-б паехаць спачатку ў той калгас. Каля таго мосціка я злезу.

Вілюевіч пачціва прапанаваў:

— Давай, браток, у Навасёлкі... У мяне, браток, пераначуеш... Добрая пасцель. Я з дарагой душой!

Ветфельчар падумаў і згадзіўся.

## XV

Дзень прачнуўся далёкім водгуллем эмтээсаўскіх машын. Залатой пасмай сонечных праменняў ён глянуў у вакно. Ад вакна цягнула свежасцю ранічнага паветра і водырам расцвіўшага ў гародчыку бэза. Ветфельчар расплюшчыў вочы. Спаць больш не хацелася; учарашняя зморанасць ад доўгай дарогі знікла, але ўся чалавечая істота ныла, танула ў мяккай пасцелі. Сон яго быў забяспечан наглядам гаспадара. Ветфельчар не мог не заўважыць адчыненага вакна, пуховых падушак. Усё гэта выстарчала ўмеру і стаparanna. На снеданне была згатавана яешня з салам і аладкі са смятанай. Ад прапановы Вілюевіча: „можа, браток, апетыт падмацаваць градусам?“—ён адмовіўся.

Такая павага перш-на-перш здавалася ветфельчару незразумелай. І калі ён трапіў на канюшню, то адгадаў усяму прычыну. Пры аглядзе кульгавага жарабца конюх растлумачыў так:

— На барану ўзагнаў тут адзін... Гэты, у каторага вы начавалі. П'яны быў. Калі сур'ёзная справа, у суд трэба...

Ветфельчар аднавіў перавязку і, ідучы на кватэру, хітра ўсміхаўся. Сам-на-сам з Вілюевічам ён сказаў:

— На вашага хворага каня малая надзея. Заражэнне крыві. Я відаць, нічым яму не дапамагу.

— Што-ж мне, браток, рабіць?—з просьбай у голасе спытаў Вілюевіч. Ён не сумняваўся, што ветфельчар трапіў на след і размовы такой чакаў.

У задуменні ветфельчар пагладзіў сваю брытую, як калена, галаву.

— Браток,—стаў прасіцца Вілюевіч,—калі што якое... Уваж там, браток, як небудзь. Мне здаецца, браток, гэта нічога не значыць, чыркануць канчатковае заключэнне... і ўсё.

Ветфельчар насупіўся.

— Вы хочаце, каб я напісаў хлуслівыя дакументы, а вы тады аб гэтым паведаміце ў раён і мяне тады пад суд. Так?

— Браток, браток,—прасіўся Вілюевіч.—Вось прысягаю душой! Браток, клянуся, што гэта між нас будзе. Паслухаю цябе ва ўсякі момант у любой справе. Браток, павер!

Суровы ветфельчар, праніклёна ўгледзіўшыся на Стася Вілюевіча, сказаў:

— Ведаеце, таварыш Вілюевіч, толькі ваша дабрата і шчырасць прымушае мяне замяшацца ў гэту справу. Спадзяюся, што вы гэта будзеце памятаць заўсёды.

У Вілюевіча адлягло на сэрцы. Ён ажывіўся і загаварыў:

— Браток... З дарагой душой. Вечна!

У гэтага ветфельчара закуткі душы былі беспрасветна-цёмныя. Вілюевіч яго баяўся і ў канцылярыю за ім не пайшоў. Думаў: „Калі буду круціцца ў яго пад нагамі, яшчэ абдумаецца, ды скажа: перадумаў, бяру свае словы назад...“

Аднак ветфельчар гэтага не зрабіў. Раніцай назаўтрае, збіраючыся ў суседні калгас па справах, толькі спытаў:

— Там ёсць майстэрня?

— Ёсць, браток. Чаму?—адказаў Вілюевіч.

Нездаволена ветфельчар паморшчыў лоб.

— Шкада. Не давядзецца веласіпед узяць з сабой.

— Я дапамагу,—падрадзіўся Вілюевіч.

Ветфельчар на яго ўдзячна зірнуў.

— Калі не цяжка, калі ў вас будзе выпадаць час, пастарайцеся.

— З дарагой душой, браток!

— У майстэрні скажаце перадачу новую даць і спіцы замяніць. Я аплачу...

— Я сам, браток!

— Па мяне вы зойдзеце ў гадзіны тры. Буду ў загадчыка конетаварнай фермы.

— З дарагой душой!

У вызначаны час Вілюевіч у суседнім калгасе адшукаў патрэбны дом і зайшоў. За сталом сядзеў ветфельчар і яшчэ адзін невядомы.

— Гэта—загадчык конетаварнай фермы. Знаёмцеся!—паказаў на невядомага ветфельчар.

— Браток,—усміхнуўся Вілюевіч, услужліва падаючы руку.

Дужы, шырокаплечы невядомы чалавек кашлянуў і сказаў густым басам:

— Бражук. Мяне павінен сам памятаць. Сядай! А вы дзеткі бяжыце ў яслі гуляць! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## XVI

На сцяне ў Пагуляйскай вісіць партрэт правадыра. З гэтага партрэта правадыр глядзіць праніклівымі вачыма, крыху ўсміхаецца і яснасць на яго твары кажа, што ён ведае, аб чым ты думаеш:

здаецца, бачыць, што ў цябе на сэрцы таіцца. Вілюевіч Стась адчувае гэты погляд на сабе і спалохана снуе па хаце. На яго хлынула раздум'е і жах. Калі ў гутарцы з Бражуком і ветфельчарам яго абавязак выглядаў мажлівым і смелым, то цяпер ён рабіўся сам не свой. Ён дрыжэў, як у трасцы, прыпамінаючы даручаны сакрэт.

„Яшчэ не позна, трэба пакончыць,—у думках схапіўся ён,— не хачу ні пасады, ні грошай".

Ветфельчар застаў Вілюевіча ўсхвалёванага, тарапылівага. Зайдзі ён на хвілін дзесяць пазней, як Вілюевіча адшукаў-бы вецер у полі. На падлозе стаялі ўпакаваныя чамаданы. Больш у хаце нікога не было. Пагуляйская корпалася ў агародзе. Ветфельчар спакойна скінуў шапку, брытая галава яго пакрылася ледзь прыкметнай жаўцізнай ад нутранога ўзрушэння.

— Вы збіраецеся ўцякаць?—упэўнена, без здзіўлення спытаў ён.

— Я, браток, раздумаў,—адказаў перасохшымі губамі Вілюевіч. Ён абмярцвеў на месцы і стаяў, як на судзе.—Гэта мне, браток, не пад сілу. Я, браток... я не магу...

— А што вы абяцалі раней?

— Я сказаў. Я... я, браток... мала, што я сказаў. Я, браток, раздумаў...

Ветфельчар сеў на табурэтку і, нібы ў самоце, пазяхнуў:

— Няўдала раздумалі, паважаны Вілюевіч. Нікуды вы не паедзеце. Вы рызыкуеце на першай станцыі быць затрыманым органамі НКВД... Я вас не выпушчу.—Злосная зацятасць і застыгласць ляглі на твары ветфельчара.—На допыце якое вы знойдзеце апраўданне, што вы не змоўшчык супроць савецкай улады? Га?—сумыслу спытаў ён.

— Браток... Прычым тут я?—дрыжачым голасам загаварыў, захваляваўся Вілюевіч.—Што ты, браток, мяне палохаеш? Што ты мяне блытаеш?

Але ветфельчар зноў сумыслу, нібы глухі, крыху танклявым голасам цадзіў пагрозу.

— Я скажу, што Вілюевіча ведаю ад 193 . . года. Што я зім быў і ёсць у блізкай сувязі...

— Браток, нашто казаць. Ці-ж гэта, браток, праўда?

— Так—праўда! Яе пасведчыць Бражук і я. Досыць! і пасведчаць усе Навасёлкі, што вы невядома адкуль прывезлі падазронага чалавека, мяне, і ў сябе на кватэры...

Ён не даказаў. Словы апошнія Вілюевіча разбілі дашчэнту, што ён аж заенчыў:

— Браток... браток. Ты мяне вызвалі ад гэтага. Даруй, браток! Я ніколі нічога, браток, нікому не скажу. Я, браток, уцяку адсюль. Не хачу я кепскага.. Браток, змілуйся.

Зацятая насмешка гуляла па вуснах ветфельчара. Вілюевіч выглядаў вельмі нікчэмным. Ён сагнуўся ў крук, зморшчаны твар пахіляўся на плячо, на ніжняй губе пачынала нарываць болька.

— Мы з вамі, Вілюевіч, дамовіліся да вельмі выгоднага для вас,—сказаў ветфельчар —Калі вы гэта забыліся, я магу паўтарыць. А калі нецікава, тады ясна другая рэч...

Вілюевіч маўчаў. На твар клалася бледная пеляна вінаватасці. Вусны сударгава крывіліся ад жалю. Раптам усё стала абыякава. Нават гадзіннік на сцяне ішоў абыякава. Здаецца казаў: ці так—ці так! Ці так—ці так!! Вілюевіч стаяў у змярцвенні і жмурыўся. Было ўсёроўна, як чалавеку страціўшаму ўсе надзеі. Паступова яго ўсяго паралізоўвала атупеласць. Часамі ахапляў адчай і тады ён думаў. Эх! Каб яшчэ год пажыць без гэтага ліха.

— Вы, Вілюевіч,—пільна прыглядаючыся, спытаў ветфельчар,—польскую мову ведаеце?

Той адмоўна кіўнуў галавой.

— Вам, Вілюевіч, давядзецца паехаць у Менск. Заўтра ці пасьлязаўтра. З даручэннем. Для вас гэта лягчэй. Я разумею. Не хандрыце. Схавайце гэтыя чамаданы! Пакуль што вазьміце вось...

Вілюевіч крыўдна неахвотна глянуў на пачку чырвонцаў.

— Бярыце!—паклаў яе на стол ветфельчар—тут восемсот рублёў.

Словы „тут восемсот рублёў“ былі сказаны, нібы „будзеш каяцца, ды не вернецца“.

Гэты намёк апамятаў Вілюевіча. „А што, каб такім шляхам папрабаваць“—зноў спахапіўся ён і паслухмяна працягнуў дрыжачую руку з растапыранамі пальцамі да пачкі чырвонцаў.

На прыцемку ўдвух з ветфельчарам гумнамі потайкам яны выйшлі за сяло і нацянькі падаліся на захад. Па спрытнай, віхлявай хадзе Вілюевіча можна было пазнаць, што яго нясмеласць, ці санлівасць знікла. Яны схаваліся ў вячэрнім густым змроку. Жудасным падвываннем стагнаў у алешніку бугай.

## XVII

Калі маладым раннем дзікія качкі ляталі пры берагах ракі і ўзмахам крылляў асыпалі з травы расу, калі ў зялёных бярэзніках заліваліся свістам салаўі, а светлае высокае паднябессе над палескімі абшарамі будзілі спевам жаўранкі, тады навасёлкаўцы ехалі на поле дасаджваць бульбу. Ехалі прысадамі. Пахла прэлай зямлёю.

Мікіта Свігач, кульгавы мужчына, усё ранне на чырвонай жарэбнай кабыліцы падвозіў бульбу-насенку. Перад палуднем жарэбная кабылка ў аглоблях паваліласся. Мінула гадзіна, другая, а кабылка не ўставала, хоць над ёй турбаваліся конюх і ветфельчар.

У абедзены перапынак сабраўся натоўп ля канюшні. Вароніч адчыніў сход, на якім ветфельчар, упаўнаважаны па конегадоўлі ад Наркамзема, як праінфармаваў усіх Вілюевіч, гаварыў, што будзе коням рабіць проціхваробныя ўколы.

— Што за карысць?—кінуў яму рэпліку Андрэй Неруш.—Кончым бульбу, а па сяўбе няхай... Я брыгадзе палявой гэтай цэрамоніі не дазволю.

Старшыня таксама гарэў жаданнем дакончыць сяўбу і не хацеў коней адрываць ад працы.

Потым гаварылі пра злачынства Мікіты Свігача. Варонічу да схода нехта падказаў, што Мікіта Свігач наўмысле цяжкія вазы

накладаў і цяпер старшыня сядзеў хмуры. А вінаваты Мікіта Свігач стаяў тут не палуднаваўшы, са зламаным пугаўём і неяк зводдалі пазлядаў на ўсіх. Вілюевіч, у якога на ніжняй губе абрывала болька, гаварыў прамову:

— Мікіта Свігач, браткі, калі мы прыгледзімся бліжэй, дае нам знаць нешта другое. Па-мойму скалечання тут мала. Тут, браткі, на нашым шчаслівым, заможным жыцці пляма. Гэта, браткі, рэштка высланых у Котлас, у Сібір. Яны ціханька жывуць. Але прыгледзьцеся, браткі, на іх, так сяды-тады і пададпруць штыль у наша соцыялістычнае кола.

— Раскажы, як ты жарабцу варанаму штыль у нагу ўпёр,—не сцярпеў крыўды і дацяў яго Мікіта Свігач,—другога ты вельмі ўмееш карыць, а на сябе паглядзі.

Велюевіч аблізаў больку на ніжняй губе. Відаць яна яму моцна балела і ён час-ад-часу слініў яе.

— Ты, браток, Свігач не перабівай мяне,—сказаў ён,—я па правільнаму гавару. З дарагой душой. Я на Свігача, браткі-таварышы, ніякага закальца не маю. Я з ім не біўся, не сварыўся. Праўда, браток?—Вілюевіч супыніўся і лізнуў ніжнюю губу,—са мной, браткі,—таварышы, няшчасце было. Гэта незнарок, гэта зусім другое і сюды не клеіцца. Браткі, вараны паправіўся, ужо да вады сам ходзіць... Вось—упаўнаважаны ад Наркамзема, калі не верыце. Я люблю, браткі, праўду. Я не люблю ў чужыя дудкі дзьмуць. Я ненавіджу таго і змагаюся з ім. Дапамагаю нашай комуністычнай партыі...

Прамова гучэла пераканаўча, сардэчна. Хто думаў з калгаснікаў, што гэтыя словы вылятаюць з вуснаў чалавека, які ўчора з ветфельчарам прынёс атруту, падасланую чужой краінай? Вілюевіч выглядаў перад усімі адданым змагаром, актывістам.

Вілюевіч размахваў рукой і патрабаваў выключыць Свігача з калгаса, справу—у суд. Невядома, як позна зацягнуўся-б сход, каб не Андрэй Неруш. Ён прапанаваў не спяшацца, справу высвятліць асобнай камісіяй,—а пакуль ехаць на поле. На яго пасля схода Вароніч насупіўся.

— Табе ўсё хочацца цягнуць, цягнуць?—сказаў ён, пускаючы струменьчыкам дым з папяросы. Старшыня хацеў закончыць палявыя работы і з Нерушам вымушан быў згадзіцца.—Чаму табе не падабаецца, што гаварыў Вілюевіч?

— Таму што яно табе падабаецца,—адказаў Андрэй.

— Зразумела. Гаварыў ён па сваёй пастаноўцы пытання правільна. Так і будзе. Сягоння часу не хапіла. Я не дапушчу ў мяне расхлябанасці... Вілюевіч добра гаварыў. Я з ім згодзен.

— Па-першае, ён не гаварыў, а крычаў,—з упартасцю зазначыў Неруш,—а па-другое, твой Вілюевіч сам гэту расхлябанасць уносіць. П'янствуе, угоднічае і каня скалечыў.

Вароніч усміхнуўся і сказаў:

— Ты яго не цярпіш, што ён прахвост вялікі?

— А ты гэта бачыш?

— Бачу. Ці-ж я сляпы?

— Чаго-ж маўчыш і пакрываеш?

— А што мне на ўсё горла крычаць?

— Ну, і кепска робіш, што маўчыш.

Старшыня ўсміхнуўся, падумаў і спакойна загаварыў:

— У гэтым трэба глыбей разбірацца. І я разбіраюся. Бачу я, што ён жулік. Я не сляпы. Але карысць ад яго ёсць? Ён нам толк, парадак у гаспадарцы памагае навесці? Скажы, чаму мы чатыры жняяркі атрымалі? Нам-жа дзве вызначана. Дык я сказаў: Вілюевіч, махні туды... І ён паехаў і яшчэ дзве выклянчыў. Для нас, скажы, гэта кепска? Яго толькі часамі прысякаць трэба.

Неруша паклікалі на машыну, і ён, не адказаўшы нічога старшыні, паехаў у поле. Варонiч застаўся са сваімі думкамі. Задуменны, ён пайшоў уканюшню яшчэ раз папярэдзіць, што коней палявых брыгад з уколамі не чапаць. І тут зусім дзіўным здалася адна дэталь. Зразумець яе дапамагло можа гэта раздум'е. Вілюевіч, дапамагаючы ветфельчару даваць коням уколы, частаваў таго „Памяццю з Каўказа“. Варонiч не далёка стаяў, але Вілюевіч на яго забыўся. Чалавеку, якога Вілюевіч паважаў, часамі нават за слабасці ўзвялічаў, гэта перамена выразна кінулася ў вочы.

Старшыня прышоў да дому. Старая неласкава спаткала яго.

Тады Алеся наплакалася горка ў поўдзень, пайшла пяхатой у Падгай. Старая ўпрошвала яе, пабавіцца дома, але яна, поўная жалю, развіталася з маткай і пайшла. На свята Першае мая яна не прыехала. Маці трывожна чакала дачкі, не спала ўночы. Пабеглі дні за днямі, нядзеля за нядзеляй. Алеся не вярталася.

— Іван! Паехаў-бы ты ў Падгай,—сказала старая,—можа дзяўчына захварэла. Ляжыць у больніцы. А ты тут з парадкам сваім блытайся. Давёў-жа тады да плачу.

Варонiч насуплена маўчаў.

— І яшчэ цераз каго!—казала маці,—цераз шалахвоста гэтага. Я яго цяпер на парог не пушчу. А не, запрагай мне каня я сама паеду туды.

Варонiч глянуў за вакно і сказаў:

— Сягоння позна ўжо.

Думы агарнулі яго. Яго падшыбнула спатканне з Вілюевічам. Перагаварыць многае. За што ён тады пакрыўдзіў дачку? Варонiч прайшоў сяло, быў у канцылярыі, каля гаража спаткаўся з Нерушам і павярнуў назад. Неруш выглядаў знямоджаным, рубашка і штаны яго былі замурзаны ў аўтол. Але ішоў ён бадзёра і хацелася яму запытацца пра Алесю. Маўклівы юнак не адважыўся.

Падыходзілі да сада. Перад імі крокаў за сотню, на слупку плота, сядзеў шэры, з выпуклымі вачыма, каршун. Ён уладарна глядзеў на агароды. Калі яны падышлі бліжэй, драпежнік устрапянуўся і лёгкай быстрынёю паплыў уверх.

— Каб ты здох!—не сцярпеў Варонiч.

— Ах, каб стрэльба, я яго ў адзін момант-бы,—адказаў Андрэй, наглядаючы палёт каршуна.

У вуліцы перад хатай Пагуляйскай на лавачцы сядзела Марыська.

— Ваш Стась дома?—спытаў у яе старшыня.

— Не, няма,—адказала дзяўчына.

— А дзе ён?

— Машына ішла па соль, дык ён сеў разам і паехаў на станцыю, і казаў у Менск.

— А чаго, не гаварыў?

Марыська Пагуляйская развažліва, заікаючыся адказала:

— Сама не ведаю. Гэтыя дні, як стаў кватараваць ветэрынар у нас, дык ён, нібы пад зямлёй ходзіць. На маму сварыўся. Чамаданы спакаваў. Не начаваў дома.

## XVIII

„Тут нешта цёмнае адбываецца,—аклапочвалі мыслі Андрэя Неруша,—выходзіць, маці не памылялася, калі папярэджвала, што бачыла надосвітку Вілюевіча з ветэрынарам. Ці не адна тут хэўра? Хто гэты ўпаўнаважаны па конегадоўлі, ветэрынар? Калі ён сумленны чалавек, на што яму абавязкова было трапіць да Вілюевіча? Нетутэйшага, прыезжага з свету. Чаго Вілюевіч вытанцоўвае перад ім і паехаў у Менск без нічыйго ведама? На што гэта паспешнасць даваць уколы коням? Ці не змова тут якая?“

Чым далей паглыбляўся разважаннямі Андрэй Неруш, тым ясней рабіўся малюнак і паўставала неабходнасць дзейнічаць хутчэй. На канюшні ветфельчар увіхаўся навокал скаціны. Здавалася, што ў такой прыхільнасці да свайго абавязка ён адсюль і спаць не выберацца. Неруш зацікавіўся, завязаў размову, падаў фельчару вату, як-бы знаёміўся бліжэй.

Каля пад'езда забранчэлі бідоны і ў варотах з'явіўся Ермалай з кабылкай Жоўтабрушкай. Ей штосьці па-старэчаму ён наказваў, а яна, каб хутчэй пайсці ў праварыну, штурхала яго ў плячо. Дзед пазнаў Неруша і гукнуў яму:

— Здаровенькі, Андруша!

Ермалай набліжаўся да іх. Звязваючы аброць, у кроках двух ад фельчара і Неруша ён праказаў:

— Можа навіну перадаць.

— Якую?

Дзед на пераноссе ссунуў сівыя бровы:

— У Дубінках Бражука, Андрэй, ведаеш? Гаварылі ўсё, што ён бежанец са Смургоні. Дзябёлы такі мужчына...

— Дык што?—спытаў Андрэй, а ветфельчар прыняўся выцірань рукі.

— Я вось зараз еду адтуль,—сказаў дзед,—арыштавалі яго. От, гэта самы, бандыт. Загадчыкам фермы быў.

Ветфельчар выціраў рукі, а яны ў яго скрыпелі і лускалі ў суставах.

— За што?—паціху спытаўся ён. Андрэй запрыкмеціў, як ноздры ветфельчара шырока растапырваліся пры дыханні.

— Было за што,—сказаў дзед,—адно вось,—знай такую пакасць. Верыш, Андруша, здаецца, каб спаткаў такога, дык, гэты самы, на нагу наступіў-бы, а за другую ўзяў і як жабу разлупіў-бы...

Вяртаючыся з канюшні, Андрэй вырашаў: „Няхай ён сумленны чалавек. Але я сваю падазронасць заявіць павінен. Там разбяруцца хто вінаваты“. Ён накіраваўся шукаць Марысю Пагуляйскую, каб

дапытаць падрабязна пра кватаранта, але нідзе яе не знайшоў і загуменнем накіраваўся да хаты. Якое здзіўленне яго ахапіла, калі спаткаўся ўсутыч з ветфельчарам. Ён з партфелямі накіраваўся ў дарогу.

— Як бліжэй прайсці на соўгас?—першым загаварыў ён.—Пакажыце мне сцежку і... ніколі не зайздросце маёй прафесіі. Бачыце, ноч ці поўнач, а патрэбна быць гатовым. Атрымаў, ведаеце, просьбу, з'явіцца ў соўгас. Звоняць па тэлефону, каб неадкладна прыехаў.

„А мо' і званілі",—сумеўся Неруш, здзіўлена гледзячы на клапатлівага ветфельчара.

— Чаму-ж вы падводу не бралі? Вернемся, я вам запрагу.

— Дзякую. Не хачу. Коні вашы так спрацованы, што прызнацца, я не хацеў турбаваць. Тры кілометры не знак. Яшчэ рана. Дык, кажаце, каля рэчкі бліжэй?

Ветфельчар адыходзіў. Паспешнасць яго разгубіла Неруша. „Мо' ў соўгасе няшчасце якое,—думаў ён,—а што, калі гэта падазроны і ўцякае? Я павінен яго прасачыць. Я пайду за ім да соўгаса. Там сельсовет і я...

Голад змарыў Андрэя Неруша, есці хацелася і дрыготкая млявасць расплывалася па целу. Але ён сказаў:

— Вось я вам пакажу кудою прайсці.

І рушыў за ветфельчарам следам, гаворачы:

— Мне сягоння на пленум сельсовета трэба было ісці. Я меркаваў пазней, але ў кампаніі зручней.

— Вельмі дзякую!—абрадваўся ветфельчар,—у кампаніі, ведаеце, весялей.

Тон яго слоў гучэў лагодна, але што было на сэрцы—невядома.

— Пара ўжо,—казаў ён,—сонца зайшло.

Спадарожнікі разгаварыліся. На захадзе сонца схавалася за размашыстыя ветракі. Але ў вочы паказвала, што яно разбілася на дробныя воблачкі. Яны азалацілі неба, як жар, агністымі грудамі. Ноч набліжалася, а яны барвяна чырванелі, астывалі і блеклі. Толькі не гаснуў пласт крывяной чырвані, што залівау увесь небакрай. Можа на вецер, можа на дождж?!

Сцежка абгінала лазовыя кусты і нізкарослыя зараслі. Яна ляжала нацянькі, у кірунку да Чортавага парога. Так звалі стромкі, метраў дванаццаць над ракой, бераг. На гэтым беразе, у пясчаным падножжы, вяліся земляныя ластаўкі і чарнелі карчы і пні. Хто ўзыходзіў на прыпек абрыва, таму кружылася галава і млелі ногі. Сцежка бегла па самым крутым абрыве. Ідучы, было прыгожа глядзець з узвышша на левы нізкі шырачэзны бераг. Там цяпер на лузе пасцілаўся туман і маляўніча апавіваў кусты шэрай дымкай.

— Люблю беларускі пейзаж,—цешыўся вакольнай прыродай ветфельчар, а ў голасе гучэла нотка радасці,—ці ў сасновым лесе ці на тарфяным балоце—усюды такі беларускі краявід прыгожы, здаровы. Вось у Лепельскім раёне быў я нядаўна. Швейцарыя! Казалі старыя, што адзін лясок іх, яшчэ перад вайной, кожнае лета венгры адкуплялі для збору лекавых траў. Для медыкаментаў!

„На што ён мне гэта гаворыць?—думаў Андрэй Неруш і падазрона крывіў погляд.

— А ваш луг, які цудоўны!—захапляўся ветфельчар,—колькі кветак?! Ай-яй!

Нагінаючыся падняць кветкі, ён адышоў ад Неруша, і калі параўняўся з ім зноў, то Андрэй апынуўся над абрывам.

— А-ах! Як пахнуць. Панюхайце вы,—працягнуў ён кветкі Андрэю Нерушу.

Ветфельчара чакала далёкая дарога. Ён адчуваў, што спадарожнік яго будзе прасачваць і пазбавіцца яго трэба было хутчэй. Стралядь непадалёку сяла выходзіла рызыкоўна. Ветфельчар прырыхтаваў шырокі нож.

Андрэй, нюхаючы кветкі, зноў пакасіў вокам і згледзіў узмах гэтага нажа.

У Андрэя была бацькоўская сіла. Бацька яго казаў, што ў вайну нямецкага афіцэра жывога на бярэмі прынёс у свае акопы. Той адбіваўся, адкусіў яму вуха, але не вырваўся з ашчарэпленых, як жалезных рук.

Для Андрэя ўзмах нажа не быў неспадзяванасцю. Ён спрытна крутнуўся і ў момант здушыў за горла ветфельчара. Ад удара нож выпаў з рукі і яны ў хрыпатым сапенні завалтузіліся над абрывам. Праз хвіліну ветфельчар засопся і пачаў дрыжэць, адступацца да абрыва. Андрэй прыпомніў Вілюевіча, з кім круціўся ветфельчар, прыпомніў Алесіну крыўду, сваю крыўду, усё, што натварыў ветфельчар у калгасе і помста разгарэлася ў пажар. Неруш падняў у руках свайго праціўніка і з размаху шпурнуў яго з абрыва ўніз на карчы.

Толькі ад моцнага сатрасення сухі, пясчаны бераг Чортавага парога абваліўся і ў вачах Андрэя мільгнуў таўшчэразны даўгавечны дуб, узмахнулі альховыя макушы, палыхнула чырвань на захадзе.

Развіднела. Рака ціха цякла на поўдзень, а туман над вадой плыў уверх.

Рыбак пад‘ехаў. На лодку ўзяў абодвух. Кладучы ветфельчара на дно лодкі стары прашаптаў:

— Гэта-ж у яго спіна храпоча. Усе костачкі паломаны. Аб корч мяцнуўся.

Ветфельчар прасіў вады і пляваў крывёю на рыбацкую снасць.

— Сасмяг вады, пане!—сказаў злосны Неруш.—Любуйся беларускай прыродай.

Ад ранічнай яркасці холадам праціналa ўсё цела. У Андрэя акачанелая нага пасінела і апухла.

— Не чапай яго,—просьбай прашаптаў рыбак Нерушу,—ён яшчэ патрэбен будзе.

— Партфель яго тут?

— Тут.

У больніцы Андрэю Нерушу паклалі гіпс на нагу і палажылі ў палату. Начальніку пагранзаставы доктар паведаміў, што косць уназе лёгка падламана.

## XIX

Праз тыдзень пасля падзеі на Чортавым парозе, куды хадзілі глядзець і малыя, і старыя, на Навасёлкі наплыла страшэнная пошасць: коні з уколамі пачалі гінуць па два, на тры ўдзень.

На працы скаціне прыкідалася трасучая гарачка; конь ад поту раптоўна рабіўся мокрым, кідаўся вобземлю, наступала хуткая смерць.

Варанога жарабца конюх вадзіў па двары. Думаў, хвароба разыйдзецца і пройдзе. Некалі з варот вараны ўздыблена ішоў к вадзе, а цяпер ён ледзь ступаў. Пад узгорак ногі яго заблыталіся, ён тузнуў повад, за які яго вёў конюх, пахіснуўся і цяжка з глухім екам у жываце, рухнуўся на зямлю. Ён яшчэ доўга кідаўся, сударгава працягваў ногі. Калгаснікі хацелі адратаваць яго, абступілі навокал і моўчкі слухалі, як на зубах яго трашчаў расцёрты пясок. Да ночы жарабец акачавеў.

Калгаснікі пачыналі хвалявацца. Аднаго дня з Падгаю прыехаў новы ветэрынар і загадаў дохлую скаціну адцягнуць за сяло ў сасоннік і закапаць.

Дарослыя яго распараджэнні не выконвалі.

— Бацьку роднаму не вер,—казалі некаторыя.

— Праўда, калі не бачыў яго душы на далоні, то не ручайся.

— Можа і гэты шпіён,—спадцішка гаварылі другія,—пабудзе, напакасціць, ды ўцячэ.

— Як Вілюевіч.

— Ага. Вільне і след прастыне. Перацягваць на здаровых конях дохлыя целы скаціны выправілі хлапчукоў. Адзін з іх перад гуртам жанчын, што з жахлівасцю глядзелі за працэсіяй, працягнуў пастромкам прывязанага за заднія капыты варанога.

— Так-бы Вілюевіча пацягнуць!—з ненавісцю крыкнула адна кабета.

## XX

Абапал дарогі поле. Шырокае, шырокае поле. Ад сіняга дымчатага лесу і да вышкі маяка на захадзе расцілаецца яго залаты прастор... Густа шуміць пры дарозе жыта. Красуе... Пад павевам усходняга ветрыка каласіцца жытнёвае мора і Алеся чуе яго дружны рост. Хвалюецца шырокі, каласісты акіян і шум яго пранікае ў сэрца дзяўчыны. Пад сонечныя струмені цяпла выплывае краса. Вецер лёгкім узмахам крыла ўзнімае бялесым похмаркам жытнёвую красу і нясе над дарогай, над полем, пад сонца.

Алеся завіхаецца. З клумкам, звязаным кашміроваю хусткай, яна подбегам спяшыць дарогай. Вось узгорак... А там яшчэ адзін, а там—пакажацца двухпавярховая дзесяцігодка роднага сяла. Роднае сяло! Як даўно была там? Чорная хмара прыкрых успамінаў пранясласся над дзяўчынай і цяпер гэтак радасна бегчы ў гэта яснае ранне... Ружавеюць шчокі... Яна змарылася. Папрыгажэла. Як дзіцё ўсміхаецца і нібы просіцца на рукі ветру. А ён пяшчотна кранае завіткі валасоў. Алесі спяваць хочацца, так спяваць, як спявала з сябрынёй у жніво, што аж лес захліпаўся вод-

гуллем. Каласістае буйнае жыта густа шуміць. Шырокае, шырокае поле. Родны прастор! У сяўбу тут грымеў андрэеў трактар, а хутка заходзіць тут у алесіных руках спрытны серп. Любы Андрэй! Роднае поле!

Дробны, бляшаны звон прымусіў Алесю азірнуцца. Хурманка з пустымі бідонамі даганяла дзяўчыну па шляху. Дзед Ермалай, наставіўшы башлык дажджавіка ад сонца, сядзеў пераможна на возе і сярдзіта пугай грaзіў над спіною Жаўтабрушкі. Параўняўшыся з Алесяй, дагадлівая кабылка пайшла ступой (яна ўжо ведала, што дзед з кожным спатканым чалавекам пачне гаворку). Бідоны сціхлі браскацець. Зашуршэў пад коламі пясок. Ермалай адхінуў башлык дажджавіка і паморшчыўся ад сонца.

— Зранку паказвала на дождж,—апраўдваўся ён,—ажно гэты самы, бач, як праяснела.

— Малако вазілі, дзед?—спыталася Алеся.

— Вазіў,—крэкчучы адказаў дзед,—сядай, дачушка! Бачу, з Падгаю пехатой ідзеш? Гэты самы, вучэнні закончаны?

— Закончаны, дзед,—узлазячы на воз, казала Алеся. А, як садзілася, кранула за плячук Ермалая.—Дзед, як там усё гэта натварылася? Раскажы мне, дзеду. Я-ж даўно не была ў Навасёлках.

У Алесі ружовасцю пунцавеюць шчокі. Так хочацца ёй пра Андрэя пачуць што-небудзь. А Ермалай па-старэчаму пасмакаваў губамі і сказаў:

— Ну што-ж! Андрушка спіну шпівону на Чортавым паразе расхрабусціў. Малайцы, сынкі! Я Паўлу так напісаў у пісьме.

— Дык я так чытала ў газеце,—хвалявалася ў нецярпенні Алеся.—Ты, дзед, падрабязна раскажы. Як яго нага? Сер'ёзна?

— У якой газеце ты чытала?—прабурчэў дзед.

— За сягоняшняе, у „Звяздзе". Яна ў мяне ёсць.

Дзед так ганарыўся сваім маладым пабрацімам Андрэем Нерушам, што кожнаму па-дробязях апавядаў пра яго, пра тую памятную размову з ветфельчарам у канюшні. Радасць прачнулася ў Ермалая са звесткай у газеце.

— Т-р-р-р!—супыніў ён Жаўтабрушку.—Паказвай, дачушка, тую газету.

Ён разгарнуў газету на бідонах і светлымі вачыма ўглядзіўся на партрэт Андрэя Неруша. У радаснай усмешцы сівая барада распасцёрлася веерам. Алеся наглядала за ім і таксама пакутвала ад шчасця. Нервова церабіла ражкі хусткі на грудзях.

— Ай, Андруша!—крыкнуў дзед,—малайчына, сынок! Няхай увесь свет ведае аб ім! Праўда, дачушка?! Глядзі ты—смяецца! Але, як жывы выйшаў!.. Як тут пішуць? Ах, акуляры забыўся! Прачытай ты.

Алеся, заікаючыся ад хвалявання сказала:

— Яму ўзнагароду даюць... і на курорт пасылаюць...

— А яшчэ?

— І грамату.

Дзед ад узрушэння абняў, прыгарнуў газету да грудзей, Алеся не ўтрымалася і залілася звонкім смехам. Густа шумела жыта пры дарозе. Яна зірнула на гэта жытнёвае мора, а ў вачах цёпла зрабілася.

— Эх, Андруша! Малайчына, дачушка!—гаварыў дзед.—Мой-жа Павел таксама ўзнагароду атрымаў. Піша, імянное мундзіраванне яму надзелі. Но, Жаўтабрушка! Няхай мне застанецца газета. Я вазьму сабе, дачушка.

— Вазьмі, дзеду! Дай я складу,—сказала ўсхвалёваная Алеся,— дык раскажы ўсё... усё падробна...

— Раскажу, раскажу, дачушка,—загаварыў расчулены дзед і грозна замахаў над Жаўтабрушкай пугай.—Но-о! Гультайка! Но-о! От, дачушка, мне цярпенне з ёю. Ідзе—спыніцца, як чалавека стрэне, пастаў—не стаіць. Што за скаціна—рады не дам. Сягоння нібы то закурыць адхінуўся да Парамона... На двары сыраварні пакінуў яе адну... Слова не паспеў вымавіць, чую мае бідоны—тра-рарам. Скокнуў я на вуліцу і вачам веры не даю. Ведаеш, гэты самы, як закінулася кола ў канаву,—дык мае бідоны, як гарбузы са страхі. А што-ж, каб з малаком былі? Но-о-о! Каб цябе агонь спаліў. Бідону, гэты самы, бок пагнула...

Хоць злосна так гаварыў дзед Ермалай на Жаўтабрушку, але пугай нібы мух, зганяў над яе спіною. Кабылка бегла трушком і слухала яго.

Алеся зноў кранула за плячо дзеда.

— А нага яму не вельмі баліць?..—і не даказала дзяўчына.

— Не-е!—пакруціў галавою дзед,—ён сёння-заўтра мае быць дома. Гіпс яму знялі.

Уз'ехалі на ўзгорак. Адсюль відаць былі сады сяла. Алеся ўглядзела калодзеж каля свае хаты. А тут на парозе стаяў слупок, на дошчачцы гарачым жалезам выпалены літары:

„Праезд забаронен. Анемія. Карантын.“ Алеся прачытала і з жахлівасцю зірнула на дзеда.

— Глупства!—махнуў пугаўём Ермалай.—Ужо можна. Мая Жаўтабрушка зноў на месцы стаіць. А то між кароў стаяла. Была прывыкла і нічагусенькі.

— Чаму з каровамі?

— Ну, коням-жа шпівон заразу прывіў. Цяпер каторыя хварэюць, асобна стаяць. А з брыгады Андрэя усе здаровенькія...

Алеся гледзячы на роднае сяло, задумалася. Дзед, крыху счакаўшы сказаў:

— А ў панядзелак легкавая машына да Пагуляйскай прыходзіла... Па чамаданы Вілюеўчыка. Недзе папаўся, падлізнік сусветны. Шпівону дагаджаў, валацуга. Там яму і месца.

Дома ў сенцах Алесю спаткала маці. І ласка, і крыўда чулася ад яе.

— Алеська! Ці не прыгневалася ты на нас,—сказала маці.—Мы ўжо хацелі ехаць да цябе, але ліст твой атрымалі. Пойдзем у хату, дачушка! Як я табе рада, што ты прыехала.—У маткі заблішчэлі слёзы.—Я думала, ты гневаешся на мяне... Я начэй не спала. Няхай ён калом пойдзе! Жулік гэты.

Дачка кінулася на шыю мацеры. Пацалавала ў шчаку, другую весела сказала:

— Мамачка! Даражэнькая! Забудзьцеся на ўсё. Мне часу не было. Экзамены! Віншуйце—закончыла тэхнікум.

Маці любоўна прыгарнула дачку і пацалавала.

— Хадзем-жа ў хату,—сказала яна, уціраючы слёзы.—Іван-жа наш хварэе...

З падвязаным падбародкам бацька хадзіў па святліцы з кутка ў куток і танклява войкаў. Балелі зубы. З дачкою ён прывітаўся і адразу жалабна пачаў скардзіцца:

— Я, дачушка, чалавек нервовы. А-ай!—трымаючыся за шчаку, ціханька войкнуў ён. Алесі зрабілася і шкада і смешна.—Здароўе сваё на вайне згубіў. О-о-й! Я любіў, каб парадак быў... І вось вышла... А-а-х! Ты не сярдуй на мяне, дачушка...

— Татачка, даражэнькі, ніколі.

— А-а-х! Гэта мне на старасць навука. Я ўжо стары. О-о-ха! Работа гэта не пад маю руку. Усім толкам—яе Андрэю Нерушу здаць.

А на змроку прыехаў Андрэй.

З кіёчкам, накульгваючы, ён з Алесяй выйшаў у сад. У садзе старшыні лавачка.

Цвітуць грушы, на яблынях вісіць пахучая, лёгкая, снежная бель. Месяц поўны, бялявы, з усмешкай над ліпамі вартуе майскую цішыню. У начным спакоі сяла плыве песня навасёлкаўскіх дзяўчат. І сэрца крыляе з песняй высока, высока—каля зорак.

— Тады я плакала,—кажа Алеся.

— Чаго?—усміхаецца Андрэй.

— Ён ка мне прычапіўся... праходу не даваў! Як я рада, што няма яго больш!

Андрэй успомніў таго, хто замінаў жыць, хто замінаў кахаць і ціха сказаў.

— Не спамінай яго.

— Не ўспамінайма!—згадзілася Алеся.

Яны шчасліва прыгарнуліся ў абдымку. Ляцела пахучая белая ноч. На ўсходзе святлела. А ў цвецені яблыня слухала маладых і за кожным пацалункам скідала ім па лістку з цвету... Колькі цвету на яблыні?! А ва ўсім садзе!!!

Як загарэліся ружовым агнём макушы яблынь, з двара маці прынесла вядро малака сырадою і перадала бацьку алесіна слова—

— Вяселле.

Май 1937—снежань 1938 г.
г. Менск.

*Алесь Стаховіч*

# НАТАША

*(Апавяданне)*

Па густаабвітай зялёным плюшчам верандзе, усхвалявана хадзіў малады чалавек. Сёння, ён прышоў раней умоўленага часу, і па яго залішняй рухомасці і ўзнятасці Наташа заўважыла, што Апанас хоча сказаць ёй нешта важнае, незвычайнае. Яна любіла слухаць Апанаса, ды і сама не скупілася на гаворку і нярэдка па вечарах з веранды чуўся задорны смех юнакоў.

— Які цудоўны вечар...—заглядваючы ў іскрыстыя вочы дзяўчыны, пачаў Апанас.

Але інстынктыўна Наташа адчувала, што Апанас хоча сказаць ёй сёння не пра цудоўны вечар, а пра нешта больш цікавейшае, і яна перабіла яго:

— Ну, гавары ўжо, Апанас! Бачу, што ты мне нешта хочаш сказаць.

— Сказаць?—і ён узяў Наташу за руку.—Я хачу ведаць, калі ўжо ты пяройдзеш да мяне?

— Як гэта, „пяройдзеш да мяне?"—з усмешкай перапытала Наташа.

— Не, я сур'ёзна пытаю?..

Хоць Наташа ўжо даўно ведала намеры Апанаса і часта думала пра іх, але цяпер ёй здалося, быццам усё гэта нечакана.

— Ну, дык, як, Наташа?..—нецярпліва пытаўся Апанас.

Наташа маўчала.

Незразумелае для Апанаса задуменне апанавала яе.

— Што з табой, Наташа? Няўжо...

— Не, не, Апанас! Не пра гэта я... У мяне ёсць перашкода...

— Ну, дык раскажы, Наташа?

Наташа глянула на ўсхваляваны твар Апанаса і, папраўляючы непаслухмяную пасмачку сваіх густых валасоў,—пачала гаварыць:

— Гэта было два з лішнім гады таму назад. Аднойчы, у ясны, сонечны дзень я ішла па вуліцы. З узгоркаў па рэйках цурчэлі ручайкі, у паветры пахла вясною... На скрыжаванні вуліц два хлапчукі пускалі папяровыя карабельчыкі. Загуляўшыся, яны не заўважылі, як адразу з двух бакоў імчаліся машыны, а па рэйках са звонам ляцеў трамвай... Я крыкнула: дзеці, сцеражыцеся! Адзін паспеў адскочыць у бок, а другі, разгубіўшыся, паслізнуўся і ўпаў на рэйкі. Я падбегла да хлопчыка і толькі паспела схапіць яго за

адзежу і адцягнуць ад рэек, як нешта цяжкое з сілай ударыла мне ў паясніцу... Я ўпала на брук... у вачах стала цёмна, здавалася я ляжу ў нейкае шурпатае, калючае бяздонне... І зусім не памятаю, як апынулася ў больніцы...

А калі выпісвалася з больніцы, да мяне ў палату прыйшоў пажылы, з бліскучай лысінай хірург.

— Я толькі хацеў папярэдзіць вас,—сказаў ён,—што пасля гэтай аперацыі вам нельга мець дзіцяці...

* * *

Калі Апанас, ідучы з работы, заходзіў па Наташу ў дзіцячы сад, дзе яна працавала кіраўніцай, да яго гуртам спяшаліся дзеці.

— Дзядзя, дзядзя прышоў!—у адзін голас крычалі малыя.

Ён даставаў з кішэні цукеркі, частаваў дзяцей, расказваў ім казкі, а яны, узяўшы яго за рукі, цягнулі ў свой карагод, і Апанасу не раз даводзілася гуляць з імі ў коціка і мышку.

Асабліва цешыўся Апанас з маленькага, жваўенькага Міхаські. Ён браў яго на рукі, песціў хлапчука, з гліны ляпіў яму паравозікі, прыстаўляў запалкавыя каробачкі, і, нібы дзіця, рухаючы сагнутымі ў локцях рукамі, пачынаў:

— Чух-чух-чух... чух-чух-чух... чух-чух-чух...

Наташа глядзела на Апанаса і думала пра сябе:

„Няўжо я не змагу мець дзіцяці... А можа хірург памыліўся?..“

І Наташа пачала раіцца з дактарамі. Яна наведала больш дзесяці ўрачоў, абыйшла кансультацыі, больніцы, але ўсюды чула адзін і той-жа адказ:

— Вам нельга!..

— Вы рызыкуеце сваім жыццём!..

— Мы забараняем вам!..

Нарэшце, Наташа звярнулася да славутага прафесара.

Апанас сядзеў у прыёмнай і з нецярпеннем, як малое дзіця чакае незвычайнага падарунку,—чакаў Наташу.

Вось яна вышла ад прафесара, зірнула на мужа і ціха сказала:

— Можна.

— Што ты кажаш, Наташа?

— Можна, кажу.—Зноў паўтарыла яна.

— Дык ён... ён дазволіў табе?—ідучы дадому, імкнуўся дакладней даведацца Апанас.

— А хопіць табе ўжо, кажу, дазволіў...—увесь час ухілялася Наташа ад гаворкі пра гэта, што надзвычай хвалявала Апанаса і сеяла ў яго думках пэўнае сумненне.

* * *

Вечарамі Наташа расчыняла куфэрак, перакладвала маленькія фланелевыя распашоначкі і яе ўсё больш непакоіла думка:

„Сказаць яму ўжо, ці яшчэ пачакаць крыху?..“

А дні ішлі.

І калі Наташа ўжо ясна адчула сваё дзіцця, яна прызналася Апанасу.

— Ты толькі не палохайся, Апанас...—пачала яна.

— Ну што? Што? Гавары, Наташа!

Іх позіркі, сустрэўшыся, застылі на момант і ў пакоі заціхла.

— Мне не дазволіў прафесар, але я рашыла сама.

— Сама?—прагучэў яго разгублены голас.

— Не хвалюйся, не хвалюйся, Апанас...—супакойвала жонка.— У мяне хопіць сілы, каб перанесці аперацыю... Затое ў нас...

І зноў у пакоі заціхла.

Разгублены Апанас пазіраў то на спакойна сядзеўшую Наташу, то на маленькі чысценькі ложачак, які ён купіў і паставіў у куточку. Яму вельмі хацелася мець дзіця, быць сапраўдным бацькам і ў той-жа час ён вельмі непакоіўся за жыццё Наташы.

* * *

Неяк увечары, Наташа адчула сябе нядобра. Яна прысела на край ложка і паклікала Апанаса.

— Трэба ехаць,—сказала яна.

Апанас кінууся да тэлефону.

— Машыну! Прашу машыну!..—чуўся ў пакоі яго ўсхваляваны голас.

У тую ноч, Апанас блукаў па доўгаму і вузкаму калідору больніцы. Ён прыслухоўваўся да кожнага гуку і ў кожным енку хворага яму здаваўся голас Наташы. Ён чуў удары свайго сэрца і кожны нэрв яго быў настолькі напружаны, што досыць было рыпнуць дзвярыма, каб выклікаць у яго яшчэ большае хваляванне.

Наташа ляжала на белым аперацыйным стале. Пакой быў заліты электрычным святлом. Навакол стала стаялі ўрачы ў беласнежных халатах і марлявых масках. Сястра ўвесь час трымала Наташу за руку, сочачы за пульсам.

Наташа ціха стагнала. Ад болю і патуг твар яе пакрываўся халодным потам, на ілбу з'ўляліся складкі, а губы сохлі ад смагі.

— Спакойна!.. Спакойна!..—раз-по-разу паўтараў сівабароды хірург.

— Скажыце, вам зрабіць аперацыю так, каб у вас больш не было дзяцей?—запытаўся ён у Наташы.

— Не, зрабіце так, каб былі яшчэ...—моршчачыся ад болю, адказала Наташа.

— Добра! Лічыце!—сказаў доктар, накладваючы на твар Наташы маску з хлараформам.

— Раз, два, тры, чатыры...—пачала лічыць Наташа, але язык пачаў дзервянець, рэчы рабіліся няяснымі, нібы пакрываліся туманам, гукі пачалі заміраць і аддаляцца...

— Дваццаць адзін...—ледзь праказала Наташа і змоўкла.

Яе спавіў глыбокі сон...



— Віншую з сынам!—вось першыя словы, якія пачула ачуняўшая Наташа з вуснаў сівабародага хірурга.

На пухлых губах знясіленай жанчыны з'явілася ўсмешка і слёзы ўдзячнасці блісканулі ў яе ў вачах.

— Паведаміце мужа!—папрасіла яна.

Прафесар выйшаў за дзверы. Ён па сходцах сышоў уніз, і адразу заўважыў чалавека, які шпацыраваў па калідору.

— Гэта вы настаўнік Філімонаў?

— Я, я,—падскочыў да хірурга Апанас.

— Сын у вас... І жонка адчувае сябе добра...

— Добра!.. Дзякую!..—прагучэў голас Апанаса і ён моцна абняў старыка.

А на другім паверсе, у невялічкім ложачку, пад цёпленькай коўдрай, варушыўся, дужаў, нарабіўшы столькі клопату—маленькі, чарнявенькі хлапчук.

*Мікола Лупсякоў*

# БАГНА СМЕРЦІ

Шуміць бор... Ён раскінуўся за лугам, каля шустрай рэчкі Берасцянкі. Растуць тут і каржакаватыя дубы, і чырвонаствольныя стромкія хвоі, і светлыя зараснікі бярэзніка. Унізе дрэвы аплецены густымі кустамі; паўзучы хмель, напоўніўшы паветра моцным пахам, снуе на іх дзіўныя ўзоры зялёнай тканi. Ёсць у тым бары страшнае месца, яно завецца Багнай Смерці. Чалавек, які выпадкова заходзіў туды, ніколі не вяртаўся назад: дрыгва, на паверхні якой расце толькі мох, расступалася і праглынала яго...

У той год былі навальніцы, бор стагнаў, пад напорам ветру гнуліся верхавіны дрэў...

* * *

Была ноч. У цёмна-сінім небе мігацелі зоры, срабрысты месяц ныраў у пасівелых воблаках.

У балоце, каля завадзей, вецер шастаў трыснікамі.

З трывожным крыкам узнялася ў паветра чайка...

Сёмка Лазун спыніўся. Па раптоўнаму напору ветру, па крыку чайкі ён прадбачыў навальніцу. Ён зірнуў на захад, туды, адкуль дзьмуў вецер.

Чорная хмара закрывала небасхіл. Тухлі зоры.

„Трэ' хутчэй з балота выбрацца"—падумаў ён і, схаваўшы пад палу вінтоўку, пайшоў нацянькі. Трэба было спяшацца. У часе навальніцы можна зблудзіць і праблукаць па балоце ўсю ноч, а Сёмку к раніцы патрэбна вярнуцца назад у Стары бор да партызанаў. Яшчэ з вечара яго паслалі ў выведку. Сёмка ўвесь час ішоў балотам да вёскі Залуж.

Сёмка спяшаўся. Ён хапаўся рукамі за кусты ракітніка, пераскокваў канавы.

А вецер усё мацнеў, асокі шумелі пад яго напорам; зіхацела ўжо маланка, чуліся грымоты. Чарнела ноч, хмары ўсё больш закрывалі неба і зоры; толькі месяц яшчэ на хвіліну-дзве выныраў з іх, кідаючы на зямлю халоднае белае святло. Тады з цемяні выступалі кусты лазняка, шумлівы малады алешнік. Усё яшчэ чуўся ў паветры крык устрывожанай чайкі.

Сёмка Лазун нарэшце пачуў пад нагамі грунт. Ён паскорыў крок і хутка вышаў з балота ў хмызняк. Тут партызан прыпыніўся.

Вёска Залуж была ўжо недалёка, а ў ёй маглі быць белапалякі. Сёмка прыслухоўваўся. У шуме ветру ён намагаўся ўлавіць нейкія асаблівыя трывожныя шорахі. Ён стаяў гэтак некалькі хвілін,—пасля, сціскаючы ў руках вінтоўку, асцярожна пайшоў уперад. Неўзабаве скончыліся кусты, далей, метраў на дзвесце уперад,—ведаў Сёмка,—агарожа, за ёй—вёска. Раптоўна ў вёсцы пачулася п'яная польская песня, зарыпеў гармонік. Партызан азірнуўся. У цемені мільганула чалавечая постаць. Яна знікла за густым кустом. У гэты час бліснула маланка, у сінім святле Сёмка выразна ўбачыў людзей, якія паўзлі да яго.

„Сволачы, зловяць“,—мільганула думка. Ён хацеў бегчы, але крыкі спынілі яго.

— Стой!

— Ні кроку наперад!

Кашлянулі затворы вінтовак і ў шуме ветру грымнуў залп. Над галавой Сёмкі свіснулі кулі.

Тады Сёмка лёг за ўзгорачак, паклаў на яго вінтоўку, пачаў адстрэльвацца. Уцякаць не было куды: ён быў акружан.

* * *

— Вядуць, вядуць!

Папоўскі сын, таўсты, як навой, узлез на агарожу, каб лепш разгледзець палоннага, якога вялі вуліцай вёскі. Палоннік быў яшчэ зусім малады, бязвусы, з сінімі іскрыстымі вачыма. Ішоў ён павольна і канвойнікі падганялі яго, б'ючы прыкладамі ў спіну.

Ён маўчаў.

Канвойнікі лаяліся, плявалі на дарогу, а той, што ішоў заднім, штохвіліны абмацваў рэмень, якім былі скручаны рукі палоннага. Твар нявольніка быў у крыві, яна капала з разарванай штыхом правай шчакі. І жанчына, якая ішла па ваду, убачыўшы гэты малюнак, атарапела.

— Ды гэта-ж Сёмка Лазуноў!—ад нечаканасці ўскрыкнула яна. Партызан паглядзеў на яе і прыпыніўся. Ён, як відаць, хацеў нешта сказаць гэтай жанчыне. Але гаварыць яму не далі. Задні стукнуў яму прыкладам у спіну так, што Сёмка захістаўся, але на нагах устаяў.

— Ідзі, пся-крэў!—крыкнуў капрал.

Сёмка, перамагаючы боль, ступіў крок, два, але потым, страціўшы роўнавагу, рухнуў на дарогу. Яго білі. І капрал, надрываючыся, загадваў яму ісці ўперад.

Але ён маўчаў.

Біць перасталі. Жаўнер паспрабаваў яго падняць, але збіты да поўсмерці партызан не ўстаяў на нагах, зноў паваліўся.

Тады капрал сказаў:

— Трэ' будзе прыгнаць двуколку.

Але нечакана партызан устрапянуўся, адкрыў сінія вочы. Да яго зноў вярнулася жыццё. Расставіўшы ногі, ён нейк нязграбна падняўся і гэтак-жа нязграбна, хістаючыся з боку ў бок, пайшоў наперад.

Чалавек не ведаў, куды яго вядуць. Але ён адчуваў адно: чым хутчэй ён дойдзе, тым хутчэй скончацца гэтыя здзекі.

Ён выплюнуў з рота згустак крыві, паглядзеў на яго і сказаў:

— Сволачы! Калі-небудзь і вы гэтым харкаць будзеце... За ўсё адкажаце...

Яго ўдарылі ў спіну, але ён ішоў ціха, утаропіўшыся ў дарогу, як сляпы. Перад яго вачыма мільгалі рознакаляровыя кругі, некуды ўбок плыла зямля. І ён няясна, як у сне, прыпамінаў нядаўняе, якое ў гэты час было для яго цьмянай плямай. Ён успомніў пра лес, таварышоў і тады... тады ён, як ніколі, захацеў жыць. Але ён не пабег зноў, у яго не было ўжо сіл.

Папоўскі сын саскочыў з агарожы, адчыніў калітку двара. Канвойнікі моўчкі правялі ў двор палоннага і замкнулі ў свіран. Капрал пайшоў у дом папа. Там, у невялікім пакоі, за дубовым сталом, сядзеў паручык Юзэф Бжэзінскі. Паручык усміхнуўся капралу, які глядзеў на яго, як глядзіць сабака на свайго гаспадара, у руках якога—кавалак хлеба.

— Вітаю вас, Вінцэсь!—сказаў Бжэзінскі:—Я прадстаўляю вас вышэйшаму начальству для ўзнагароды. Вы добра пачалі гэтую рызыкоўную справу. Па-першае, вы ведаеце, нам абавязкова патрэбна знішчыць атрад Лясуна. Такі загад... За галаву Лясуна, мёртвую ці жывую, даюць тры тысячы злотых...

Правы зжаўцелы вус капрала раптоўна ўзняўся.

— Але, але справа гэта рызыкоўная. Лясун—хітры партызан. Яго трэба знішчыць хутка, бо чырвоныя распачалі наступленне... Зараз скажыце, дзе вы злавілі гэтага?

— Гэтага бальшавіка я заўважыў на балоце, стоячы ў сакрэце. Мы паўзлі па яго следу аж да самай вёскі... Там яго і захапілі.

— Тэкс... А зараз вядзіце палоннага да мяне.

* * *

Паручык дзівіўся: як гэта так! Палоннага дапытваюць трэці дзень, а ён адмоўна ківае галавой і кажа: „не, нічога не ведаю. Я шукаў каня". І толькі.

Між тым, усе факты як на далоні. Апроч таго, на шапцы Сёмкі Лазуна была пяціканцовая зорка і ў яго адабралі вінтоўку, з якой ён адстрэльваўся, пакуль не вышлі ўсе патроны. Што яшчэ трэба? Трэба, каб злачынца прызнаўся і акупіў „свой грэх"—паказаў месцазнаходжанне партызанскага атрада. Але злачынца маўчыць.

Паручык паклікаў капрала і, бегаючы па пакоі, амаль закрычаў:

— Я прымушу! Ён у мяне загаворыць.

Капрал павярнуўся і моўчкі вышаў.

Паручык яшчэ доўга бегаў па пакоі, пасля з куфэрка дастаў валер'янавых кропель, накапаў у лыжку (колькі—не лічыў) і выпіў. Твар яго зморшчыўся, як кіслы гурок. Паручык плюнуў на падлогу. Праз некаторы час ён крыху супакоіўся.

Юзэф Бжэзінскі прайшоў у кухню, дастаў там бутэльку і з горла выпіў палову. І, як не дзіўна, настрой паручыка зусім не змяніўся. У яго з'явілася дзікая злосць. Ён гатоў быў разнесці ўсё, але адчуваў бяссілле і таму яшчэ больш злаваўся...

— Ён у мяне будзе на каленях поўзаць! Я загадаю!..—крычаў паручык і бегаў з кута ў кут...

Можа хвілін праз пяць прывялі Сёмку. Ён паўстаў перад паручыкам, як здань, маўклівая і таямнічая. На твары Сёмкі Лазуна запеклася густая кроў, пад вачыма—пачарнелыя кругі,—сляды ўдараў. Але сінія вочы іскрыліся.

Паручык прыступіў да справы.

— Ты, лайдак, ведаеш пра партызанаў. Гавары—дзе яны?!

Маўчанне.

— Ага, дык ты так? Адмоўчвацца задумаў. К расстрэлу! Выбірай з двух адно: або жыць, або ляжаць у зямлі, дзе цябе хутка з'ядзяць чэрві...

Раптоўна дзверы адчыніліся і ў пакой убег перапалоханы капрал. Ён пачаў шаптаць на вуха паручыку:

— Пане паручык, абоз... абоз, што з гораду ішоў, захоплен атрадам Лясуна ў Старым бары... Сержант Скоблеўскі ледзь выратаваўся.

Сёмка Лазун пабялеў. Але вось у яго вачах загарэліся новыя дзіўныя агеньчыкі. Ён зрабіў два крокі ўперад і сказаў:

— Чорт з ім!.. Правяду вас...

***

Шуміць бор працягла і глуха. Гне вецер кудлатыя вяршыні дрэў—і спявае бор, сумна спявае.

А лясной дарогай, адбіваючы такт, крочыць атрад Бжэзінскага. Уперадзе паручык, а непадалёк ад яго—згорблены пасінелы Сёмка. Босыя ногі сёмкавы парэзаны аб каменне; шэрая суконная світка, закарэлая ад крыві, матляецца на яго схуднелых плячах. Яму цяжка ісці. Ён гатоў зараз упасці і, распластаўшыся, ляжаць... Яго падганяюць, а паручык палахліва сіпіць з боку:

— Глядзі-ж, лайдак, калі што—кулю ў лоб!

Сёмка ўспамінае... Быў вечар. У свежым паветры, напоеным пахам чарэшань, толькі гулі майскія жукі. Сказаў тады, адыходзячы, Лясуну: „Або смерць, або аб усім даведаюся".

Глянуў угару. Вяршыню хвоі заядла дзёўб дзяцел, сойка нырхала з дрэва на дрэва. А на сэрцы Сёмкі ляжаў цяжкі клубок, спірала дыханне...

З дарогі звярнуў у зараснікі. Павярнуўся, сказаў паручыку:

— Сюдою. Тутака хутка балота будзе, дык за ім, на востраве.

Атрад ідзе лесам. Але вось пачалася нізіна. Лес раптоўна парадзеў. Над зямлёю тут слаўся густы туман і атрад спыніўся:

— Куды ты вядзеш нас?—запытаў паручык у Лазуна.

— Трэба прайсці гэтае балота. За ім—востраў... Там хаваецца Лясун.

— Глядзі-ж,—паручык пагразіў рэвальверам.

Пайшлі. Пачалося іржавае балота, грузлі па калені...

Каля хвоі, на якой былі насечаны крыжы, Сёмка спыніўся. Ён ведаў—далей ісці нельга. Узняўшы галаву, ён прагна удыхаў паветра.

— Ты чаго?—прасіпеў паручык.

— Я не пайду далей,—сказаў Сёмка.

— Чаму?

— Зараз тое...

— Што?

— Зараз той востраў... Яны мяне заб'юць, калі толькі ўбачаць... Я не пайду першым...

„Нарэшце-ж... Тры тысячы злотых, павышэнне"'—мільганула ў галаве паручыка. Ён узвёў курок рэвальвера і крыкнуў:

— Напшуд!

Жаўнеры кінуліся наперад, у туман і... Пазелянелая, пакрытая цвіллю дрыгва расступілася пад іх нагамі. Жаўнеры ўлезлі ў яе адразу па пояс... На іх тварах быў жах, яны пакідалі вінтоўкі і намагаліся вылезці, але дарэмна: зялёны мох правальваўся пад рукамі і яны ўсё глыбей танулі ў багну.

— Куды ты завёў нас?—крыкнуў паручык Лазуну.

— Куды трэба... Куды думаў завесці... У Багну Смерці... Ніводзін з вас ужо не выйдзе адсюль...

На хвіліну Сёмка ўбачыў, як паручык скочыў на купіну. Яна разваліласся. Бжэзінскі ўзмахнуў рукамі. Пад ім расплывалася багна.

— Матка боска!.. Дапамажыце!—крычаў паручык, але над ім стаяў толькі густы туман, а дзесьці ўводдалі глуха шумеў бор.

Вёска Папаратнае, Жлобінскага раёна.

---

*Да 125-годдзя з дня нараджэння вялікага украінскага паэта.*

## ТАРАС ГРЫГОРАВІЧ ШЭЎЧЭНКА

* * *

Браты, прашу я прыгадаць,
Пра тое, што-б не знаць ніколі,
Як давялося выглядаць
І вам і мне з-за крат на волю.
Мы пэўне думалі: „Калі
Ізноў мы сойдземся на раду,
Шукаць адказу і параду,
Як жыць зубожанай зямлі“.
Ніколі, як відаць, ніколі
З Дняпра мы разам не пап'ём.
Разойдземся і разнясём
Ў лясы, у стэп сваю нядолю,
Паверым яшчэ трохі ў волю,
А потым жыць сабе пачнём.
Між людзьмі, як людзі.
Покуль тое-ж будзе,
Любіцеся, браты мае,
Украіну любіце,
За гаротную яе
Госпада маліце.
І яго забудзьце, другі,
І не праклінайце,
І мяне ў няволі лютай
Часам прыгадайце.

Орская крэпасць 1847 г.

## О, ДУМЫ, ДУМЫ, О, СЛАВА ЗЛАЯ

О, думы, думы, о слава злая!
За вас марнею ў чужым я краю,
Нясу пакуты, але не каюсь!..
Люблю як жонку, як бацька сына,
Як бесталанную люблю Украіну.
Рабі, што хочаш з цёмным, са мною,

Толькі не кідай. У пекла з табою
Пакандыбаю . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты прывітала
Нерона лютага, Сарданапала,
Ірада, Каіна, Хрыста, Сакрата.
О непатрэбная! Кесара-ката
І грэка добрага ты палюбіла
Усіх аднолькава, бо заплацілі.
А я убогі, што прынясу я?
За што-ж ты, слава, мяне цалуеш?
Хіба за песню „Ой, гаю, гаю!“
І не такія дарма спяваюць!
І дзіўна й нудна, як памяркую,
Што галовамі люд рызыкуе
За тое дзіва. Як псы грызуцца
Браты з братамі. Што-б схамянуцца...
Бо тое дзіва—у шынку паганым
Пакрытка, браце, між людам п‘яным.

Орская крэпасць.

* * *

Адзін другога мы пытаем:
„Нашто нас маці прывяла
Ці для дабра, ці то для зла,
Нашто жывём? Чаго жадаем?“
І не дазнаўшыся ўміраем,
Якая-б справа не была...

Што я пакіну, божа мілы,
На суд патомкаў на зямлі?
Хай тыя-б дзеці не раслі,
Цябе, святога, не гнявілі,
Якіх ў няволі нарадзілі
Бацькі, і ў стыд цябе ўвялі!..

Орская крэпасць, 1847.

* * *

Самому дзіўна. А дзе-ж дзецца?
Што тут рабіць, з чаго пачаць?
Людзей і долю праклінаць?
Не варта. Жыць так, як жывецца,
Сярод чужых чужому жыць?
А што закутаму рабіць?
Каб мог кайданы перагрызці,

Я-б грыз. Ды не, няма карысці,
Не тыя кавалі кавалі,
Не так жалеза гартавалі,
Каб перагрызці. Гора нам,
Нявольнікам і сіратам,
У стэпу бяскрайным за Уралам.

Орская крэпасць.

* * *

Ой строчачку за строчачкай
Мярэжкаю тры ночачкі
Шыю, шыю, вышываю,
У нядзелю пагуляю.
Ой, плахтачка-чэрвчатачка
На дзіва ўсім дзяўчатачкам,
Ой, на дзіва яна й вам,
Запарожцам-казакам.
Глядзіце, заляцайцеся
А з іншымі вянчайцеся:
Падаваны рушнікі...
Вось як будзе, казакі!

Орская крэпасць 1847 г.

*Пераклаў М. КЛІМКОВІЧ*

* * *

І на чужыне я ўзрос
І на чужыне я сівею,
І даў мне ў адзіноце лёс
Здаецца—лепшую надзею
Дняпро—што лашчыць сэрца нам,
Ды нашу слаўную краіну.
Аж бачу—добра толькі там,
Дзе нас няма. Ліхой гадзінай
Мяне да дому пацягло
І я наведаў Украіну,
І тое светлае сяло,—
Дзе колісь маці спявівала
Мяне малога, і ўначы
На свечку богу зарабляла;
Паклоны цяжкія б'ючы
Прачыстай ставіла, маліла,
Каб доля добрая любіла
Яе дзіця... О, маці, маці,
Чаму ты рана спаць лягла!

Ато-б ты бога пракляла
За сынаў лёс.
                Адны няшчасці
У тым сяле, што я люблю:
Чарней за чорную зямлю
Блукаюць людзі; паўсыхалі
Сады; і хаткі пагнілі,
Гнілыя да зямлі прыпалі;
Ставы бур'янам параслі.
Сяло, нібыта, пагарэла,
Нібыта, людзі падурэлі,
На паншчыну нямыя йдуць
І дзетачак сваіх вядуць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І я, заплакаўшы, назад
Ізноў паехаў на чужыну.
І не ў адным сяле такім,
А скрозь па слаўнай Украіне
Паны ярмо надзелі ўсім
Працоўным людзям. Гінуць, гінуць
У ярме тым рыцараў сыны,
А чорным гандлярам паны,
Братам сваім прадаць спяшаюць
Ужо людскія лахманы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нядобра дужа, страх нядобра—
Тут у пустыні прападаць.
А горш яшчэ на Украіне
Глядзець і плакаць,—і маўчаць.

А як не бачыш тога ліха,
То скрозь, здаецца, люба, ціха;
І на Украіне добра скрозь;
Між белых гор стары Дняпро
Нібыта ў малацы хлапчына,
Красуецца, любуецца
На ўсю Украіну,
А па-над ім зелянеюць
Шырокія сёлы;
А ў тых сёлах, у вясёлых
І народ вясёлы.
Яно-б можа так збылося,
Каб не засталося
Слядоў панскіх на Украіне!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1848 г. Кос-Арал.

* * *

Зноў з Украіны не чуваць
Мне з новай поштаю нічога!
За справы грэшныя, відаць,
Караюся суровым богам
Тут у пустэчы. Не, не мне
Разгадваць божыя парадкі:
І знаць не хочацца іх мне!..
А сэрцам плачу я ад згадкі
Пра невясёлыя выпадкі
З дзён невясёлых па вясне,
Што праняслісця нада мною
Там на Украіне маёй.
Бажыліся Вы быць са мной,
Браталіся не раз са мною,
І зніклі хмар тых чарадой
Без слёз, што я заву расою
Святой. І давялося мне
Людзей на старасці... Не, не!
Яны з халеры паўміралі—
А то-б шматок хоць пераслалі
Тае паперы . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ой з журбы тае, ды з жалю,
Каб не бачыць, як чытаюць
Лісты тыя, пагуляю,
Пагуляю, каля мора,
Паразвею сваё гора,
Украіну прыгадаю,
Ды песеньку заспяваю.
Людзі скажуць, людзі здрадзяць,
А яна, яна парадзіць,—
І парадзіць і развважа,
І ўсю праўданьку мне скажа.

1848 г. Кос-Арал.

* * *

Тут у няволі я не маю
З кім сэрца ў згодзе паяднаць;
Кагосьці сам сабе шукаю,
Каб з ім пацішу размаўляць.
Шукаю бога,—светлай хвілі,
Знаходжу-ж—лепш і не казаць!
Вось што гады з мяне зрабілі
Ды горкі лёс! Ды яшчэ тое,
Што лецечка маё святое
Мінула хмарна, што не знаю,

Які выпадак з дзён тых маю,
Што-б мог часамі прыгадаць.
Душу-ж патрэбна разважаць,
І ёй так хочацца, так просіць,
Хоць слова цікага... не чуць!
І нібы ў полі снег заносіць
Яшчэ не адранцвеўшы труп.

1848 г. Кос-Арал.

* * *

Ой памёр стары мой бацька
І старэнька маці,
І няма каму мне шчырае
Тае радачкі даці.
Як жыць мне на свеце?
Ці дома нудзеці?
Ці йсці ў людзях жыці—
На чужых рабіці?

Ой пайду я ў гай зялёны,
Пасаджу я руту—
Як узыйдзе мая рута—
Застануся тута:
Прыдзе любы ў маю хату
Гаспадарыць будзе;
А не прыдзе, дык пайду я
Шукаць долі ў людзі.
Узыходзіць тая рута,
Гаем зелянее,—
А дзяўчына-сірацiна
У наймах марнее.

1848 г. Кос-Арал.

*Пераклаў* А. КУЛЯШОЎ.

*М. Хазан*

# МАЛІТВА Ў ПУСТЫНІ

У форта на острове Кос-Арале, где занимали гарнизон уральские казаки, вышли мы на берег...

Пасля доўгага плавання Аральскім морам, экспедыцыя вярталася на востраў.

Тарас Грыгоравіч сышоў на бераг апошнім, з скрынкай у руцэ. Прыклаў далонь да ілба, нібы казырок, і паглядзеў наўкола. Спераду сінела крэпасць на плоскім узвышшы, блісцеў пад пахмурым небам купал пахілай каменнай царквы. А з правага боку, за фартом, слалася попельная зямля ў лілаватай нябеснай аправе.

Пранеслася шызая хмарына над галавой. Зрабілася сумна, нясцерпна сумна. Кінуў погляд на хвалістае мора. Ён рынуўся-б у бездань, абы толькі не вяртацца да крэпасці.

Ішоў павольна, стомлены, аброслы, з доўгай, як лапата барадой. Уральскія казакі з мясцовага гарнізона здзіўлена пазіралі на яго, а плячысты есаул глядзеў на Тараса Грыгоравіча сінімі вачыма, махнуў доўгімі рукамі і перахрысціўся.

— Мучанік за веру!

Есаул таропка падняўся з зямлі, струсіў пыл з выцвілага мундзіра і рушыў услед за Тарасам Грыгоравічам. Убачыўшы ў скрынцы каляровыя малюнкі, аж падскочыў ад здзіўлення.

— Ён! Ён!

Сіні далягляд. Даль нібы наблізілася і ўжо ясна відаць было казармы, цэйхгаузы. Тарас Грыгоравіч спыніўся, паправіў пояс на кашулі. Азірнуўся назад і прыкмеціў гурбу казакаў, якія ішлі запарошанай дарогай. Яны ішлі, трымаючы шапкі ў руках, бледныя, засмучаныя. Так ходзяць толькі арыштанты, альбо хворыя. Тарас Грыгоравіч павярнуўся да плячыстага есаула, які нахіліўся ў гэтую хвіліну.

— Чы не лютуе ў вас якая-небудзь пошасць?

— Усё добра, дзякаваць богу,—праказаў цвёрда есаул, нібы аддаваў рапарт.

Адпачыўшы, Тарас Грыгоравіч рушыў далей і здзівіўся, пачуўшы ззаду знаёмыя крокі. Знячэўку есаул абагнаў яго, потым затрымаўся, крочачы на адлегласці пляча.

Тарас Грыгоравіч з-пад ілба паглядаў то на есаула, то на казакаў, якія шапталіся між сабою і хрысціліся.

У суправаджэнні цэлага гарнізона, Тарас Грыгоравіч наблізіўся да зялёнай сцяны чароту. Ён ніяк не мог зразумець, чым ён прывабіў казакаў. А яны часта забягалі наперад, набожна ўзіраліся ў засмяглы твар і, асабліва, на густую, русую бараду. Сустрэўшыся з маўклівым поглядам есаула, Тарас Грыгоравіч на міг задумаўся і ледзь не выпусціў з рук скрынкі. У галаве мільганула здагадка. Ён цураўся яе, адганяў, а яна зноў выплывала, як фенікс. Нарэшце яна перамагла. Пераканаў жоўтаваты карабін на плячы есаула, яго сціснуты кулак. Так, бясспрэчна, есаул хоча яго арыштаваць. Але за што? Можа за тое, што маляваў на Аральскім моры? Выпрастаўся, прыскорыў хаду. Але ўцячы не ўдалося. Ды куды і ўцякаць? Есаул ідзе следам. А казакі, што дасюль крочылі нясмела, цяпер ішлі ўжо ланцугом, нібы бралі яго ў кальцо.

— Ускочыў у бяду, як курыца ў боршч!

Адважыўся ўжо на ўсё. Намерыўся нават падысці да есаула, спытацца ў яго, навошта яны разыгрываюць з ім камедыю. Але нечакана перарашыў. Няхай робяць, што хочуць, а ён сам не дасца ў рукі. Ён ужо забыў, куды ідзе. Нічога не бачыў перад сабою. Чакаў толькі той хвіліны, калі спыніць яго есаул. А гэта хвіліна настала.

Ля высокага чароту, які лапацеў нібы крыллі, есаул загарадзіў Тарасу Грыгоравічу дарогу, лагодна міргнуў яму і пайшоў у зараснік. Тарас Грыгоравіч насупіў бровы, выпрастаўся і паплёўся за плячыстым есаулам. Куды ён яго вядзе? І чаму ён ідзе першым?

Завёўшы Тараса Грыгоравіча ў густы чарот, есаул упаў на калены, скрыжаваў на грудзях рукі з кароткімі пальцамі і, пакланіўшыся, загаласіў:

— Благаславіце, бацюшка! Мы ўжо ўсё ведаем!

Тарас Грыгоравіч ледзьве не аслупянеў. З хвіліну ён стаяў моўчкі, не мог вымавіць ані слова. Апамятаўшыся, ён варухнуў сухімі губамі. Горла душыў смех, але ён не выказаў гэтага. А есаул, не пачуўшы і слова ў адказ, падпоўз да Тараса Грыгоравіча і стаў цалаваць яму рукі. На сініх хітраватых вачах застылі дзве круглыя слязы.

Тарас Грыгоравіч цяпер ужо ўсё зразумеў. Хацелася смяяцца, але стрымліваў сябе. Што падобнага ён мае з папом. Барада, густая барада...

Есаул, стоячы на каленах, зноў убачыў малюнкі. Бясспрэчна— абразы. Ціхім, лагодным голасам прамовіў:

— Не тойцеся, бацюшка, благаславіце.

Тарас Грыгоравіч адкашляўся, каб не пырснуць смехам, падняў руку ўгору, сагнуў тры пальцы і, перахрысціўшы есаула, зацягнуў басам:

— Гос-па-а-адзі міласэрны...

Расчулены есаул чыстым краем рукава выцер слёзы і, разняўшы кулак, паднёс Тарасу Грыгоравічу на далоні, хрусткую сіняватую паперку.

Тарас Грыгоравіч адвёў руку есаула.

— Я грошай не бяру.

Гэта бескарыслівасць да краю ўзварушыла есаула. Ён яшчэ з большым захапленнем стаў цалаваць руку, чмокаючы ў яе шурпатымі, тоўстымі губамі.

З мора падзьмуў халодны вецер, засвісцеў чарот, нібы зайгралі тысячы дудак. Чорныя хмары апускаліся усё ніжэй, звузіўшы даляглял. Раптам замігцела ў вачах. Шуганула маланка, перакрыжавала неба. Тарас Грыгоравіч узяў скрынку і, глянуўшы на неба, сказаў:

— Благаслаўляю на дождж.

Паволі вярталіся на дарогу, прабіраючыся цераз густы зараснік. Есаул ішоў спераду, доўгімі рукамі рассоўваючы высокія пераблытаныя сцябліны. Вышаўшы з чароту, Тарас Грыгоравіч зусім анямеў. Уздоўж дарогі, якая вяла да крэпасці, стаяў на каленах, без шапак, увесь гарнізон, выцягнуўшы наперад рукі. На момант яму здалося, што казакі нацэліліся са стрэльбаў на есаула. Хацеў абмінуць казакаў, але кірпаты салдат раптам падаўся наперад і рвануў з рук д аўляную скрынку. Паставіў яе каля ног, зноў стаў на калены і ўпрашальна праказаў:

— Благаславі, айцец, мы ўсё ведаем!

Тарас Грыгоравіч разгладзіў густую русую бараду і разгублена павёў вачыма. Ён паглядзеў на доўгую шарэнгу казакаў, якія стаялі на каленах. Ніколі яны пэўна і генерала так урачыста не сустракалі. Раптам аблічча яго зрабілася сумным. Сышліся бровы і бліснулі вялікія шэрыя вочы. Яму стала балюча за казакаў. Уся карціна пад пахмурым небам на дарозе, удзельнікам якой ён быў, здалася дзіўнай марай. Хацелася ўцячы адсюль. Казакі нібы адчувалі гэта. Непрыкметна бралі ў кальцо Тараса Грыгоравіча. Кірпаты казак знячэўку выняў з кішэні драўляны крыж і ўклаў у руку Тарасу Грыгоравічу.

— Не гневайцеся, бацюшка, благаслаўляйце!

Тарас Грыгоравіч не сцярпеў, сказаў, павёўшы плячыма:

— Я-ж не поп!

Але казакі і слухаць не хацелі. Яны раўлі, тоўпіліся ля яго, прыціскалі шапкі да грудзей.

— Благаслаўляйце, мы ўсё ведаем.

— Мы пяць гадоў ужо не прычашчаліся.

Далей ухіляцца ўжо было немагчыма. Тарас Грыгоравіч махнуў крыжам і ён бліснуў нібы металічны. Зацягнуў малітву і ўзнік чамусьці ў гэтую хвіліну перад вачыма кірылаўскі дзяк, які вучыў яго малітвам. Вадзіў крыжом і прычытваў:

— Уміленіе душы, сокрушэніе сердзечное і возпікновеніе ко іспраўленію. Жыція воспрымут...

Казакам падабаўся чысты, звонкі голас. Ад задаволення на вачах бліснулі слёзы.

— Ад нас не схаваецеся,—шаптаў за спіною Тараса Грыгоравіча кірпаты казак, міргаючы выцвілымі брывамі.

Тарас Грыгоравіч прычытваў, але з кожнай хвілінай рабіўся ўсё больш сумным яго голас. Ён не мог без болю глядзець на даверлівых „грэшнікаў“. Аб чым марылі яны? На што спадзяваліся? Іх закінулі ў пустыню, у шырокую турму на Аральскім

моры, зрабілі іх напоўдзікімі людзьмі. Сонца спапяліла іхныя валасы. Жоўтыя запалыя шчокі выглядалі, як вялікія высмактаныя лімоны. Тарас Грыгоравіч забыў пра малітву. Думкі яго памкнулі за мора, за сіні далягляд. Паглядзеў на казакаў і змоўкнуў. Прыгадаў Яна Гуса. Вось так, пэўна, і ён стаяў перад чэхамі,—прыгнятальнікам грозіў, просты народ заклікаў прачнуцца, рукі распрастаць і накіп змыць.

Апамятаўся. Казакі стаялі наўкола яго, чакалі. І зноў бліснуў крыж і палілася гарачая малітва. Ніколі не чулі такой малітвы ўральскія казакі.

— ... Змагаймася і спадуць кайданы і святы цуд убачуць вочы невідушчыя. Малюся за людзей, нябесны цар, а ведаю, што суд твой всуе і всуе царства твае. Амінь!

Ударыў гром. Ён нібы раскалоў хмары і на спапялелую зямлю ўпаў густы, буйны дождж.

Тарас Грыгоравіч падняў скрынку і, зварушаны, пайшоў да крэпасці. Уначы ён пагаліў бараду.

*З украінскае мовы.*

---

## ДУБ

За Бахмачам хлынуў лівень, а тут слаўся сухавей, курыўся стэп, і звінеў кавыль. Усё наўкола мігцела, трымцеў далягляд, і дарога, усланая пяском, зіхацела, нібы пакрытая намараззю.

Даніла нэрвова крочыў уздоўж шляху і не зводзіў вачэй з далёкага ветрака. Яму ўсё здавалася, што зараз ён пачуе тупат, узнімецца пыл і заблішчаць шаблі знаёмых коннікаў. Ён і да зямлі прыпадаў вухам, чуў яе гарачы подых, шапаценне апаленых траў, але ні цокату капытоў, ні грукату колаў не чуў. Павольна Даніла пайшоў да гурту сялян, які стаяў ля прыбранага стала. Поверх чырвонага фартуха з сінімі кветкамі ляжаў круглы жытні хлеб. Зямля патыхала гарачынёй—і здавалася, што хлеб толькі хвіліну таму назад вынялі з печы.

Сяляне нічога не гаварылі, але ўсе разумелі адзін аднаго і па абліччах чыталі неспакойныя думкі, трывожна пазіралі на Данілу. А ён, Даніла, маўчаў, намагаўся схаваць сваю трывогу і аддаляўся ад гурту. Адна думка вастрэй за другую пранізвала мозг. А што калі таращчанцы спозняцца? З Іваніцы вылецяць чорныя груганы і тады... Даніла ўтаропіў вочы ў далячынь, чакаў.

Сустракаць таращчанцаў прышлі старыя з кіямі ў руках, змораныя юнакі з вінтоўкамі на плячах, жанчыны з матыкамі—прышлі проста з агародаў. Пакінуўшы жывёлу ў стэпу, прыбеглі пастухі з доўгімі батагамі. Жвавы хлопец—парафіеўскага каваля сын—дапытваўся:

— Даніла Фёдаравіч, свята, ці вяселле будзе?

Даніла, не гледзячы на хлопца, адказаў:

— І свята, і вяселле,—усё разам.

— Акафіст спраўляць будзем,—жартуючы, дадаў хтосьці з старых,—бацюшку чакаем.

Раптам ззаду пачуўся тупат. Сяляне, павярнуўшыся, разглядзелі абрысы незвычайнага конніка. Ён чамусьці зіхацеў,—здавалася, ён раскідае слепячыя іскры. Праз хвіліну ля стала спыніўся засопшыся гнеды конь. Выблытаўшыся са стрэмені, злез дзіўны коннік у доўгай залацістай рызе з крыжом у руках.

Старыя ад здзіўлення перахрысціліся і павольна вышлі наперад.

— Айцец Тэафіл,—пачулася з гурту.

— Ён і ёсць,—працягнуў поп, з сумам у голасе. Адкашляўшыся ў сваю даўгую бараду, казаў далей:—Хрысціяне, сам бог прыслаў мяне, каб выратаваць вас. На стале ляжыць свяшчэнны хлеб. Хто парадзіў яго? Божая зямля. Чаму-ж вы ахвяруеце гэты хлеб антыхрыстам?

Поп змоўкнуў. Пранізлівым поглядам абвёў прысутных, а потым казаў далей:

— Ці не лепш, людзі святыя, узяць гуртам гэты стол і перанесці яго на прылуцкі шлях? Успомнім, гэта-ж адтуль калісьці ехаў цар-бацюшка, адтуль ідуць цяпер нашы...

У гурце накіпала абурэнне. Хлопец з вінтоўкай, што стаяў поруч Данілы, сціснуў кулакі:

— То нашы вызваліцелі ідуць. Нашы вунь адтуль ідуць,—і ён паказаў на ічэнскі шлях.

Поп хацеў адказаць, але Даніла ўзмахам рукі спыніў узнёслага прамоўцу. Пераймаючы яго басісты голас, Даніла сказаў:

— Ба-цюш-ка, павяртай аглоблі. Матыкі бачыў?

— А вінтоўкі?—дадаў чарнявы юнак.

І якраз над ветраком узняўся пыл, пачуўся свіст, замігцелі срабрыстыя лёзы шабель, чырвоныя істужкі. Даніла ад радасці падкінуў шапку да неба. Пастухі ўзнялі батагі. Заблішчэлі матыкі. Група сялян узяла стол і панесла насустрач сваім незнаёмым прыяцелям.

Таращанцы ехалі па чатыры ў шарэнгу. Над імі мігцеў, як палаючы сноп, сцяг з доўгімі істужкамі. Ехалі змораныя, з раскудлачанымі валасамі, у запыленых кашулях. Спявалі бадзёрую песню.

Першым злез з каня прысадзісты, шырокаплечы камандзір з рудаватай барадой. Ён па бацькоўску абняў Данілу дужымі рукамі, пацалаваў яго ў засмяглыя губы.

— Малайчына!—сказаў ён гучна прыемным, цвёрдым голасам і пакланіўся прысутным. Прыкмеціўшы ў гурце збянтэжанага папа, камандзір павёў плячыма.

Узяўшы ў рукі хлеб, камандзір таращанцаў уважліва разглядаў яго, потым падняў угору, як сцяг.

— Вось за гэты хлеб і ваюем, з усякай сваллатою. Хай-жа хлеб гэты будзе знакам таго, што ўся зямля, якая родзіць хлеб і шчасце, будзе належаць нам, людзям з мазольнымі рукамі. У бой за нашу слаўную справу, уперад!

Сказаўшы гэтыя словы, Бажэнка ўскочыў на каня і атрад рушыў. Даніла сядзеў на паповым кані. Ён ехаў побач з Бажэнкам

і не зводзіў вачэй з яго, хацеў убачыць багата, багата чаго. Камандзір маўчаў і Даніла не стрымаўся, спытаў:

— Вось сёння Трасцянец возьмем, а далей?

— А далей на Прылукі.

— А пасля Прылукаў?

— Яшчэ далей.

— А потым?

— Потым усю Расію пройдзем і савецкую ўладу ўмацуем. Жыццё зробім як песню.

— А якое?

— А такое, што весела будзе, зацвітуць палі і сады, заспяваюць людзі, будзе музыка, а не жыццё.

Даніла ад радасці хацеў кінуцца да Бажэнкі і пацалаваць яго за гэтыя харошыя словы. З грудзей вырвалася:

— Будзе як у Шаўчэнкі: ажывуць вясёлыя сёлы і людзі...

Бажэнка паклаў сваю важкую руку на плячо Данілы:

— Яшчэ прыгажэй, сынку, будзе. Як у Леніна напісана.

Ля Качанаўкі спыніліся... З правага боку пайшоў да далягляду сіні лес, а ля яго ног ляжала каймой зеленаватая сажалка. З лесу выляцела куля і праляцела над Данілам.

— Ужо і мухі пачынаюць лятаць,—сказаў Бажэнка,—сцеражыся, братва, бо можа ўкусіць.

Неўзабаве прыбылі таращчанскія разведчыкі. Яны расказалі Бажэнку, што ў Качанаўцы стаіць гетманская разведка, уезд прыкрываюць кулямёты. Камандзір спакойна выслухаў данясенне, вызначыў дваццаць двух байцоў, у тым ліку і Данілу, паправіў на плячы свой „Льюіс“, махнуў рукой і коні пайшлі наперад.

На краю сяла, каля доўгіх дубовых прысадаў атрад спыніўся. Гетманскі кулямётчык, хаваючыся за кузняй, адкрыў шалёны агонь. Таращчанцы адстрэльваліся, але ўсё дарэмна. Бажэнку гэта абрыдала.

— Не плюйцеся, сволачы!—і з усяе сілы кінуў гранату. Над кузняй павіс шызы дым. Не выпускаючы „Льюіса“, Бажэнка паліваў кулямі гетманцаў. Нарэшце сціхнуў варожы кулямёт. Таращчанцы з крыкамі „ура“ кінуліся да кузні. Спалоханыя гетманцы разбегліся, хто куды. Бажэнка яшчэ доўга злаваў:

— Не кулямі, а пугай, ламакай трэба гнаць такіх ваякаў.

Вараны доўгагрывы конь вынес Бажэнку на невялічкі пляц, у гушчу гетманцаў. „Льюіс“ касіў іх бязлітасна, гнаў назад на Іваніцу. Таращчанцы праследвалі іх і не давалі ўцякаць жывымі.

Толькі праз колькі часу, заўважыўшы, што за камандзірам стаяць усяго дзесяць коннікаў, група гетманцаў кінулася ў густы парк, каб там умацавацца для контратакі. Бажэнка іх здаганяў. Уз'ехалі ў квітнеючы парк. Ад тупату і стрэлаў падалі тугія чырвонабокія яблыкі. Прамінулі шырокія каштанавыя прысады, і шапкі байцоў укрыліся бялявым пухам. Павярнулі направа, у напрамку да высокага, каменнага будынка. Гетманцы, схаваўшыся за плячыстым дубам, зноў адкрылі агонь. Здрыганулася магутнае вецце.

Раптам узняўся ўгору партрэт чалавека з шырокімі густымі ву-

самі. Тарашчанцы пачалі страляць па дубу. Даніла, што стаяў поруч Бажэнкі, спахмурнеў:

— Шкада мне дуба, таварыш камандзір.

Бажэнка не зводзіў вачэй з дрэва. Ён быў увесь у напружанні, рукі трымцелі, шпарка бегалі вочы.

— Страляй, вырастуць новыя дубы.

— А такога не будзе,—страляючы па гетманцах, уставіў Даніла.

— А на ім што, хіба кара святая?

— Дуб сур'ёзны. Пад ім уласнаручна Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка вершы пісаў.

— Жартуеш!—Бажэнка павярнуўся да Данілы з дапытлівым поглядам.

— Чыстая праўда, як крынічная вада.

Вострыя, пранікліўыя вочы камандзіра ўміг глянулі направа.

Прагучэла каманда:

— У абход! Па дубу—ні стрэлу.

Здзіўленыя байцы кінуліся ў бокі з усёй лютасцю накінуліся на стомленых і разгубленых сінежупаннікаў.

Пад вечар бой сціхнуў. Успацелы камандзір сеў пад дубам. Не было чым выцерці пот з твару, і ён прыкладаў да яго сухое дубовае лісце. Заўважыўшы прастрэлены партрэт, Бажэнка беражліва падняў яго і пачаў склейваць разарваныя шматкі кроплямі сасновага соку.

— Вітаем! Адстаялі цябе, Тарас Грыгоравіч,—жартуючы прамовіў Бажэнка, і на яго абліччы залунала радасная ўсмешка.

*З украінскай мовы.*

---

*Еўгеній Кратэвіч*

# ТАРАС ГРЫГОРАВІЧ ШЭЎЧЭНКА

*(Кароткі біяграфічны агляд)*

9 сакавіка 1939 года спаўняецца 125 год з дня нараджэння найвялікшага паэта Украіны—Тараса Грыгоравіча Шэўчэнка. Глыбокую народнасць, як асноўную сутнасць творчай дзейнасці паэта, асабліва падкрэсліваў і сцвярджаў Аляксей Максімавіч Горкі, ставячы творчасць Шэўчэнка ў рад з творчасцю Пушкіна, называючы ў адным з сваіх артыкулаў гэтых двух веліканаў слова „радаснай з'явай"—людзьмі, якія „увабралі ў сябе дух народа з найбольшай прыгожасцю, сілай і паўнатой". Яшчэ пры жыцці паэта, у 1860 годзе, падобнае-ж пісаў пра яго Дабралюбаў: „У Шэўчэнка ўвесь круг яго дум і спачуванняў знаходзіцца у літаральнай адпаведнасці са зместам і ладам народнага жыцця. Ён вышаў з народа, жыў з народам, і не толькі думкай, але і абставінамі жыцця быў з ім моцна і кроўна звязаны... Ён блізкі да народнай песні, а вядома, што ў песні выліўся ўвесь прайшоўшы лёс, увесь сапраўдны характар Украіны; песня і дума складаюць там народную святыню, лепшы здабытак украінскага жыцця: у іх гарыць любоў да радзімы, зззяе слава мінуўшых подвігаў; у іх дыхае і чыстае, пяшчотнае пачуццё жаночай любві, асабліва любві матчынай"...*)

Але будучы глыбока народным паэтам Украіны, Тарас Грыгоравіч з'яўляецца наогул „рускай зямлі чалавекам выдатным", па вобразнаму, вельмі вернаму выразу Некрасава ў яго вершы, напісаным на смерць паэта. Сапраўды, Шэўчэнка быў неўстрашымым, палкім паэтам-барацьбітом за шчасце і волю ўсіх „ад малдаваніна да фіна" падняволеных народаў, у тым ліку і рускага, жыўшых у царскай Расіі Нікалая I, „жандарма", „фельдфебеля", „тормаза", як з гнеўным сарказмам называў яго ў многіх творах і дзённіку Тарас Грыгоравіч. І за сваю непрымірымую барацьбу, за вогненыя словы пратэста, нянавісці, прэзрэння і закліка да паўстання супроць царызма, к таму, каб усім „светам абух сталіць і добра навайстрыць тапор ды і пачаць будзіць",

> Все он изведал! Тюрьму петербургскую,
> Справки, допросы, жандармов любезности,
> Все—и раздольную степь оренбургскую,
> И ее крепость...
>
> (*Некрасаў*)

---

*) Дабралюбаў, артыкул пра „Кабзара", 1860 г.

Цяжка пералічыць усё тое, што перанёс Тарас Грыгоравіч на сваім не вельмі доўгім, але шматпакутным, жыццёвым шляху.

Нярадасна сустрэла яго жыццё ўжо з калыскі. Убогая, вялікая сям'я прыгоннага, якая належала багачу памешчыку Энгельгардту; „бедная, старая хата, з пацямнелай страхой і чорным дымаром“ у сяле Марынцах, былога Звенігародскага павета, Кіеўскай губерні— вось дзе 9 сакавіка 1814 года ўбачыў свет хлопчык Тарас. Не лепшай вядома, была і тая хацінка ў вёсцы Кірылаўцы, куды хутка пасля нараджэння Тараса перасяліўся бацька яго Грыгорый Іванавіч Шэўчэнка. У сваім раннім маленстве аб гэтай хацінцы, абс ваёй прыгоннай працаўніцы-маці з глыбокай горачу гаворыць паэт у вершы „Калі-б вы зналі, панічы“.

Дзевяты год усяго пайшоў хлапчуку, калі ў 1823 годзе, не вытрымаўшы непасільнай работы на паншчыне і ў сваёй вялікай з 7 чалавек сям'і,—дачасна памерла яго маці. Ва ўмовах жыцця бедняка прыгоннага, ды яшчэ з пяцерыма дзяцьмі, Грыгорыю Шэўчэнка вельмі неабходна было мець „гаспадыню“ ў доме, але хто пайшоў-бы замуж за яго, як не ўдава, таксама з дзецьмі? І вось у невялікай хацінцы пасялілася мачыха і яе дзеці, а разам з імі ўзніклі і страшэнныя здзекі над малым Тарасам. „Хто бачыў хоць здалёк мачыху і так званых зводных дзяцей“,—успамінае праз многа год у ссылцы Шэўчэнка „той, значыцца, бачыў пекла ў самай агіднай яго ўрачыстасці“. Аднойчы мачыха узвяла паклёп на Тараса, быццам ён украў у салдата—пастаяльца тры злотых (45 кап.). За гэта амаль беcперапынна на працягу трох сутак жорстка мардавалі хлапчука. Па просьбе малодшай сястры сваёй Ірыны, якую напалохалі невыказныя пакуты брата, ён прыняў на сябе чужую віну, але не мог, вядома, паказаць, дзе схаваны грошы. Тады бацькі зноў прадаўжалі біць хлопчыка—і, толькі стаміўшыся мучыць яго, кінулі ў цёмную клець зусім непрытомнага. Аказалася потым, што грошы ўкраў і схаваў у дупле сын мачыхі Сцяпанка.

Адзінай светлай з'явай у гэтым жудасным жыцці хлопчыка былі надзвычай цёплыя, любоўныя адносіны да яго старэйшай яго сястры Кацярыны, імем якой ён назваў першую сваю вялікую паэму. Да гэтай сястры, а таксама і да малодшай Ірыны ён назаўсёды захаваў лепшыя пачуцці любві і руплівасці, вельмі пакутуючы з-за таго, што яны разам з братамі яго прадаўжалі знаходзіцца ў прыгоннай няволі.—„Так, яны прыгонныя да гэтага часу!“—усклікае ён у 1860 годзе ў сваім аўтабіяграфічным пісьме рэдактару „Народного чтения“.

Рана ўзнікла ў хлопчыка любоў да навукі, да малявання. Гэта магчыма заўважыў яго бацька і, будучы, як відаць, чалавекам разумеўшым карысць навукі ўжо ў той час, калі вакол амаль усе пагалоўна былі непісьменнымі,—аддаў сына на вучэнне да вандроўнага настаўніка-дзячка. Школа тых часоў, нават афіцыйная гарадская, уся трымалася на прымусе, цабоях і розгах. Тым больш, яшчэ такая глухая школа вандроўнага дзяка-п'яніцы. Па ўспамінах сваяка паэта—Варфаламея Шэўчэнка, у гэтай школе самі вучні кожную суботу павінны былі нарэзваць на порку сабе шмат вішнёвых розаг. „Білі нас і часта і моцна“,—гаворыць ён. „Не бітым

аставаўся той шкаляр, да якога не дойдзе чарга таму, што настаўнік стоміцца біць і ляжа адпачываць"... Асабліва даставалася Тарасу, які, будучы адданым у наём да дзяка, павінен быў яшчэ акрамя навучання насіць яму ваду, калоць дровы і г. д.

Яшчэ большым тыранам аказаўся другі настаўнік Тараса—Бугорскі, у якога ён выцярпеў два гады і аб якім у тым-жа аўтабіяграфічным пісьме з абурэннем успамінаў так: „Гэта першы дэспат, на якога я наткнуўся ў маім жыцці, усяліў у мяне на ўсё жыццё глыбокую агіду і пагарду да ўсякага насілля аднаго чалавека над другім..."

Яму-ж Шэўчэнка адпомсціў таксама, пэўна, першаму ў жыцці. „Знайшоўшы яго аднойчы п'яным, — піша ён далей,—я ўжыў супроць яго ўласную яго зброю—розгі". Так паслядоўна накаплялася і расла ў Шэўчэнка прага помсты да насільнікаў, якая перарасла потым у свядомае імкненне да непрымірымай барацьбы з феадальна-царскім ладам, які параджаў усякае насілле, соцыяльную няроўнасць і дзікае, жорсткае самавольства.

Навука, як відаць, лёгка давалася здольнаму хлапчуку, бо пры тагочасных варварскіх метадах навучання грамаце многія затрачвалі на гэта 4—5 год, тады як Тарас поўнасцю засвоіў пачатковую грамату за два годы. Уцёкшы ад дзяка-дэспата, Шэўчэнка імкнецца знайсці настаўніка малявання, да чаго з маленства меў вялікую схільнасць і любоў. Але, нажаль, ні адзін з настаўнікаў нічога не мог даць таленавітаму вучню. Расчараваўшыся чаму-небудзь навучыцца ў падобных настаўнікаў, хлопчык хацеў было ўжо заняцца гаспадаркай пад кіраўніцтвам свайго старэйшага брата Мікіты, але прыродная страсць да малявання пагнала яго ў вёску Хлебнаўку да маляра. Той адмовіўся прыняць хлопчыка-прыгоннага без віду на жыхарства. Але, калі Шэўчэнка звярнуўся да галоўнага ўпраўляючага Альшанскімі маёнткамі Змітрэнка на від, апошні пакінуў яго ў ліку дваровай чэлядзі самога памешчыка Энгельгардта. 15-гадовы Тарас перш трапіў у паваронкі на кухню, а затым быў пераведзены ў „казачкі". З такой „пасадай" ад'язджае ён разам з памешчыкам з роднага сяла і Украіны, па-за якой прабыў ён амаль 15 год.

Абавязкі „казачка"—гэтага параджэння польскіх „цывілізатараў" памешчыкаў—заключаліся ў поўнай нерухомасці і маўчанні дзе-небудзь у кутку пярэдняй для таго, каб стрымгалоў кінуцца на кліч пана і падаць яму люльку ці запалкі. Для жвавага Тараса такая нерухомасць была горш катаргі. Вандруючы з памешчыкам па „царству польскаму", ён ніяк не мог прызвычаіцца да такога вымушанага маўчання і бяздзейнасці. Аднойчы ў Вільні, у адсутнасць Энгельгардта, ён пачаў маляваць уночы партрэт аднаго з герояў вайны 1812 года Платава. У гэты час нечакана з'явіўся сам памешчык. „Ён з асцервяненнем выдраў мяне за вушы і надаваў аплявух",—успамінае Шэўчэнка ў аўтабіяграфічным пісьме.—„На другі дзень ён загадаў фурману Сідорку добра адлупцаваць мяне, што і было выканана з патрэбнай стараннасцю".

Тут жа ў Вільні Шэўчэнка вывучыў польскую мову, на якой свабодна чытаў пасля ў арыгінале творы Міцкевіча і іншых польскіх пісьменнікаў, а таксама эстэтыку Лібельта.

У 1831 годзе Энгельгардт пераязджае ў Пецербург, а Тарас з іншымі дваровымі следуе за панам з яго абозам. Зімовая сцюжа, веснавая непагадзь, худая, падраная вопратка, дзіравыя боты— ледзь было не адмарозіў ён тады свае ногі. Усё гэта вядома адбілася потым у хваробах і дачаснай смерці паэта.

У Пецербургу, уступіўшы просьбам Шэўчэнка, памешчык у 1832 годзе закантрактаваў яго цэхаваму маляру Шыраеву, які сабраў у сабе па ўспамінах паэта, усе адмоўныя якасці ранейшых яго настаўнікаў-тыранаў. Усё-ж у веснавыя белыя ночы тайком уцякаў Шаўчэнка ў Летні сад змалёўваць копіі са шматлікіх статуяў.

І вось, тут, у гэтым садзе, на шчасце, Тарас Грыгаравіч сустрэўся з сваім зямляком—студэнтам Акадэміі мастацтваў І. М. Савенка. Іван Максімавіч быў здзіўлены і таленавітасцю юнака, і не менш яго жахлівым лёсам. Ён пазнаёміў яго з пісьменнікам Еўгеніем Грэбенкай, а потым з сакратаром Акадэміі мастацтваў Грыгаровічам і славутым прафесарам жывапісу Бруловым. Апошні згадзіўся даваць бясплатна прыватныя ўрокі Шаўчэнку. Паступіць-жа ў Акадэмію яму, як прыгоннаму, было нельга. Незадоўга перад гэтым спецыяльным загадам забаронена было прымаць у студэнты Акадэміі прыгонных, бо многія з іх па скончэнні яе, з-за дэспатычнага абыходжання з імі памешчыкаў, не вытрымлівалі— вешаліся, тапіліся, атручваліся.

Міналі годы. Шаўчэнка паказваў у жывапісу вялікія поспехі. Знаходзячыся ў кругу найбольш адукаванага ў той час асяроддзя, Тарас Грыгаравіч з прагнасцю набываў усялякія веды, але... ён заставаўся, як і раней, рабом. Яго кожны нікчэмны панок, кожны наглядчык уласніка мог абразіць, мог адлупцаваць розгамі. І сапраўды, па ўспамінах Сошэнка, аднойчы сматрыцель дома Энгельгардта Прэхцель за нейкія вольныя размовы з дваровымі загадаў адлупцаваць на стайні гэтага „абаронца вольнасці і праў“. І толькі дзякуючы просьбам Савенка перад ганарлівым панком, Тарас Грыгаравіч быў вызвалены ад такога ганебнага пакарання.

Усё гэта, вядома, вельмі прыгнятала свабодалюбівага юнака— і яго новыя сябры, шчыра жадаючы аблягчыць яму лёс, рашылі на чым-бы там ні стала выкупіць яго на волю. Але багач Энгельгардт, запрасіў за Шаўчэнка велізарную, амаль небывалую ў той час суму за прыгоннага—2500 рублёў. Даведаўшыся аб гэтым, Тарас Грыгаравіч, па сведчанню княжны Рэпнінай, упаў у роспач, але яму ў гэты цяжкі для яго час аказаў братнюю паслугу рускі пісьменнік В. А. Жукоўскі. Ён паслаў Шаўчэнку заспакойваючую запіску, а сам разам з іншымі сябрамі паэта разыграў у латарэі свой партрэт, напісаны Бруловым. На выручаныя з латарэі 2500 рублёў і выкуплены быў 5 мая 1838 года на волю 24-гадовы Тарас Грыгаравіч Шаўчэнка.

— Свабода, свабода!—з такімі словамі прыбег ён да Сошэнка і, абярнуўшы карціну, кінуўся на шыю свайму другу.

„Сцэна гэта скончылася тым, што мы абодва расплакаліся, як дзеці“,—успамінае Іван Максімавіч.

Ясна, з якім захапленнем успрыняў Тарас Грыгаравіч вестку аб

свабодзе, як акрыліла гэта яго. Уступіўшы ўжо афіцыйна цяпер у Акадэмію мастацтваў, ён з патроенай энергіяй накідваецца на навуку, вывучае тут акрамя спецыяльных мастацкіх прадметаў, агульную гісторыю, тэорыю і гісторыю мастацтва, усеагульную, антычную і рускую літаратуру. Мяркуючы па многіх выражэннях з яго твораў і дзённіка, можна з упэўненасцю сказаць, што вывучаў ён і соцыяльна-эканамічныя навукі, знаёмы быў з вучэннем прадстаўнікоў утапічнага соцыялізма Сен-Сімона і Фур'е, чытаў таксама Адама Сміта, Прудона, Годвіна, Томпсона і іншых англійскіх і французскіх эканамістаў.

Яшчэ да выкупу на волю Шэўчэнка пачаў пісаць тайком ад усіх вершы. Атрымаўшы свабоду, ён з незвычайным стараннем заняўся паэтычнай творчасцю. У тым-жа 1833 годзе акрамя многіх невялікіх вершаў, напісаў ён паэму „Кацярына", а ў 1840 г. выходзіць „Кабзар" з ілюстрацыямі яго друга мастака Штэрнберга. У творах, увайшоўшых у гэты першы зборнік, паэт аддае яшчэ даніну рамантызму, але ўжо ў вялікай яго паэме „Гайдамакі", надрукаванай у 1842 г., разам з рэшткамі рамантыкі даюцца глыбока рэалістычныя вобразы. Гэта перш за ўсё вобраз бедняка—наймітa Ярэмы Галайды, неўстрашымага паўстанца і змагара супроць даўніх ворагаў украінскага народа—польскіх паноў-магнатаў. З яшчэ большым рэалізмам піша Шэўчэнка ў 1843 годзе, пасля першай паездкі з Пецербурга на радзіму, сваю гнеўную сатыру на царызм „Сон".

З першых дзён волі паэт ірваўся на Украіну, каб пабачыцца з сваімі роднымі, каб убачыць наогул жыццё сваіх зямлякоў. Але жаданне гэтае ён змог здзейсніць толькі ў 1843 годзе, калі наведаў родную Кірылаўку, а таксама Чыгірын, Ягоцін і некаторыя іншыя месцы. Тое, што ўбачыў ён цяпер, будучы ўжо дарослым чалавекам, напоўніла яго душу гневам і абурэннем. І гэта вылілася ў паэме „Сон". У ёй Шэўчэнка дае здзіўляючыя карціны поўнай супроцьлегласці прыроды Украіны і катаржнага жыцця прыгонных, успамінае таксама пра пакуты ў Сібіры дзекабрыстаў—з небывалай экспрэсіяй і сарказмам абрушваецца на царызм у асобе Нікалая „Палкіна", гаворачы, што ўвесь рэжым гэтага жандарма трымаўся выключна на кулачным праве, на жорсткім, дзікім насіллі.

У 1845 годзе, скончыўшы Акадэмію і атрымаўшы званне свабоднага мастака, Тарас Грыгоравіч едзе на Украіну ўжо на больш доўгі тэрмін. Тут, акрамя многіх вершаў і паэм, піша ён сваю вядомую паэму „Каўказ". У ёй ён зноў ганьбіць таго-ж Нікалая I, які ў імя „вышэйшай культуры—хрысціянства" прыгнятаў вольналюбівых каўказцаў. І можна сказаць, што галоўным чынам за гэтыя дзве палкія паэмы-сатыры, так жорстка расправіўся з Шэўчэнкам цар.

У канцы 1846 г. у Кіеве арганізавалася тайнае так-званае Кірыла-Мефодзіеўскае таварыства, якое мела наогул далёка не рэвалюцыйныя, а даволі утапічна-эфемерныя мэты. Тарас Грыгоравіч ніколі не належыў да гэтага таварыства, бо быў непараўнальна больш рэволюцыйным за яго мэты, але сустракаўся

даволі часта з членамі яго—Кастамаравым, Кулішам, Савічам і іншымі. І вось, калі па даносу студэнта Пятрова арыштавалі ўдзельнікаў таварыства, дык 18 красавіка 1847 г., калі Шэўчэнка прыехаў з Чарнігаўскай губерні ў Кіеў ва універсітэт у якасці выкладчыка малявання, ён быў таксама арыштаваны. Сапраўдных удзельнікаў таварыства параўнальна мякка пакаралі, а з Шэўчэнкам цар, помсцячы яму за „Сон“ і „Каўказ“, расправіўся вельмі жорстка. Паэт быў сасланы навечна ў Орэнбургскія стэпы ў салдаты, дзе не толькі афіцэр, але нават фельдфебель мог беспакарана забіць яго на смерць за нязначны ўчынак. Акрамя таго цар уласнаручна падпісаў на прыгаворы аб забароне Шэўчэнку пісаць і маляваць. Такім чынам, паэт быў пазбаўлены ўсяго таго, чым жыў ён раней, што магло палегчыць яму яго пакуты ў новай няволі.

Амаль за 8 сутак прывезлі Тараса Грыгоравіча жандармы ў Орэнбург, а адтуль накіравалі яго ў Орскую крэпасць у 5 лінейны батальён. На шчасце, у хуткім часе паэта выпрасіў у мясцовага вышэйшага ваеннага начальства капітан-лейтэнант Бутакоў для экспедыцыі на Аральскае мора. Як ні цяжкімі былі ўмовы жыцця ў гэтай экспедыцыі, але яны былі параўнальна лепшымі для паэта, чым жудаснае жыццё ў казёмаце. Тут ён маляваў віды мора, напісаў таксама многа твораў („Марына“, „Сотнік“, „Швачка“ і інш.,) не быў на муштры, не падвяргаўся праследваннямі ефрэйтараў і п'яніц-афіцэраў. Але па звароту з экспедыцыі з-за даноса аб тым, што ён малюе і піша вершы, яго пераводзяць у самую глухую Нова-Петрапаўлаўскую крэпасць.

„Сапраўдная пустыня, пясок ды камень, хаця-б травінка, хоць-бы дрэўца—нічога няма“,—паведамляў ён аб гэтым жудасным закутку свайму другу артысту С. С. Гулаку-Арцемаўскаму (аўтару вядомай оперы „Запарожац за Дунаем“). І тут пражыў паэт доўгіх сем год. Над ім вёўся найстражэйшы нагляд, але ўсё-ж Шэўчэнка, рызыкуючы самым жорсткім пакараннем, прадаўжаў пісаць. Па ўспамінах І. С. Тургенева ён зрабіў кніжачку, пераплёў яе ў грубую скуру і хаваў за халявай бота. Так, употай, напісаў ён большасць сваіх аповесцей на рускай мове, а з чэрвеня 1857 г. пачаў пісаць і дзённік.

Перад гэтым у 1856 годзе паэт перажыў вялікае, вельмі горкае расчараванне. Чакалася з уступленнем на царства Александра II амністыя для палітычных, але новы цар адмовіўся даць яе Шэўчэнку, які „абразіў маю маці“,—як ён заявіў сам. У паэме „Сон“ Тарас Грыгоравіч назваў яе „танканогай цапляй“, „сухім грыбам“.

Усё-ж многія перадавыя культурныя дзеячы на чале з віцэпрэзідэнтам акадэміі Ф. І. Талстым прадаўжалі хадайнічаць аб амністыі для паэта—і вось 15 мая 1857 г. ён атрымаў ад свайго друга М. М. Лазарэўскага вестку аб свабодзе. Але даволі доўга яшчэ прышлося чакаць змардаванаму ў няволі паэту афіцыйнага загада аб свабодзе.

„Цяжка, невыказна цяжка!“—піша ён у сваім дзённіку 2 ліпеня 1857 года.—„Я адурэю, нарэшце, ад гэтага бясконцага чакання. Як хутка і горача выконваецца загад арыштаваць, так, наадварот, млява і холадна выконваецца загад вызваліць“.

Сапраўды, усяго за 8 дзён прывезлі паэта з Пецербурга ў далёкую ссылку і некалькі месяцаў давялося чакаць яму вызвалення з няволі. І толькі 15 жніўня па асабістаму дазволу каменданта Ускова, не дачакаўшыся афіцыйнага загада, паэт быў адпушчаны з крэпасці ў Астрахань. Адсюль параходам і толькі 3 кастрычніка дабраўся ён да былога Ніжняга Ноўгарада. Але і тут паэту давялося перажыць вялікае выпрабаванне. У той-жа дзень ён атрымаў загад ад паліцыі аставацца ў Ніжнім.

Толькі праз шэсць месяцаў дазволена была Тарасу Грыгоравічу паездка ў сталіцу, але да самай смерці з яго не быў зняты паліцэйскі нагляд. І так, Шаўчэнка з 47-гадовага свайго жыцця быў умоўна вольным толькі дзевяць год—з 1838 па 1847 год. 24 годы ён прабыў прыгонным, 10 год адсуджаным штрафным „ніжнім чынам“ у азіяцкіх крэпасцях і, нарэшце—4 годы пад пільным наглядам жандармаў і паліцыі.

Прыехаўшы ў Пецербург, Тарас Грыгоравіч прагна пачынае пісаць, быццам імкнучыся нагнаць страчаныя годы ў ссылцы. Ужо ў Ніжнім напісаў ён паэму „Неофіты“, прысвяціўшы яе свайму лепшаму другу—вялікаму рускаму актору М. С. Шчэпкіну ў памяць аб яго прыездзе ў Ніжні-Ноўгарад для сяброўскай сустрэчы з паэтам. У Пецербурзе ён піша паэму „Марыя“, „Осіі XIV глава“, „Мінулы леты“, „Муза“ і інш. Але падарванае жудасным жыццём здароўе паэта ўсё больш пагаршаецца, закончыўшыся вадзянкай, звёўшай яго ў магілу 10 сакавіка 1861 года, за некалькі дзён да афіцыйнага абвяшчэння маніфеста аб адмене прыгоннага права.

Смерць паэта ўскалыхнула ўсё перадавое лепшае грамадства тагочаснай Расіі. Перакладчык Беранжэ, паэт-дэмакрат Курачкін сказаў на яго пахаванні ў Пецербурзе: „Яшчэ адна магіла раскрылася перад намі. Яшчэ адна чыстая, чэсная, светлая асоба пакінула нас; яшчэ адзін чалавек, які належаў да высокай сям'і абраных, які выказваў за народ самыя светлыя яго вераванні, які адгадаў запаветныя яго думы і перадаў усё гэта неўміручым словам, скончыў горкае сваё жыццё, поўнае барацьбы і пакут“...

Толькі амаль праз паўтары месяцы царскі ўрад даў дазвол перавезці прах Шаўчэнка з Пецербурга на Украіну. Тут, пад Каневам, на беразе Дняпра, выконваючы волю паэта, і пахавалі яго 10 мая 1861 года на высокай Чарнечай гары, якая стала цяпер месцам паломніцтва з усіх краёў нашага неабдымнага Совецкага Саюза.

Толькі цяпер, у светлыя, радасныя часы сталінскай эпохі цалкам усвядомлена і ацэнена ўся веліч творчай спадчыны Шаўчэнка. Ён быў адным з тых рэволюцыянераў-дэмакратаў тыпу Дабралюбава і Чэрнышэўскага, пра якіх В. І. Ленін гаварыў, як пра папярэднікаў соцыялістаў. Чэрнышэўскі яшчэ пры жыцці паэта ў 1859 годзе ў пісьме к Герцэну таксама гаворыць, як гаварыў Тарас Грыгоравіч, пра неабходнасць „вайстрыць тапор“ на царызм. Будучы наогул у апошнія годы свайго жыцця цесна звязаным з гэтымі двума лепшымі прадстаўнікамі рускай рэволюцыйнай мыслі таго часу, Шаўчэнка ішоў іх шляхам і заклікаў сваімі

творамі ўсе народы царскай Расіі да паўстання, да барацьбы за волю і лепшае жыццё. Малюючы ў сваіх творах жудасныя карціны жыцця прыгонных, карціны насілля і самавольства, ён абуджаў у народзе глыбокую нянавісць да феадальна-царскага рэжыму, прагнасць знішчыць гэты лад. Паказваючы ў гістарычных паэмах гераічную барацьбу украінскага народа супроць адвечных яго ворагаў—польскай шляхты, польскіх паноў-магнатаў, паэт абуджаў імкненне ў народзе да барацьбы за сваю радзіму, супроць панскіх інтэрвентаў-прыгнятальнікаў. Усведамляў сабе Тарас Грыгоравіч і велізарнае значэнне тэхнікі і індустрыі, што нясуць у выніку гібель капіталу і вызваленне працоўных. „Вялікі Фультон і вялікі Уатт!"—звяртаецца ён у сваім дзённіку ад 7 лістапада 1857 года да вынаходнікаў паравой машыны.—„Ваша маладое, не па днях, а па гадзінах растучае дзіця, у хуткім часе паглыне бізуны, прастолы і кароны"... Наогул ва ўмовах свайго часу ён быў у ліку нямногіх тады самых перадавых рэвалюцыйных дэмакратаў—змагароў за волю і шчасце ўсіх народаў царскай Расіі. І ніякім буржуазным нацыяналістам ніколі не ўдасца ўмаліць яго вялікае рэвалюцыйнае значэнне, ніколі не ўдасца паказаць палкага паэта-рэвалюцыянера вузка украінскім нацыянальным паэтам, адмовіць яго цесную сувязь з лепшымі прадстаўнікамі вялікага рускага народа. Шэўчэнка літаральна благагавеў перад памяццю Пушкіна, вельмі часта цытаваў яго вершы. Ён быў у захапленні ад твораў роднага яму па духу рускага сатырыка Салтыкова-Шчэдрына, ён высока цаніў творы Грыбаедава, Тургенева, А. Астроўскага, асабліва яго п'есу „Свои люди—сочтемся". Ад музыкі вялікага Глінкі ён быў заўсёды ў захапленні, вельмі цаніў Даргамыжскага. З Дабралюбавым, Чэрнышэўскім, Курачкіным і другімі рэвалюцыянерамі-дэмакратамі ён ішоў адным шляхам, знаходзячыся з многімі з іх у самых сяброўскіх адносінах. Аб братняй дапамозе паэту рускіх дзеячоў у вызваленні яго ад прыгоннай залежнасці і ссылкі ўжо гаварылася вышэй. Але больш за ўсё аб інтэрнацыяналізме Шэўчэнка гаворыць, вядома, яго натхнёныя рэвалюцыйныя творы, якія звалі рускі народ разам з украінскім і іншымі народамі „ад малдаваніна да фіна" на барацьбу за сваё вызваленне. Аб гэтым гаворыць яго глыбокае спачуванне каўказскім народам у барацьбе іх з царскім імперыялізмам, яго дружба з калмыкамі, кіргізамі, польскімі палітычнымі ссыльнымі, вядомым негрыцянскім трагікам Ольрыджэм, яго самаафярная дапамога бядняку яўрэю, у якога загарэлася хацінка.

І вось таму так высока цэняць вялікага паэта ўсе народы нашага Савецкага Саюза, вывучаюць яго творчасць, ставяць яму шматлікія помнікі. Яшчэ ў 1918 годзе В. І. Ленін падпісаў дэкрэт аб пабудове Шэўчэнку помніка. У царскі-ж час за многія годы з-за перашкод паліцыі і чорнасоценцаў паэту не змаглі паставіць ні аднаго помніка. Яшчэ ў 1914 годзе Уладзімір Ільіч гаварыў: „Забарона ўшанавання Шэўчэнка была такой выдатнай, цудоўнай, на рэдкасць шчаслівай і ўдалай мерай з пункту погляду агітацыі супроць урада, што лепшай агітацыі і прыдумаць нельга". (Ленін, XVII том, стар. 324).

Так, настолькі вялікай была народная любоў да свайго паэта, што забарона тады царскім урадам святкаваць 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Шэўчэнка абярнулася супроць гэтага-ж бездарнага ўрада, выклікаўшы глыбокае абурэнне супроць яго ў народных масах. Толькі Кастрычнік даў усім народам Совецкага Саюза магчымасць святкаваць 125-гадовы юбілей з дня нараджэння Тараса Грыгоравіча Шэўчэнка, якога М. Горкі так трапна назваў разам з вялікім Пушкіным шчаслівай з'явай старога, адышоўшага ўжо безваротна ў змрочную даль, жыцця. Толькі цяпер спраўдзіліся яго прароцкія словы аб „вольнай новай сям'і“ народаў, сказаныя ў яго „Запавеце“.

---

*Якуб Колас*

# ДУМКІ ДА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ БССР

Дваццаць год прайшло з таго часу, як над нашай Совецкай Беларуссю высока ўзвіўся і горда развіваецца непер645можны чырвоны сцяг нашай свабоды і нашай дзяржаўнасці, вялікі сцяг партыі Леніна—Сталіна. Дваццаць год нашага няспыннага руху наперад па шляху развіцця культуры і нашага матэрыяльнага дабрабыту. Дваццаць год соцыялістычнага будаўніцтва і барацьбы за новы свет і за новага чалавека ў ім. Гэта дата—яркая старонка ў гісторыі нашай слаўнай неперамажнай партыі большэвікоў, гэта ў той-жа час і трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Ці трэба расказваць тут аб мінулым нашай краіны, аб яе гістарычным лёсе ў дарэволюцыйным прошлым? Яны вядомы нам. Шмат хто з нас на сваіх плячах нёс цяжкую долю свайго народа і свайго краю і дзяліў іх пакуты. Мы, пісьменнікі і паэты, не адзін раз акідалі вокам наша цяжкае мінулае і запісвалі яго ў сваіх мастацкіх творах.

Быў такі час ліхі
У забытай, галоднай краіне,
У краіне сахі,
Саламянай страхі,
Дзе век-векам жылі на мякіне.
Безыменны быў край,
І народ свайго імя не ведаў.
Ветру песні пеў гай,
Ды хадзіў смутны бай,
Старасвецкі ад прадзедаў-дзедаў,
Лад тут ладзіў бізун
Ды свісталі па спіне нагайка.
На імшарах—батун,
На Палессі—каўтун,—
Вось і слынь наша ўся, наша байка.
Бо хто-ж ведаў, скажы,
Аб забытым народзе і краю?
Цемра зману, ілжы
Тут стаўляла крыжы,
Як слупы па дарозе да раю.
І былі песняры
І складальнікі розных гісторый.
На шурпатай кары
Клалі знак ведзьмары
На людскую нядолю і гора.
Часы йшлі ды плылі,
Абдзіралі народ ліхадзеі.
Так вякамі жылі
На тутэйшай зямлі
Без прасветліны і без надзеі.

Вось невялічкі кусок з гістарычнага прошлага нашай краіны. Я падкрэслю яго яшчэ параю дэталей. У гады майго ранняга юнацтва, перачытваючы свае вершы, напісаныя беларускаю моваю аб долі свайго народа, я не раз ставіў перад сабою балючае пытанне: дзе дарога ў свет для маіх твораў? Як данясу іх народу, для якога яны напісаны? Беларускае слова ганьбілася, асмейвалася, выганялася. З свядомасці народа вытручвалася само імя яго краіны. Гэта проста была „западная окраина Российской империи“. А на таго, хто выступаў з сваім родным словам, пазіралі як на дзівака, з якога можна было толькі пасмяяцца. Такая была царская палітыка. Такія былі ўмовы жыцця.

У маёй памяці жывуць вобразы юнакоў-беларусаў, якія кідалі ўбогую хату сваіх бацькоў і за сотні кілометраў пехатой, з торбаю і палкаю, ішлі шукаць асветы і не знаходзілі яе—не для іх будавалі гімназіі. Гібелі і гінулі таленты, самародкі з народа, гэтыя свайго роду Ламаносавы. Не многія з іх выбіваліся ў свет на прасторную пуціну. Такое было праававое становішча беларускага народа. Такі быў яго лёс. Калі да гэтага дадаць эканамічнае і сацыяльнае становішча дарэвалюцыйнай Беларусі, дзе пераважная большасць лепшых зямель належала панскім дварам, манастырам, царквам і касцёлам, дзе працоўны народ бесчалавечна эксплуатаваўся, дзе батрацкая і яўрэйская галеча складалі вельмі значную праслойку, а ўбогая сялянская гаспадарка вялася самым прымітыўным спосабам, дзе зусім не было буйнай прамысловасці,—то для нас будзе ясна аблічча старой Беларусі. Які рубеж, якая агромная адлегласць раздзяляе старую дарэвалюцыйную і новую, Савецкую Беларусь.

Наша сёнешняя ордэнаносная Савецкая Беларусь, квітнеючая краіна соцыялізма, адна з адзінаццаці роўнапраўных Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, здабыла сваю незалежнасць і сваю дзяржаўнасць у выніку жорсткай барацьбы на чале з партыяй Леніна—Сталіна, пад іх непасрэдным кіраўніцтвам, барацьбы з інтэрвентамі, з нямецкімі і белапольскімі акупантамі і з цэлаю процьмаю розных контррэвалюцыйных партый і нацыяналістычна-буржуазных груповак самых рознастайных масцей, але аднае контррэвалюцыйнае пароды. Першая роля ў гэтай барацьбе, у разгроме контррэвалюцыі, у разгроме нямецкіх і белапольскіх акупантаў належыць геніяльным стратэгам рэвалюцыі Леніну і Сталіну. Яны—асновапаложнікі і стварыцелі незалежнай Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Вялікая ідэя аб праве нацый на самавызначэнне, на ўтварэнне самастойнай дзяржавы абгрунтавана Леніным і Сталіным яшчэ задоўга да Кастрычніка. Гэта ідэя стала асноваю канстытуцыйных актаў і важнейшых законаў савецкай улады. У адозве да рабочых, салдат і сялян у вялікі дзень 7 лістапада 1917 г. II Усерасійскі З'езд Советаў урачыста абвясціў, што новая ўлада „забяспечыць усім нацыям, насяляючым Расію, сапраўднае права на самавызначэнне“, што „палітыка хлусні і недавер'я, прычэпак і правакацый у дачыненні да нацыянальнасцей Расіі“, як недастойная, касуецца. „Яна павінна быць заменена адкрытай і чэснай палітыкай, якая

вядзе да поўнага ўзаемнага давер'я народаў Расіі". У аснову дзейнасці рабоча-сялянскага Ураду ў пытаннях аб нацыянальнасцях паложаны прынцыпы:

1. Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2. Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

3. Адмена ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілегій і абмежаванняў.

4. Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп на тэрыторыі Расіі.

Пад гэтым гістарычным дакументам стаяць подпісы—Старшыня Совета Народных Камісараў В. Ульянаў і Народны Камісар па справах нацыянальнасцей Іосіф Джугашвілі—Сталін.

1-га студзеня 1919 года быў апублікаван гістарычны маніфест, першы канстытуцыйны акт, які юрыдычна аформіў асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу новай Беларускай Совецкай Рэспублікі. Гэты маніфест быў адрэдагаваны асабіста т. Сталіным.

Совецкая Беларусь, як самастойная рэспубліка, утварылася ў цяжкі час навалы сусветнай інтэрвенцыі, выступіўшай супроць совецкай улады. Агнявое кола замежных ворагаў аблягала совецкую зямлю, каб у крыві рабочых і сялян загубіць іх родную ўладу, а на яе месца паставіць уладу капіталістычных разбойнікаў. Гэта навала не абмінула і Совецкай Беларусі. Пасля ганебнага правала нямецкай акупацыі выступае панская Польшча. Узброеная Антантай, яна прымае актыўны ўдзел у наступленні сусветнага імперыялізма на краіну Советаў. Выступаючы ў ролі найміта англа-французскага імперыялізма, белая Польшча дамагаецца і сваіх мэт. Польскія магнаты і памешчыкі, выгнаныя рабочымі і сялянамі з Совецкай Беларусі, не могуць забыць маёнткаў, што засталіся ў карыстанні народа. Азвярэлыя орды белапольскіх акупантаў нясуць з сабою пагромы, крывавую расправу, пажары, грабежніцтва і разбурэнне. Вакол іх збіраецца чорнае вараннё беларускіх нацдэмаў і розных авантурнікаў. Яны вітаюць маршалка Пілсудскага з такой-жа лакейскай адданасцю, з якою ў 1918 годзе віталі фельдфебеля Вільгельма. Але Совецкая Беларусь і яе народ не былі адзінокімі ў сваёй барацьбе супроць паноў. ЦК комуністычнай партыі большэвікоў па ўказанню Леніна пасылае выпрабаванага друга беларускага народа таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў—Орджанікідзе і Калініна для арганізацыі сіл на барацьбу супроць польскіх паноў. Таварыш Сталін асабіста кіраваў усімі аперацыямі Заходняга фронта супроць белапалякаў. Ён згуртоўвае ўсіх чырвонаармейцаў і камандзіраў, натхняе іх на рашучую барацьбу супроць белапольскіх легіёнаў, кіруе абаронай сталіцы Совецкай Беларусі. У выніку яго кіраўніцтва Заходнім фронтам белапольскае наступленне было спынена.

Вясною 1920 года Антанта арганізуе трэці паход супроць Совецкай краіны. Галоўную ролю на гэты раз яна ўскладае на Польшчу, аснасціўшы яе зброяй і сваімі ваеннымі спецыялістамі. 11 ліпеня 27 Омская і 17 дывізія Чырвонай Арміі, разграміўшы

белапалякаў на іх умацаваных пазіцыях пад Менскам, займаюць горад. З гэтага часу сталіца Беларусі назаўсёды стала совецкім горадам.

Такім чынам і ў стварэнні дзяржаўнасці БССР і ў яе абароне ад чужаземнай навалы вялікі і непасрэдны ўдзел прымае наш геніяльны правадыр, друг і настаўнік тав. Сталін. Ён непасрэдна звязваецца з народам. Ён наглядае сцэны спаткання народа з часцямі Чырвонай Арміі, нёсшымі яму на баявых сваіх сцягах вызваленне і свабоду.

Пастаянная і непарыўная сувязь правадыра з народам, яго бацькоўская ўвага і клопаты аб ім, аб яго жыцці і добрабыце адчуты сэрцам працоўнага беларускага народа. Аб сваім вялікім другу і настаўніку складае ён задушэўныя думы і песні. Сваю ўдзячнасць і сваю любоў да яго засведчыў ён у сваім пісьме, гаворачы аб росквіце краіны, аб сваёй дзяржаўнасці:

Яна ўпершыню расцвіла, як дзяржава.
Ад шчырага сэрца удзячны табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права.

І мы, пісьменнікі, разам з усім беларускім народам выкажам нашаму вялікаму другу, нашаму настаўніку і правадыру пажаданне ад шчырага сэрца:

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

З чым-жа прыходзіць наша краіна і мы з ёю к дню свайго дваццацігоддзя?

Мне трудна адшукаць такое параўнанне, знайсці такі вобраз, каб рэальна і навочна прадставіць нашу Совецкую Беларусь так, як ёсць яна сёння. Мы чулі ў казках, калі непрыглядная старушка, уся ў маршчынах і ў убогім адзенні, раптам сілаю чараўніцтва абарочвалася ў маладую прыгожую, чароўную дзяўчыну. Так сталася і з нашай краінай, так сталася з усёй вялікай совецкай зямлёй. Сышлі панурыя цені з яе твару, зажылі рубцы і раны на яе целе, апалі рыззё і лахманы з яе плеч. І глядзіць яна молада, весела, радасна, перапоўненая жыватворнаю красою і сілаю. На нашых вачах адбылося і адбываецца гэта дзівоснае пераўтварэнне зямлі і яе народаў. Зямля вызвалілася з свайго векавечнага палону, паскідала вузкія межы, адзелася ў сады, аперазалася тысячакіламетравымі стужкамі прыгожых шасейных дарог, уздоўж якіх раскіданы цвятнікі, пастаўлены лаўкі для адпачынку падарожнікаў. Гэта—жывое сведчанне вялікага клопату аб чалавеку ў совецкай краіне, гэта—пячаць будаўніцтва соцыялізма, гэта—сталінская ўвага да людзей. Куды толькі ні кінеш вокам, на чым толькі ні запыніш увагу, усюды, на кожным кроку бачыш вялікі прагрэс нашай краіны. Соцыялістычная прамысловасць, безмежныя калгасныя нівы, росквіт беларускай культуры,—колькі здабыткаў, колькі незлічоных дасягненняў мае наш народ за годы існавання рэспублікі.

За годы сталінскіх пяцігодак у БССР створаны зусім новыя галіны прамысловасці. Пабудаваны заводы машынабудаўніцтва і станкабудаўніцтва ў Менску, Гомелі і іншых гарадах. Пабудаваны буйныя ільнозаводы, шклозаводы, абутковыя і трыкатажныя фабрыкі, фабрыка штучнага шоўку. Не буду прыводзіць лічбаў, паказваючых гіганцкі рост нашай прамысловасці, соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, нашай культуры,—іх дужа многа, і яны вельмі красамоўны. Але лічба мала гаворыць аб змесце таго, над чым яна значыцца. Раскрыю рэальны змест адной з такіх лічбін. Па рэспубліцы налічваецца 700.000 гектараў асушаных балот, абернутых ў багацейшыя нівы і кармавыя базы. Нядаўна мне давялося бачыць адну сямісотую часць ад гэтых сямісот тысяч. У вытоках невялікай рачулкі Талькі і на Пцічы раскінуўся агромны балотны масіў. Яго плошча вымяраецца дзесяткамі тысяч гектараў. Гэта—спрадвечная непраходная багна, хмыз, куп'ё, дзікая жорсткая трава. За апошнія годы тысяча га ад гэтага балота адваёвана, асушана. 1.000 га—вялікі кавалак зямлі. Яго трудна абыйсці за дзень, яго не змерыш вокам. Гэта—дзівосная, чорная, як дзёгаць зямля. Агромныя скірты саломы абмалочанай збажыны, густа раскінутыя стагі канюшыны, цэлы пасёлак бульбяных капцоў, зялёная роўнядзь густой лапушыстай руні—гэта сведкі вытворчай сілы новай зямлі. І калі пазіраеш на гэту зямлю з яе невычэрпнаю сілаю расціць самыя рознастайныя культуры, пачынаючы зернавымі і канчаючы кок-сагызам, і калі бачыш, які пераварот робіць яна ў свядомасці калгасніка, што яшчэ ўчора часам недаверліва глядзеў на мерапрыемствы па асушцы балот, а сёння сам крута павярнуўся да іх тварам,—то мімаволі адчуваеш нейкае асаблівае пачуцце, для якога не знаходзіш дакладнай назвы і якое Пушкін назваў „священным ужасом". І тады хочацца зняць шапку, пакланіцца совецкаму чалавеку, пакарыўшаму пятую стыхію, і вялікай партыі, мабілізаваўшай яго на барацьбу з прыродай. Вось што хаваюць у сабе лічбіны нашых дасягненняў.

Змяніліся людзі, змяніўся воблік зямлі.

Свабодная праца ў нашым соцыялістычным грамадстве стала справаю гонару, доблесці і геройства. Яна выклікала магутны стаханаўскі рух, яна парадзіла герояў. Дзесяткамі тысяч налічваюць соцыялістычная прамысловасць і сельская гаспадарка стаханаўцаў і ўдарнікаў. Тысячы калгаснікаў-вопытнікаў займаюцца пытаннямі павышэння ураджайнасці соцыялістычных палёў, праяўляюць смелую ініцыятыву і дабіваюцца вялікіх вынікаў.

Такія ў агульных рысах здабыткі нашай ордэнаноснай Беларусі за 20 гадоў. У гэтых здабытках ёсць пэўная пасільная лепта і нашай мастацкай літаратуры. Яна таксама значна ступіла наперад.

Роскві́т нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу беларускай культуры з яркай нагляднасцю адбіваецца і на сучаснай беларускай мастацкай літаратуры. Калі раней, у дакастрычніцкай беларускай паэзіі чуўся векавечны сум прыгнечанага народа, стыхійны пратэст супроць нацыянальнага і соцыяльнага гвалту і прыглушаны заклік да барацьбы за свабоду, за нацыянальнае

адраджэнне народа, то сягоння паэты Савецкай Беларусі складаюць песні, якія гучаць такою радасцю вызваленай працы, такім энтузіязмам разняволенай сілы, такою верай у шчасце працоўнага чалавецтва, якія ніколі яшчэ не гучалі ў беларускай мове.

Калі раней жанры беларускай мастацкай літаратуры зводзіліся да песні, казкі, невялікай паэмы, апавядання, то ў умовах савецкай рэчаіснасці мы стварылі і ствараем лірыку гераізма, паэмы эпічнага размаху, раман і драму.

Калі раней мысль нашых пісьменнікаў была замкнёна ў цесным коле нацыянальнай і нацыяналістычнай тэматыкі, то пісьменнікі Савецкай Беларусі разбілі гэтыя рамкі і шырока рассунулі соцыяльны гарызонт свае творчасці, паставіўшы ў цэнтры сваёй увагі пытанні соцыялістычнага будаўніцтва, барацьбы з класавым ворагам, пытанні абароны свае краіны і інтэрнацыянальнай пролетарскай салідарнасці. Гэта магутная рэчаіснасць жывіць нашу мысль і нашы пачуцці, расчыняе перад нашым зрокам бліскучыя далі новага света, у пабудове якога бярэм удзел мы самі, тварцы мастацкага слова. Гэта соцыялістычная рэчаіснасць вывела нас з заварожанага кола цэхавой замкнёнасці і паставіла нас твар у твар, сэрцам к сэрцу з новым многамільённым масавым чытачом, і ў гэтым чытачу мы знаходзім не толькі чулага, уважлівага друга, але часта і празорлівага крытыка, патрабуючага ад нас быстрага пад'ёму на вышыні мастацкага майстэрства.

Мы, пісьменнікі маладой Савецкай Беларусі, яшчэ не можам заявіць сягоння, што мы ўжо дасяглі гэтых вышынь. Каб авалодаць імі, мы павінны яшчэ шмат працаваць і вучыцца. І мы працуем і мы вучымся з упэўненасцю ў нашым поспеху. Гэта ўпэўненасць выходзіць з яснага разумення нашых задач пабудовы новых форм чалавечага грамадства, з пераканання ў праваце нашай вялікай справы. Гэта ўпэўненасць жывіцца магутным адчуваннем таго, што мы жывем у краіне, дзе слова „чалавек" „гучыць горда", як сказаў вялікі пролетарскі пісьменнік Максім Горкі, у краіне, дзе пісьменнік носіць высокую годнасць інжынера чалавечых душ. Нарэшце гэта ўпэўненасць ідзе ад адчування поўнага адзінства нашай улады і ўсяго працоўнага народа ўсіх савецкіх рэспублік. Дзе, у якой краіне пісьменнік можа адчуць яго так, як адчуваем мы?

Хто-ж запаліў гэты агонь, пераплавіўшы труднасці ў радасць, хто накіраваў яго непераможную сілу? Наша партыя і яе нястомны стратэг, арганізатар нашых дасягненняў Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Ніякія сілы, ніякія пагрозы не могуць загасіць гэты агонь. Ніхто і нішто не можа прымусіць нас адмовіцца ад заваёванага права на шчасце працоўных мас.

Азірнуўшы дарогу, пройдзеную Савецкай Беларуссю за 20 гадоў і падвёўшы падрахункі яе здабыткам, мы павінны глянуць у заўтрашні дзень і вызначыць свае асноўныя задачы. Гэты дзень выступае пад знакам напружанай міжнароднай абстаноўкі. Чорныя сілы рэакцыі падымаюць галаву. Дзікі фашысцкі разгул залівае крывёю гераічную Іспанію і Кітай. Разарвана на кавалкі Чэхаславакія, ганебна выданая сваімі саюзнікамі ў асобе Чэмберлена

і Даладʻе берлінскаму пагромшчыку. Як самастойная дзяржава, сышла са сцэны Аўстрыя, растаптаная гітлераўскім ботам. Крывавая фашысцкая пошасць шырыцца па Еўропе. Мюнхенскія камі-ваяжоры развязваюць разбойнікам рукі, накіроўваюць іх на ўсход Еўропы. А таму наша асноўная задача—стаць на варту краіны і аддаць сваю энергію і здольнасць на ўмацаванне ваеннай магутнасці нашай радзімы, быць гатовымі даць бязлітасны, сакрушальны адпор агрэсарам, каб дзікія орды фашысцкіх цемрашалаў, калі яны памкнуцца на нас, трупамі паляглі на рубяжах нашай свяшчэннай зямлі. У непарыўнай дружбе ўсіх народаў, у магутным яднанні пад кіраўніцтвам вялікай, неперіаможнай Комуністычнай партыі і геніяльнага стратэга—правадыра тав. Сталіна мы смела і ўпэўнена пойдзем далей да новых перамог.

*Змітрок Бядуля*

## АБ ЧАЛАВЕЧЫМ ШЧАСЦІ

Імпэтна імчыцца машына.

Адчуваеш, як яна прарэзвае марозны бадзёры вецер. Над калгаснымі абшарамі пытлюецца, сеецца дробны, як мука, сняжок. Сіняватым цукрам ён асядае на полі. Прытульнымі космамі сівізны абрастаюць уводалі лясы, гаі, калгасныя пасёлкі.

Імпэтна імчыцца машына.

І здаецца, што ўвесь абшар, падганяемы зімовымі гучнымі ветрамі, насоўваецца абапал шасейнай дарогі, табе насустрач. Навагоднія пейзажы ператвараюцца ў казку, якая разгортваецца на дзіўным экране серабрыстай далі. І кожнае паасобнае дрэва здаецца табе дзедам-марозам. І кожны гаёк перакідваецца ў казачны замак, у мармуровы палац.

Імпэтна імчыцца машына.

Што гэта за малады лес? Гэта бяжыць удаль пяцігадовы сад калгаса імя НКВД. Вось ён апускаецца ў лагчыну. Вось ён зноў узнімаецца на ўзгорак. Вось ён схаваўся у снежным дымку. Ён цягнецца аж на восемдзесят гектараў...

Шэраг фурманак на дарозе. Людзі ў кажухах і валёнках. Возяць будаўнічы лес. Будуюцца новыя хаты. У калгасны цэнтр сцягваюцца апошнія хутары. Будуюцца новыя свірны, бо ранейшыя цесныя, не ўмяшчаюць увесь сёлетні ўраджай.

Знаёмая мясцовасць. Тут не раз прыходзілася мне бываць улетку. Дзе-ж дзелася рэчка Свіслач? Любімы герой малых дзяцей дзед Мароз пабудаваў на ёй ільдзяны даўжэзны мост. Свіслач цяпер зліваецца з пейзажам, хаваецца пад кажухом снягоў. Ага! Вось яна—знаёмая, прыязная, родная! У гарачы летні дзянёк так прыемна ў ёй пакупацца, рыбку павудзіць. Колькі радасці яна дае школьнікам і дарослым! Які тут прыемны адпачынак калгасніку! І цяпер перад новым годам тут вясёлы гоман, шчаслівы гучны смех. Дзеці на каньках імчацца на ільдзяных дарогах Свіслачы. Дзеці здалёку нагадваюць кропкі. Яны рухаюцца па лёдзе, мітусяцца туды і сюды. Па гуках і смеху, што далятаюць ад гэтых жывых кропак, здаецца, нібы бачыш пачырванелыя ад смеха і мароза дзіцячыя твары, іх бліскучыя ад радасці вочы.

Малады сад на дзесяткі гектараў і дзеці, што катаюцца па Свіслачы на каньках, накіроўваюць думкі ў адзін бок—думаеш аб чалавечым шчасці на сталінскай зямлі, аб заваяваным шчасці на велічэзнай, магутнай і велічнай совецкай радзіме.

Імпэтна імчыцца машына.

Як прыемна ехаць у радасную даль і думаць аб здабытым шчасці...

У песнях мінулых год, у даўнейшых народных казках гаворыцца аб чалавечым шчасці. Яно, шчасце, жыве залатой рыбкай на дне мора, мігаціцца на небе ясйай зоркай. Яно, шчасце, хаваецца ад гаротных у нетрах непраходных пушч. То яно зазззяе агняцветам на кветках папараці. То яно, загрыміраванае барадатым дзедам, абвешаным жабрацкімі торбамі, брыдзе па шматлюдных дарогах-пуцявінах.

Бедныя людзі тысячагоддзямі шукалі свайго шчасця і знайсці не маглі. Плылі ў нябыт грознымі хвалямі людскія пакаленні, а шчасця не было. Сівымі вандроўцамі міналі вякі за вякамі, а шчасця не было.

Разам з народам марылі аб шчасці яго вялікія песняры. Аб шчасці марыў вялікі вечны Пушкін. У страшнай няволі, у казематах спяваў пра шчасце гарачы бунтар, сардэчны да прыгнечаных, грозны да прыгнятальнікаў, неўміручы кабзар Шэўчэнка.

За шчасце для гаротных у старадаўнім Рыме змагаўся Спартак. Ваяваць за шчасце працоўных вучылі вялікія мудрацы зямлі Маркс і Энгельс.

На шостай частцы нашай планеты вырывала шчасце з клыкоў сусветных драпежнікаў-капіталістаў гераічная родная партыя Леніна—Сталіна. Дваццаць год найвялікшы каваль чалавечага шчасця, геніяльны правадыр рабочага класа Іосіф Вісарыёнавіч Сталін выкоўваў, замацоўваў, гартаваў шчасце для вялікага совецкага народа. І на дне мора, і ў нябёсных вышынях, і ў непраходных пушчах, і ў глыбіні зямлі, і ў гарачых стэпах, і ў непраходных балотах, і ў сонечным поўдні, і на суровых крыгах Паўночнага полюса адважнае племя большэвікоў знаходзіць гэтае шчасце.

Яго, шчасце, мае цяпер увесь народ—ад малюткі, якая не ведае слоў „няшчасце“ і „гора“,—да стагодняга дзеда, які памятае жудасны прыгон.

* *
*

У калгасе „Чырвоны партызан“ быў я і ўлетку. Якое дзіўнае хараство! Па ўзгорках і далінах разгортвалася неахопнае мора жыта. Яно было вельмі густое і высокае. Памятаю, мяне тады здзівіла адно цікавае з'явішча. Над жытнім масівам рухалася бліскучая каса. Нібы кавалак шкла, каса збірала на сябе брыльянты летняга сонца. Асляпляючыя блікі пераліваліся на яркай сталі ў розныя калёры. Каса набліжалася. Нарэшце з жытняй мяжы выехаў верхам на кані з касой на плячах калгаснік... У бірузовай далі хаваліся абшары пшаніцы, аўса, ячменя, бульбяных палёў. Стройнымі радамі ўзнімаўся нядаўна адцвіўшы, з завязямі яблык ды ігруш малады араматны 15-гектарны сад. Раскіданая па ураджайнай зямлі, аграмаднымі люстэркамі блішчэла ў рамках ракіт і вербалоз рака Свіслач. Яна яркім лязом урэзвалася ў даль і знікала ў дрымучым бары.

У калгасе „Чырвоны партызан“ усе ўлетку рыхтаваліся да выбараў дэпутата ў Вярхоўны Совет БССР. Іх кандыдатам была адна з лепшых дачок беларускага народа камбайнерка-калгасніца Ольга Канстанцінаўна Шарко.

Свяціла сонца.

Па-святочнаму былі апрануты людзі. Дзеці імчаліся па вуліцах калгаснага гарадка-пасёлка. Выдумлялі розныя гульні-забавы, спявалі вясёлыя песні. Над дзяцьмі ў яркай сіні летняга паветра звінелі жаўранкі. Усё выглядала так молада, радасна...

Новыя сасновыя хаты. Маляваныя акяніцы. Надваконнікі з багатай разьбой, мастацкі арнамент, які нагадвае вышыўку на сялянскіх сарочках. Абапал вуліц маладыя прысады. Водаль—маладыя насаджаны парк. На старане—вялізныя гумны, свірны, канюшні, кароўнік, свінарнік ды іншыя будынкі.

За прыбранай у хвойныя гірлянды аркай, з партрэтамі правадыроў, з шарэнгай чырвоных сцягоў—клуб, кантора, дзіцячыя яслі, школа. Здалёк, сярод мядовага лугу, відаць маленечкі казачны гарадок—пчола-пасёлак у 45 сямей.

Усё гэта здавалася панарамай, намаляванай новым мастаком, лірыкам, паэтам. Кожны штрых—натхненне, замілаванне. Мастаком калгаса „Чырвоны партызан“ з'яўляецца ўвесь калгасны калектыў у 104 сям'і.

Гэта адзін з многіх-многіх такіх-жа куткоў нашай радзімы. Яна ўся ўпрыгожана натхненнем і любоўю новай пачэснай чалавечай працы—працы па-сталінску.

Сонечная хваля народнага шчасця і радасці ўзнімае мяне ўгару. Кожны чалавек у гэты час адносіцца да цябе інтымна, па-свойску, па-роднаму. Ён дзеліцца з табою сваімі пачуццямі, успамінамі, нібы вясельным караваем.

У часе такой народнай урачыстасці ў непасрэдных сустрэчах з народам перад табой разгортваецца жыццё многіх людзей: пакуты мінулага, барацьба, перамога, радасць сягоння, праекты і мары аб заўтры.

Усе біяграфіі выдатных людзей нашай радзімы складаюць вялікую паэму аб жыцці народа ў цэлым. Жыццё кожнага рабочага і былога парабка паасобку—гэта кропля народнага шматмільённага мора. Але кожная кропля адлюстроўвае ў сабе сонца, неба і ўсё вакольнае. Кожны чалавек паасобку—цэлы шматкаляровы свет. Таму партыя Леніна—Сталіна—мозг і сэрца народа—па-бацькоўску клапоціцца аб кожным чалавеку: ні адна кропля ў вялізным народным моры не павінна застацца без увагі.

* * *

Аб мінулым ваколіцы калгаса „Чырвоны партызан“ апавядаюць калгасныя дзяды і бабулі. Яны—жывая летапісь тутэйшай зямлі. Апрача казак і песень часоў мінуўшчыны, яны апавядаюць шмат быляў. З глыбінь сэрца ажывае векавая крыўда на паноў ды іншых векавечных прыгнятальнікаў працоўнага люду. Закіпае гнеў, сыплюцца словы агнёвай нянавісці і праклёнаў на тых, хто іх баць-

коў і дзядоў калісьці за людзей не лічыў і мяняў на сабак і коняй.

Большасць тутэйшай зямлі належала графу Чапскаму. Яго маёнткі душылі паветра ўсёй ваколіцы. Шмат хто з калгаснікаў—яго былыя парабкі. У графскіх маёнтках гнулі спіну тысячы беззямельных сялян, сотні батрацкіх сем'яў. Чапскі быў тут поўным законадаўцам-феадалам. Графскія эканомы і ўпраўляючыя здзекаваліся з „вольных" сялян, як у часы паншчыны. Ляснікі не дазвалялі і хвярасцінкі браць з графскай пушчы. Яны,—гэтыя сабакі, перакінутыя ў людзей—аддана служылі свайму гаспадару. Са стрэльбамі за жанчынамі гналіся. Білі, хусткі зрывалі з галавы, кошыкі і мяшкі адбіралі за ягады ці грыбы ў лесе. Нават крапівы нажаць на маянтковых пустырах забаранялася. Граф за гэта грашмі штрафаваў.

Што-ж было рабіць беззямельным? Хаваліся ад ляснікоў ды „кралі" ў графа крапіву. Толькі адна харобрая жанчына знайшлася, якая графскіх ляснікоў ані не баялася, Ефрасіньня Шапалькевіч звалася яна. Памёрла два гады таму назад. Пра яе старыя людзі расказваюць цікавую гісторыю.

* * *

Хоць гаротная, але задзёрыстая была Фрося. Яе дробная хатка была старэнькая—на падпорках трымалася. Будкі графскіх сабак былі палацамі побач з гэтай халупай.

Муж Фросі хадзіў вечна на адработкі да кулакоў. Рэдка калі ён што прыносіў дамоў—трэба было адрабляць за пазычаныя зімою харчы: пудок жыта на зацірку, асьміну бульбы. Браў ён зімой жменькі дабра ў розных людзей. Вексалем служылі яго працоўныя рукі. Улетку ён дзень у дзень хадзіў ад гаспадара да гаспадара на работу—выплачваць даўгі сваім потам. Ціхі ён быў чалавек; не пярэчыў ды адрабляў у кулакоў за даўгі ў дзесяцікратным памеры. Ціхім быў ён і ў хаце, калі жонка Фрося часам крычала на яго, чаму ён дамоў ніколі нічога не прыносіць. Хоць-бы гэтулькі, колькі сарока на хвасце прынесці можа. Крычала на яго Фрося ды супакойвалася. „А што-ж сапраўды рабіць?"—мірылася яна.—„Няхай толькі цяпер заартачыцца, тады зімой ніхто і меркі прыварку не пазычыць. Яшчэ горш стане".

Улетку ў Фросінай хацінцы бывала горш, чым зімой. Ледзь дачакалася лета, калі бог-гасподзь накорміць яе сямейку посным шчаўём ці маладой крапівой, грыбам, ягадкай. Але і гэта дабро бог-гасподзь расціў на графскай зямлі.

І бывалі дні, калі крапіва здавалася дзецям Фросі і яе падсвінку райскім пачастункам, больш смачнай ежай, чым смажаныя курапаткі на графскіх бальных сталах.

І гневалася Фрося на госпада-бога, на графа, на ўсіх багатых людзей.

— Хоць ты на печы сей гэту крапіву!—скардзілася Фрося.

Замест ежы Фрося расказвала дзецям байку аб тым, як вырасце куст крапівы ў яе хаце, дарасце да столі. Праб'е столь

і вырасце да даху. Праб'е дах і вырасце да яснага неба. Праб'е неба і ўрасце пану-богу ў самую бараду. Ад барады ўрасце пану-богу ў самыя вочы. І пан-бог,—які заўсёды глядзіць, каб багатым добра жылося, ды каб бедны чалавек вечна гараваў на паноў,— аслепне. Тады бедныя людзі будуць жаць з аграмаднага крапіўнага дрэва маладыя галінкі крапівы, будуць гатаваць гэту крапіву з вадою, прыправяць, прысоляць—ды есці, есці...

Фрося не ўявіла сабе большага шчасця, як есці ўволю крапіву.

У Фросіных дзяцей разам з ростам казачнага куста крапівы зусім не казачна, а па-сапраўднаму, рос апетыт. Яны глыталі сліну. Тут-жа хрукаў галодны падсвінак. І ён на сваёй мове прасіў крапівы... Крапіва стала для сямейкі найвялікшым шчасцем...

І такая жаласлівасць напала на Фросю, што ёй бясконца плакаць хацелася. Яна душылася слязамі, нібы вострай косткай ад рыбы. Закусвала губы.

— Мама! У цябе кроў з ніжняй губы цячэ!—сказаў маленечкі хлопчык.

Дзеці спалохаліся:

— Кроў... кроў...

І высахлі адразу Фросіны слёзы. Загарэліся вочы двума чырвонымі вуголлямі. Сціснуліся рукі ў кулакі. Фрося пачала праклінаць бога, графа ды ўсіх багатых на свеце людзей такімі страшнымі словамі, ажна дзеці спалохаліся.

— Мама... Не злуйся... Нам страшна... Есці не хочам... Мы і так сытыя...

Малыя трымаліся за яе зрэбную спадніцу. Тут-жа хрукаў падсвінак і выкапаў лычком ямку ў хаце. Падлогі-ж не было. А іншага месца, дзе лычком пакапацца ў зямлі падсвінак не меў. Квадрацік зямлі на шэсць аршын у хаце быў усёй Фросінай зямельнай гаспадаркай.

Фрося адштурхнула ад сябе дзяцей, схапіла серп, дзіравы мяшок і пабегла з хаты. Здавалася ёй, што яна лёгкая, нібы верабей. Ногі імчалі яе да забароненага шчасця—да графскага пустыра, дзе расце маладая смачная крапіва.

— Фрося, куды ты бяжыш?—пыталіся людзі.

Яна не адказвала.

Здавалася ёй, што яна вельмі моцная. Захоча—і графскі палац перакуліць дахам уніз. Здавалася ёй, што яна вельмі адважная. Захоча—і плюне ў твар самому вяльможнаму графу Чапскаму. Урэпіцца ў графскія вусы ды вырве ў яго права на жменьку крапівы...

— Фрося! Панскі ляснік круціцца на пустыры. Са стрэльбай... Забіць можа...

Фрося не слухала.

Нажала крапівы. Напхала поўны мяшок—ледзь падняць.

— Ах, ты-ы-ы! Пся косць!

Гэта крычаў графскі ляснік. Ён ішоў да яе ўзброены стрэльбай, грозны, злосны. Вось зараз ён сатрэ Фросю ў пясок, у пылок. Фрося чакала. Паставіла мяшок ззаду сябе, нібы маці, якая бароніць роднае дзіцё ад лютага звера.

— Хустку сарву! Мяшок забяру! Права не маеш травінку крануць на зямлі яго светласці! Эх, ты-ы-ы!

— Каб на галаве яго светласці куст крапівы вырас!—вылаялася Фрося.

Ляснік пачаў ірваць хустку з галавы Фросі. Жанчына ўрэпілася пальцамі, як абцугамі ў яго вушы, пачала кіпцюрамі драпаць ляснікова твар.

— Пусці, чорт!—пыхцеў, хрыпеў ляснік.

Ледзь вырваўся з яе рук.

— Ах, ты-ы-ы! Псяюха!—роў ён немым голасам і давай палохаць яе стрэльбай.

У Фросі з'явілася нечалавечая сіла, вялікі гнеў. Вырвала яна стрэльбу з. рук лесніка, кінула вобземлю. Потым кінула вобземлю і самога ляcніка—і давай таптаць па ім нагамі.

— Як табе гэты танец мой падабаецца?!—пыталася Фрося.

— Фросенька... міленькая...—благаў, маліў ляснік.

Злосць у Фросі крыху адышла. Яна адпусціла ляcніка, памагла яму ўзняцца на ногі. Узваліла на плечы мяшок крапівы, узяла лясвікову стрэльбу ў рукі, каб ляснік чаго добрага не стрэльнуў ёй у спіну—ды пайшла сабе дамоў...

Доўгі час хварэў графскі ляснік. Ледзь упрасіў Фросю, каб стрэльбу аддала. За гэта самае ўсё лета ляснік уначы, каб ніхто не бачыў, насіў ёй шчаўе з панскага агароду, агуркі, дазваляў ягады і грыбы збіраць у пушчы. Ды не толькі ёй, а ўсім жанчынам і дзяўчатам з ваколіцы.

Такую ўмову паставіла Фрося за сваё маўчанне.

Ляснік зрабіўся добрым і мяккім, хоць ты яго да скулы прыкладвай, а ўсё затое, каб хаця Фрося нікому не гаварыла пра здарэнне на панскім пустыры. Яму сорамна было, што баба яго адалела.

Графу Чапскаму ляснік гаварыў, што мядзведзь на яго ў лесе напаў. Граф узвёў яго ў героі, праславіў перад іншымі панамі: жартачкі, мой ляснік, панове, ад мядзведзя абараніўся... У мяне людзі—ого-го!

Фросіны дзеці зажылі ў тое лета „па-графску"—не адных толькі грыбоў і ягад удоваль мелі. Калі-ні-калі ім пападаліся і яблычкі з графскага сада.

Фрося тлумачыла дзецям, што ўсё гэта расце на крапіўным кусце, які вырас ад зямлі да самага неба.

— А дзе-ж ён, гэты крапіўны куст?—пыталіся дзеці.

— Як станеце вялікімі, тады, дзеткі, угледзіце гэты самы крапіўны куст,—сказала Фрося ды весела засмяялася.

Адзін харобры ўчынак аблягчыў хоць крышачку яе горкую долю.

* * *

Рознае шчасце і рознае няшчасце бывае ў розных людзей.

У 1905 годзе граф Чапскі лічыў сябе нешчаслівым чалавекам. Начамі не спаў. Ён жыў тады ў Менску, дзе ўладаў вялікім кварталам дамоў. Меў тут свае аранжарэі, цяпліцы. Даходаў з

маёнткаў было яму мала—кветкамі гандляваў у горадзе, раннімі агуркамі, яблыкамі. Кватэры ў.арэнду здаваў. Сваю сямейку трэба было карміць. Хоць дрыжэў ён над кожным кустком крапівы па ўсіх сваіх маёнтках на Меншчыне, але сваю сям'ю крапівой не карміў.

Графскі герб красаваўся некалькі стагоддзяў, але надышоў 1905 год. Герб калыхнуўся. Граф страціў апетыт і сон.

— О, які я нешчаслівы!—стагнаў ён і хадзіў цэлымі начамі па спальні. Не спалася. У шоўкавым халаце бегаў ён па мяккім велізным дыване, як звер у клетцы. З вакон глядзелі на яго ночныя страхі.

— О, які я нешчаслівы!

Па неасцярожнасці скінуў з замыславатай тумбачкі з перламутравымі інкрустацыямі сваю ўласную гіпсавую статуэтку. Адпала гіпсавая графская галава. Ён верыў у забабоны. Расказаў гэты выпадак пану Вайніловічу, Кастравіцкаму, напоўзвар'яцеўшай княгіні Радзівіл, губернатару Курлову. Яны жылі між сабой даволі інтымна. У іх былі агульныя забавы і агульныя трывогі.

Губернатар Курлоў гладзіў двума пальцамі сваю чорную прыгожую эспаньолку і супакойваў яго:

— Калі па вашых маёнтках чуць што трывожнае, вы адразу да мяне. Казакаў хопіць і для вашых парабкаў.—І каршуновыя вочы Курлова блішчэлі па-воўчаму.

А трывожныя весткі ішлі з розных месц. Падзеі нарасталі драматычна, эфектна. Парабкі спяваюць рэвалюцыйныя песні. Вакольныя сяляне пайшлі лыкі дзёрці з графскіх ліп. Парабкі на працу не выходзяць. Дзе-ні дзе палалі панскія маёнткі.

— О, які я нешчаслівы!—скардзіўся граф Чапскі.

Губернатар Курлоў не шкадаваў казацкіх нагаек і куль, як у Менску, так і па ўсёй губерніі.

Народны гнеў, затоплены крывёю рабочых у горадзе і сялян на вёсцы, гарэў затоеным вулканам.

Кончылася генеральная рэпетыцыя—рэвалюцыя 1905 года.

* * *

Кастрычнік 1917 года. Былыя парабкі, цяперашнія калгаснікі з калгаса „Чырвоны партызан“, ужо чулі пра Леніна і Сталіна і ведалі, што са сваімі адвечнымі ворагамі можна гаварыць толькі на адной мове—на мове гармат, кулямётаў і вінтовак.

У кожнага з гаротных людзей выбухнула ўверх прытаёная вякамі ў грудзях злосць і гнеў на сваіх лютых крыўдзіцеляў. Вулкан народнай адвагі пафарбаваў у чырвоны колер неба і зямлю. Рыцар-асілак—народ выступіў пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ў адкрыты бой з класавым ворагам за сваё шчасце.

Граф Чапскі дрыжэў больш, чым у 1905 годзе.

— О, які я нешчаслівы!—гаварыў ён.

Беззямельныя падзялілі „яго“ зямлю. Секлі „яго“ лес сабе на хаты. Пасівеў граф. Яго вытруйвалі з народнага цела, як уеўшагася агіднага кляшча.

Напоўадзічэлы, ён нібы бачыў перад сабою ў небе „божыя шалі“: то яго, графскі лёс пераважвае, то лёс яго парабкаў, цяперашніх „чырвона-партызанцаў“. Граф верыў у лёс. Немцы разлічыліся з народам за графскі лес, за графскую зямлю. Да апошняга зярна забралі ў сялян. Яшчэ саміх сялян прымусілі адвазіць нарабаванае на станцыю. Многіх беднякоў па даносу панскіх падлізаў немцы пагналі ў Горадню.

За графа Чапскага, пана Вайніловіча, Кастравіцкага, княгіню Радзівіл, Скірмунта ды ўсіх паноў беларускія нацдэмы паслалі вусатаму кайзеру Вільгельму тэлеграму—дзякавалі. Кайзер нават не адказаў на гэту тэлеграму—сам быў заклапочаны не менш за графа Чапскага. Наспявала рэвалюцыя і на яго зямлі, у яго дзяржаве.

Разам з немцамі далі лататы адгэтуль і паны.

Ленін і Сталін арганізавалі беларускую дзяржаўнасць. Былыя парабкі графа Чапскага сталі людзьмі. Аднак праз колькі часу зноў „божыя шалі“ пацягнулі ў бок Чапскага: на беларускую зямлю ўварваліся белапольскія банды.

Як па ўсёй Беларусі, і ў гэтай мясцовасці шляхта і паны рабавалі, катавалі, забівалі, палілі.

Руды, у рабацінnях на твары, з вадзяністымі жабінымі вачыма, дарослы нягеглы сын графа Чапскага хадзіў па вуліцах Менску і вадзіў на зграбным ланцужку паляўнічага выжла. Ехаць у бацькоўскія лясы на паляванне сынок баяўся. Там было шмат партызан. Ён, графёнак, хадзіў па цяперашняй Совецкай вуліцы і глядзеў, як вялі партызан на Камароўку на расстрэл сярод белага дня.

Аднаго разу вялі групу ў 15 чалавек. На тратуарах спыняліся гаражане, хваляваліся, некаторыя плакалі. Нягеглы графёнак мармытаў:

— Разбойнікаў павялі.

За групай партызан ішлі іхнія бацькі. Колькі роспачы было ў іх вачах, у рухах... Маткі прычыталі-галасілі на ўвесь голас. Бацькі моўчкі рукі ламалі. Адзін малады хлапец са смертнікаў нахаду скінуў боты з ног і крыкнуў маці:

— Забяры. Мне ўжо не патрэбны, а табе прыгадзяцца.

Схапіла старая маці ў рукі боты сына, прытулілася да іх тварам, сціхла і пачала моўчкі гушкаць боты ў сваіх руках, цалаваць іх, нібы малое дзіцё.

— Рыгорка мой... Рыгорка мой...—вырвалася з яе грудзей.

Конны пазнанец адагнаў яе нагайкай. Нягеглы сынок Чапскага прыдуркавата зарагатаў.

А ў ліпені ў пякельна-гарачыя дні гарэў Менск, гарэлі мястэчкі, гарэлі вёскі. Паны наладжвалі развітальныя агні з людской маёмасці ды з саміх людзей. Удзень неба было ў шызым дыме. Уночы—палыхала зарава. Крыкі, ляманты, лаянка рэзалі паветра і ўдзень і ўночы.

Стары Чапскі развітваўся ў апошні раз са сваімі маёнткамі. Ён меў далікатную душу і кволае сэрца. Вось-вось страціць прытомнасць.

— Як-жа так?.. Мае дзяды і прадзеды... іхнія магілы... мае палацы... мае лясы і сады...

Яго суцяшалі ксяндзы, паны Вайніловічы, Каставіцкія ды іншае тутэйшае магнацтва.

Іхнія трывожныя словы былі кароткія, як дыханне, і вострыя як кінжалы, палахлівыя, як піск зайца:

— Каб хаця Варшава...

Гэта памагала. Граф рабіў злосныя вочы. А яго нягеглы графёнак любаваўся на пажарышчы. У яго вадзяністых вачах адбівалася полымя. Яны былі як-бы налітыя крывёй. Яны гарэлі па драпежніцку. Графёнак быў зачараваны відовішчам руйнавання. Ён бачыў у гэтым неронскае хараство. Ён уцягваў ноздрамі пах гарэлага чалавечага мяса. Лавіў слыхам стогны і галошанне сялян. Хмялеў ад асалоды. Як графёнак быў маленькім—дзесяткі кошак перавешаў, сотні шчанят патапіў. Мышэй абліваў газай і паліў.

Ішлі легіянерскія атрады, пелі нахабныя агідныя песні. Графёнак рагатаў ідыёцкім голасам.

Паны і легіянеры ўцякалі на Варшаву. Цягнікі былі бітком набігы. Грахаталі цягнікі. Будзілі беларускую зямлю да помсты. Лінія чыгункі зусім блізка знаходзіцца ад цяперашняга калгаса „Чырвоны партызан". Шмат хто з цяперашніх калгаснікаў былі тады ў Чырвонай Арміі, у партызанскіх атрадах. Старыя, дзеці і жанчыны хаваліся ў лесе, там-жа хавалі жывёлу.

І вось—лес і вялікае крушэнне. Вагоны з усёй сілы стукнуліся адзін на адзін, лоб-у-лоб. Некаторыя вагоны рассыпаліся, як фанерныя скрыначкі.

— Дзе машыніст, псякрэў?

Лаянкі на польскай мове сыпаліся па адрасу машыніста. Гэтых лаянак было вельмі шмат.

— Дзе машыніст?

Дзесяткі штыхоў былі напагатове. Вось зараз расправяцца з машыністам. Ён быў раней пад арыштам. Дэфензыўшчыкі над ім здзекаваліся. Перад тым, як сесці на паравоз, да яго гарачай скроні была прыціснута халодная сталь рэвольвера.

— Не паслухаешся—канец табе вось тут!—пагражаў нізенькі з вострымі вачыма пазнанец.

Машыніст не баяўся смерці. Але ён нешта задумаў: „калі памерці, дык з гонарам... Каб паны доўга мяне памяталі".

А на паравозе побач з ім стаяў вусаты востравокі пазнанчык. Легіянер не здымаў з яго пільнага зроку. Рэвальвер быў увесь час напагатове. Напагатове быў увесь час і машыніст.

Пад грукатанне колаў вострыя, як голкі, каролі секунды, мінуты. Часта ад вялікага напружання спынялася сэрца ў пазнанчыка. Машыніст быў у гэты час вялікім артыстам. Нешта пад нос напяваў. Хаваў глыбока сваё пачуццё. Усміхаўся пазнанчыку добрадушна. Нібыта вельмі баяўся рэвальвера. Улавіў долю секунды, калі пазнанчык заварочаўся і гакнуў яго па галаве моцным кулаком. Аглушыў пазнанчыка. Раптоўна затармазіў паравоз, схапіў выпаўшы з рукі пазнанца рэвальвер, саскочыў на рэйкі і—у лес, які зараз належыць калгасу „Чырвоны партызан".

Машыніст па-свойму разлічыўся з катамі беларускага народа.

* * *

Пад кіраўніцтвам партыі, геніяльных стратэгаў пролетарскай рэволюцыі Леніна і Сталіна, пры дапамозе вялікага братняга рускага народа, беларускі народ заваяваў сваё шчаслівае жыццё. У радах Чырвонай Арміі, якія тады знаходзіліся ў мясцовасці цяперашняга калгаса „Чырвоны партызан“, былі розныя народнасці СССР. Жыхары Поўдня і Поўначы, Усхода і Захада. Розныя выгляды, розныя мовы. Але ўсе з бальшэвіцкай чырвонай зоркай на шапцы.

Цяперашнія калгаснікі частавалі іх чым хто мог. Абнімаліся, цалаваліся. Для шчырага брацтва народаў быў адзін пароль:

— Ленін—Сталін!

Колькі замілавання і пяшчоты было ў галасах і вачах байцоў, загартаваных на розных франтах грамадзянскай вайны. Пачуцці свайго сэрца яны выказвалі ў двух словах:

— Ленін—Сталін.

* * *

Навагодні зімовы грым па свойму паказвае калгасны пасёлак, службовыя ды іншыя будынкі. Вызначаецца пэўны стыль. Своеасаблівая прытульнасць. Ужо некалькі год архітэктары думаюць над стылем калгасных пасёлкаў. Нічога канкрэтнага ў гэтым напрамку яшчэ не прыдумана. Аднак, пакуль што кожны калгас па-свойму будуе свой пасёлак, арыентуючыся ўмовамі быту і працы. Шмат у гэтым перашкаджае спадчына—былая хутарская сістэма. Яшчэ не ўсюды хутары сцягнуты ў калгасны цэнтр.

У калгасе „Чырвоны партызан“ за ноч навалiла каля будынкаў шмат высокіх гурб. Жанчыны і старыя дзяды працуюць лапатамі. З старшынёй калгаса сустракаюся каля канторы. Колькі здароўя, энергіі і ветлівасці ў гэтага чалавека! Не гледзячы на тое, што тав. Бейнэ інвалід, на адной назе, ён на рэдкасць рухавы і спрытны. Усюды паспявае першым.

Сяргею Іосіфавічу Бейнэ цяпер сорак год. Жыццёвы шлях яго надзвычайна багаты. Яго жыццё—яркая ілюстрацыя да гісторыі двух светаў—да Кастрычніка і пасля Кастрычніка. З яго ўспамінаў можна было напісаць цэлую кнігу. У яго памяці зафіксаваны сотні гістарычных падзей, карціны быту, вобразы тысяч рознастайных людзей двух эпох у розных гарадах і сёлах СССР. У дзіцячыя годы тав. Бейнэ быў пастухом у кулакоў. Падросткам працаваў падзённа ў панскім маёнтку. Потым—рабочым у панскім бровары. Да самай лютаўскай рэволюцыі працаваў возьнікам пры канцылярскай фабрыцы ў Маскве. У пачатку 1918 года паступіў у Чырвоную гвардыю. Змагаўся літаральна на ўсіх франтах грамадзянскай вайны. Быў ранены, страціў нагу. Потым працаваў па інвалiднай каапераціі. У 1928 годзе ўступіў у члены ВКП б). Усе годы несупынна займаўся самаадукацыяй. Ён вельмі начытаны, культурны. У калгасе „Чырвоны партызан“ тав. Бейнэ з 1934 года. За арганізацыю ў калгасе сталінскага ўраджаю ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга.

Калгаснікі ганарацца сваім старшынёй, паважаюць і любяць яго. Ён трапна, умела паставіў працу. У 1937 г. агульназернавы сярэдні ўраджай—16 цэнтнераў і 70 кгр. Не ніжэй і ў 1938 годзе. Да новага году яшчэ не быў скончаны абмалот.

„Чырвоны партызан“ вырошчвае сартавое адборнае насенне для ўсіх вакольных калгасаў.

— Наша насенне,—кажуць чырвонапартызанцы,—славіцца на ўсю ваколіцу. Зёрны ядраныя, буйныя, залатыя. Адна любата!

Архітэктарам калгаснага пасёлка быў сам тав. Бейнэ. Дабрабыт кожнага калгасніка паасобку, агульная культура калгаснай масы—усё гэта робіцца планава, з году ў год паляпшаецца.

Вось перспектывы калгаса „Чырвоны партызан“ на будучы год:

1. Сцягванне апошніх хутароў у цэнтральны пасёлак.
2. Праводка вадаправода ва ўсе калгасныя хаты. Ужо набыты патрэбныя матэрыялы.
3. Электрыфікацыя калгаса. Ужо набыты нафта-рухавік.
4. Павелічэнне пчола-пасёлка і іншае.

* * *

Пад нагамі скрыпіць снег. Пылінкі снегу сеюцца зверху і прыемна, як вішнёвы цвет, асядаюць на твары.

Мы з тав. Бейнэ спыняемся ля хаты старшага конюха Грыгорыя Сцяпанавіча Мурашкі. Высокія сцены, прасторныя вокны, прыгожы ганак-веранда. Чысты двор на гарадскі лад. Насустрач выходзіць высокі тонкі чалавек у новым кажуху ў валёнках. Ён рыхтаваўся ісці на канюшню. Ён ветліва ўсміхаецца. У яго спакойны твар. Тып народнага настаўніка. Ён запрашае нас у хату.

Унутры хаты ўсё таксама на гарадскі лад. Кватэра з трох пакояў. Падлога фарбаваная. На ёй саматканая дарожка. Сцены і столь выклеены шпалерамі. На сценах вялікія партрэты Леніна, Сталіна, Варашылава. Калекцыя сямейных фотаздымкаў. На вокнах вазоны. У цабэрачках на падлозе некалькі вялікіх фікусаў. Усё хатняе абсталяванне новае: шафа з гарадской вопраткай, мяккая канапа, нікелеваныя ложкі, стол, крэслы, швейная машына, самавар, этажэрка з кнігамі.

Трое малых дзяцей забаўляюцца цацкамі ў цёплым пакоі за кухняй. Жонкі старшага конюха няма ў хаце. Яна цяпер на калгаснай працы. Гаспадарыць у хаце старая маці Грыгорыя Сцяпанавіча—сямідзесяцігадовая бабуля Марфа. Яна падносіць нам крэслы.

— Сядайце. Просім вас.

Я ашаломлены абстаноўкай, інтэлігентным выглядам старшага конюха, які заводзіць з намі гутарку аб міжнароднай палітыцы.

— Гэта яго любімая тэма.

Так мне яшчэ на дварэ сказаў тав. Бейнэ.

Відаць, што Грыгорый Сцяпанавіч акуратна чытае газеты і ўважліва сочыць за тым, што дзеецца на свеце.

Мне здаецца, што я трапіў у гарадскую інтэлігентную сям‘ю, ну, скажам, у сям‘ю настаўніка сярэдняй школы.

Тав. Бейнэ, мабыць, бачыць на маім твары радаснае здзіўленне. Ён задаволена жмурыць вочы.

Старая Марфа ні хвіліны спакойна не ўседзіць: то паперынку з падлогі падніме, то лісток на фікусе вытрэ, то падушкі ў светлых, як снег, навалачках па свойму палажыць. Яна ўвесь час у руху, а разам з тым пільна прыслухваецца да нашай гутаркі. Відаць—ёй самой вельмі хочацца пагутарыць. Я непрыкметна назіраю за ёю, перабіраючы невялічкую бібліятэчку на зграбнай этажэрцы: томы Леніна, „Пытанні ленінізма“ Сталіна, шмат кніжак па сельскай гаспадарцы, стопка палітычных брашур, Гогаль, Пушкін, Горкі.

— Кніг у мяне мала,—бянтэжыцца Грыгорый Сцяпанавіч,— але наш калгас мае сваю бібліятэку, ды яшчэ выпісвае кнігі з Менскай бібліятэкі імя Леніна. Пачытваем у вольны час. Люблю класікаў і нашых і замежных. Проста і разумна яны паказваюць людзей, жыццё. Дзякуючы ім, я пачаў любіць не толькі сытнае і багатае жыццё, але і прыгожае. Музыку люблю паслухаць, спевы, танцы пагляддзець у нашым клубе, спектаклі.

— А гэтыя томы?

Я паказваю на творы Леніна і Сталіна.

— Чытаю і перачытваю! Яны як-бы яркія акуляры мне на вочы, каб я правільна глядзеў на жыццё, каб я разумеў усё, што рабілася і робіцца вакол. Яны маю ўласную думку ў парадак прыводзяць, чытаю Леніна і Сталіна ўдумліва. А дзе што не разумею—таварыш Бейнэ тлумачыць.

Тав. Бейнэ ўсміхаецца праменістымі шэрымі вачыма і ківае галавой у знак пацвярджэння.

Яшчэ да прыходу сюды я ў канторы зацікавіўся сямейным бюджэтам калгаснай сям'і. Сёлета старшы конюх будзе мець не менш, чым у мінулым годзе. А летась яго сям'я з 6-ці чалавек (2 працаздольных) мела: 1922 кгр. жыта, 833 кгр. пшаніцы, 7420 кгр. бульбы, грашмі—368 рублёў.

Апрача гэтага—сядзіба, карова, чацвёра свіней, 4 авечкі, куры. А новая хата, не лічачы вялікай дапамогі з боку калгаса (перавозка лесаматэрыялаў ды інш.), каштавала яму каля 4000 руб.

— Грошы меў свае,—кажа з гордасцю старшы конюх.— А вось жонка была ў мінулым годзе прэміравана за добрую работу экскурсіяй у Маскву.

— Дзівы дзіўныя бачыла там,—умешваецца ў гутарку старая Марфа.—Усё там вельмі цікава. Як у песнях пяецца ды ў байках баецца. Цяпер мы жывём так, як Сталін жыць вучыць. Дзякуй яму ад шчырага сэрца. А даўней...

Слова „даўней“ старая Марфа расцягвае сумным напевам.

Маладыя ясныя вочы зморшчанай, сівой, але жвавай бабулі становяцца задумёнымі.

— Эх, дзеткі!..

І дробненькая Марфа паглядае на нас, як дарослая на „дзетак“. Быліным тонам сівенькая матуля пачынае апавядаць гісторыю на тэму: „А даўней...“

— А даўней наша жыццё горкае было, як палын, пакрыўджа-

нае, як гарох пры дарозе, хто ідзе скубане. Ціхі такі быў мой хлопчык Грышка. Вось гэты самы! Цяпер то ён гаваркі.

— Не хвалі—перахваліш!—жартуе Грыгорый Сцяпанавіч.—Выбачайце мяне, я да коней спяшаюся,—кажа ён.

Старшы конюх і тав. Бейнэ выпраўляюцца на канюшню. Яны мяне будуць там чакаць.

Кончыкам чысцюткай хусткі Марфа выцірае няпрошаную слязу. У той-жа час бабуля па-роднаму ўсміхаецца мне. Яна ўдзячна, што я застаўся паслухаць яе гутарку на тэму: „А даўней...“

— А даўней Грышка мой быў ціхі-ціхі... Спакойны—пальцам мухі не кране. Кніжкі любіў—аж страх, як той п'яніца гарэлку. Не паспеў мой Грышка школку сельскую скончыць, як прышлося аддаць яго, дзесяцігадовага хлопчыка, за пастушка да кулака. Хоць батрачы хлеб—сабачы, але што-ж было рабіць? Бяда на бядзе сядзела і бядой паганяла. Вось як!

Марфа прыціскае дробненькі кулачок да грудзей.

— Сэрца так сціскалася, што я гаварыць не магла. Я ўсё—зірк на свайго тоненькага, як пугаўё хударлявага Грышку ды плачу-плачу...

„Ціха, матуля!—крычаў на мяне муж нябожчык, Сцяпан мой.—Не ён, Грышка, першы“. Ціха, ціханька, нібы нешта украў, пайшоў Грышка мой з хаты ад бацькоў да гаспадароў. Аж згорбіўся ад думак смутных, як дзядок той... Вось як!

Яна падбягае к сталу, папраўляе сарветку, не спыняючы апавядання:

— Сцяпан мой столярам быў. Залатыя рукі меў. Але, на бяду, быў нядужы, гарбаты. Як стане геблем майстраваць, дык адразу пот на гарбе паказваўся. Не мог працаваць, хутка стамляўся. Горб ціскаў яго да зямлі, як жорны, як нядоля. Ірвалася ў яго часта кашуля якраз на тым месцы, дзе горб. Я ўсё латала яго кашулю. Латы мокрыя ад маіх слёз прышывала. Сама на падзённую хадзіла. Карміла сям'ю—калі з хлебам, а часцей без хлеба. Гаспадарка тая—як кот наплакаў: старая хатка, агарод, падсвінак і пяток курэй. Вось і ўсенька-усё! Каб дзеці мае хоць калі малачка пакаштавалі—ані-ні! Вось як...

Старая глыбока і працягла ўздыхае.

— За падаткі ўсенька-усё з хаты забралі. Сцяпан мой нагебляваў стружак цэлую кучу і мы на іх спалі. Бывала зойдзе дамоў на хвілінку Грышка мой. Крывавыя батрацкія залатоўкі прыносіў. Увесь ён у шрамах, у гузаках. Грышка,—пытаюся,—зноў цябе білі? Маўчыць, як вады ў рот набраўшы. Шкадаваў мяне, развжалабіць не хацеў. А я гляджу на яго і салёныя кроплі мне ў рот—кап-кап... Не плач, матуля,—суцяшаў мяне Грышка.—Вось вырасту, тады...

Гэта-ж усіх паноў можна было-б патапіць у нашых слёзах, поце і крыві... Вось як! Парабкам працаваў Грышка мой да прыхода савецкай улады.

Марфа махнула рукой і на хвіліну змоўкла.

— Аб тым, што было даўней, я часта ў нашым клубе расказваю, калі там збіраюцца маладыя. Разам з імі я танцую пад

музыку. Разам з імі гляджу спектаклі. Разам з імі песні спяваю. І мы нарэшце шчасця дачакаліся. Яно залатой птушкай на нашу зямельку прыляцела...

Я пазіраю на бабулю з дзівам: у адно вокамгненне яна памаладзела на дваццаць год. Вочы сталі вясёлымі. Нібы глытнула цудадзейны казачны элексір маладосці. Даволі гучным голасам яна заспявала:

Кожны, хто спытае,
Сам-жа і адкажа:
Сталін—свет наш ясны,
Сталін—радасць наша.

* * *

На двары пытлюецца сняжок. У калгаснай канторы, як у маі месяцы—цяплынь.

На даўжэзным белым сасновым стале стаяць прыпёртыя да сцяны нейкія невядомыя мне высокія фігуры. Яны акуратна абверчаны газетамі, аплецены шпагатам. Я ніяк не магу здагадацца што гэта. Статуі—не статуі. Дэталі нейкай разабранай машыны? Таксама не.

Я пытаюся ў аднаго з рахункаводаў. Ён тлумачыць:

— Гэта экспанаты на ўсесаюзную сельска-гаспадарчую выстаўку: снапы жыта, пшаніцы, ячменю, аўсу. Добры ў нас ураджай у апошнія годы! Мы—багаты народ!

Рахункавод, пажылы чалавек у акулярах, акідвае мяне вясёлымі вачыма.

— Ды мы можам пахваліцца не толькі сваім ураджаем на полі, але і ўраджаем людскім, ураджаем нашай культуры! Дзеці нашых калгаснікаў, якія атрымалі вышэйшую асвету, працуюць цяпер па ўсім Саюзе ССР.

І стары рахункавод, былы батрак—Сямён Пятровіч Гладкі—расказвае аб сваіх дзецях:

— У мяне чатыры сыны—адзін у адзін. Старэйшы—Уладзімір—цяпер галоўным урачом больніцы ў Дзяржынску. Ён хірург і рэнтгенолаг. Член партыі. Піша навуковыя працы. Другі—Іван—дарожны інжынер, камсамолец. Трэці—Нікалай—планавік-эканаміст. Чацверты—Міхаіл—студэнт рабфака. Яны больш адукаваныя за дзяцей графа Чапскага, паверце мне! А калі з'едуцца ка мне ўлетку на некалькі дзён у госці, дык мы са старой не ведаем дзе дзецца ад шчасця... Тады ў нас пачынаецца баль... У хаце—усяго паўнютка, паверце мне! Хоць ты адразу некалькі вяселляў спраўляй! Толькі старэйшы Уладзімір жанаты. І пасагу хапіла-б на пару дачок. Шкада—дачок не маю. Ды і дочкам цяпер пасагу бадай што і не трэба! Паверце мне!

Тав. Гладкі смяецца.

— Ды не я адзін такі шчаслівы бацька ў нашым калгасе. Такіх бацькоў і не злічыш! Вось з былой бядняцкай сям'і калгасніка Бабуркі І. С. вышлі:

(Тав. Гладкі па прывычцы на шчотах пальцамі кругляччкі перакідвае).

— Палкоўнік Чырвонай Арміі—раз! Намеснік старшыні райвыканкома—два! Слесар-стаханавец завода „Ударнік"—тры! Рахункавод—чатыры!

Тав. Гладкі на шчотах перакідае шмат сем'яў. Потым пачынае перакідваць кругляччкі на шчотах вельмі хутка:

— А наша моладзь і дзеці, што вучацца ў сярэдніх і вышэйшых школах? А мы самі таксама з вусамі—слухаем лекцыі на розныя тэмы. У нас нямала аграномаў, настаўнікаў, многа прайшоўшых курсы паляводаў, брыгадзіраў, даярак. А адкуль-жа нашы загадчыкі фермаў, ясляў, пчалаводы, рахункаводы? На гэта вучыцца трэба было! Вучыліся, ды яшчэ як! Ого! Газеты чытаем, кнігі, журналы.

Старшыня калгаса тав. Бейнэ, слухае ды моўчкі ўсміхаецца. Падыходзіць да вялікай шафы, дастае адтуль кнігу, падае мне і кажа:

— Бібліятэчная. Тут запісаны кнігі, што на руках у калгаснікаў.

Я чытаю ўголас прозвішчы аўтараў.

Ленін, Сталін, „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", Пушкін, Маякоўскі, Л. Талстой, А. Талстой, Стальскі, Джамбул, Купала, Эптон Сінклер, Лермантаў, Стаўскі, Чукоўскі, Фурманаў, Новікаў-Прыбой, Серафімовіч, Вс. Вішнеўскі, Жуль-Верн, Шэкспір, Караленка, Шолахаў, „Новый мир", „Красная новь", „Полымя Рэволюцыі".

Налічваю да ста аўтароў.

Тав. Бейнэ паказвае мне бібліятэку.

Тав. Гладкі выцірае акуляры белай хустачкай, дыміць папяросай і вочы яго становяцца мройнымі, задумёнымі. Ён пачынае гаварыць ціха, але з кожным словам голас яго павышаецца, нібы лезе ўгару па лесвіцы.

— Памятаю мой бацька, калі яму даўней прыходзілася падпісвацца на павестках, што прысылалі з воласці аб нядоімках, ён доўга-доўга пакутваў, пацеў, пыхцеў, пакуль выводзіў на паперы нязграбны крыжык. Ён пры гэтым лаяўся, пляваўся, церабіў патыліцу. З лепшай ахвотай ён адграбляваў-бы сасновы вялікі крыж і для валаснога начальства, і для земскага, і для ўсіх іншых—аж для самога цара Мікалая! Я гэта адчуваў па яго настрою.

Тав. Гладкі зноў выцірае акуляры. Вочы яго блішчаць.

— Вякамі мы былі цёмныя, як ноч. Партыя Леніна—Сталіна паслала трактарыстаў не толькі на нашы старыя вузкія палоскі, але і на цаліну нашых думак і пачуццяў. Я можа няўдала выражаюся? Выбачайце! Вось усе гэтыя кнігі—добрае адборнае насенне, якое папала на ўраджайную глебу. Усе гэтыя кнігі адчыняюць перад намі такі багаты свет, што не ведаеш, дзе дзецца ад радасці...

— А ці ёсць у вашым калгасе мастакі, пісьменнікі, акторы, музыкі?

— Калі трэба, дык, паверце мне, кожны з нас мастак,—жартуе тав. Гладкі.—Хлопцы і дзяўчаты нашыя спектаклі ставяць, танцуюць, спяваюць, граюць на гармоніку, на скрыпцы. Пішам вершы ў сваю насценгазету. Нашы дзяды казкі складаюць. Цёткі новыя песні складаюць, вышываюць. Багданчык ёсць у нас, хлапец, дык баяністам стаў. У Менску, у музтэхнікуме вучыцца.

* * *

Аснежаныя прасторы ўтапаюць у сінім вячэрнім змроку. Сінь зімовага вечара пранізваецца залатымі кропкамі. Гэта аганькі калгасных пасёлкаў. Іх многа. Удалі аганькі зліваюцца з зоркамі.

Імчыцца машына. Еду назад у Менск.

Вецер даносіць гукі вясёлага гармоніка. Мы даўно ўмчаліся наперад, але мелодыя яшчэ гучыць у маіх вушах, як водгалас. Я знаходжуся ў салодкім палоне роднай калгаснай песні. Гэта галюцынацыя слыху? Усё яшчэ гучыць у маіх вушах песня? Мы праязджаем нейкай калгаснай вуліцай і патэфон частуе нас той-жа самай песняй аб прыгожай чырвонай Маскве.

Нават у багоў працоўны чалавек даўней не адважваўся-б прасіць таго, чаго ён мае цяпер без божай дапамогі.

І крапіву бедная жанчына калісьці за шчасце лічыла...

Перад намі адкрыты небывалыя на свеце гарызонты.

Радзіма... любімая... маці...

Якімі песнямі апяваць шчасце тваіх сыноў і дачок? Стагодні юнак сівабароды Джамбул славіць цябе на домбры на ўвесь свет. Цябе абсыпаў як прыгажуню-нявесту залатымі зернямі паэзіі слаўны ашуг Сулейман Стальскі. Пра цябе складае песні ўвесь савецкі народ. Сотні, тысячы новых песень веснавым выраем аблятаюць твае неахопныя квітнеючыя прасторы.

Імчыцца машына.

Я ўспамінаю словы старшага конюха тав. Мурашкі:

— Коні адкормленыя—хоць зараз сядлай! Мы самі—напагатове. Нікому не ўдасца вырваць здабытае шчасце з рук гераічнага сталінскага народа.

Калгас „Чырвоны партызан",
Падгайскі сельсовет,
Менская вобласць.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 22—792.**

# ЗМЕСТ

*Стар.*



---

